УДК 821.161.1-3
ББК 84(4Беи)-44
М11

**Мудроў, В.**
М11 Падшыванцы : апавяданні / Вінцэсь Мудроў. — Мінск : Кнігазбор, 2020. — 212 с.
ISBN 978-985-7227-42-6.

Героямі ўсіх дваццаці апавяданняў, змешчаных у зборніку, з'яўляюцца падлеткі, якія стаяць на парозе дарослага жыцця. Пры гэтым у бальшыні твораў дзея разгортваецца за часамі дзяцінства і маладосці аўтара. І хаця гэта мастацкая проза, апавяданні можна назваць дакументальнымі сведчаннямі прамінулай эпохі.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7227-42-6**

# ЛАЗНЯ

Суботнім вечарам бацька выцягвае з-пад ложка парэпаную фібравую валізку і выстуквае на ёй косткамі пальцаў «Карэла-фінскую польку». Гэта ў яго добра атрымліваецца: грукат стаіць на ўсю кватэру. Пасля бацька пстрыкае зашчапкамі і маці кладзе ў валізку змену бялізны, мыла і лубяную, падобную на бараду лесуна, вяхотку.

Кожнага суботняга вечара мы з бацькам ідзём у лазню.

У нашай кватэры ёсць ванная, але няма гарачай вады. Маці неяк нагрэла для мяне пару выварак, напоўніла ванную, ды не паспеў памыцца, як у дзверы пастукала старая Каржыха — суседка, што жыве пад намі. У яе там вада з трубы паперла. Больш мы ў хаце не мыліся.

Я першым выбягаю з кватэры, скачу праз дзве прыступкі, а, вылецеўшы з пад’езда, наструньваю вуха ў спадзеўцы пачуць тую самую «Карэла-фінскую польку», але ўжо ў выкананні суседа з саракавой кватэры. Гэта сын Каржыхі. Ён яе часцяком грае на старым трафейным акардэоне.

Валізка ў бацькавай руцэ злёгку матляецца, ручка рыпіць у такт хадзе, і я намагаюся ісці ўпоравень з тым рыпеннем. Але ўвесь час даводзіцца збівацца з рытму, бо па дарозе сустракаем бацькавых знаёмцаў, якія, зірнуўшы ў мой бок, штораз прамаўляюць: «Які ў цябе сын вялікі!». «Хутка ў школу пайду», — паведамляю ім, і тыя з ухвалай ляпаюць мяне па плячы. Перад самай лазняй ручка ўжо не рыпае, бо бацька ўпіраецца пальцам у зашчапку і, прымружыўшы вочы, выглядае — ці стаяць на ганку дзядзькі з піўнымі кухлямі ў руках. Піва ў лазенным буфеце бывае прыкладна раз на месяц.

Бачу дзядзькоў з кухлямі, і ў мяне, як і ў бацькі, уздымаецца настрой. Піва, вядома ж, не п’ю, ды мне яго ніхто і не дасць. Радуюся, што пакаштую кампоту з айвы. Пра гэта апавяду пазней.

У лазенным фае поўна народу. Тут пераблыталіся дзве чаргі. Адна па квіткі, другая ў буфет па піва, якое буфетчыца пампуе непасрэдна з бочкі.

— Давайце толькі тым, хто памыўся! — крычаць з натоўпу. — Выпіць гаючага напою прыходзяць «людзі з вуліцы», і паміж імі ды распаранымі чырванатварымі дзядзькамі разпораз усчынаюцца сваркі.

— Залезь, як я, на палок, а тады і піва бяры, — гугнявяць у нетрах шматлюднай чаргі.

— Чаго цябе забірае, можа, я мыцца прыйшоў, — кажа ў адказ бамбіза ў завэдзганай вапнавай рошчынай ватоўцы. — Тут непадалёку ўдзень і ўночы працуе растворабетонны вузел. Дзядзька адтуль і прывалокся.

— А дзе твой венік? А дзе мыла? А дзе трусы?

Ад вакенца касы прабіраецца, узняўшы ўгору квіток, цётухна ва ўзбітай на бровы хустцы.

— Няма ратунку ад п’яніц, — выдыхае цётухна, і бамбіза з растворнага вузла адступае ўбок, каб даць ёй дарогу.

Бацька займае чаргу ў касу, нецярпліва пераступае з нагі на нагу, а я, каб заняць вочы, чытаю «Правілы наведвання грамадскіх лазняў», якія вісяць на сценцы.

«Дзеці да 12 гадоў дапускаюцца толькі ў суправаджэнні бацькоў», — па складах, мылячы вуснамі, чытаю першы пункт. «У жаночыя аддзяленні дапускаюцца хлопчыкі да 3 гадоў… Катэгарычна забараняецца прыносіць і распіваць…» — мяне штурхаюць, і я падаюся да сценкі, не адрываючы вачэй ад правілаў. «Забараняецца мыць бялізну, выносіць балеі з мыцельніка і выходзіць у фае ў аголеным выглядзе». «А калі ў прасціну закруціцца — гэта аголены выгляд?» — думаю я, згадаўшы, як аднойчы лысы дзядзька закруціўся ў прасціну, пайшоў у буфет узяць кухаль піва, але буфетчыца не дала. З лысага тады ўвесь мыцельнік смяяўся. Казалі, што калі б

прасціна не прыліпла да мокрай сракі, глядзеўся б як рымскі арыстакрат.

Чарга ў касу, у адрозненне ад «піўной», рухаецца даволі хутка. Бацька ўжо непадалёку ад вакенца. Хвалюецца — ці хопіць квіткоў. Мінулым разам скончыліся акурат перад намі. Сядзелі і чакалі, калі людзі памыюцца.

«Падчас намыльвання нельга пырскаць мыльнымі хлапякамі, а абліваючыся вадой, паліваць суседзяў», — мільгацяць уваччу радкі лазенных правіл, і да вушэй далятае радасны бацькавы вокліч:

— Віць!

У прымыльніку вільготна, душна і тхне нейкай агідай. Я прынюхваюся, спрабуючы высветліць, чым гэта смярдзіць, — ды бацька падганяе, ляпнуўшы далонню па спіне.

Непадалёку ад нас распранаецца аднарукі інвалід, які таксама мыецца па суботах. Небарака згубіў правую руку ў баях пад Смаленскам, і цяпер замест яе — ліловай водцені кукса. Інвалід любіць пагаманіць пра вайну, асабліва калі сербане піва. Слухаць яго цікава і ўадначас страшна. Надоечы пра нейкіх казахаў апавядаў, якіх прыгналі на фронт, паднялі ў атаку, а немцы іх мінамётным агнём накрылі. За паўгадзіны цэлы полк загінуў.

— Распранайся хутчэй! — бацька хапае бляшаную балею і знікае ў ахутанай парай пройме дзвярэй.

Месца, каб паставіць балею, знайшлі ў дальнім канцы лазні.

Лена ваджу намыленай вяхоткай па чэраве, неадрыўна пазіраючы на вялізную лужыну, што разліваецца пасярод мыцельніка. Бярозавае лісце забіла зліўную адтуліну, і вада падступае да нашай лавы. Цікава назіраць, як па лазенным моры плывуць мыльныя бурбалкі і, не раўнуючы як чаўны, гойдаюцца на хвалях, узнятых чарговай перакуленай на галаў балеяй.

— Бляха, дзе Кузьміч? — незадаволена азываецца нехта за спінай, і вось ужо той самы Кузьміч — апрануты ў белы халат і абуты ў кірзавыя боты лазеншчык — прачышчае ад-

туліну каляным дзеркачом, і мора, развітаўшыся са светам засопленым зыкам, знікае.

— Мыць бялізну забаронена! — звяртаецца лазеншчык да дзядзькі, які сядзіць на другім канцы лавы і шаруе сацінавыя трусы.

Дзядзька кідае трусы на лаву, а калі Кузьміч адыходзіць, ізноў падхоплівае, кладзе на калена і пачынае з яшчэ большым імпэтам шугаць па іх пляскатым змылкам. Відаць, не чытаў правілаў. І загарэлы здаравяк, які мыецца поруч, таксама не знаёмы з правіламі. Ганяе па валасатай грудзіне намыленую вяхотку, пырскаючы пенай на добрыя два метры. Нават на маю макаўку хлапякі заляцелі. І навошта тады тыя правілы пішуць, калі іх, апроч мяне, ніхто не чытае?

Бацька пазычыў у некага венік і пабег парыцца. Парыцца ён звычайна доўга, і я кожны раз хвалююся. А раптам там, на палку, учадзее? Аднойчы і мяне завёў у парыльню, дык потым карак смылеў і скура аблупілася.

Насцярожліва, на цырлах, падыходжу да дзвярэй парыльні і гэтак жа насцярожліва адчыняю. Уваччу, ахутаныя гарачай смугой, мітусяцца ружовыя целы.

— Сява, паддай! — крычаць з палка, і ў твар б’е пругкая аблачына. Твар гарыць агнём, я выкульваюся з таго страшнага месца і бягу пад «дожджык».

Цёплыя струмені падаюць на плечы, казытліва збягаюць па сцёгнах. «Дожджык» — лепшае, што ёсць у лазні. Гатовы стаяць пад ім немаведама колькі часу. Ды як пастаіш, калі ў мой бок сунецца той самы здаравяк з валасатай грудзінай. Галава пакрытая мыльнай пенай, таму ён невідушча водзіць рукамі, хапае мяне за нос і я, сагнуўшыся, выслізгваю з-пад казытлівых струменяў.

А вось і бацька. Яго цяжка пазнаць: чырвоны як рак, ад макаўкі ўздымаецца пара, а да лба прыліп бярозавы лісток.

— Ну, ты тут мыешся? — пытаецца бацька, і я з уздыхам намыльваю галаў.

Праз гадзіну, дарэшты змораны, сяджу, прытуліўшыся спінай да шафкі, і ўтрапёна гляджу пад ногі. Там газета «Праўда»

за мінулы месяц. Хоць яшчэ і не хаджу ў школу, але збольшага навучыўся чытаць, і цяпер засяроджваюся на кожным надпісе, што патрапляе на вочы. «Прамова М. С. Хрушчова на нарадзе…» — чытаю загаловак, і ў гэты момант бацька насоўвае мне на шыю майку.

— Хутчэй давай, а то іншым людзям трэба памыцца.

Насамрэч бацька не пра людзей рупіцца, а прагне сёрбнуць халоднага піва.

Калі самае прыемнае ў лазні — гэта цёплы «дожджык», дык самае непрыемнае — хустка, якую па матчыным загадзе бацька нязграбным рухам ускідвае мне на патыліцу. Маці завязвае, дык на скронях складкі пакідае, і яна ладна абцягвае галаву. А бацька проста сціскае вузлом шыю, і хустка, як у той цёткі ля касы, лезе на бровы. Добра яшчэ, што прыкрываю яе шапкай-вушанкай.

У буфеце народу зусім няшмат. Аказваецца, пакуль мыліся, лазеншчыца з жаночага аддзялення прывяла міліцыянера, і ён выгнаў усіх п'яніц. Я іх, дарэчы, адразу вызначаю. Яны край кухля соллю пасыпаюць. Вось і аднарукі інвалід пхнуў пальцы ў сальніцу.

Калі піва няма, бацька ў буфет не заходзіць. А калі ёсць, абавязкова бярэ сабе кухаль, а мне маленькі слоік кампоту з айвы — адзінай смакаты, што там прадаецца. І просіць буфетчыцу зняць накрыўку.

Я бяру слоік, п'ю салодкі кампот, казелю вокам на бацьку. Ён прыкладаецца да кухля, прагна, злавесна варушачы коўцікам, глытае піва, а крыху не дапіўшы, адчайдушна аддзімаецца. На бацькавым лбе пры гэтым выступаюць буйныя кроплі поту. Дапівае кухаль паволі, і потым вільготнымі вачыма глядзіць на буфетчыцу, якая куляецца за прылаўкам, пампуючы піва з бочкі. Бацька прагне дабаўкі, але маці дае грошы на адзін кухаль і на слоік кампоту.

Хапаю ротам слізкі скрылёк і дзіўлюся — чаму бацька ўпадабаў горкае піва, а не салодкую і духмяную айву? Пару скрылькоў пакідаю маці, і так, са слоікам у руцэ, выходжу з лазні.

На цёмным небе ні месяца, ні зорак. Толькі свецяцца вокны на верхавіне вадавежы, якая стаіць адразу за лазняй. Яны свецяцца ўсю ноч і бачныя ад пад'езда нашага дома. Мой аднагодак Мішка Корж, сын таго самага акардэаніста, кажа, што па начах на вадавежы збіраюцца злодзеі і дзеляць здабычу. Я таму не даю веры. Але зараз, пазіраючы на квадраты кволага святла, выразна ўяўляю круглыя сцены, такі ж круглы стол, і падобных на піратаў злодзеяў, што паселі вакол яго. Каржыха, Мішкава бабуля, наогул расказвае страшныя рэчы. Нібыта ў пасёлку з'явіліся злачынцы, якія прайграюць людзей у карты. Нехта з іх застаецца ў дурнях і цягне з калоды дзве карты. Выцягне, скажам, шасцёрку, а потым дзясятку — гэта значыць, мусіць пайсці ў кіно і зарэзаць чалавека, што сядзіць у клубе на шостым месцы ў дзясятым радзе. Распавёў бацьку гэтую гісторыю, дык той толькі галавой матлянуў. Маўляў, якая лухта. А калі на вадавежу і сапраўды ўзлезлі злачынцы ды гуляюць у дурня? Гляджу апошнім разам на нізку кволых агнёў і бягу па дарозе ў той бок, дзе чуваць шаргатлівыя крокі ды мерны і такі прыемны для вуха рып лазеннай валізкі.

# СЛАВІК ГАГАРЫН

— Напішыце ў сшытках: «Уласцівасці вады», — далятае з-за спіны голас Ніны Пятроўны. Настаўніца, як заўсёды, стаіць у канцы класа, і толькі зрэдку, калі трэба штосьці намаляваць, падыходзіць да дошкі.

Славік шморгае носам, торкае асадку ў чарніліцу і, высалапіўшы кончык языка, піша слова «Уласцівасці».

— Вада не мае… Балабошка! — гучна прамаўляе настаўніца прозвішча другагодніка, які сядзіць на першай парце і не дае пісаць Нюрцы, Славікавай сястры, — …уласнай формы. Яна прымае форму пасудзіны, у якую яе наліваюць. Скажам, наліваюць ваду… — Альбо самагонку, — устаўляе слова Балабошка, і Ніна Пятроўна, заўважыўшы: «Зараз выйдзеш з класа!» — прыкметна падвышае голас, — …у шклянку, і яна прымае форму шклянкі.

Славік гучна чхае, і Ніна Пятроўна ўедліва выдыхае:

— Вы што, Балабошка з Гагарыным, надумалі сарваць урок?

«Ну чхнуў раз, — думае Славік, чарговым разам шморгнуўшы носам, — такой бяды… Пахадзіла б сама ў дзіравых ботах».

Бот Славікаў цячэ з леташняй восені. Сусед, дзядзька Лявон, быў наклаў лапік. У суседа веласіпед з велааптэчкай. Вось ён і заклеіў гумовік так, як заклейваюць шыны. Толькі лапік хутка адляцеў. Дзядзька Лявон сказаў, што клей стары. Не трымае.

Настаўніца ідзе да дошкі і малюе шклянку. Дакладна такую, з якой Славікаў бацька піў калісь самагонку. Зараз п’е

недзе на цаліне. Калі туды з’язджаў, абяцаў маці пісаць лісты і прысылаць грошы, але так і не адгукнуўся.

Васька Балабошка тым часам разгортвае пад партай цукерку «Гусіныя лапкі», кідае ў рот. Балабошкава маці працуе магазіншчыцай, таму Васька і аб’ядаецца розным смакоццем.

Славік глытае густую сліну, наструньвае вуха. Сярэдзіна ўрока, а на калідоры капытліва тупаюць, чуваць здушаныя воклічы і, што самае дзіўнае, нехта колькі разоў запар называе ягонае прозвішча.

«Можа, бацька прыехаў ды зайшоў у школу?» — Славік ездзіць азадкам па лаўцы, утрапёна глядзіць на сястру. Славік з Нюркай блізняты. Брат, праўда, нарадзіўся крыху раней і лічыць сябе старэйшым.

Ніна Пятроўна таксама прыслухоўваецца, рушыць да дзвярэй. «Што здарылася?» — пытаецца, вытыркнуўшыся ў дзвярную пройму, і выходзіць у калідор.

У класе шум, Балабошка крывіць гімору, перадражніваючы Ніну Пятроўну, і ў гэты момант у лоб яму стукаецца папяровы самалёцік, які пусціў нехта ад задніх партаў.

Ніна Пятроўна вяртаецца хвілін праз пяць. Твар яе свеціцца радасцю. Звычайна, каб суняць гаману, яна стукае ўказкай па стале, а тут ляпнула далонямі і, зірнуўшы на Славіка, з хваляваннем паведамляе:

— Зараз перадалі па радыё. У космас запусцілі ракету з чалавекам на борце! Штурмуе касмічную прастору савецкі чалавек Юры Гагарын!

— Ур-ра! — загарлаў Васька Балабошка, а разам з ім і ўвесь клас. Пры гэтым усе глядзелі на Славіка, нібыта гэта ягоны бацька штурмуе прастору. Але ж бацька не Юры, а Мікалай, і ў космас яго не возьмуць, бо ён і там нап’ецца. Нездарма ж за п’янку выгналі з калгаса і давялося завербавацца на цаліну.

— Ты чаму такі надзьмуты? — Ніна Пятроўна тузае Славіка за плячук. — Цёзка ў космас паляцеў, а ты незадаволены. Калі б у ракету Пасудзіна пасадзілі — я ведаеш, як радавалася б. — Прозвішча настаўніцы Пасудзіна, але ў школе яе цішком называюць Паскудзінай.

Ніна Пятроўна яшчэ раз торгае вучня за плячук, і Славік усміхаецца. Усмешкай нежывой і адчужанай.

Дахаты Славік ідзе з Васькам Балабошкам. Васька любіць пабалбатаць. Гэтым разам расказвае, як ездзіў з бацькамі ў Віцебск і наведаў цырк. Казаў, больш за ўсё яму спадабаліся кітайцы — яны круцілі на доўгіх дубцах талеркі, — а таксама клоўны, якія мылі месяц.

— Уяўляеш, пасярод арэны стаяць драбіны, а наверсе фанерны месяц прыбіты. І два клоўны лезуць яго мыць. Адзін з вядром, а другі з анучкай. І той, што вышэй, вядро з вадой перакуліў і выліў на голаў ніжняму. Я ад смеху нават на падлогу споўз, — захоплена апавядае Васька.

Славік уздыхае. У цырку ён ніколі не быў, а Віцебск наведаў толькі аднойчы. Маці яго вазіла туды дзерці гланды.

Ісці даводзіцца па ўзбочыне, трымаючыся рукамі за штыкетнік, бо дарогу дарэшты развезла, і па ёй можна праехаць толькі на трактары. Вось і зараз па расхлябаным бальшаку паўзе «ДТ-54», які цягне за сабой машыну з чырвоным паскам на кодабе. Гэта вязуць хлеб з Азярышча.

— Усё, бывай, — гукае Васька, хуценька перабіраючы рукамі штыкеціны, — бягу ў магазін. Трэба маці дапамагчы разгрузіць хлеб.

Славік праводзіць позіркам хлебную машыну і азіраецца. Сястра з сяброўкамі сунецца следам, таксама трымаючыся за штыкетнік. Хлопец спрытна пераскоквае праз раўчук, неўпрыкмет збочвае з дарогі. Зводдаль, на выселках, жаўцее свежымі дошкамі фінскі дамок. Там жывуць электралінейшчыкі, якія ставяць слупы. Абяцаюць улетку даць святло ў вёску. На мінулым тыдні хлопец знайшоў каля дамка пляшку з-пад гарэлкі. Здаў у магазін і разжыўся жменяй падушачак. Гэта такія цукеркі.

На дзвярах дамка вісіць вялікі замок, таму Славік смела шыбуе да сметніцы, ля якой цьмяна бліскае ў святле пахмурнага дня пустая пляшка. Хлопец яе падхоплівае, пхае ў нутраную кішэнь гаматнай, перашытай з бацькавага палітона курткі. Адтуль, з-за пазухі, цягне агідным пахам самагонкі.

Славік паныла крывіцца: калі ў пляшку налівалі самагон, магазіншчыца не прымае. І пазбыцца таго смуроду ніяк немагчыма. Самагонку ў вёсцы гоніць стары Кузьма, удзельнік штурму Крыма за часамі грамадзянскай вайны. Летась да Кузьмы прыязджаў участковы, складаў пратакол. На гэтым усё і скончылася. Адкупіўся, казалі, ветэран грамадзянскай вайны той самай самагонкай.

Такой парой маці прыходзіць на абед. Сёння прыйшла на пару з суседкай. Сядзяць на кухні і п'юць гарбату.

— А што ў вас на ферме? — пытаецца суседка, сёрбнуўшы гарбаты са сподка.

— Нагу не ўбіць з-за гаўна. Учора ішла ад ранку, дык, паверыш, так боты захраслі, што нагу не выцягнуць. Клікала на дапамогу, але ніхто не пачуў. Вылезла з ботаў і басанож на ферму пабегла. Цяпер во чхаю ды смаркаюся.

— А боты?

— Дзеўкі прынеслі. Казалі, ледзь выдзерлі.

Маці выбіла нос у брудную хустку, сёрбнула гарбаты.

— А на кароў глядзець страшна. Рыкаюць нема. Сена ж зусім няма. Некаторыя з капыт валяцца, дык падвязваем. Сем штук ужо зарэзалі. Не ведаем, як да травы дацягнуць.

— Ці чула ты, што касманаўта запусцілі? — суседка падлівае гарбаты ў сподак.

— Ды чула, — адказвае маці і пасля паўзы дадае: — Лепш бы дарогу адсыпалі ды сена на ферму завезлі.

Маці змаўкае і нечакана плаксіва енчыць:

— Б'юся, дваіх гадуючы, а гэты падлюка і ліста не напісаў, — маці здушана плача, і суседка, зыркнуўшы на Нюрку, праводзіць далонню па матчынай спіне.

Неўзабаве маці з суседкай выходзяць з хаты, і Славік бяжыць да чорнай талеркі рэпрадуктара. Торкае ў гнёзды два тонкія дроцікі, і радыё азываецца пагрозліва-ўрачыстым голасам. Талерка ў адным месцы прадзёртая, і голас злёгку бразджыць.

— Паводле атрыманых дадзеных з борта касмічнага карабля «Усход», у 9 гадзін 52 хвіліны пілот-касманаўт Гагарын,

знаходзячыся над Паўднёвай Амерыкай, перадаў: «Палёт ідзе нармальна. Пачуваюся добра». У 10 гадзін 15 хвілін па маскоўскім часе пілот-касманаўт Гагарын, пралятаючы над Афрыкай, перадаў з борту касмічнага карабля «Усход»: «Палёт ідзе нармальна, стан бязважкасці пераношу добра».

Нюрка слухае рэпрадуктар, разявіўшы рот, і брат на дыбачках бяжыць на кухню, выцягвае з шафкі пачак солі.

— Зноў соль бярэш? Вось я скажу маме! — крычыць са святліцы Нюрка.

— Ды я крыху, — соль ценькім струмком сыплецца ў бутэлечнае рыльца.

Каб пазбыцца самагоннага смуроду, бутэльку трэба памыць салёнай вадой. Такі рэцэпт Славік пачуў ад бацькі. Славік налівае з рукамыйніка вады ў бутэльку, затыкае рыльца вялікім пальцам, пачынае шалёна трэсці.

— Пасля паспяховага правядзення даследаванняў і выканання праграмы палёту ў 10 гадзін 55 хвілін па маскоўскім часе савецкі карабель «Усход» здзейсніў паспяховую пасадку ў вызначаным раёне Савецкага Саюза, — гамзае талерка, і Славік, трасучы бутэльку, уяўляе таго самага пілота-касманаўта. Ён падобны на шпіёна з фільма «Аперацыя “Кобра”», які надоечы круцілі ў клубе. На спіне ў шпіёна былі крылы, а на галаве круціўся прапелер. У клуб тады набілася столькі народу, што дзвюм цёткам стала млосна ад задухі. Славік якраз надоечы здаў пустую пляшку, таму патрапіў на сеанс. Ды яшчэ і Нюрцы даў пяць капеек новымі, але тая ў кіно не пайшла.

— Даставай талеркі — есці будзем, — сястра выцягвае з печы чыгунок з гарачай бульбай.

Славік зранку не снедаў, але есці чамусьці не хацелася. Ён зацята мыў бутэльку. Неўзабаве, падхапіўшы з чарэні пушку запалак, хлопец выбег на двор, калупнуў пальцам сухі мох, які тырчаў між бярвення хаты. Падпаліўшы мох, стаў кідаць у бутэлечнае рыльца. Бутэлька напоўнілася дымам і стала белай, нібыта ў яе налілі малака. Бацька, як не дапамагала салёная вада, таксама паліў мох ды пхаў у бутэльку. Дымавуха дапамагла: пах самагонкі амаль не адчуваўся. Славік прапаласкаў пляшку ў лужыне, перавёў дых.

— Нюхні, — хлопец паставіў пляшку на стол, прыціснуў далонь да халоднай шыбы — прыпёк як паліў мох.

Сястра хмыкнула, адставіла талерку з таўканіцай, нахілілася да бутэлькі.

— Нечым палёным пахне.

— Галоўнае, не самагонкай, — Славік выхапіў з чыгунка бульбіну, шчодра пасыпаў соллю. — Пайшлі ў магазін. У цябе магазіншчыца дакладна прыме.

— Як жа… прыме… як мінулым разам. У мяне нават вушы загарэліся, калі бутэльку вярнула. Васька Балабошка потым цэлы тыдзень той смярдзючай бутэльчынай даймаў, — Нюрка наліла ў шклянку кампоту з сушаных антонавак.

— Тады дрэнна памыў, зараз іншая справа, — няўцямна, з набітым бульбай ротам, прамармытаў Славік.

— Усё адно не пайду.

— Я гэта запомню, Нюрачка… Як пяцьдзясят капеек на кіно браць, ты тут як тут, а як у краму пайсці, дык цябе няма. — Хаця новыя грошы хадзілі ўжо тры месяцы, усе ў вёсцы па-ранейшаму пералічвалі на старыя. — Калі здадзім, падушачак возьмем.

Пачуўшы пра падушачкі, сястра зварухнула бровамі, удругарадзь нюхнула бутэльку.

— Ракета, якая вывела касмічны карабель на арбіту, мела пры запуску шэсць рухавікоў агульнай магутнасцю дваццаць мільёнаў конскіх сілаў, — прамаўляў рэпрадуктар, калі брат з сястрой выходзілі з хаты, і Славік на імгненне затрымаўся на парозе, уражаны такой колькасцю коней.

Перад крамай стаялі калёсы з будкай. У будцы вазілі хлеб у суседнюю вёску Кісялі, дзе быў невялічкі магазін. Машыне туды не прабіцца, таму везлі на кані.

— У космас дарогу праклалі, можа, і ў Кісялі пракладуць, — голасна прамовіў барадаты дзед, прымаючы з рук магазіншчыцы пляскатую скрыню з боханамі.

«У ракеты дваццаць мільёнаў конскіх сілаў, — падумаў Славік, паглядаючы на нядошлага, дарашаватай масці каня, — а каб пусціць дваццаць мільёнаў коней хлеб развозіць, да кожнага дома завезці можна».

Не паспела хлебная будка ад’ехаць, як да крамы, засцячы наваколле шызым выхлапным дымам, пад’ехаў бензавоз. Усе чатыры яго колы былі абвязаны ланцугамі — так лягчэй выбіцца з гразюкі, — а наверсе, на бочцы, сядзелі тры падпітыя дзядзькі.

— Ну што, Гагарын, злётаў? — крыкнуў адзін з іх, скочыўшы з машыны, і Славік пазнаў трактарыста Захарава, якога, як і бацьку, летась выгналі з калгаса, а праз месяц зноў прынялі. — З цаліны ніякіх вестак? — цяпер ужо сур’ёзным голасам спытаў Захараў, і Славік крутнуў галавой.

— Ну… дахаты пойдзем ці ў краму? — хлюпнула носам Люська. Сястра выбегла лёгка апранутая і акалела на порсткім ветры.

Лепей было б здаць пляшку без сведак, але ж дзядзькі могуць праседзець у краме да ночы. Бо бяруць па сто грам, потым просяць наліць ім у доўг. Брат з сястрой, пацепваючыся ад халадэчы, няпэўным крокам ступілі на крамны ганак.

Васева маці, дзябёлая цётка ў белым, нацягнутым на ватоўку халаце, стаяла за прылаўкам і, узняўшы мензурку, налівала гарэлку з бутэлькі. Чатыры дзядзькі сшыхталіся ў чаргу, а Захараў, наваліўшыся грудзінай на прылавак, закаханымі вачыма пазіраў на магазіншчыцу. Відаць, не меў грошай і хацеў астаграміцца напавер.

Славік з Нюркаю спыніліся ля парогу.

— Абслужы спачатку касманаўта, тады ўжо нас, — гукнуў, зірнуўшы ў іх бок, трактарыст Захараў.

Люська, уабраўшы галаў у плечы, падышла да прылаўка, выставіла бутэльчыну. Магазіншчыца нюхнула рыльца адной ноздрынай, потым другой, нарэшце, звёўшы вочы, уцягнула ўсім носам, і паставіла пляшку ў скрыню.

— Малайцы, добра адмылі, — магазіншчыца сыпанула на шалі аслізлых, з прыліплымі валасінкамі мешкавіны падушачак.

— Давай, Іванаўна, поўнай жменяй. Мажа, гэта сваякі Юрыя Аляксеевіча, — пажартаваў Захараў, і магазіншчыца, падумаўшы, падкінула пару цукерак у газетны кулёк.

— Ну вось, а ты не хацела ісці, — выдыхнуў Славік на ганку крамы.

Падушачкі, пасыпаныя цукрам, спачатку шурпаціліся на языку, потым пачалі слізгаць у роце, нарэшце ў адным месцы расталі, і язык адчуў кіславаты смак павідла.

— А як яго туды запіхваюць? — спытаў Славік, схаваўшы расталую падушачку пад язык.

— Каго?

— Каго, каго… павідла.

— Трэба будзе ў Ніны Пятроўны даведацца, — сястра задуменна варухнула вуснамі. Відаць, і яе зацікавіла гэтае пытанне.

Славік раскусіў малюпасенькую семку клубніц, з якіх было зроблена павідла, і падумаў, што падушачкі — самыя смачныя цукеркі ў свеце.

# БАНАНЫ

Перад урокам батанікі на дошку павесілі плакат з вывамі трапічных раслін. Раней на падобныя малявідлы Лёшка Юрчык не звяртаў увагі, а тут, прабягаючы каля дошкі, нечакана спыніўся. На плакаце красаваў залацістай мяцёлкай цукровы трыснёг, пяшчотна ружавелі плады экзатычнага манга, вісеў на тоўстым стаўбуры падобны на асінае гняздо плод хлебнага дрэва, а ў верхнім правым куце горбілася гронка бананаў.

— Ты што там выглядаеш? — спытаў у хлопца ягоны сябрук Мішка Тарабайка.

— Бананы еў калі-небудзь? — Лёшка не адрываў вачэй ад смакавітых гарбуноў.

Мішка зірнуў на плакат.

— Гэта вунь тыя, жоўтыя?

Мішку, відаць, карцела сказаць, што ён тымі бананамі аб’ядаўся, але, пачухаўшы патыліцу, адно ўздыхнуў, зварухнуўшы плакат на дошцы.

…Батанічка доўга і нудна распавядала пра флору трапічных ды субтрапічных краін і пра тое, што многія тамтэйшыя расліны прыжыліся на нашых шыротах дзякуючы савецкім селекцыянерам.

— Самым знакамітым дрэвам тропікаў з’яўляецца какосавая пальма, — паведаміла батанічка, крануўшы ўказкай гузаваты нос. — Яна звычайна расце на беразе акіяна. Спелыя какосы падаюць у ваду і разносяцца хвалямі на значныя адлегласці. Былі выпадкі, калі какосы знаходзілі ў нарвежскіх фіёрдах, куды іх заносіў цёплы Гальфстрым.

— А чаму да нас какосы не заносіць? — перабіў настаўніцу Лёшка Юрчык.

— У нас, Юрчык, няма акіяна, — незадаволена адказала батанічка.

Усе ў класе наставілі на Юрчыка смяшлівыя твары.

— Ну не какосы, дык бананы. Чаму іх не прадаюць у крамах?

Батанічка сумелася, зірнула на плакат з выяваю банана, ды тут жа сабралася з думкамі.

— Бананы, Юрчык, вельмі далікатныя. Пакуль давязеш да Еўропы, яны згніюць. Так што калі хочаш іх пакаштаваць, трэба выпраўляцца ў тропікі, — жартам зазначыла настаўніца, і ўсе зноўку зірнулі на Лёшку. — А ўвогуле павінна вам сказаць, што ў свеце няма нічога больш смачнага, чым наша бульба. Яна, дарэчы, таксама паходзіць з цёплых краёў, але расце ў нас лепш, чым на радзіме, — залівалася красамоўствам батанічка.

«Паехаць у тропікі… А хто мяне туды пусціць? І дзе ўзяць грошы на праезд? — падумаў Лёшка Юрчык, з-пад броваў пазіраючы на настаўніцу. — Маці каторы год хоча з’ездзіць да сваякоў у Свярдлоўск, і тое грошай не можа сабраць».

Пасля ўрока Лёшкаву парту абступілі аднакласнікі.

— Што, Лёша, бананаў захацелася? — рагатнуў Мішка Тарабайка. — Бульбу еш, яна карыснейшая.

Лёшка адчуў, як загарэліся вушы. Пхнуўшы Мішку ў грудзіну, аматар бананаў выбег з класа.

«Сябар называецца… устыў ужо са сваімі жарцікамі», — пакрыўджана падумаў Лёшка. Хлопец прайшоўся ў канец калідора, разважаючы, ці не пайсці дахаты. Апошнім урокам была беларуская мова, а яе можна было прапусціць, і пачуў зычны вокліч батанічкі:

— Юрчык, вось… пачытай пра свае бананы, — настаўніца шыбавала па калідоры з кніжкаю ў руках. — Толькі не згубі, яна бібліятэчная.

«Культурныя расліны», — прачытаў Лёшка на вокладцы.

Тарабайка тым часам таксама выбег у калідор.

— Што за кніга? — спытаў з ліслівымі ноткамі ў голасе, але сябрук не глянуў у ягоны бок. Павярнуўся ды пайшоў у клас.

Увечары Лёшка ўзяўся чытаць пра культурныя расліны. Не пра ўсе, вядома, а пра тыя, якія растуць у тропіках. Раздзел «Бананы» давялося прачытаць двойчы. Бананы, аказваецца, раслі па трыста штук у адной гронцы і важылі 50–60 кілаграмаў. Лёшка тады падумаў, што калі такая гронка адарвецца ды грымне каму на галаву, небараку дакладна не пазайздросціш. «І як яны іх здымаюць? З дапамогаю аўтакрана?», — падумаўшы так, Лёшка ўздыхнуў. Добра жыць у тропіках! Зняў бананавую гронку — і на цэлы месяц ежай забяспечаны. Не трэба ні зямлю араць, ні баранаваць, ні сеяць. Да таго ж, як пішуць у кнізе, бананы прыемныя на смак — салодкія ды мучністыя.

— Што ты чытаеш? — прагучаў знянацку бацькавы голас.

Лёшка паказаў вокладку кнігі.

— Па праграме задалі?

— Па праграме. Удзельнічаю ў алімпіядзе па батаніцы, — схлусіў хлопец.

Бацька заўсёды цікавіўся, якую кнігу сын чытае. Аднойчы Тарабайка даў пачытаць зборнік апавяданняў Брэдберы, бацька ўбачыў кніжку і ўз’еўся. Маўляў, гэта шкодная кніга. Да таго ж, амерыканцам напісаная. Так што сын звычайна клаў на стол разгорнутую «Аповесць аб сапраўдным чалавеку», а чытаў, на каленях прымасціўшы, іншую кнігу. А калі бацька, зайшоўшы ў кухню, выдаў: «Колькі можна чытаць адно і тое ж?» — паклаў на стол «Маладую гвардыю» Фадзеева.

Наступным днём Лёшка з Мішкам цэлы дзень не размаўлялі, і толькі ў шатні, калі збіраліся ісці дахаты, Тарабайка не вытрымаў. З вінаватай усмешкай падышоў да сябра.

— Надзьмуўся як рапуха. Ужо і пажартаваць нельга.

— Жарты ў цябе нейкія паганыя, — Лёшка нацягнуў на плечы паліто.

— Ды ладна… забудзь. Пайшлі сёння ў кіно. Французскі фільм.

— Французскі? — перапытаў Лёшка. Злосць на сябра вомігам выпетрылася з душы. — Ці будуць квіткі?

Пару тыдняў таму ў кінатэатры круцілі «Трох мушкецёраў». Хлопцы цэлую гадзіну душыліся ў чарзе, а квіткі якраз перад імі скончыліся.

— А гэта бачыў? — Мішка махнуў перад Лёшкавым носам двума сінімі квіткамі.

Фільм называўся «Шэрбурскія парасонікі». Ён хоць і быў французскі, ды зала чамусьці была запоўненая напалову. Хлопцы напачатку здзівіліся, але ўжо з першых кадраў усё стала зразумела. У кінатэатры круцілі оперу. Мала таго, што акцёры не гаманілі, а спявалі, дык сам фільм выглядаў поўнай лабудой. Чарнявы француз сустракаўся з дзеўкай, якая ўвесь час хадзіла ў белым плашчы. Потым яго забралі ў войска, і да дзеўкі падлабуніўся нядошлы заморак, які прадаваў брыльянты. Урэшце дзеўка вырашыла завязаць з чарнявым і пабрацца шлюбам з заморкам. Лёшка раз-пораз пазяхаў, паглядаў на чырвоны ліхтарык ля ўваходу — некаторыя з гледачоў ужо сышлі дахаты, — і падчас чарговага позеху сябар тыцнуў локцем у драбы. Лёшка ўтаропіўся на экран. На экране маці галоўнай гераіні хадзіла вакол стала, а пасярод стала стаяла крышталёвая ваза з крамянымі жоўтымі бананамі.

— Бачыў? — шапятнуў сябра.

— Бачыў, — адказаў Лёшка і, памаўчаўшы, дадаў: — Муляжы… як яны маглі бананы да Францыі давезці?

Цётка-суседка павярнула голаў:

— Не перашкаджайце глядзець фільм, — у цёткі былі заплаканыя вочы. Румзала немаведама з чаго. Псіхапатка, відаць.

Выкуліўшыся з кінатэатра, сябры навыперадкі лаялі фільм і маракавалі — сапраўдныя былі бананы ці гэта пластмасавыя муляжы.

— Казала ж батанічка, што да Еўропы не давезці — згніюць па дарозе, — казаў Лёшка.

— Знайшоў каго слухаць, — гнуў сваё Мішка, — яна бананы толькі на плакаце і бачыла.

— Учора кніжку чытаў пра трапічныя расліны. Там таксама напісана, што бананы хутка псуюцца.

— А можа, іх самалётамі ў Францыю дастаўляюць, — не сунімаўся Мішка.

— Колькі ты іх у самалёт запхнеш? Ды і дарага з Афрыкі самалёты ганяць.

Сябры гатовыя былі зноў перасварыцца, але тут Мішка згадаў Люську Кудрашову, бацька якой лётаў у Англію. Не адзін, вядома, а з групай інжынераў. На мясцовым хімічным камбінаце манціравалі ангельскае абсталяванне, вось нашых інжынераў і выправілі набрацца практычнага досведу.

— Давай да Люські ў госці напросімся, і Люсьчынага бацьку спытаем: прадаюць у ангельскіх крамах бананы ці не?

— У кіне ж Францыю паказвалі, а не Англію, — адпарыраваў Лёшка.

— Калі іх у Англію завозяць, дык у Францыю і пагатоў. Паміж імі толькі Па-дэ-Кале. 29 кіламетраў у самым вузкім месцы, — Мішка Тарабайка лепш за ўсіх у класе ведаў геаграфію.

Лёшка задуменна пачухаў сківіцу.

— А як мы да Кудрашовай у госці напросімся?

— Што-небудзь прыдумаем, — выдаў Мішка і ляпнуў на знак развітання па выстаўленай Лёшкавай далоні.

Назаўтра, да пачатку ўрокаў, хлопцы падкаціліся да Люські Кудрашовай.

— Люся, а можна з тваім бацькам сустрэцца? — наўпрост запытаўся Тарабайка.

— А навошта ён вам?

— Ды так… хочам сёе-тое пра Англію даведацца.

Люська з вохканнем перавяла дых.

— Па-першае, тата ездзіў не ў Англію, а ў Шатландыю. У горад Глазга. А па-другое, ён ужо змучыўся пра тое апавядаць. Нават лекцыю чытаў на працы «Глазга — горад кантрастаў».

— Ды нам трэба адно пытанне высветліць, — Мішка зірнуў на сябра, — а то спрачаемся з пенай ля рота…

— Ладна, чорт з вамі, — прамармытала Люська, падумаўшы, — завяду да бацькі. А ты, Тарабайка, ідзі дошку вытры.

Такія словы і загады Мішку не надта спадабаліся, але мусіў падпарадкавацца і падхапіць мокрую вяхотку.

У Люсьчыну кватэру хлопцы зайшлі на паўсагнутых. Яно і не дзіва. У іх кватэрах сцены проста пабеленыя, а тут усё было абклеена валошкавымі, з залацістымі кропкамі шпалерамі, з дзвярной праймы выглядаў край піяніна, а на столі вісела вялізная жырандоля, у якой замест свечак тырчалі маленькія лямпачкі. Госці пераглянуліся.

— Хлопчыкі з майго класа. Хочуць пра штосьці даведацца, — даляцеў з дальняга пакоя Люсьчын голас, і ў калідор выйшаў высокі сівы мужчына ў хатнім халаце. Халат быў расшпілены, і на грудзіне з-пад майкі выбіваліся сівыя валасы. Але што найбольш уражвала, дык гэта люлька, якую мужчына трымаў у зубах. Тытунёвы дым прыемна пах. Не тое што дым ад папярос, якія паліў Лёшкаў бацька і які выядаў вочы.

— Іван Пятровіч, — адрэкамендаваўся Люсьчын бацька і парукаўся з хлопцамі. — І што вас, маладыя людзі, да мяне прывяло? — Іван Пятровіч паказаў рукой у бок кухні і, звярнуўшыся да дачкі, прамовіў: — Запар аднакласнікам гарбаты.

Хлопцы асцярожна, на самы край, селі на круглыя крэслы, — ці не з Глазга іх прывезлі? — і Мішка запытаў:

— А прадаюць у Шатландыі бананы?

Гаспадар кватэры пачаў пыхкаць люлькай, прымружыўшы левае вока.

— І гэта ўсё, што вас цікавіць?

Госці кіўнулі.

Іван Пятровіч, збіраючыся з думкамі, крыху памаўчаў. Урэшце пусціў тонкі струмок дыму да столі.

— Там, маладыя людзі, шмат чаго прадаецца. А наконт бананаў… — Іван Пятровіч прымружыў правае вока, — у Глазга ёсць універсальныя магазіны, і там на прылаўках ляжаць горы бананаў, ананасаў, какосаў, ківі… ну гэта такія кіславатыя плады, з выгляду падобныя на бульбу. Пакупнікі

падыходзяць з драцянымі кашамі ў руках і самі выбіраюць, што ім трэба.

— А на чым іх туды вязуць? Бананы ж хутка псуюцца, — азваўся Лёшка.

— Я гэтай тэмай адмыслова не цікавіўся, але, думаю, вязуць на абсталяваных рэфрыжэратарамі караблях. Ну а калі якая партыя, ужо на крамных паліцах, падгнівае, яе выносяць на двор і кладуць у кантэйнеры для смецця. Бедныя людзі, дарэчы, могуць іх узяць. Сам бачыў, як у тых кантэйнерах мурыны поркаліся.

— А чаму бананы да нас не завозяць? — разам спыталі госці.

— Чаму? — Іван Пятровіч пусціў чарговы клуб дыму. — Тут на імпартныя кампрэсары грошай бракуе, а вы бананы патрабуеце.

На пліце гучна і разняволена засіпеў чайнік.

— «Дарджылінг» — самая папулярная ў Брытаніі гарбата, — выгукнула Люська, прадэманстраваўшы прыгожую, з малюнкам слана, бляшанку.

Хлопцы, разявіўшы раты, сталі па чарзе разглядаць бляшанае дзіва.

— Ну што, маладыя людзі, раз няма больш пытанняў, дазвольце вас пакінуць. Ёсць, праўда, адна просьба, — Іван Пятровіч узяўся за ручку дзвярэй, — нікому не кажыце пра нашу размову.

— Законны дзядзька, — выдыхнуў Лёшка, калі яны, выпіўшы па тры кубкі індыйскай гарбаты, выйшлі з гасціннай кватэры Івана Пятровіча.

— Законны, — кіўнуў Мішка, толькі дачка крыху дурнаватая. Тарабайка з Кудрашовай летась сядзелі за адной партай і ўвесь час біліся.

— Як ты думаеш, чаму Іван Пятровіч папрасіў нікому не казаць пра размову?

Мішка пачухаў патыліцу.

— Памятаеш піянерскі збор, дзе пра камунізм расказвалі? Пры камунізме, казалі, у крамах усяго будзе поўна. Мы яго яшчэ будуем, а ў Шатландыі, відаць, пабудавалі. Любы бес-

працоўны можа на сметніку гнілых бананаў набраць. Толькі пра гэта нікому нельга распавядаць, бо і нашы людзі дармавых бананаў захочуць.

Лёшка вячэраў з бацькамі, еў запраўлены скваркамі панцак, і маці, як заўсёды, наракала на пустыя крамы.

— У крамах як вымецена. Хацела мукі купіць, налісьнікаў сасмажыць, дык і мукі няма.

— А ў Шатландыі ў крамах цэлыя горы бананаў ляжаць, — паведаміў Лёшка, храбуснуўшы скваркай.

Бацька спешна, аж слёзы выступілі на вачах, праглынуў кашу.

— Хто табе сказаў?

Лёшка зразумеў, што балбатнуў лішняга.

— Хто табе гэта сказаў? — у голасе бацькавым нарадзіліся пагрозлівыя ноткі.

Панурыўшы вочы, Лёшка назваў прозвішча.

Пачуўшы прозвішча генеральнага дырэктара, бацька насупіў бровы.

— А што яшчэ казаў?

— Казаў, у нас жыць лепш, бо ў Шатландыі клімат паганы, на вуліцах страляюць і беспрацоўныя ў сметніках поркаюцца, — прамармытаў Лёшка.

— Генеральны дырэктар, а ніякай грамадзянскай адказнасці, — бацька адсунуў талерку і пайшоў з кухні, не выпіўшы кампоту.

Бацька працаваў у нейкай сур'ёзнай канторы. Лёшка нават не ведаў, як яна называецца. Аднойчы пацікавіўся і маці хуткагаворкай папярэдзіла: «Калі хто спытае, скажы: тата працуе следчым». З-за той бацькавай працы з Лёшкам ніхто асабліва не хоча вадзіцца. У сябрах адзін Тарабайка.

Ноччу Лёшка доўга не мог заснуць. Перажываў, што не датрымаў слова, дадзенае Івану Пятровічу. А яшчэ хлопец марыў пра тое, што калі вырасце, таксама будзе паліць люльку, піць гарбату «Дарджылінг» і называць шкаляроў «маладымі людзьмі». Апанаваны такім марамі, ён заплюшчыў павекі і пачуў шчымлівую мелодыю. Яна нарадзілася недзе далёка,

але паволі мацнела, убіралася ў сілу, і Лёшка пазнаў яе: гэта была музыка з таго самага французскага фільма, які надоечы глядзеў. Хлопцу раптам да свербу ў грудзіне заманулася зноў паглядзець гэты фільм. Прычым пайсці ў кінатэатр аднаму, сесці на задні рад і яшчэ раз убачыць партовы кран, мокры брук, мільгаценне рознакаляровых парасонаў і гронку бананаў у крыштальнай вазе. І зноўку пачуць шчымлівую мелодыю, якая панясе яго ў свет юначых мараў.

## ЗАРОК

Я бягу следам за міліцэйскай машынай, што паволі, страсянаючыся на калдобінах, едзе па дарозе. З-пад колаў адлятае густы пыл, што рэжа вочы, трашчыць на зубах і ад якога салодка свярбіць у горле. Пад'ехаўшы да збітага з дошак барака, — яго ў нас называюць «інтэрнатам», — машына спыняецца і на момант знікае ў нетрах пыльнай хмары.

Першым з задніх дзверцаў выскоквае міліцыянт. Абабіўшы штаны, ён гукае ў цёмны атвор, і з машыны — сцярожка, азіраючыся, — вылазяць трое дзядзькоў: двое старых са шчаціннем і адзін маладзейшы, шчыгульна паголены, які трымае ў адной руцэ чорную валізу, а ў другой — перавязаны аборкай стос кніжак. Дзядзькі выстройваюцца шыхтом, і міліцыянт штосьці ім чытае, сюд-туд тыцкаючы нос у паперчыну і разпораз уздымаючы ўгору палец.

Крадком іду да машыны і пасняваю пачуць апошнюю фразу: «Адзначацца будзеце кожную раніцу і кожны вечар у каменданта», — міліцыянт кіўком галавы паказвае на Пятроўну, якая шыбуе па вуліцы. Гэта наша суседка. Хата яе стаіць праз дарогу.

У бараку жывуць «хімікі». Хто яны такія, дакладна невядома, але бацька кажа, што гэта злодзеі і хуліганы. Хто жонку ці цешчу пабіў, хто п'яны на матацыкле гойсаў. Летась адзін дзівак у цеплавоз залез, калі рабочыя нешта звонку рамантавалі, і паехаў. Выехаў з Полацка, а спынілі ўжо недзе за Грамамі. Яшчэ адзін выробляў ды прадаваў паляўнічыя нажы. Той доўга тут не прабыў. Пайшоў увечары да Пятроўны адзначацца — і палез да яе. Ну і атрымаў патэльняй па кумпалу.

А наступнай раніцы прыехалі міліцыянты і некуды бедалагу звезлі. Ёсць таксама латыш. Як ён да нас патрапіў — нават Пятроўна не ведае. Распавядаў днямі, што сапраўднае прозвішча расійскага прэзідэнта Пуціньш і што дзед прэзідэнта валодаў хутарам непадалёку ад Рыгі. Гэтым балачкам, вядома, ніхто не дае веры. Але самы адметны «хімік» на сёння той, які падрабляў праязныя білеты. Ды так спрытна, што цяжка было адрозніць падробку ад сапраўднага праязнога. Дзядзька класна грае на баяне. Штовечар сядзіць на прызбе і бацае факстроты. А па замове Пятроўны яе ўлюбёную песню выконвае: «Подари мне платок». Бабулі, якія жывуць непадалёку, усе да адной выходзяць тады з хат, стаяць каля платоў, сківіцы рукамі падпёршы, слухаюць, а некаторыя і слязу з вачэй змахваюць. Бабулі і зараз стаяць ля платоў. Цікава ж паглядзець на новых «хімікаў».

— І навошта столькі кніжак чалавеку?! — крычыць глухаватая Мамоніха, наваліўшыся грудзьмі на агароджу.

— Пятроўна казала, павінны пазіцынера прывезці. Можа, гэта ён? — шапялява адгукаецца суседка, сівагаловая Галузіха.

— А што за пазі… цынер?

— Ай, ну во… які супраць Лукашэнкі. Кніжак начытаюцца, а тады з міліцыяй б’юцца, — Галузіха смаркаецца ў прыпол хвартуха.

— Толькі пазіцынераў нам і не хапала, — азываецца Мамоніха і з панікай прыхопліваецца: — А мне ж пад «краму» трэба ісці!

У кіламетры ад вёскі знаходзіцца чыгуначная станцыя. Чыгунка зусім занядбаная. Свойчас тут хадзілі пасажырскія цягнікі, а цяпер раз на дзень сноўдае «дызель» — спачатку ў адзін бок, потым у другі. Лучыць ён Вялікія Лукі з Полацкам, і ў абед, калі «дызель» ідзе з Расіі, пад яго сунуцца вяскоўцы з усяго наваколля. Цягнік апанавалі велікалуцкія гандляркі, якія прадаюць з вагонных прыступак розныя харчы ды прысмакі, таму яго «крамай» і празвалі. Сёння ўпрасіў маці даць грошай на бутэльку «Колы» і таксама збіраюся ісці да цягніка.

«Цікавы дзядзька, — думаю я, ідучы бярозавым гаем да станцыі, — заявіўся “на хімію” з абярэмкам кніг». У нас кніг не чытаюць. Калісьці ў вёсцы была бібліятэка. Я хоць і малы быў, але любіў туды заходзіць. Кніжкі гартаў. Асабліва падабалася энцыклапедыя. Пяцьдзясят адзін том! Цэлую шафу займала. Бібліятэкарка казала, што апроч мяне энцыклапедыю тую ніхто і ў рукі не браў. Іншыя кніжкі, праўда, бралі, і амаль кожная была пазначана брунатнай мецінай. Чытачы на іх патэльні ставілі. Бібліятэкарку да нас з горада прыслалі, і да яе ўвесь час мясцовыя хлопцы лезлі. Хадзіла зарумзаная, а потым кудысьці знікла. Бібліятэка цэлы год пад замком прастаяла, а неяк увосень, я якраз у чацвёрты клас пайшоў, да яе самаскід падагналі і кніжкі разам са стэлажамі ў кодаб закінулі.

Дарога да станцыі разбіта мазаўскімі коламі і спрэс засыпаная трэскамі. На чыгуначнай станцыі месціцца леспрамгасаўскі пункт, і туды машынамі возяць бярвенне, якое затым грузяць у вагоны. Мой бацька таксама працуе ў леспрамгасе, на тралёвачным трактары. Міжволі заміраю, намагаючыся пачуць рокат бацькавага трактара, ды навокал ціха. Нават вецер не шуміць у бярэзінах.

Першымі пад «краму» прыходзяць сабакі. Цёткі, харчоў набыўшы, і цюцькам штосьці кідаюць, вось яны і збіраюцца на платформе. Насустрач бяжыць Ваўчок — нядошлы, з аблезлай гагавіцай дварняк. Цюцька мае брудна-малочную афарбоўку і яго з невядомай прычыны ўсе б’юць. Таму і не падыходзіць да людзей. Мяне ж ён любіць і заўсёды лашчыцца, як пабачыць. Вось і зараз: ускочыў пярэднімі лапамі на чэрава, адчайна віхляе хвастом.

Цёткі паволі ўзыходзяць на бетонную платформу, і лёгкі ветрык раздзімае пустыя торбы.

— Ці будзеш браць хлеб? — пытаецца дзябёлая цётухна, імя якой не ведаю і якая працуе прыбіральшчыцай у леспрамгасаўскай сталоўцы.

— Во… узяла пазаўчора, а яго ж не ўкусіць. Такі чэрствы, — адказвае хударлявая цыба з суседняй вёскі Хмызы і прыкладае далонь да броваў: — Ці не глушня гэта сунецца?

Па дарозе да станцыі пыліць, прыпадаючы на правую нагу, старая Мамоніха.

— Што скажу! — здалёк гукае старая, трасучы ў паветры кавенькай.

Кабеты, якія чакаюць цягніка, дапамагаюць кульгавай пляткарцы ўзлезці на платформу.

— У інтэрнат пазіцынера прывезлі, — выдыхае Мамоніха, папраўляючы хустку. Хустка збілася набакір і з-пад яе вылезла пасма сівых, падобных на пыльнае павуцінне валасоў.

— А хто такі? — лыпае зекрамі цыба.

— Ну… які Лукашэнку не любіць, — Мамоніха выцірае ражком хусткі пот з ілба. — Ай, страшны… з кніжкамі прыехаў…

— І зусім не страшны, — заўважае Нінка, мясцовая паштарка. — Малады, паголены. З выгляду непітушчы.

— Гэта толькі з выгляду, — бубніць Мамоніха. Усе наўкол пачынаюць бязладна гаманіць, абмяркоўваючы навіну, ды змаўкаюць, пачуўшы басавіты гудок цеплавоза.

Цёткі кідаюцца да першага вагона, бо менавіта там, адразу з двух дзвярэй, ідзе гандаль. Дзверы з металёвым шоргатам разыходзяцца, з іх вытыркаецца гандлярка, а за яе спінай хтосьці ў роспачы гарлае:

— Ну дайце выйсці!

«Крама на колах» стаіць дзве хвіліны. Трэба паспець узяць тавар ды яшчэ расплаціцца.

— Валя, мне дзве буханкі, — енчаць у натоўпе, і з вагона вылятае два боханы хлеба.

— Грэчку ці прывезла? — галёкае Мамоніха, і голас яе заглушае адчайны енк:

— Ну дайце выйсці!

Прадавачку пхаюць у каршэнь, і тая, пад гучныя воклічы пакупніц, валіцца ім на галовы.

— Халера, не магла з другога вагона вылезці! — крычыць Мамоніха тлустай кабеце, якая з хатулямі ва ўзнятых руках выкулілася з вагона.

Каля другіх дзвярэй народу меней і там завіхаецца наш сусед па вуліцы Макагон. Сусед узвальвае на карак кардона-

вую скрыню з надпісам «Стеклоочиститель» і, зладзеявата азіраючыся, бяжыць у канец платформы.

Цягнік дае гудок, кранаецца з месца. Мамоніха махае кавенькай машыністу, — просіць, каб пачакаў хвілю, — і прадавачка, сціснутая вагоннымі дзвярамі, галёкае:

— Назад паедзем — расплаціцеся!

Аднастайны пошум цягніка замірае за дальнім лесам.

— Хацела грэчкі ўзяць, ды не паспела, — абураецца Мамоніха. — А ўсё з-за тоўстай сучкі. — Тоўстая сучка — гэта кабета, якая з боем вылезла з вагона.

— І хто ж такая? — пытаецца цыба.

— Нявестка Галузішына. У Неўлі жыве. Пазалетась з Пецькам Галузам распісаліся, а да свякроўкі толькі другі раз выбралася. Галузіха гаварыла: яе смерці чакае, каб хату на сябе перапісаць.

Цёткі, абгаворваючы Галузішыну нявестку, валюхаста ідуць па праселіцы, сабакі недзе пахаваліся, і толькі Ваўчок стаіць пасярод платформы, пазіраючы на мяне сумнымі вачыма.

— Нічога не ўзяў, — кажу сабаку, і той з разуменнем панурвае пысу. — Пайшлі, вынесу табе што-небудзь.

Шырокім крокам, каб абагнаць цётак, шыбую па дарозе, і Ваўчок клыпае следам, задаволена махаючы хвастом.

Едучы пасля працы з лесасекі, бацька спыняе тралёвачнік ля хаты «спіртавоза» Мішкі Макагона. Макагон прывозіць з Неўля шклоачышчальнік на спірту, — па-мясцоваму «максімку», — прадае апівудам, і тыя, прымасціўшыся на таўсценных, метровага дыяметру стаўбурах, п'юць з пластмасавых кубкаў пітво (кубкі заўжды пад рукой — наторкнуты на штыкеціны агароджы), заядаюць даўжэзнымі пёрамі цыбулі і запіваюць сырадоем. Малако, па чутках, нейтралізуе шкодныя рэчывы, якія вытворцы дадаюць у шклоачышчальнік. Нядаўна прыязджаў дэпутат, дык цёткі навыперадкі прасілі прычыніць «аўтапаілку», — так яны

называюць Макагонаву хату, — бо мужыкі праз яе скрозь спіліся. Дэпутат ківаў носам, нешта ў нататнік запісваў, пытаўся — хто Макагону столькі бярвення прывёз? А што там пытацца. Леспрамгасаўцы навезлі. Крадуць лес на дзялянцы ды Макагону вязуць, а той іх шклоачышчальнікам поіць. Думалі, прычыняць «аўтапаілку», ды як прычыніш, калі ў Макагона брат пракурорам працуе.

— Во паскуда! — маці наструньвае вуха. — Зноў ля Макагона спыніўся.

Бацькавы трактар перарывіста ляскоча ў канцы вуліцы.

— Ідзі, скажы, каб ішоў дадому.

…На бервяне поруч з бацькам прымасціўся Мішка Ігнацёнак — не стары яшчэ мужчына, які свойчас валіў хвоі, ды па п’янцы адрэзаў пілой пальцы на правай руцэ і цяпер працаваў у леспрамгасе вартаўніком.

— Усё, хопіць на драндулеце дзяўбацца… Заўтра еду ў кантору. Хай даюць новы ТДТ, — бацька, узяўшы чарку, увесь час збіраецца ехаць выбіваць новы тралёвачнік.

Ігнацёнак налівае з бутэльчыны «максімку». Вялікі палец на правай руцэ ў Мішкі ўсё ж такі захаваўся, і ён трымае ім кубак.

— Ну, давай, — падганяе Ігнацёнак, і бацька, пякельна зморшчыўшыся, куляе чарку.

— Моцная, х-халера, — выдыхае бацька, і ўсё ж той жа пякельнай гіморай глытае малака з літровага слоіка.

Ігнацёнак зацягваецца цыгарэтай, азіраецца:

— Кажуць, у інтэрнат апазіцыянера прывезлі.

— Прывезлі, — ківае бацька, — нас папярэдзілі ўжо: ніякіх размоў пра палітыку. І наогул — трымацца ад яго як мага далей.

— А што ён будзе рабіць?

— Можа, стропалем на станцыі, а можа, сучкі паставяць абразаць.

Бацька хоча яшчэ нешта сказаць, ды прастору апаноўвае жаночы лямант:

— А каб цябе парвала! А каб ты спрах, інвалід няшчасны!

Ігнацёнчыха, цётка звяглівая і злая як стручок чырвонага перца, бяжыць па вуліцы, узняўшы над галавой сінія ад напругі кулакі.

— Ты ж, падлюка, казаў, на пошту ідзеш, а сам пад «аўтапаілку» падбіўся!

Ігнацёнак, увабраўшы голаў у плечы, пхае пляшку «максімкі» бацьку ў кішэнь, падхопліваецца на ногі, і жонка хвацка б'е мужа кулаком па карку.

Бацька таксама падымаецца, а ўбачыўшы мяне, торгае падбародкам.

— Маці дадому кліча, — прамаўляю з уздыхам, і бацька, мацюкнуўшыся і памацаўшы рукой пляшку, дыбае да трактара.

Летам сплю на вышках, але днямі прастудзіўся і цяпер даводзіцца ўсю ноч круціцца на мулкай і цёплай печы. Самы сон пасля світанку, ды як паспіш, калі ад самай раніцы ў хату ўвальваецца Мамоніха. Ад яе голасу ўжо нервовыя дрыжыкі працінаюць. Да таго ж, гарлае як не ў сабе, бо глухаватая на адно вуха. Вось і цяпер. Не паспеў бацька на працу выправіцца, яна ўжо керхае ў прысенку.

— Ці чула? Да Галузіхі нявестка прыехала, — ад парогу выдае пляткарка. — Пецька ж Галузішын з нейкай развядзёнкай зблытаўся. Вось і прыкаціла… ратунку шукаць. І падарункаў прывезла. А ў самой «ліхтар» пад вокам. Учора пудрай замазала, а зараз памылася — той і засвяціўся, — Мамоніха засоплена пераводзіць дых. — Пецька хоць і лагодны малец, але ж давяла… прыклаўся кулаком… дзеля гэтай…. як яе? Пра-фі-іі…

— Прафілактыкі, — падказвае маці.

Устаю, каб бегчы на двор, і міжволі наструньваю слых.

— Ці бачыла пазіцынера? — ужо не так гучна гугнявіць Мамоніха.

— Не яшчэ. Кажуць, прыстойны чалавек, — маці налівае ваду ў чыгунок. — Кніжкі чытае.

— Ага… прыстойны… На «хімію», мая дарагая, прыстойных не адпраўляюць. Дый невядома — якія ён там кніжкі чытае. Можа, тыя, дзе пішуць, як людзей рэзаць ці як хаты паліць, — Мамоніха сціхае. На кухні бразгае конаўка і чуюцца прагныя глыкі — старая п’е ваду. — Учора Ігнацёнчыха гнала свайго ад «аўтапаілкі» і крычала на ўсю вёску, што спаліць Макагону хату.

— Хутка дакрычыцца, — азываецца маці, — таксама на «хімію» выправяць.

— А я ёй кажу — падгавары пазіцынера, — голас Мамонішын дарэшты цішэе, — той за бутэльку «максімкі» каго хочаш з дымам пусціць. Што там хата… яны, па цілівізеру гаварылі, Дом урада збіраліся падпаліць.

— А сапраўды, сабраць капейчыну ды заплаціць пазіцынеру. Хай бы падпаліў таго чорта, — з інтанацыяй абурэння прамаўляе маці, і цяжка зразумець — кажа яна ўсур’ёз ці жартуе. — І мой учора сядзеў на бярвенні…

— Пашалелі мужыкі. Макагон іх нейкай карасінай поіць, — на ўвесь голас выдае Мамоніха, і я, ляпаючы босымі нагамі па падлозе, выбягаю на двор.

Другі тыдзень апазіцыянер завіхаецца ў леспрамгасе: абсякае сукі з паваленых хвояў. Бацька новага работніка нахвальвае. Той нібыта за любую працу хапаецца. Хоць і не надта цягавіты, але спрабаваў ужо і лес валіць. І, што ўсіх здзівіла, тыпавую інструкцыю за два дні на памяць вывучыў. Яму для цікаўнасці мальцы іспыты ўчынілі. Узялі ў брыгадзіра інструкцыю і давай, старонкі перагортваючы, пытацца: «Які павінен быць вугал насадкі калуна?» — «Не меней за 88 градусаў». — «А сякеры?» — «Не меней за 86 градусаў». — «А якая павінна быць шырыня недапілу пры дыяметры стаўбура паўтара метры?» — «Два сантыметры». Бацька распавядаў пра тое з натхненнем, бо ніхто з яго брыгады інструкцыю не чытаў. Яшчэ казаў, што апазіцыянер з усімі пабеларуску гаворыць. Напачатку было дзіўна чуць беларускую мову, а цяпер некаторыя спрабуюць з новым работнікам на ёй размаўляць.

Мы ў школе таксама беларускую мову вучым. Ды што гэта за вучэнне! Часцяком замест «белкі» геаметрыю ставяць. Ды і ўвогуле на мову даўно махнулі рукой. А навошта яна? Паедзь у горад і пачні размаўляць па-беларуску — гарадскія засмяюць. А вось жа прыбыў чалавек з самой сталіцы, размаўляе па-наску, і ніхто смешкі не правіць. Адна Мамоніха незадаволеная. Нагаворвае маці, каб я далей ад «пазіцынера» трымаўся. А то, чаго добрага, саб'юся з тропу і буду ўсё жыццё па «хіміях» туляцца. Маці, лухты наслухаўшыся, забараніла і блізка падыходзіць да інтэрната. Але што мне забароны. Я і зараз сноўдаю ля яго. Чакаю, калі прывязуць рабочых з лесасекі.

Па вуліцы, уздымаючы пылюку, калываецца легкавушка. Хтосьці прыехаў з горада. Сыходжу на ўзбочыну, і легкавушка, параўняўшыся са мной, спыняецца.

— Эй, хлопец, дзе тут «хімікі» жывуць? — пытаецца, апусціўшы шыбу, дзядзька ў сонечных акулярах. У дзядзькі вялікія натапыраныя вушы. У нас такіх Аблавухамі клічуць.

— А вунь у тым доме, — выдыхаю, торгнуўшы пальцам у паветра. — Толькі там нікога няма.

— А куды яны падзеліся? — кіроўца здымае акуляры, праціpae белай насоўкай.

— На лесасецы працуюць.

— А можаш паказаць?

Я торгаю плечукамі, і дзядзька, абапёршыся локцем на сядзенне, адчыняе бакавыя дзверцы.

Ехаць у машыне прыемна. Легкавушку злёгку падкідвае, люляе, матляе ў бакі. Задаволена гляджу наперад і тут жа спаўзаю з сядзення ды прыгінаю галаў.

— Што з табой? — спалохана лапоча ўладальнік сонечных акуляраў.

— Мамоніха, — шапчу я, стукнуўшыся лбом аб прыборную панель.

Мамоніха аж на плот звесілася, выглядаючы — хто там едзе на машыне. Ды і не дзіва. Па нашай вуліцы толькі Макагон зрэдзьчасу праедзе на сваім старым «Фордзе», і раптам шыкоўная гарадская машына пыліць немаведама куды.

— А хто такая? — Аблавух прытоплівае понаж газу.

— Звяга, якіх пашукаць, — адказваю, ладкуючыся на сядзенні. — Раскажа маці, як я на машыне ехаў. Ды штонебудзь прыпляце. Апраўдвайся тады.

Заціскаю нос ражком кашулі і здушана чхаю: ад пылюкі папросту няма прадыху.

— А вы да апазіцыянера прыехалі?

— Да апазіцыянера, — пасміхаецца суразмоўнік. — Як яго… яшчэ не пабілі?

— Ды не. Ён усім падабаецца. Толькі Мамоніха носам круціць. Баіцца, што апазіцыянер ёй хату спаліць. Дом урада, кажа, каменны, таму і не ўдалося падпаліць. А хату — чыркні запалкай… праз пяць хвілін адна печка застанецца.

— Ну і людзі, — Аблавух, наваліўшыся локцямі на стырно, прыпальвае цыгарэту.

Дзе тая дзялянка, я і сам не ведаю. Бацька казаў, недзе каля Хмызнянскай павароткі. Праехаўшы паваротку, прашу спыніцца і паслухаць, дзе зумкаюць пілы. Дзядзька вылазіць з машыны, прыслухоўваецца і, плюхнуўшыся на сядзенне, мармыча:

— Непадалёку.

…Пасярод разлеглага, засыпанага пілавіннем ляда, завіхаюцца рабочыя. Бацькавага трактара не бачна. Яно і добра. Не надта хочацца патрапляць бацьку на вочы. А «пазіцынер» тут. Сячэ, бліскаючы лязом сякеры, сукі на паваленай яліне. Неўзабаве выпроствае спіну, глядзіць у наш бок і, увагнаўшы сякеру ў стаўбур, ідзе ў дальні канец ляда. Відаць, каб адпрасіцца з працы.

— Доўга ж думалі — на якія юры цябе ўпячы, — прамаўляе Аблавух, абняўшыся з апазіцыянерам, — і прыдумалі. Упяклі ў цёмны бор. Ні дарог, ні мабільнай сувязі, ні цывілізацыі.

— А ты хацеў мяне ў цывілізацыю выправіць? Блукаць па гранітнай набярэжнай ды пляваць у Тэмзу? — апазіцыянер абабіў ад трэсак ватоўку.

— Ну, навошта так далёка. Мог бы ў якой менскай кавярні сядзець, бізнес-планы палітычнай барацьбы складаць… як

твае сябрукі, — Аблавух дрогкімі рукамі прыпальвае чарговую цыгарэту. — Напісаў бы тое чортава прашэнне аб памілаванні — і свабодны. І каму тут патрэбны твае прынцыпы? Ім? — гарадскі госць выпускае дым у бок рабацяг, якія завіхаюцца непадалёку.

— Ты прыехаў са мной палаяцца? — у голасе апазіцыянера гучыць незадаволенасць.

— Ды ўбачыў цябе — і шкода стала, — Аблавух ляпае суразмоўніка па плячы.

Я вылажу з машыны.

— З кім ты? — ужо з вясёлай інтанацыяй пытаецца апазіцыянер.

— Хлопец дарогу паказаў, — вадзіла кіўком галавы загадвае сядаць на задняе сядзенне.

Там, на заднім сядзенні, ляжыць чорны поліэтыленавы пакет.

— Ці не Пятра Іванавіча ты сын? — апазіцыянер сядае поруч з вадзілам.

Ківаю ў адказ і адчуваю, як загараюцца шчокі. Дагэтуль бацьку ніхто так не называў: клікалі па імені.

— Цябе, я чуў, Мішам завуць, — апазіцыянер працягвае руку, і я насцярожана цісну ліпучыя ад жывіцы пальцы, — а мяне Віталём.

— Што ты там прывёз? — дзядзька Віталь перагінаецца цераз сядзенне, дастае з меха вялізную бутэльку «Кока-колы».

— «Кола»? Я яе зроду не піў… А гэта што? Бульбяныя чыпсы? Ды яшчэ польскія?

— Хлопцу аддай, — глуха бурчыць Аблавух, заводзячы машыну. — ВЭФаўскі прымач прывёз. Увесь Менск аб’ехаў, пакуль знайшоў.

— А за прымач дзякуй! — дзядзька Віталь перадае мне «Колу» і пачак чыпсаў. — А то сяджу практычна без інфармацыі.

Дастаўшы прымач, дзядзька Віталь выцягвае антэну. Чуецца бязладны шум, кітайскія спевы, нарэшце салон поўніць прыемны жаночы голас.

— Алена Радкевіч, — задаволена паведамляе дзядзька Віталь.

— Слухай сваю «Свабоду», — абмінуўшы збуцьвелы пень, Аблавух выязджае на праселіцу, — цябе там ледзь не кожнага дня згадваюць.

Ляжу на вышках, убіўшы нос у «Гісторыю Беларусі», якую даў дзядзька Віталь. Чытаю раздзел пра Аршанскую бітву. Малайчына гэты Астрожскі. Зрабіў выгляд, што яго войска адступае, уцягнуў маскоўцаў у пагоню і вывеў пад агонь замаскаваных гармат. А потым з флангаў дзеўбануў. У школе пра гэта нічога не распавядаюць.

Кніжку чытаю ўпотайкі, бо маці, як убачыць, і падзерці можа.

Перагортваю старонку і чую да млосці абрыдлы лямант.

— Слухай, што скажу! — Мамоніха поўніць наваколле шапаценнем капуснага лісця.

Нечакана старая каротка вохкае і аціхае. Павалілася, відаць, у ляху. Але праз імгненне зноў шамаціць капуснікам.

— Што скажу… — з астатніх сіл выдае Мамоніха, і маці з нецярплівасцю падганяе:

— Ну дык гавары ўжо.

— Сучка невельская… цалавалася… — задыхана лапоча пляткарка і маці з панікай у голасе перапытвае:

— Якая сучка? З кім цалавалася?

— Нявестка-а… Галузінчына-а… з баяністам цалавалася-а, — расцягваючы гукі, тлумачыць Мамоніха. — Да ночы сядзелі каля інтэрната, а потым цалавацца пачалі. Ды не проста так, а ўзасмок!

— А ты бачыла?

— Сама не бачыла, Пятроўна бачыла. Прыйшла «хімікаў» праверыць, а тут такое чыніцца…

Праз хвіліну старая зноўку шамаціць капуснікам. Пабегла да Галузіхі. Паведаміць — якая ў той нягеглая нявестка.

Закідваю рукі за патыліцу і каторым ужо разам згадваю размову дзядзькі Віталя з Аблавухам. Пачуў яе, калі ехалі з высекі. «Ну дзе ты бачыў народ, за які рупішся? Ты паглядзі

на іх твары. Ды гэтыя істоты страцілі чалавечае аблічча», — казаў Аблавух. Хай бы Аблавух адвячоркам да Макагонавай «аўтапаілкі» падышоў. Пабачыў бы твары! А то б яшчэ на Мамоніху глянуў. Тая цэлымі днямі бегае па вёсцы ды языком мянціць. Зараз у Галузішыну нявестку ўчапілася. Ну цалавалася нявестка з баяністам. Якая каму справа? Але ж не. Будзе лётаць ды плявузгаць, пакуль новая падзея не надарыцца.

Як я зразумеў са слоў Аблавуха, дзядзька Віталь мог і не загрымець на «хімію». Трэба было прашэнне напісаць аб памілаванні. Усе напісалі, а ён адмовіўся — і на лесасеку патрапіў. Аблавух яго і дакараў. Маўляў, накрамзоліў бы тую паперку ды кінуў ім у пысу. «Зараз як ніколі ты патрэбны на волі», — казаў гарадскі госць, а дзядзька Віталь маўчаў і неадрыўна пазіраў на дарогу. Вось каго абраць прэзідэнтам! Якое б жыццё пачалося! Бацька кажа, лес у Латвію гоняць, нават не распілаваўшы. А распілавалі б — больш грошай атрымалі. А яшчэ і крадуць па дарозе. У дзядзькі Віталя, калі б ён стаў прэзідэнтам, не кралі. Загадаў бы кожнае бервяно пранумараваць і на пільню завезці. Ну і шынок бы Макагонаў прычыніў. Гэта дакладна.

Цэлы дзень я ляжаў на сене, чытаў кніжку і ўжо збіраўся спускацца долу, як на гародзе зашамацела капуснае лісце.

— Лёшка на дрэва палез! — ад сярэдзіны гарода загарлала Мамоніха. — Небарака ўжо асіпла ад балбатні і крыку.

— А на якую халеру?! — такім жа надрыўным голасам адклікнулася маці.

— Галузіха ў Макагона мабільнік узяла, каб з Пецькам звязацца, — з Макагонавага тэлефона можна было размаўляць з Неўлем.

Спускаюся з вышак і вылятаю з весніц.

Насупраць Галузішынай хаты высіцца разгалістая, у два абхопы, хвоя. На яе і лезе Лёшка — малады хлопец, якога нядаўна выгналі за п’янку з леспрамгасу. На дрэва Лёшка лазіць ледзь не штодня. Мабільная сувязь у нас працуе толькі як на верхатуру залезеш. Таму, калі якой цётцы трэба пільна кудысьці патэлефанаваць, Лёшку просяць ці яшчэ каго з

маладзейшых — каб залезлі на дрэва ды набралі патрэбны нумар. Нездарма на стаўбуры, ад камля да першых сукоў, дошчачкі набітыя. Бо проста так на хвою не ўзбярэшся.

Лёшка прымасціўся ў вілаваціне і, паглядаючы ў паперку, набірае патрэбны нумар. Пад дрэвам стаіць, задзёршы голаў, Галузіха і некалькі вясковых падшыванцаў. За спінай маёй рыпаюць штыкеціны. Гэта Мамоніха навалілася на плот і, каб лепей чуць, ссунула хусцінку з вуха.

— Пеця?! Чуеш?! — Лёшка керхае, прачышчаючы глытку. — Матка просіць, каб ты пад'ехаў! — хлопец моршчыцца, ціснe слухаўку да скроні, нарэшце крычыць долу: — А што здарылася?

Галузіха зацкавана аглядаецца і, склаўшы далоні рупарам, цішком выдыхае:

— Прыедзе — тады скажу.

— А?!

— Прыедзе — тады скажу! — амаль крыкам адказвае Галузіха, і Лёшка паўтарае гэтыя словы.

— Ну, што сказаў? — гамзае Галузіха, калі хлопец саскочыў на зямлю.

— Заўтра будзе, — Лёшка перадае старой мабільнік, але тая са словамі: «Аддасі Макагону» адводзіць руку.

Старая доўга і падслепавата падлічвае грошы, аддае іх Лёшку, хлопец з лёгкім подскакам шыбуе па вуліцы, і Галузічыха шамкае яму ўслед:

— Малады, а зусім спіўся.

Цёмнай ноччу ля нашага дома праехаў легкавік. Скрозь сон чуў, як непадалёку брахалі сабакі, рыпелі весніцы, звінела разбітае шкло і працягла лямантавалі жанчыны. А ранкам, калі сонца пачало прабівацца скрозь шчыліны адрыны, зыркімі палоскамі падсвяціўшы зляжалае сена, на двары зноў з'явілася Мамоніха.

— Прыехаў, а жонкі няма… Схапіў сякеру і давай па вёсцы лётаць… А яна ў Пятроўны сядзела. Тая ёй на картах варажыла… Ну і стаў да Пятроўны ламацца… Вакенца выбіў у сенцах…

Я чуў усё спрасонку і, не паспеўшы ўцяміць, хто там і на якую халеру лётаў з сякерай, заснуў.

Сёння субота. Усё яшчэ жвавае, але не гарачае сонца сляпіць вочы, лагодна казыча скронь, і такой вечаровай парой звычайна выпраўляюся ў інтэрнат да дзядзькі Віталя. Пад кашуляй муліць чэрава «Гісторыя Беларусі», якую трэба вярнуць уладальніку, а ў руцэ хатуль з тузінам папяровак. Сабраў пад яблыняй, каб пачаставаць «хімікаў».

Каля весніц Мамонішынай хаты сабраліся ці не ўсе тутэйшыя кабеты. Абсмоктваюць учорашняе здарэнне. Як высветлілася, з сякерай гойсаў Пецька Галуза. Прыехаў позна ўвечары з Неўля і шукаў жонку. Думаў, яна мілуецца з баяністам, а тая ў Пятроўны сядзела.

— А далібог, Пецька і ў маленстве дуркаваты быў, — выдае Нінка-паштарка, а ўгледзеўшы мяне, лезе ў паштарскую сумку.

— У інтэрнат ідзеш? Перадай пісьмы.

З радасцю перахопліваю пульхныя капэрты, уважліва разглядаю і нюхаю кожны з іх. Самы прыемны пах у пісьма, адрасаванага латышу. Пахне нейкім мылам. Ён жа і самы прыгожы. А самы важкі — ліст да дзядзькі Віталя. Я яго не толькі з цікавасцю вывучаю, але і мацаю на зуб. Капэрта ўся пакамечаная і пазначаная штампам «Атрымана ў пашкоджаным выглядзе».

Здаля чую знаёмыя пазыўныя. Радыёстанцыя, якую слухаюць «хімікі», гучыць з далёкай Прагі. Штовечар а восьмай гадзіне дзядзька Віталь выносіць на ганак прымач, выцягвае даўжэзную антэну, і стары «ВЭФ» азываецца поклічам народнай песні. Баяніст кожнага разу расцягвае мяхі, пераселым голасам спявае: «Люблю наш Край, старонку гэту…», — і ўсе, хто сядзіць у двары, абурана шыкаюць. Маўляў, дай навіны паслухаць. Калі-нікалі па радыё згадваюць дзядзьку Віталя, і тады ўсе аціхаюць, а баяніст, паклаўшы рукі на мяхі, ціха і ні да каго не звяртаючыся цэдзіць скрозь зубы: «Такога чалавека ў лес упяклі, сукі».

Вось і цяпер насельнікі інтэрната сядзяць на лаўках каля ганку, моўчкі паляць і слухаюць радыё.

Перадаю дзядзьку Віталю лісты, і той раздае іх адрасатам. Латыш надта здзіўлены, што яму напісалі. З недаверам надрывае капэрту, спалоханымі вачыма прабягае першыя радкі. Вочы ягоныя цьмянеюць і поўняцца слязьмі. Магчыма, у лісце напісалі пра смерць блізкага, а мо надарылася яшчэ якая непрыемнасць. Я кладу перад латышом яблыкі. Шкада гэтага самотнага дзядзьку. Да «хімікаў» пачасту наведваюцца родныя ды знаёмцы. І грошы па пошце прысылаюць. А да латыша ніхто не прыязджае і грошай не прысылае. Ці не таму ў вёсцы нарадзіўся жарт: калі якога безграшовага запрашаюць скінуцца ды пайсці да Макагона, той зазвычай адказвае: «У мяне як у латыша — х… ды душа».

Дзядзька Віталь адышоў убок і, блукаючы ўздоўж інтэрнацкай сцяны, чытае ліст. Бачна, што хвалюецца. Я падыходжу бліжэй. Дзядзька Віталь на міг адрываецца ад аркуша, слізгае па мне невідушчым позіркам.

— «Духоўнае адраджэнне нацыі за кошт маральнай трываласці асобных патрыётаў на сённяшні дзень немагчымае», — уголас чытае дзядзька Віталь і шапоча на адрас аўтара ліста: — Любую чалавечую загану можна падаць у бліскучай тэарэтычнай абгортцы.

Адно, што цямлю з пачутага, гэта тое, што ў лісце напісана не пра родных ды блізкіх, і не пра тое, хто там са знаёмцаў ажаніўся ці развёўся, а пра лёс краіны. І я, ціснучыся спінай да сцяны інтэрната, прагну хутчэй вырасці і таксама стаць апазіцыянерам.

— Зноўку ўскрывалі, — дзядзька Віталь з невясёлай усмешкай разглядае пакамечаную капэрту.

Выцягваю з-пад кашулі «Гісторыю Беларусі».

— Ну, спадабалася?

— Спадабалася! — я частую дзядзьку Віталя папяроўкамі. — Не зразумеў, праўда, чаму раней нашу краіну называлі не Беларуссю, а Вялікім Княствам Літоўскім.

— Таму што гістарычна мы Літва. А Беларусь — так… звонку прыцягнутая назва.

Дзіўныя рэчы. Аказваецца, наша краіна калісьці называлася Літвой. І ўсё вакол — стаўбуры засохлых яблынь, якія растуць наўзбоч інтэрната; утравелыя ляхі пад імі — пазалетась «хімікі» садзілі там цыбулю; густыя, шэрыя ад пылу елкі, што падступілі да дарогі; сама дарога і камендантша Пятроўна, якая па ёй тэпае — усё гэта Літва?!

Падчас вячэры ем поліўку і нечакана для сябе самога пытаюся ў бацькоў:

— А дзе мы жывём?

— Як дзе? — маці адкладвае лыжку. — На зямлі…

— І зямля наша Літвой завецца! — выпальваю, сёрбнуўшы поліўкі.

— Ну ты даеш… Літва чорт ведае дзе, — бацька ківае на печку. — Яна каля Балтыйскага мора. — І потым, адыходзячы ад стала, з дакорлівым смяшком выдае: — Літва… трэба ж такую лухту прыдумаць!

Макагон з’ехаў у горад, «максімку» не было дзе ўзяць, бацька быў цвярозы, і маці сядзела за сталом шчаслівая.

Усю ноч шалела навальніца. Вецер шпурляў у дах буйныя кроплі і, здавалася, гэта не дождж, а прыхаваны ў цемры град дае волю сваёй прыроднай лютасці. На раніцу навальніцы абрыдла лютаваць і з неба сыпануў дробны грыбасей.

Я гляджу ў вакно. Па мокрай шыбе, павольна і неахвотна, паўзуць дажджавыя кроплі, рупліва абмінаючы плямы брудных пальцаў на адваротным баку шкла. Па небе імкліва ляціць ашмоцце хмар, пагражаючы новай навальніцай, а міма вакна праплывае, спавітая поліэтыленавым капюшонам, галава Мамоніхі.

— Слухай, што скажу!

Балаболка, на шчасце, у хату не ідзе — стаіць на ганку, пад капяжом. Заходзіць у хату няма часу. Трэба ababегчы суседзяў ды паведаміць навіну.

Салодка пазяхаю, утварыўшы на мокрым шкле запацелую пляму.

— Пазіцынер пра нашы парадкі ў газету напісаў. Што лес крадуць і што Макагон усю акругу спаіў, — у звяглівым

Мамонішыным голасе ці не ўпершыню чуецца ўхвала на адрас «пазіцынера».

— А якая газета? — азываецца маці.

— Я іх, дзякуй богу, не чытаю. Пятроўну пераняла, яна і расказала. Так што радуйся, прычыняць Макагона з яго карасінай.

— Як жа… прычыняць. Глядзі, каб таго пазіцынера самога не прычынілі, — маці бразгае вёдрамі, ідзе да калодзежа.

Доўга ўцямліваю пачутае. Дзядзька Віталь, аказваецца, пра нашу вёску ўсяму свету распавёў. І Макагона не пабаяўся, і тых, хто лес крадзе. Бацька казаў, з тымі чмутамі лепш не звязвацца. Забіць могуць. Мне карціць зараз жа пабегчы ў інтэрнат і папрасіць у дзядзькі Віталя газету. Ды куды пойдзеш, калі шамаціць дождж і маці не выпускае на двор.

Бацька падымаецца дасвеццем. Я прачынаюся і слухаю, як ён прагна, з адчаем і не пераводзячы дыху, п’е гурочны расол са слоіка.

— Віталь сёння апошні дзень працуе, — паведамляе бацька, аддыхаўшыся. — У іншае месца пераводзяць… Шкада, добры хлопец.

— І, галоўнае, непітушчы, — удакладняе маці, і бацька, мацюкнуўшыся, падаецца з хаты.

Як пераводзяць? Я ліхаманкава ўяўляю тых змрочных круцялёў, якія паслалі дзядзьку Віталя на лесараспрацоўкі, а калі апазіцыянер уведаў, што яны крадуць лес, перапраўляюць у іншую мясціну. Страшныя людзі. Такія ж, як Макагон. Нядаўна ў размове з латышом дзядзька Віталь сказаў, што яму не дае спакою дзіўнае адчуванне. Адчуванне таго, што на нашай зямлі пануе нейкая гадзіна — тая самая, якая калісьці пазабівала нашых лепшых людзей, а цяпер спойвае «максімкай» тых, хто яшчэ застаўся. Згадваю гэтыя словы і ўбіваю твар у падушку.

Увечары, набраўшы папяровак, шыбую да інтэрната. Трэба ж развітацца з дзядзькам Віталем.

Ля Мамонішынага падворка сабралася купка цётак. Прыспешваю крок, каб абмінуць зборню, і Мамоніха крычыць мне ўслед:

— Ну не бяжы ты ўжо так. З’ехаў твой сябручок.

— Куды? — уражана пытаюся ў цётак.

— Не дакладваў, — устаўляе слова камендантша Пятроўна. — Ты, малец, з нармальнымі людзьмі сябруй, а не з «хімікамі». Навучышся ад іх розных паскудстваў ды сам няўрокам у калонію патрапіш.

«Хто нармальныя людзі? Вы з Мамоніхай?», — думаю я, скоса паглядаючы на камендантшу.

Усё ж вырашыў праўдзіць — ці насамрэч дзядзька Віталь з’ехаў. Бо Мамонісе з Пятроўнай нельга даваць веры.

На ганку самоціцца латыш.

— Паехаў. У іншым месцы будзе тэрмін адбываць.

Ссыпаю яблыкі на ганак і чую далёкі матчын вокліч: маці стаіць ля вясніц і паказвае пальцам у дальні канец вуліцы.

…Поруч з Макагонавай хатай усё адно як надарыўся бой. Ігнацёнак ляжыць, раскінуўшы рукі. Лёшка стаіць вокраччу і ванітуе. Яшчэ нехта ляжыць у прыдарожнай яме, наставіўшы ў гору балотнікі. А бацька сядзіць, абхапіўшы галаву, на цюльпаку, і штосьці няўцямна бурчыць сабе пад нос. Макагонавая карасіна і папраўдзе добра б’е па глуздах. Нядаўна скончылася змена, а ўсе ўпітыя.

— Уставай! — маці тузае бацьку за рукаво і ўсхліпвае.

Мне і раней даводзілася цягнуць бацьку дахаты. Ускідваю бацькаву руку на шыю і выпростваюся.

— Ашалеў са сваёй гарэлкай! — румзае маці, тупаючы следам, і бацька спрабуе павярнуць галаву.

— Пайшлі, пайшлі, — кажу, папраўляючы на карку млявую руку.

Уваходзячы на кухню, чапляемся за парог і ляцім на падлогу. Маці намагаецца падняць бацьку, і той наводліў пляскае далонню па матчыным твары.

— Не бі маму! — крычу я і змаўкаю, адчуўшы ўдар у нос.

Бацька ніколі мяне не біў — і вось ударыў, і я, расцёршы гарачую юшку, плачу. Не столькі ад болю, колькі ад пякучай крыўды.

Шморгаючы пабітым носам, выбягаю са двара і скрозь слёзы бачу, як хтосьці кратаецца на дарозе. Гэта Ваўчок кły-

пае насустрач. Нехта перабіў яму заднюю лапу. Зрэшты, чаму нехта? Вядома хто — Макагон! Апівуды пакідаюць на бярвёнах рэшткі закускі — сабакі і круцяцца там, каб перахапіць чаго на зуб. Сам бачыў, як Макагон кідаў у сабак паленам.

Лашчу Ваўчка дрогкай рукою і заўважаю ў сабачых вачах слёзы.

За спінай маёй надрыўна гудзе легкавік. Макагон едзе ў горад на сваім дабітым «Фордзе». Сыходжу ўбок, Ваўчок калываецца на трох лапах, і Макагон, паддаўшы газу, прастуе на сабаку. Няшчасны цюцька скочваецца ў прыдарожную канаву, ціснецца аблезлай гагавіцай да плота. Дыхнуўшы выхлапным смуродам, легкавік праязджае ў лічаных сантыметрах ад мяне. Я таксама скочваюся ў канаву і, пазіраючы ўслед машыне, сціскаю жменю сухой зямлі.

Рэшту дня ляжаў на вышках і не спускаўся адтуль на вячэру. Маці два разы ўздымалася па драбінах. Спачатку прыносіла паесці цёплай бульбы і прасіла даравáць бацьку, а другім разам паклала мне на лоб далонь і прашаптала: «Ці не захварэў ты, братка?» Мяне і сапраўды даймалі дрыжыкі, і я ляжаў, да падбароддзя нацягнуўшы коўдру.

Ніколі ў жыцці так не чакаў ночы. Шчыліны між дошак адрыны цямнелі занадта павольна, а навакольныя зыкі не жадалі сунімацца. Натужліва рыкала Галузішына карова, граў баян ля інтэрната, дробна стукаў сякач у ночвах — нехта з суседзяў сек парсюку бацвінне, — і дзесьці на другім канцы вёскі зацята гула машына.

У трывожным чаканні я забыўся… не, не сном… папросту цяжкая дрымота навалілася на мяне, і калі ачуўся, наўкол панавала цямноцце і знадворку спявалі конікі ды начная птушка гракала каля станцыі.

Пара!

Асцярожна, на нягнуткіх нагах, спускаюся з вышак, пхаю пад кашулю сухі мох, гара якога ляжыць ля драбінаў. Летась бацька хацеў перабіраць падгнілыя вянцы ў хаце, набраў у лесе моху, але так нічога і не зрабіў.

Сагнуўшыся, як жаўнер падчас артналёту, бягу ў канец агародаў. Сэрца маё б'е ў вушы, заглушае навакольныя зыкі. На Галузішынай верандзе запальваецца святло, хтосьці выходзіць на ганак, і я сцішваюся ў бульбяной разоры. Ляжу без дыху, і толькі калі ў хаце прычыняюць дзверы і святло патухае, паўзу на каленях у бок Макагонавай хаты.

Усутыч да сцяны грувасціцца клад бярозавых дроў. Запіхваю між палення сухі мох, чыркаю запалкай. Кволы агеньчык кранаецца моху, паўзе ўгору, а наткнуўшыся на бярозту, успыхвае жоўтым агнём.

Не адчуваючы пад сабою ног, лячу да сваёй хаты. Ускочыўшы на драбіны, балюча б'юся каленам аб папярочку і бачу на шатах яблынь, якія растуць каля адрыны, злавесную палымніцу.

З галавой падбіваюся пад коўдру і дзіўлюся — як сэрца яшчэ не вырвалася з грудзіны. Так зацята яно калоціцца. Праз імгненне навокал залівіста забрэшуць сабакі, забразгочуць вёдры, нема залямантуе Мамоніха. Вяскоўцы пабягуць на пажар як на свята. Нават бабулі прывалакуцца. Макагонаў дом будзе гарэць па-святочнаму, кідаючы ў неба памаранчава-вогненныя вужакі. Цісну далонь да таго месца, дзе грукае сэрца, і даю сабе зарок: вырасту, абавязкова паквітаюся з тымі, хто ўпёк дзядзьку Віталя на «хімію».

# МАРСІЯНЕ НАД ВЁСКАЙ

А восьмай вечара тупкі пляц каля клуба ажывае. Сюды і мальцы на матацыклах пад'язджаюць, і падшпаркі на роварах, і старыя цёткі да клуба клыгаюць, сюд-туд прыкладаючы далоні да броваў і паглядаючы ў канец бальшака. Гэтым часам з Азярышча прыязджае рэйсавы аўтобус. Людзі вяртаюцца з горада наладаваныя, таму сямейнікі іх і пераймаюць, каб паднесці хатулі.

Я таксама таўкуся ля клуба, бо сёння прыязджае мой сябар Мішка Канапелька. Мішка яшчэ ў ліпені паехаў да дзядзькі ў Невель, і вось цяпер вяртаецца. Сустракаю Мішку не толькі я, але і ягоная сястра Нюрка. Тая ўся змучылася, аўтобус выглядаючы. Відаць, гасцінцаў чакае.

— Дакладна сёння прыедзе? — пытаюся ў Нюркі, якая ўжо добрых пяць хвілін стаіць на дыбачках, неадрыўна зыркаючы на паліты залатою імглой небакрай.

— Дзядзька ліста надаслаў. Напісаў, што сёння.

Усе стаяць моўчкі, і толькі загадчыца клуба Мандрычыха няўцямна расказвае нешта дзвюм вясковым цёткам. Я міжволі прыслухоўваюся.

— Таварышы, там такі быльнік! Такі быльнік!

Тры гады таму якраз было дажджлівае лета, калгас папрасіў усіх, хто можа стаяць на нагах, дапамагчы выбраць палеглы лён. Ну і Мандрычысе далі пару сотак. З тае пары і апавядае кожнаму стрэчнаму, ужо каторым разам, якія яна пры тым зведала пакуты.

— Быльнік, таварышы, вышэй за галаву. І як жа пачало мне рукі круціць! Думала, кончуся.

Цёткі на сваім веку выбралі не адзін гектар ільну, і ўжо шматкроць чулі гэтую гісторыю, аднак слухалі балаболку з непадробнай увагай і спачувальна ківалі галовамі.

— Ну куды, куды? — гукае Мандрычыха, перарваўшы аповед пра быльнік. — Двое малалетак вырашылі ўзлезці на бляшаны шчыт з надпісам «Больш малака і мяса дзяржаве!».

Мандрычысе як загадчыцы клуба даводзіцца даглядаць тыя каляровыя шчыты з выявамі трактарыстаў ды маладых даярак, але ўсё адно яны пакарабачаныя, з размытай фарбай на доле, а шчыт з дынамікай надояў наогул нахіліўся пасля таго, як у яго ўрэзаўся на матацыкле кінамеханік Лябёдка.

— Едуць! — крыкнуў адзін з гарэзаў, што ўзбіўся на шчыт, і людскі збой заварушыўся, скіраваўшы позіркі на падсвечаную нізкім сонцам аблачыну, якая ўзнялася на дарозе.

Аўтобус-пазік спыняецца пасярод пляца, дзверцы з глухімі рыпам адчыняюцца, і з пыльнай хмары выплываюць: цётка Авадзіха з гусаком у кашы — вазіла на базар прадаваць ды не прадала; наш сусед па вуліцы Васька Бохан — з мехам камбікорму на карку; нейкія гарадскія дзядзькі ў капелюшах… Зацкавана гляджу на Люську і тут жа задаволена аддзімаюся: дзяўчына з вясёлым подскакам бяжыць да аўтобуса.

— Дома аддам, — адмахваецца Мішка ад сястры, скочыўшы з аўтобуснай прыступкі.

— Ой, ну Мі-іш, — скуголіць сястра.

Брат уздыхае, адчыняе валізу.

— Трымай, — Мішка перадае сястры перавязаныя вяроўчынай падручнікі для школы. — А гэта табе дзядзька перадаў, — у Мішкавых руках прыемна шамаціць спавіты ў цэлафан пакунак. Відаць, дзявочая абнова.

Прыціснуўшы падручнікі з пакункам да запалых грудзей, Люська парываецца ляцець дахаты, ды братан яе спыняе:

— Стая-аць…

Папоркаўшыся ў валізе, Мішка дастае даўжэзную жычку для касы і грымлівую бляшанку манпансье.

— Якія навіны? — пытаецца Мішка, калі мы парукаліся.

Я крыўлю твар, маўляў, якія ў вёсцы могуць быць навіны, і ў сваю чаргу пытаюся:

— А сабе што-небудзь прывёз?

Ні слова не кажучы, Мішка панурвае руку ў кішэнь палатняных портак, дастае колькі вялізных таблецін.

— Што гэта? — цікаўлюся, узяўшы адну з іх.

— Сухі спірт, — тлумачыць Мішка прытоеным голасам, а калі я мерuся лізнуць таблеціну, хапае за руку.

— Э-ээ… атруцішся.

За спінамі нашымі аглушальна гарлае Авадзішын гусак. Цётка выпусціла яго з каша, і гусак, распасцёршы крылы, валюхаста ідзе па вуліцы. Рады, што вярнуўся дахаты.

— А каб цябе, гергуна, парвала, — бубніць Авадзіха, паспяваючы за гадунцом.

Даем дарогу Авадзісе і яе гергуну.

— Дзе ўзяў? — я падкідваю таблеціну на далоні.

— Стрыечны брат з хімкабінета скраў.

— З якога кабінета?

— Са школьнага. Ён у Неўлі вучыцца. У дзявяты клас перайшоў.

— А што яшчэ прывёз?

Мішка, адставіўшы калена, зноў лезе ў валізу, выцягвае скрутак папяроснай паперы.

— А гэта бачыў?

Я мацаю скрутак.

— Вось дзіва! Думаў, ты мадэль самалёта прывязеш.

— Больш цікавага, чым гэтыя рэчы, і прыдумаць цяжка, — перабівае сябар. — Хутка пра нашу вёску ў газетах напішуць. Магчыма, нават карэспандэнты з навукоўцамі прыедуць. Паселяцца ў хатах — будзем ім… гэтыя… як іх… інтэрв'ю даваць… і па тры рублі з носа за пастой дзерці.

З недаверам гляджу на Мішку і пасміхаюся. Сябар вялікі прыдумшчык. Дня не праходзіць, каб ім не авалодала нейкая ідэя. Летась надумаўся выразаць з кансервавай бляшанкі круцёлку з лопасцямі і пускаць з дапамогаю шпулі. У выніку рассек брыво, ды так, што зашываць у Азярышча вазілі. І дагэтуль ліловы пісяг бачны. Пад Новы год з сіласнай вежы

скакаў, у Лёшкі Гнядых з ваеннага гарадка плашч-палатку пазычыўшы. Казаў, гэта плашч-парашут. Добра яшчэ ў сумёт прызямліўся, а так бы і нагу мог зламаць. А надоечы, ржавых патронаў назбіраўшы, стаў з іх порах ссыпаць ды выбух-пакет рабіць. Ну пакет і выбухнуў. Увесь твар небараку пасекла. І веі з бровамі згарэлі. Цяпер штосьці новае прыдумаў. Ды такое, што з усёй краіны карэспандэнты з навукоўцамі зляцяцца.

— Расказвай, што надумаў, — вусны мае па-ранейшаму кранае іранічная ўсмешка.

— А не скажу, раз смешкі строіш.

— Ну Мі-іш, — гамзаю з Нюрчынай інтанацыя, і сябар прымірэнча выдыхае:

— Заўтра раскажу. Бачыш, маці чакае.

Наперадзе, ля весніц, стаіць Мішкава маці і паглядае ў наш бок.

Паўночы круціўся на калючай пасцелі — сплю на гарышчы, забітым сяголетнім сенам, — разважаючы: што гэта Мішка надумаў і як можна з дапамогай сухога спірту і папяроснай паперы ўчыніць вэрхал з прыездам навукоўцаў і карэспандэнтаў? Можа, хоча зрабіць лятавец ды запусціць над вёскай? Але ж ці зацікавіць гэта карэспандэнтаў? Змучаны такімі развагамі, я заснуў пад самую раніцу, а прадзёршы вочы, не паснедаўшы, пабег да сябра.

Мішка сядзеў на лаве каля хаты і еў густа намазаную павідлам булку.

— Пачакай, — каротка мовіў Мішка, пабачыўшы мяне, падаўся ў хату і неўзабаве выбег з кавалкам булкі са шчодрым слоем павідла.

— На, падмацуйся. З Неўля прывёз.

Пачастунак страшэнна смакуе. У наш сельмаг такіх булак не завозяць, ды і такога павідла не прадаюць.

— Галоўнае… каб Нюрка… не бачыла, — няўцямна, з набітым ротам, прамаўляе сябар і, праглынуўшы смакошу, з трывогаю ў вачах аглядаецца. — Ідзём да цябе, а я ўсе прычындалы з сабой вазьму.

З’ядаем булку, запіваем калодзежнай вадой і рушым да мяне. Мішка прыхапіў з хаты торбу, але што ў ёй — мне невядома. І гэта распаляе цікаўнасць.

Маці такім часам на працы. На выпадак, калі прыбяжыць Нюрка, зачыняю дзверы на завалу. Пакуль завіхаўся з дзвярамі, Мішка скруціў з тонкага трансфарматарнага дроціка абадок і перавязаў упоперак суворай ніткай. Потым перавязаў другім разам — так, што пасярэдзіне ўтварыўся крыж.

— Ведаеш, што гэта? — Мішка махае перад маім носам белай пласцінкай. — Азбест! Братан з хімкабінета спёр.

Сябар прывязвае пласцінку да сярэдзіны крыжа.

— Палова справы зроблена. Застаецца самае складанае, — заклапочана выдае сябрук.

Я сачу за Мішкавымі завіханнямі і не магу дапяць: якім чынам кавалак азбесціны можа зацікавіць навукоўцаў ды карэспандэнтаў.

— У Неўлі купіў, на апошнія капейкі, — у руках Мішкавых прадаўгаваты цюбік. — Ацэтатны клей.

Сябар аглядае хату.

— Цягні нажніцы. Будзем мех склейваць.

Цэлых паўгадзіны сябрук поўзаў па падлозе, кроячы палосы папяроснай паперы, склейваў з тых палос вялізны мяшок. Урэшце мех, даволі нехлямяжы з выгляду, быў гатовы, і Мішка з павольнай урачыстасцю прыклеіў да таго месца, дзе мех завязваюць аборкай, абадок з азбеставай пласцінай.

Цяпер зразумела: сябрук хоча зрабіць лятаўца. Ды надта ж кволую паперу падабраў для такой мэты.

— Ну прывяжам, запусцім, а яго адразу ж ветрам парве, — кажу, не прыхоўваючы іранічнай гіморы.

— Па-першае, нічога прывязваць не трэба. А па-другое, запусцім як ветру не будзе.

— А як жа ён паляціць? — пытаюся ўсё з той жа ёлкай усмешкай на вуснах і, Мішка, ляпнуўшы сябе па лбе, адчайдушна заўважае:

— Сапраўды… спірт забыліся прыляпіць!

Мішка намазвае клеем таблеціну сухога спірту, лепіць да пласціны з боку меха, затым яшчэ тры, а падумаўшы, лепіць і пятую.

— І што… падпальваем — і ён уздымаецца? — у голасе маім прабіваюцца сур'ёзныя ноткі.

— Мы з братанам у Неўлі ўжо такі мех запускалі. Праўда, узняўся невысока. Дрот быў таўставаты, ды ўсяго дзве таблеціны прыляпілі. А гэты, — сябрук дзьмухнуў у мяшок і той злёгку калыхнуўся, — не меней, чым на кіламетр павінен узняцца.

Я гляджу на сябра і, не ведаючы, даваць ці не даваць ягоным словам веры, з хваляваннем паціраю рукі.

— Пайшлі запусцім. Якраз вецер аціх.

— Ноччу, зараз няма сэнсу, — сябар запытальна торгае галавой, — дзе можна яго прыхаваць?

Моўчкі ківаю на столь, і мы выкульваемся з хаты, пакінуўшы разнасцежанымі дзверы. Ацэтатны клей надта смярдзючы, і ім наскрозь прапахла хата.

— Ну дык увечары запускаем? — я ўзлажу па драбінах на гарышча.

— Не, — азываецца з-за спіны сябрук, — сёння кіно не круцяць.

Замiраю на імгненне, спрабуючы адшукаць сувязь паміж мехам з папяроснай паперы і кіно, і сябар ляпае мне па азадку:

— Хутчэй давай, а то нас могуць убачыць!

Хаваем мяшок за комінам, прыцярушваем сенам.

— Ты калі-небудзь пра НЛА чуў?

— А? — выдыхаю я, і сябар асуджана махае рукой.

Уладкаваўшыся на драбінах, — я вышэй, ля дзверцаў на гарышча, Мішка каля маіх ног, — аддыхваемся.

— У братана ў Неўлі падшыўка часопіса «Тэхніка — моладзі» за мінулы год. Усю яе прачытаў. Там у двух нумарах пра НЛА напісана. Азначае: неапазнаны лятаючы аб'ект. Уяўляеш, на небе раптам узнікае ці то талерка, ці то шар, якія свецяцца знутры. Навукоўцы не могуць дапяць — што там лётае. Шмат было выпадкаў. Цэлы інстытут вывучае гэтую праблему. І ў нас НЛА атрымаецца. Мяшок жа знутры

свяціцца будзе. Толькі б на вочы Мандрычысе патрапіў. А тая па ўсім белым свеце раззвоніць.

— А чаму пасля кіна запускаць трэба?

— Ну ты дзівак. Запусці сярод ночы — ніхто не ўбачыць. А тут мальцы з клуба выкуляцца, а ў неба вогненнае дзіва ўздымаецца.

З вуліцы далятае зычны Нюрчын голас:

— Мішка, дзе ты? Мама на абед кліча!

— Ледзь паспелі, — мармыча сябар, і мы збягаем па драбінах на зямлю.

Душным суботнім вечарам, калі ўжо падаілі кароў, а сонца схавалася за лесам, шыбуем з Мішкам агародамі, а потым хмызняком у напрамку Дабранскай гары. Гара тая падпірае вёску з паўднёвага боку, і з яе вяршыні бачна ўсё наваколле. Схаваўшыся пад кустом, пераводзім дых.

Лагодны ветрык то аціхае, то павявае ў патыліцы.

Сёння ў клубе круцяць «Ніхто не хацеў паміраць», і нам добра чуваць раскацістыя галасы, стрэлы і лямант. Фільм, падобна, пра вайну. Сэрца маё парывіста грукае, рвецца з грудзіны, а калі ў клубе, стрэльнуўшы на астачу, адчыняюцца дзверы, і ў светлым прастакутніку пачынаюць варушыцца людзі, і зусім замірае. Зараз будзем запускаць! Але Мішка, глянуўшы на неба, прамаўляе:

— Не, хай сцямнее.

Мяне даймаюць дрыжыкі. Ці то ад хвалявання, ці то ад прахалоднага ветрыку, што робіцца ўсё больш зябкім. У клубе пачаліся танцы, і калі там пятым разам завялі Абадзінскага, Мішка, нарэшце, выдыхае:

— Пускаем!

Сябрук нягнуткімі пальцамі дастае з кішэні пушку запалак.

— Трымай мех, і як мага вышэй, — сябар чыркае запалкай.

Мне праз паперу бачна, як таблецiны засвяціліся кволым сінім агнём, потым нібыта патухлі і нечакана загарэліся дружна і зырка. Мех пачаў раздзімацца, і Мішка, ускочыўшы на ногі, гракнуў:

— Адпускай!

Мех здрыгануўся, праляцеў некалькі метраў над самай зямлёй, а затым імкліва ўзняўся ў неба. Ад захаплення нават раты разявілі. Яно і не дзіва! Асветлены знутры мех ляцеў у цемрыве ночы, і быў падобны на нешта казачнае і неверагоднае. Лёгкі ветрык гнаў яго да клуба.

Збіраюся бегчы следам, аднак сябар сціскае цэўку рукі.

— Стой, нам там не варта з'яўляцца.

Папераменна глядзім то на шар, то на клубны ганак, дзе, як заўсёды бывае падчас танцаў, віруе невялічкі натоўп. Знянацку музыка абрываецца, хтосьці нема свішча, і людскі збой на клубным ганку замірае. Шар між тым завісае ў вышыні і, гнаны ветрыкам, ляціць управа, у бок нашай вуліцы. У зыркай яснасці, якая цэдзіцца з праёмы клубных дзвярэй, увішнымі мурашамі завіхаюцца людзі. Гамузам, з падвываннем, брэшуць сабакі, гергечуць гусі, а ў цёмных хатах запальваецца святло.

Мы з Мішкам ляцім па схіле гары, уздоўж агародаў, не адрываючы вачэй ад шара, а таму раз-пораз спатыкаючыся і налятаючы адзін на аднаго. У натоўпе, які бяжыць ад клуба, таксама спатыкаюцца ды падаюць, бо чутныя кароткія мацюкі і вісклівыя воклічы. Бягуць за шарам не толькі мальцы, але і дзеўкі.

Шар пачаў паволі зніжацца.

— Трэба было… сем таблецін пакласці! — задыхана выдае сябрук і, зачапіўшыся за купіну, плюхаецца ў яму.

Пакуль Мішка падымаўся на ногі, шар апусціўся яшчэ ніжэй. Нечакана каля Авадзішынай хаты ён змяніў кірунак, паляцеў у канец агароду, і бязладны галас і тупаценне пакрыў трэск падгнілай агароджы.

— А людцы мае добрыя, а што ж гэта робіцца-а?! — прарваў ноч жаночы лямант, які патануў у гусіным гаганні.

Авадзішын гарод, па якім бегла чалавечая гурма, асвяціўся зыркім агнём. Мы адразу не ўцямілі — што здарылася, і застылі на месцы. А перавёўшы дых, зразумелі: гэта занялася агнём капешка сена, якая стаяла ў канцы агарода.

Калі да яе падбеглі, яна ўжо дагарала, пускаючы ў цёмнае неба вогненныя завітушкі.

— Нічога не чапаць! — крыкнуў нехта пагрозлівым голасам. — Павінна пажарная інспекцыя прыехаць.

Згарэлая капешка патыхала гарачынёй. Блізка ніхто не падыходзіў, і толькі Мішка, закрыўшы рукой твар, пасунуўся да кола агністага прыску, але быў схоплены за каршэнь і адсунуты ўбок.

Выслізгваем з натоўпу, падаёмся прэч ад вогнішча, і Мішка пры гэтым прыкметна накульгвае.

— Нагу вывіхнуў?

Мішка зладзеявата азіраецца, узнімае нагу, спрабуе падхапіць пачэплены на мысок чаравіка абадок з рэшткамі згарэлых нітак, дзьме на апечаныя пальцы. Абадок яшчэ гарачы.

— Разбягаемся, — рашуча загадвае сябар і дадае: — Хто спытае, кажы — у арэхі хадзілі!

Раніцай абуджаюся ад бразгату вёдраў у двары і зычнага вокліку Мішкавай маці.

— Ці бачыла ты тое дзіва?

— Не, я ўжо спала. Пачула толькі: тупаюць, гарлаюць як ашалелыя. Выскачыла ў адной кашулі. Думала, хата нечая гарыць, — азываецца маці.

У нашым двары стаіць калодзеж, і ад самага ранку ля яго бразгаюць вёдрамі ды балбочуць жанчыны.

— У Авадзіхі агароджу павалілі, бульбу вытапталі і яблыкі абтрэслі. І капешка згарэла. Авадзіха ўсю ноч галасіла. А балбатуха клубная, як тое ўбачыла, пабегла да старшыні ў раён званіць. Крычала ў трубку: «Прыязджайце, у Бычкі марсіяне прыляцелі!» Зусім з глузду з’ехала.

— А што там свяцілася ў небе?

— А халера яго ведае. Шаравая маланка нібыта ляцела.

Я салодка, на поўную губу, пазяхаю, паварочваюся на бок і канчаткова абуджаюся ад абрывістага свісту. Сонца свеціць ва ўсе шчыліны, на даху цвыркаюць вераб’і, а на двары зацята квохча курыца.

— Ну ты і дрыхнеш, — з дакорам гракае Мішка Канапелька, калі я адчыніў дзверцы. — Заварылі кашу, — ужо стоена шапоча сябар, узбіраючыся па драбінах. — Юрка Гуль

малако прывёз у Азярышча, дык увесь малаказавод збегся. Пыталіся: ці бачыў марсіян? Адваротным рэйсам карэспандэнта прывёз з раённай газеты. А яшчэ раней участковы прыехаў на матацыкле. Сядзяць у клубе і людзей па чарзе на допыт выклікаюць. І Мандрычыха там круціцца, — сябар выцірае пот з лабешніка. — Нюрку маю выклікалі. Пра нас з табой пыталіся: дзе мы ўчора ўвечары былі. Сказала: у арэхі хадзілі. Во… дарэчы… — Мішка папоркаўся ў кішэні, — надоечы залез у ляшчыннік, набраў крыху ды схаваў ад Нюркі.

Сябар сыпле мне ў прыгаршчы арэхі.

— І Авадзіха ў клуб забягала. Гарлала нема, што ёй шкоду на сто рублёў нанеслі. Мальцы вунь, чуеш? Новы паркан ставяць. Прыходзь увечары пад аўтобус. Паслухаем, што людзі кажуць. А мы з Нюркай ідзём канюшыну за хатай варушыць. Маці загадала.

Народу ля клуба як ніколі. І ўсе скрозь гамоняць пра начную падзею.

— Сеанс закончыўся, я дахаты ішла, аж бачу — ляціць халера нейкая, — сіпата апавядае Мандрычыха гурту вясковых цётак. — Не магу нават сказаць, што гэта было. Свеціцца, міргае, і не зразумець — высока яно ці нізка. Я і падумала — ці не марсіяне завіталі?

Мы з Мішкам пераглядваемся, закідваем у раты па арэху. Зараз Мандрычыха зменіць кружэлку. Тры гады пра быльнік апавядала, а зараз пра марсіян будзе дзяўбці.

— Там, я чула, унутры свечка гарэла і анёлы спявалі, — уставіла слова сухарлявая цётухна ў чорнай хустцы і тройчы перахрысцілася. — Цётка была нетутэйшай. Відаць, прыехала з Азярышча і чакала аўтобуса.

— Гэта ўсё Амерыка. Спачатку калараду падкінула, а цяпер во і хату можа спаліць, — паведаміла дзябёлая цётка, якая працавала ў калгаснай канторы бухгалтаркай. — Мая Нінка прыйшла з танцаў, і новая сукенка аж па пояс падзёртая. Казала, лезла праз агароджу ды за цвік зачапілася.

— А ці вялікі хоць стог згарэў? — пытаецца нехта.

— Капешка. На адны вілкі падхапіць. Старшыня прапанаваў па пяцьдзясят капеек з хаты сабраць. Усё ж гарод Авадзішын ладна стаўклі.

— А што там, сапраўды ляцела? — я пазнаю па голасе Юрку Гуля — вадзілу, які возіць малако ў Азярышча.

— Табе ж сказалі: шаравая маланка, — адказвае наш сусед Васька Бохан.

— Шаравая маланка зыркая, зрок займае, — Юрка прыпальвае папяросу.

— А ты яе бачыў? — уедліва пытаецца Бохан, і Юрка, каб пазбегнуць адказу, ляпае па спіне спачатку мяне, а потым Мішку.

— А ці не вашы гэта штукі, браты-бязбацькавічы? Казалі, вы ўчора па кустах лазілі.

Мы панурваем вочы. Не любім, калі нас бязбацькавічамі клічуць.

— У арэхі хадзілі, — панура гугніць Мішка, — аж за Балбекі зайшлі, таму вярнуліся позна.

— У арэхі? А дзе ж яны?

Мішка сыпе малакавозчыку ў далонь тузін спелых лузаноў.

З павароткі выязджае аўтобус, усе раптам аціхаюць і паварочваюць галовы ў бок кінабудкі. Адтуль выводзяць карэспандэнта. Двое мясцовых хлопцаў яго вядуць, а трэці нясе капялюш. Карэспандэнт не ўпершыню завітвае ў вёску. Цяпер хоць неяк дрыгае нагамі, а мінулы раз так напіўся, што паклалі на перамотны стол, дзе ён і праспаў да раніцы.

— Добра я прыдумаў з арэхамі? — шапоча Мішка, і я ківаю галавой.

Сёння маці, прыйшоўшы на абед, пыталася: дзе я так позна цягаўся? А я ўзяў ды сыпануў на стол Мішкавых арэхаў. Маці адразу палагаднела, і адзін арэх пакаштавала, чапялой раскалоўшы.

Праз тры дні, такой жа вечаровай парой, я сядзеў на кухні, еў яечню на вячэру, але тут, як заўсёды абрывіста, знадворку свіснуў сябра. Давялося схапіць недаедзеную лусту

хлеба і пад матчыны нараканні: «Паеш ты як чалавек!» бегчы на надворак.

Мішка стаяў ля весніц і махаў газетай.

— Во, раёнку прынеслі. Пачытай… на апошняй старонцы.

Я схапіў газету і, жуючы сухі акраец, уголас прачытаў:

— «З рэдкай атмасфернай з’явай сутыкнуліся ў мінулую суботу жыхары вёскі Бычкі. Прыкладна ў 22 гадзіны 30 хвілін у небе з’явілася шаравая маланка. Яна ляцела з боку райцэнтра ў паўночным напрамку. Завіснуўшы над клубам, маланка паляцела ўздоўж галоўнай вясковай вуліцы і падпаліла вялізны стог…»

— Як жа, вялізны… — прамовіў я, папярхнуўшыся, і сябар тыцнуў у драбы.

— Далей чытай.

— «Вялікую бяду магла прынесці нязваная нябесная госця, калі б не зладжаныя дзеянні мясцовай добраахвотнай пажарнай дружыны, якую ўзначальвае М. Мандрык».

— Гэта хто, Мандрычыха? — спытаў я і зноўку адчуў штуршок.

— «Ачаг узгарання быў своечасова лакалізаваны і агонь патушаны. У тушэнні пажару вызначыліся механізатар К. Марштрупа і кінамеханік Бычкоўскага кінастацыянара П. Лебядко. Наш кар.»

— А што за «наш кар»? — запытаўся я, адчайдушна ікнуўшы.

— Карэспандэнт… які з Марштрупам і Лябёдкам у кінабудцы піў.

Сябрук выхапіў газеціну.

— Ёсць адна ідэя. Калі ўсё атрымаецца, сюды не азярышчанскія п’яніцы, а сапраўдныя карэспандэнты заявяцца. А ідэя такая, — сябрук мружыць вочы, — капаем звечара яму, раскладаем у ёй цяпельца і награваем камень…

— Навошта?

— Ды пачакай ты… — крывіцца сябар. — Камень я ўжо прыгледзеў. Чорны, як сапраўдны метэарыт. Карацей, награваем яго, вакол ямы насыпаем порах, у мяне палова слоіка прыхавана, чыркаем запалкай… А дзесьці а дванаццатай

ночы з розных канцоў вёскі крычым: «Метэарыт зваліўся!» Але гэта трэба рабіць у панядзелак, калі кіна не будзе. Усе кінуцца да ямы, а там агонь і камень, ды такі гарачы, што плюнь — засіпіць. Мандрычыха, вядома, у Азярышча патэлефануе, і на раніцу з'едуцца карэспандэнты і навукоўцы, якія метэарыты вывучаюць. Ну як табе ідэя?

Я перасмыкваю плечукамі.

— Перш, чым карэспандэнты, сюды ўчастковы прыедзе. Адразу зразумее — чые гэта жарцікі. А яшчэ і марсіян нам прыгадае.

— Ну ты падтрымліваеш маю ідэю ці не?

Я нічога не адказваю, чухаю патыліцу, і Мішка, крутнуўшыся, шыбуе прэч. Колькі часу стаю ў непаразуменні, а зірнуўшы на Мішкаву спіну, пляскаю далонню па сцягне і бягу следам.

# ЛІСТ У КАЧАНОВІЧЫ

Сярод ночы Яську абуджаюць здушаныя ўсхліпы. Яны ціхенькія — цішэй, мабыць, за піск мышаняці за печчу, — ды ўсё адно рэжуць слых і зганяюць сон з павекаў.

Бацька варочаецца на сваім лежаку, і маці, усхліпнуўшы на астачу, аціхае.

Маці плача праз Косціка, свайго старэйшага сына, які месяц таму падаўся ў Саветы. Сам бы ён не адважыўся. Падбіў сябрук, Міцька Роўда. Удваіх і падаліся за мяжу, пагатоў яна зусім блізка ад хаты.

Яська закідвае рукі за патыліцу і ўздыхае. Таксама перажывае за брата. Як яму там, у Саветах? Відаць, уладкаваўся ў дзядзькі Ахрэма, матчынага брата. Дзядзька жыве ў вёсцы Качановічы, што месціцца на другім баку мяжы. Раней нават была бачна ягоная хата пад саламянай страхою. Але летась бальшавікі паставілі ўздоўж мяжы высокія жэрдкі з хмелем, і цяпер бачна толькі царкоўная званіца.

Качановіцкага дзядзьку Ясь бачыў на здымку. Там ён зняты на пару з бацькам: стаяць у вайсковай форме, абапёршыся локцямі на высокую этажэрку. Іх на царскую вайну разам узялі, і служылі абодва на Румынскім фронце. Бацька з таго фронту без языка вярнуўся. Адкусіў, як над галавою аўстрыяцкая бомба гакнула.

Яська пазяхае і, зірнуўшы на той здымак, які шарай плямай кволіцца на сцяне, змежвае павекі. Ад раніцы давядзецца рана ўставаць, бо бацькі едуць у Клецак на кірмаш і збіраюцца заначаваць у сваіх знаёмых. Хлопец таксама парываўся ехаць,

але ж трэба гаспадарку даглядаць, карову з пашы сустрэць і ахрап'я парсюку насекчы.

Паставіўшы на калёсы драўляную клетку з курамі, бацька распраўляе лейцы і, кіўнуўшы ў бок сына, няўцямна мыкае.

— Чуеш, што бацька сказаў? Далёка ад дому не адыходзь, — маці сядае на калёсы і ад сябе дадае: — Заўтра ў абед прыедзем.

— Салодкай ваты купі! — крычыць хлопец, паглядаючы на вершаліну старой бярэзіны, якая вартуе весніцы. Якраз дзьмухнуў порсткі вецер, вершаліна злёгку нахілілася, зашамацела лістотай.

— Спраўна дзьме. І ў патрэбным кірунку, — уголас прашаптаў хлапчына, і на твары ягоным адбілася лёгкая трывога.

Ясю падабалася быць у хаце аднаму, бо можна рабіць тое, чаго не дазваляе маці. Прыкладам, узлезці на дах і, сеўшы на вільчак, зірнуць на Качановічы. Вось і зараз, патузаўшы за вушы рудога Палкана, які вылез з будкі, Ясь пад незадаволены сабачы брэх узлез на касцёр бярозавых дроў, адтуль на дах і, падскокваючы на азадку, пералез па вільчаку на другі бок хаты.

Хлопец і дагэтуль узбіваўся на дах. Як толькі маці куды пойдзе, ён ужо сядзіць на вільчаку і, прыклаўшы далонь да броваў, пазірае на качановіцкую царкву. Глядзіць не проста так. Косцік, калі рушыў у Саветы, паведаміў брату: адразу ж, як пяройдзе мяжу, на царкве чырвоны сцяг павесіць. У знак таго, што ў яго ўсё добра. Таму Ясь і ўзбіраецца на верхатуру ды ўглядаецца, але сцяг на царкве так і не з'яўляецца.

Брат Кастусь, ці Косцік, як яго звалі ў вёсцы, паехаў пазалетась у Вільню вучыцца на каморніка і ўступіў у камсамол. Ён і ў вёсцы, калі прыязджаў на вакацыі, спрабаваў стварыць камсамольскую ячэйку. Але марна. Адзін Міцька Роўда, які парабкаваў у абшарніка Вайцяхоўскага, стаў камсамольцам. З ім яны і сiганулі праз мяжу.

Чырвонага сцяга на царкве не было і сёння. Гэта дзіўна, бо мяжу камсамольцы дакладна перайшлі. Калі б іх затрымалі польскія памежнікі, гэта адразу б стала вядома.

У гэты момант вецер дыхнуў у спіну, і Яська, нібыта згадаўшы пра нешта, хуценька злез долу. Ён увайшоў у сенцы, прыклаўся да гладыша з малаком і кінуўся ў святліцу. Ды так імпэтна, што зачапіўся за парог. Выцягнуўшы са школьнай кайстры каламар з асадкай і чысты вучнёўскі сшытак, Яська сеў за стол і задумаўся. Нарэшце, пачухаўшы асадкай кірпаты нос, шчыгульна, высалапіўшы язык, вывеў: «Drogi wujek!» Хацеў быў пісаць далей, але тут жа падумаў, што польскай мовы ў Качановічах, хутчэй за ўсё, ніхто не ведае. Там жа няма школы паўшэхнай. Таму, перагарнуўшы старонку, напісаў на мешаніне беларускіх і польскіх слоў: «Дарагі дзядзька! Пішэ табе твуй пляменнік Ясь». «А ці варта згадваць сваё імя?» — падумалася хлопцу. А як ліст да памежнікаў патрапіць? Тыя пакажуць паліцыянту Скачылясу, і той адразу ўцяміць, чые гэта крамзолі.

Сапсаваўшы сем аркушаў, Ясь скончыў пісаніну і паўзверх ліста вялікімі літарамі накрамзоліў: «Перадаць дзядзьку Ахрэму з вёскі Качановічы».

У сенцах ізноў сербануў малака, выбег на двор і, азірнуўшыся на бакі, палез на вышкі. У дальнім куце, пад абярэмкам леташняга сена, ляжаў падзёрты лятавец, які ўвесну змайстраваў Косцік. Зрабіў з гнуткіх планак каркас і абклеіў газетамі. Хацеў паслаць вестку дзядзьку Ахрэму. Брат казаў, калі раскруціць усю шпулю і адпусціць нітку, лятавец пераляціць праз мяжу. Пры спадарожным ветры, зразумела. Брат цэлы дзень завіхаўся з клеем ды нажніцамі, а ўвечары выйшлі ў поле — выпрабаваць папяровага летуна. Не паспелі запусціць, як пачулі пагрозлівы голас Скачыляса. На іх бяду, паліцыянт ехаў на ровары ў Клецак.

— Забронёнэ ест пушчане лятавца в поблізу граніцы, — гракнуў паліцыянт. Скачыляс быў прысланы аднекуль з-пад Варшавы, і ў вёсцы яго ўсе баяліся.

Скачыляс перахапіў з Косцікавых пальцаў нітку, сцягнуў лятавец на зямлю, тупнуў па ім нагой. Затым адвёў Косціка

ўбок і доўга, раз-пораз водзячы пальцам па пракураных вусах, павучаў. Калі паліцыянт, бразнуўшы званком, паехаў да бальшака, Косцік вылаяўся, прыхапіў лятавец і прыхаваў да часу на вышках.

Папера ў двух месцах была прадзёртая. Варта было б нацягнуць на рамкі новую газету. Косцік іх свойчас шмат прывёз з Вільні, ды маці іх спаліла ў печы. Ну не бяда. На гэта месца можна наляпіць ліста. Хлопец міжволі, па складах, узяўся чытаць нататку пра тое, як трэба арганізоўваць мітынгі. Газета была на беларускай мове. Напачатку, паведамлялася ў нататцы, неабходна прайсціся па вёсцы ды пагаманіць з сялянамі, затым напісаць палітычныя лозунгі, пайсці… а куды пайсці, Ясь так і не даведаўся, бо канец нататкі прадзёр скачылясаўскі бот.

«Хай у Саветах пачытаюць — як мы тут з палякамі ваюем», — з гэтаю думкай хлопец памацаў зламаную планку.

Да самага абеду даводзіў да ладу лятавец і злез з вышак тады, калі ля весніц рыкнула карова.

Потым ён хадзіў па двары, з нецярплівасцю паціраючы далоні і слухаючы, як сыкае малако ў даёнцы — маці папрасіла суседку падаіць Рагулю, — а наліўшы сырадою Палкану і кату Цімоху, узбег па драбінах на вышкі.

Ноч, на шчасце, выдалася цёмная. Яська ступаў па роснай траве і ўвесь час азіраўся. Яму здавалася, што следам за ім ідзе, пакусваючы пракураны вус, паліцыянт Скачыляс. Пару разоў нават спыняўся і наструньваў вуха, але наўкол было ціха, і толькі сэрца глуха, як нечыя падступныя крокі, тахкала ўвушшу.

Лятавец вырашыў запускаць у кустах на ўскрайку вёскі, за паўвярсты ад мяжы. Нягнуткімі пальцамі дастаў з кішэні шпулю нітак, пхнуў у адтуліну прыхоплены з дому аловак — каб яна лёгка раскручвалася. Ніткі былі тоўстыя, фірмы «Нова-Суль». Узяў іх у маці. Тая, вядома, будзе шукаць і падумае, што шпулю закаціў у кут свавольнік Цімох. Прывязаўшы канец ніткі да пятлі, Ясь падкінуў лятавец. Той слізгануў па алешыне і зашамацеў па мокрай траве. Калі пускалі мінулым

разам, брат, узняўшы руку, бег па полі. Па кустах жа не пабяжыш. Давялося, азіраючыся, вылазіць з хмызоў.

На разлеглай, парослай дзядоўнікам паляне лятавец паволі ўзняўся ўгору, рэзка знізіўся і зноў сігануў у неба. Яно хоць і было цёмным, але папяровы лятун быў добра бачны і яго маглі ўгледзець памежнікі. Яська ляцеў на злом галавы, аж пакуль лятавец не пачаў набіраць вышыню, шпарка раскручваючы шпулю.

Дахаты прыбег змораны і, плюхнуўшыся на ганак, не даваў рады перавесці дух. Аддыхаўшыся, зноўку наструніў слых. Памежнікі, пабачыўшы лятавец, маглі пачаць па ім страляць. Наўкол панавала ціша. Толькі Палкан бразгаў ланцугом, змагаючыся са скочкамі, ды цяжка адсопвалася Рагуля.

У сенях хлапчына па старой звычцы сёрбнуў малака, пабег да свайго тапчана і, накрыўшыся з галавою, доўга ляжаў так, апанаваны шчаслівай думкай, што заўтра ад ранку дзядзьку Ахрэму перададуць ягоны ліст. Калі ж стаў задыхацца, вынырнуў з-пад коўдры і, удыхнуўшы паветра, са шчаслівай усмешкай на твары заплюшчыў павекі.

# СВІСТУНЫ

Я сеў пісаць гэтае апавяданне 20 траўня, праз пяцьдзясят гадоў пасля таго, як мой школьны сябрук Валерка Шмыкаў рвануў падчас вялікай пярэрвы самаробную бомбу. Ну, не бомбу, а выбуховы пакет, які згламэздаў, перамяшаўшы алюмініевую пудру, марганцоўку і серку ад запалак. І хаця пакет выбухнуў выпадкова — ён ляжаў у тэчцы, з якой Валерка хадзіў на заняткі, — выбух атрымаўся даволі хвацкім і клас зацягнула непраглядна белым дымам. Адразу ж адчынілі вакно і ўсе, хто быў на школьным двары, — стаяла пагода, і добрая палова школы выходзіла папесціцца на сонцы, — зірнулі ўгору. Нейкая дзеўка нават радасна крыкнула: «Пажар!» — і Валерку давялося вытыркнуцца з вакна і гучна паведаміць, што ў класе ладзіцца хімічны вопыт. Пасля ўрокаў «тэрарыста» ў якасці пакарання пакінулі мыць падлогу ў класе. Мыў падлогу ён з двума сябрамі, якія вырашылі яму дапамагчы. Адзін з іх быў я, а другі — Сашка Мышандронаў па мянушцы Дрон.

Перакуліўшы набок парты, доўга цягалі мокрыя анучы па падлозе, а перад тым, як паставіць іх на месца, селі на падаконне адпачыць. Дрон зірнуў у расчыненае вакно.

— Во дае малеча. У кроў б’ецца.

Мы з Валеркам павярнулі галовы. Знадворку валтузіліся першакласнікі. Набраўшы ў грудзіну паветра, Сашка свіснуў, ды так, што ў мяне заклала правае вуха.

— Я зараз спушчуся і камусьці кухталёў надаю! — гукнуў сябар. — А ну, ты… рыжы… злазь з яго!

Віскат знадворку аціх, і я пачухаў пальцам вуха. Мне заўсёды было зайздросна, калі хто з сябрукоў свістаў рэзка і аглушальна.

— Калі ты мяне свістаць навучыш? — звярнуўся я да Сашкі.

— Ды колькі цябе вучыць, — на твары сябруковым узнікла ганарлівая ўсмешка. — Складваеш язык, — сябрук высалапіў язык, — набіраеш паветра і даеш дыхту.

— Так не навучышся, — прамармытаў Валерка, — спачатку трэба паспрабаваць у два пальцы.

Валерка саскочыў з падаконня, выцер рукі аб штаны, пхнуў у рот два пальцы адной рукі.

Ад Валеркінага свісту зазвінела ўвушшу.

— Чуў? — з інтанацыяй перавагі спытаў Валерка. Ён звяртаўся да Дрона.

Дрон вырашыў не здавацца. Засвістаў з усяе моцы — заплюшчыўшы вочы і ўвабраўшы галаў у плечы.

— Слабак, — выдаў Валерка і тэатральным жэстам тыцнуў у рот два мезенцы.

Свіст атрымаўся зусім шалёным. Каля школы ўжо сабралася не толькі малеча, але і мінакі: дзядзька ў пакамечаным брылі, цётка з пустым сіфонам у руках і нейкі пахілы дзед у паўвайсковым фрэнчы. Усе паглядалі ў наш бок. Цётка нават прыклала далонь да броваў, ратуючыся ад сонца.

— Варыянт з чатырма пальцамі, — прамовіў Валерка, паклаў на язык чатыры пальцы і зайшоўся злавесным свістам.

Між тым у дзвярах паўстала завучыха, якую мы клікалі Аўдосяй, а з-за яе спіны вытыркнуўся перапужаны твар «англічанкі» Мілены Антонаўны. Валерка нічога гэтага не бачыў. Аглушальна свістаў з апошніх сіл. Пры гэтым, па прыкладзе заходніх саксафаністаў, сагнуў ногі ў каленях і адкінуўся назад. Вочы павылазілі ад напругі, а з-пад ніжніх павекаў сталі выплываць невялічкія бурбалкі.

Мяне душыў смех. Я споўз з падаконня, стаў вокрач і, прыхоўваючыся за партамі, папоўз да сцяны. Дрон таксама заходзіўся са смеху і папоўз следам, перакуліўшы вядро з бруднай вадой. Свіст знянацку абарваўся.

— Усё, Шмыкаў, дасвістаўся. Гэтаму трэба пакласці канец, — сувора з элементамі панікі выдала завучыха. — Мілена Антонаўна, стойце на калідоры ля дзвярэй і нікога не выпускайце. А я пабягу па дырэктара.

— Пабегла… канец класці, — прамовіў Сашка, зірнуў на Валерку і ўраз пасур'ёзнеў. — Эй, звар'яцеў?! Трэці паверх!

Валерка ўзбіўся каленямі на падаконне.

— Тэчку маю прыхапіце! — з гэтымі словамі свістун звесіўся долу.

Мы з Сашкам кінуліся да вакна.

— Нагу зломіш! — я схапіў сябра за рукаво.

Сябрук трымаўся за бляшаны брылёк, матляў нагамі, стукаючы ў шыбу вакна другога паверха.

— Адчапіцеся, а то і сапраўды разаб'юся, — засіпеў Валерка, і з ягонай нагі зваліўся кед. Кеды насілі не зашнуроўваючы, выцягнуўшы наперад белыя языкі.

На двары ўжо сабралася ладна народу, і нехта раз за разам сіпата гарлаў: «Трымайце яго! Разаб'ецца!»

Валерка, адштурхнуўшыся каленам ад сцяны, паляцеў долу і прызямліўся на кветнік, кульнуўшыся на правы бок. Вомігам прыхапіўся, нацягнуў на пятку згублены кед.

Мы перавялі дых, і Сашка, прасвятлеўшы тварам, раскрыліў рукі. Валерка такі жэст адразу зразумеў. Лёг на кветнік і раскінуў рукі, дэманструючы, што ён разбіўся.

За нашымі спінамі адчыніліся дзверы, і ў клас увалілася Аўдося. На шчасце, без дырэктара. Следам за ёю заляцела «англічанка» і некалькі дзевак-дзесяцікласніц. Дзеўкі спявалі ў школьным хоры, і ў іх была рэпетыцыя.

— Дзе Шмыкаў? — выдыхнула завучыха. Аўдося агледзела парты, зазірнула ў шафу, дзе ўзімку хаваем зменны абутак. — Мілена Антонаўна, ну я ж прасіла…

— Ніхто не выходзіў, я ўвесь час ля дзвярэй стаяла, — падала голас «англічанка».

Спрабуючы надаць твару сур'ёзную гімору, Дрон паказаў рукой на адчыненае вакно.

Завучыха навалілася чэравам на падаконне, вохнула, і «англічанка» абхапіла са спіны важкае тулава.

— Дзяўчынкі, вады! Аўдоцці Іванаўне млосна!

Сашка са смяшком на вуснах падняў перакуленае вядро. Маўляў, было б поўнае, кульнулі Аўдосі на галаву.

«Англічанка», не паслабляючы абдоймаў, вытыркнулася ў вакно.

— Ды жывы ён… Пабег вунь, накульгваючы.

Аўдоццю Іванаўну павялі ў медпункт, а мы з Дронам спехам паставілі парты на месца і, пахапаўшы мэтлахі, выслізнулі ў калідор. Трэба было хутчэй вымятацца, бо маглі прыйсці настаўнікі і пачаць роспыты — што тут было ды як.

На злом карку, пераскокваючы праз чатыры прыступкі, ляцелі па сходах, але паміж другім ды першым паверхам мусілі спыніцца і прыслухацца. Яшчэ адну настаўніцу, падобна, вялі ў медпункт.

— Сядзела ў класе, сшыткі правярала. Чую — у шыбу грукнулі. Глянула — а там ногі нечыя боўтаюцца. І кед зваліўся, — гучаў змучаны голас. — Падумала, хтосьці засіліўся.

Мы ўзбеглі на другі паверх, спусціліся па іншай лесвіцы.

Каля школы таўкліся людзі і зыркалі на наша вакно. Дзіва што. Падчас вялікай пярэрвы з вакна вырываўся белы дым, потым далятаў злавесны свіст, нарэшце, з яго дэсантаваўся Валеры Шмыкаў. Можа, і яшчэ хто выкуліцца.

Валерка стаяў непадалёку, абапёршыся рукой на агароджу школьнага саду. Сябрук быў задаволены і ўадначас усхваляваны.

— Ну як ты? — разам спыталі мы сябра.

— Палёт нармальны, адно нагу крыху падвярнуў. А як Аўдося?

— Ледзь не самлела. У медпункт павялі, — з трывожнымі ноткамі ў голасе адказаў я, перадаючы сябру прапахлую паленай серкай тэчку.

Добрую хвіліну маўчалі, неадрыўна пазіраючы ў бок школы.

— Ну ты дадумаўся… з такой вышыні скакаць, — перарваў наструненае маўчанне Дрон.

— Па-першае, я завіс на выцягнутых руках, — Валера патупаў левай нагой, — па-другое, скокнуў на кветнік, а там

мяккая зямля, а па-трэцяе, сканцэнтраваўся. Разлічыў, як буду прызямляцца і куды нахілю корпус.

— Табе варта ў інструктары-парашутысты падавацца, — са смяшком на вуснах зазначыў Дрон. — У мяне брат у дэсанце служыў. Казаў, ля зямлі на стропах не падцягнешся — можаш добра ляснуцца. Былі выпадкі, і ногі ламалі.

— Дадуць нам цяпер за тое дэсантаванне, — мовіў я з уздыхам.

— Думаеш, папруць са школы? — ускінуў брыво Валерка.

— Ды ніхто цябе чапаць не будзе, — з веданнем справы паведаміў Дрон. — Выключэнне са школы трэба з гарана ўзгадняць, а там спытаюць: «А чаму ў вас вучні з трэцяга паверха сігаюць?» — Сашка змахнуў пот з лабешніка. — Заўтра завядуць да дзерыка, ён цябе паўшчувае, скажа, каб бацькі ў школу прыйшлі. На гэтым усё і скончыцца.

— Скончыцца. А калі бацька ў школу завітае?

— Не завітае. Чатыры дні да вакацый, — з робленай бадзёрасцю кажу я і чарговым разам азіраюся. Вакно ў класе зачынілі. «Цікава, ці змог бы я скочыць з трэцяга паверха? Відаць, не», — і з гэтаю думкаю ляпаю Валерку па плячы.

# ГІСТОРЫЯ ХВАРОБЫ

На трэцім уроку мяне заўсёды цягне на сон. Сёння ў нас трэці ўрок — геаграфія. Я сюд-туд правальваюся ў сонную замарач, нечыя цьмяныя твары плывуць перад вачыма, прастору поўняць гэткія ж цьмяныя пахі і аднекуль здалёк далятае абрыдлы голас геаграфічкі: «Да дошкі пойдзе Дасюлін».

Я ачомваюся. Мішка Дасюлін з неахвотаю ўстае, гучна ляскае векам парты, і мае пашчэнкі рассоўвае адчайны позех.

— А можна без груку? — прамаўляе геаграфічка і, прычакаўшы Дасюліна, тыцкае яму ў руку ўказку. — Напачатку скажы — калі ты абкарнаеш свае пэцалы? Зарос, як Галуза з Шутовічам.

Чувакі, якіх згадвае геаграфічка, вучацца ў дзясятым класе і носяць фрызуры «пад бітлух».

— Маўчыш? Дарэшты ад рук адбіўся, — геаграфічка мяняе тон, і ў голасе яе чуецца з’едлівае задавальненне: — Ну тады пакажы нам асноўныя эканамічныя цэнтры Венгерскай Народнай Рэспублікі.

Мішка, праўдападобна, не ведае, дзе знаходзіцца сама Вугоршчына. Указка паўзе спачатку ў бок Балтыйскага мора, затым рашуча скіроўвае на поўдзень і няўпэўнена застывае пасярод жоўта-брунатнай падковы Карпат. Мапа, што вісіць на дошцы, адмысловая. На ёй не падпісаны ні гарады, ні краіны. Паспрабуй знайдзі тыя прамысловыя цэнтры.

Настаўніца ўдыхае паветра, каб паўшчуваць вучня, ды тут з расчыненай фрамугі далятае мерны шоргат, і хтосьці па-начальніцку рашуча загадвае:

— Цягніце, … вашу маць!

Я хаця й сяджу ля вакна, але толькі цяпер заўважаю напятую вяроўчыну. Вяроўчына злёгку матляецца, яе цягнуць уверх, і за вакном, захінуўшы на нейкі час дзённае святло, паўзе чырвоны, збіты з негабляваных брусоў транспарант.

«51-я га-да-віна Вя-лі-кай Кастрыч…» — чытаю задам наперад словы заклiку, геаграфічка ляпае далонню па стале, патрабуючы цішыні, і яе ляпанне заглушае доўгачаканы званок.

— Задзяўбла сваёй Вугоршчынай, — выдыхае мне ў спіну Мішка Дасюлін. — Нарадзілася там ці што? А можа, пятнаццаць сутак сядзела… за дробную хуліганку?

Выходзім у калідор, і я тузаю сябра за рукаво: геаграфічка (па сумяшчальніцтве яна яшчэ і наша класная кіраўнічка) сунецца следам.

— А хай чуе, Палуёнас-Палуянчык недаробленая…

Надоечы класная, Надзея Мікітаўна Палуянчык, пабралася шлюбам з мужыком па прозвішчы Ёнас, і з тае нагоды атрымала падвойную мянушку.

Падчас пярэрвы ўсе бягуць у буфет, але мы з Мішкам нікуды не бяжым. Стаім на сходах, назіраючы, як два дзядзькі, якія мацавалі транспарант, спускаюцца праз люк са школьнага даху.

— Гляньма, замок не павесілі, — сябрук бліскае белымі, як на падбор, зубамі, дае лёгкага выспятка недаростку, які таўчэцца пад нагамі, і калі дзядзькі збягаюць долу, шпарка ўзбіраецца па прымацаванай да люка жалезнай лесвіцы. Азірнуўшыся, узбіраюся і я.

Волкі вецер налягае на спіну, казыча шыю і тут жа дзьмухае ў твар, ды так хвацка, што на вочы наплывае слязіна.

Адсюль, з пляскатага даху, горад выглядае аграмадным і незнаёмым. Немаведама адкуль, ці то з зямлі, ці то з нізкіх папяловых хмараў, струменіць сіняе святло, і гэтай сінечай залітыя навакольныя будынкі, згалелыя дрэвы, якія атачаюць школьныя майстэрні, і тонкая стужка ракі на даляглядзе.

Душу ахоплівае вострая радасць. Я паціраю рукі, спрабуючы ўцяміць — з чаго гэта радуюся, і сябрук, таксама пацёршы далоні, захоплена шэпча:

— Да вакацый тры дні засталося…

На доле гучыць званок, і дах прыкметна дрыжыць ад прыглушанага тупату. І хаця прамерзлі на ветры, лезем у паддашкавы люк павольна, бо няма ахвоты вяртацца з паднябеснай вышыні ў прыцемны клас.

— Пятровіч зноў будзе душыць пятлёй магнітнага гістэрэзіса — бурчыць сябрук, патрапляючы ў тон маіх думак.

Наступны ўрок у нас фізіка. А выкладае яе Пятровіч — адзіны настаўнік, якога я паважаю.

У суботу надарылася неспадзеўка: перагарэў наш тэлебачар «Нёман». І гэта пры канцы футбольнага сезона! Акурат сёння мае куміры, менскія дынамаўцы, гуляюць дома з растоўскім СКА. І вось я сяджу ў Мішкавай хаце і гляджу футбольны матч. Тэлебачар у Мішкі класны: «Тэмп-7»! Экран ці не ў два разы большы ад «нёманскага». Аднак усё псуе Мішкава бабуля. Бабулі 87 гадоў, і яна ўвесь час прагне з кімсьці пагаманіць. І хаця ні я, ні ўнук яе не слухаюць, старая ўголас, з усхліпамі, згадвае, як з іхняй вёскі бралі людзей на Расійска-японскую вайну.

Малафееў прарываецца па правым флангу… перадае мячык Мустыгіну… мы з сябрам ускокваем з крэслаў і хапаемся за галовы: мячык пасля ўдару менскага форварда ляціць міма брамаў.

— А ў якім жа гэта было годзе? У чацвёртым, а можа, у пятым? — мармыча за нашымі спінамі бабуля, і калі растоўскі брамнік выбівае мячык у поле, дадае: — У чацвёртым! Яшчэ гарачае лета было.

— Бабуля… — з інтанацыяй абарванай лаянкі гукае Мішка, — дай паглядзець футбол!

— А я што, не даю? — бабуля смаркаецца ў хусцінку. — Ажнуль у Манчжурыю людзей павезлі… Хведзька Ліхаманаў з адарванай рукой вярнуўся, а Ваньку Залатуху дык забілі… А які танцор быў! На вячорках калодкі да ботаў прывяжа, мазгоча па падлозе…

— Бабуля, — плаксіва стогне ўнук.

«Дынама» зноў ідзе ў атаку, і Мішка, ужо акрыялым голасам, прамаўляе:

— Паглядзі лепш гульню!

— А што тут глядзець! Бегаюць як ашалелыя… А чорны вуньдзека — хто такі?

— Суддзя, бабуля, суддзя, — шэпча сябрук, выцягнуўшы шыю і ўтаропіўшыся ў экран. Белагаловы Сахараў прарываецца па цэнтры, абводзіць адразу двух армейцаў, і мячык — я нават не ўгледзеў, якім чынам, — залятае ў сетку растоўскіх брамаў.

— А-а-а, бляха! — крычым мы з Мішкам, захоплена абдымаемся, і сябрук, перакрыкваючы футбольнага каментатара, гарлае: — Памятаеш, у 65-м, першая гульня ў Менску… забілі нам тады, с-сукі… цяпер атрымай!

— Зусім мальцы здурнелі, — бабуля спалохана хрысціцца, але мы не звяртаем на яе ўвагі. — Менчукі вядуць з лікам 1:0, і рэшту гульні даглядаем стоячы, нічога, апрача футбола, не бачачы і не чуючы.

Задаволеныя — дынамаўцы выйгралі, хай і з мінімальным лікам — выкульваемся з сябруковага пад’езду, і Мішка, згадваючы фільм «Цырк», які нядаўна круцілі па целеку, махае рукамі.

— Цяпер ты разумееш?

— Цяпер разумею! — адказваю я, таксама з маршавым імпэтам махаючы рукамі.

Гаворка, вядома, пра 87-гадовую бабулю.

— Вось у такіх цяжкіх умовах даводзіцца жыць, глядзець футбол і вучыць фізічныя законы, — Мішка нездарма кажа пра пра фізіку; наша школа адзіная ў горадзе, дзе гэты прадмет дзеля педагагічнага эксперыменту вывучаюць паглыблена. — Бывае штось і цікавае раскажа, — сябар глядзіць на вокны сваёй кватэры, — сёння японскай вайной даймала, а ўчора ўвесь вечар пра немцаў ды партызанаў балакала. Ведаеш, чаму немцы да Масквы дайшлі? Таму што, як кажа бабуля, ніхто за савецкую ўладу ваяваць не хацеў. Думалі, пры немцах калгасаў не будзе, новае жыццё пачнецца. І

толькі як пабачылі, што немцы горшыя за камуністаў, тады ў лес падаліся.

Прызнацца, і я чуў такое ад маці, але не надаваў увагі, і вось цяпер адчуў у сэрцы, якое кагадзе трапятала ад радасці, халодную паныласць. Паныласць гэтая выплывала з цёмных кутоў двара, струменіла мляўкім святлом ліхтароў; яе нёс, перамяшаўшы з папяровым смеццем, гарэзнік-вецер, які ўвечары стаў яшчэ больш няўрымслівым і рашучым.

Да майго дому ідзём разам. Мішка наагул гатовы цягацца хоць да ранку, балазе маці пайшла ў начную змену, а бацька, інжынер-будаўнік, знаходзіцца ў замежнай камандзіроўцы. Будуе горад Дархан у братняй Манголіі. Без бацькі сябрук і сапраўды, як кажа класная, ад рук адбіўся: з'ехаў на тройкі ды стаў адрошчваць валасы. Праўда, яны ў яго пакуль не такія даўгія, як у галоўных нашых «бітлух» — Галузы і Шутовіча.

Па дарозе абмінаем школу. Школьны гмах зліваецца з цемрай і ад таго здаецца аграмадным цыклопам, які глядзіць на нас сваім адзіным вокам — асветленым вакном. Святло гарыць на першым паверсе, і ў кволай, што ў той дзяжурнай аптэцы, яснасці кратаецца чыясьці пахілая постаць.

Мы падыходзім бліжэй.

За сталом сядзіць старая вахцёрка і спрытна вяжа: у руках цьмяна бліскаюць вязальныя пруткі.

— Пазнаеш? Гэта тая корга, якая ў школу не пускала, — бубніць ля вуха Мішка Дасюлін. — У суботу сябрук забыўся зменны абутак, і цётка-вартаўніца затрымала яго на школьным парозе. — Чым бы яе пужнуць? — Мішка зыркае пад ногі, выглядаючы каменьчык, каб шпурнуць у шыбу, ды раптам пляскае кулаком у далонь і бяжыць некуды ўбок, ляпаючы рукой па школьным падмурку.

Хвілю стаю ў непаразуменні, маракуючы — куды ён рынуў?.. і якім чынам збіраецца пужаць коргу? — і толькі калі сябрук спыняецца каля пажарнай лесвіцы, што вядзе на дах, становяцца зразумелымі ягоныя планы.

Лесвіца высока, рукой не дастаць. Я згінаюся, Мішкава калена балюча ціснe на пазваночнік, потым, другім каленам, Мішка ціснe на патыліцу, нарэшце хапаецца за ніжнюю папя-

рочку. Мацаючы патыліцу, гляджу ўгору і шчыра зайздрошчу сябру. Лезці ў цямноцці на дах па пажарнай лесвіцы, якая, да таго ж, уся пражавела і гучна рыпае, — на такое ў нашай занюханай школе мала хто здольны. Штосьці ляціць згары, я скачу ў бок, і на асфальт з гучным рэхам падаюць Мішкавы кеды — адзін, другі…

Нічога не застаецца, як прыхавацца за рог майстэрань і адтуль цікаваць за цёткай у асветленым вакне. Старая вяжа, раз-пораз адкідваючы нітку, і толькі на імгненне пакідае варушыць пруткамі ды салодка пазяхае. Змагаючыся з хваляваннем, таксама спрабую пазяхнуць, у гэты момант вахцёрка адцягвае нітку, і рука застывае ў паветры. Цётка наструнена торгае падбародкам, прыслухоўваецца і неўзабаве, кінуўшы на стол вязанне і страсянуўшы наастачу пакуллем сівых валасоў, знікае з відавоку.

У вокнах паволі, як бы з неахвотаю, запальваецца святло, і школьны гмах скаланаецца ад зычнагалосага званка. Самая пара сігануць дахаты, але ў руках маіх смярдзючыя Мішкавы кеды і я, увабраўшы галаў у плечы, бягу на нягнуткіх нагах да лесвіцы.

Званок неўзабаве аціхае, я ціснуся спінай да падмурку, каб прыхавацца ў прыцемку. На супрацьлеглым баку школы азываецца легкавушка. Ці не міліцыя?!

Чорт ведае колькі часу прамінула, пакуль над галавой не зарыпела жалеззе і сябрук — з неверагоднай вышыні — абрынуў долу. І вось ужо ляцім да майстэрань і Мішка, на хаду насунуўшы кеды, задышліва паведамляе:

— З перапуду… пад стол залезла… а потым святло ўключыла.

Дзверы адчыняе маці.

— Дзе цябе носіць?

Ні слова не сказаўшы, іду на кухню, дастаю з лядоўні бутэльку малака і прагна, са стогнам, глытаю халадзёнку.

— Хто там за табою гнаўся? — цяпер ужо пытаецца бацька.

— У футбол гулялі…

Маці ідзе разаграваць кашу, а я падаюся да пісьмовага стала. Над ім вісіць табліца Чэмпіянату СССР па футболе. На перакрыжаванні менскага «Дынама» і растоўскага СКА малюю тлустую адзінку.

— Выйгралі? — бацька прыклаў вуха да радыёлы. — Пасля таго, як перагарэў тэлебачар, бацька цэлымі вечарамі сядзіць ля прымача ды слухае варожыя радыёстанцыі.

— Йес! — лаканічна выдаю я, сліню хімічны аловак і малюю тлусты нуль.

— Хто забіў — Малафееў ці Мустыгін?

— Сахараў, — адказваю, наструніўшы нюх, і задаволена кракаю. — З кухні цягне духавітым пахам грэчкі, а грэчку я люблю.

Доўга спрабую заснуць — сплю ў святліцы, на старой канапе, — але сон не ідзе і сэрца па-ранейшаму ўлякнута б'ецца ў грудзіне.

Усё ж такі малайчына Мішка! Я да такога не дадумаўся б: убіцца ў школу праз паддашкавы люк. А да люка трэба па ржавай лесвіцы лезці. А па ёй, відаць, як школу збудавалі, ніхто і не лазіў… Нечакана ў душы, пад самым сэрцам, пачынае ціхенька стагнаць трывожна-салодкая думка: а страшнавата сядзець ноччу ў пустым будынку…

Мінулай зімой у нас ладзілі вечар сустрэчы з выпускнікамі. І адзін былы выпускнік, добра падпіўшы, пабег па лесвіцы — не па пажарнай, а звычайнай. Ды так шпарка, што праскочыў першы паверх і па інерцыі рынуў далей — у цёмны закутак, дзе прыбіральшчыцы захоўваюць сваё начынне. Грымнуў там швабрамі ды вёдрамі, паваліўся і ўстаць не здолеў. Так і заснуў, пад скронь вільготныя анучы падклаўшы. Сярод ночы прачнуўся, пайшоў у прыбіральню і так напужаў вахцёрку, што тая пачала заікацца…

— Што робяць, сволачы, — перарывае думкі сцішаны бацькавы голас. — Свалачамі бацька называе чэхаў, пра якіх увесь час распавядаюць замежныя «галасы».

Я прыслухоўваюся, але нічога не чую, апроч дакучлівага зумкання глушылкі.

— Ма! — клічу маці, якая ўжо сцішылася ў спальні.

— Ну!

— А праўда, што напачатку вайны ніхто за савецкую ўладу ваяваць не хацеў?

Пытаюся ў маці, але ў адказ чую незадаволеную бацькаву кашляніну. Адхінуўшыся ад прымача, бацька глядзіць у мой бок.

— Хто табе такое сказаў?

— Мішкава бабця.

— Гэта тая… дзевяностагадовая? Зусім з глузду з'ехала, — бацька аддзімаецца і дзвюма пяцярнямі прылашчвае валасы на галаве — заўсёды так робіць, калі хвалюецца. — Ты ж нікому не пераказвай гэтую брахню.

— Якую брахню! — прыспана азываецца са спальні маці. — Я сама бачыла тых салдат. Цэлы тыдзень міма нашай хаты ішлі. Брудныя, галодныя, страшныя… «Усё, — казалі, — цяпер ні сталінятаў, ні калгасаў не будзе».

— Яшчэ адзін Дубчак знайшоўся… Што ты сыну антысавеччыну пляцеш! Хочаш каб і ў нас тут, як у Чэхаславакіі, контррэвалюцыя паднялася?

— Божухна, які дурны! — выдыхае маці.

Бацька хвіліну шнарыць па эфіры, потым сунецца на кухню і адтуль гукае:

— Ты свайго брата-паэта згадай! Будзеце шмат балбатаць — і за вамі прыйдуць!

Ляжу з заплюшчанымі вачыма, слухаю, як бацька скрабе лыжкай, вычэрпваючы з рондаля рэшткі грэцкай кашы, і бачу асветленае вакно і пахілую постаць вахцёркі.

— Ма!

— Ты дасі сёння спаць? — маці рыпае спружынамі матрацу, — мне ўставаць а шостай. — Маці працуе медсястрой у паліклініцы і ўстае з цёмнага рана.

— А чаму старыя цёткі вахцёркамі працуюць? Ім што, пенсіі не хапае?

— Пражывеш ты… на калгасную пенсію…

Маці зморана ўздыхае, і народжаны тым уздыхам непрыемны скразнячок кранае душу.

… Летась усім класам ездзілі ў Маскву. Цэлымі днямі цягаліся па сталіцы, а ўначы спалі на матах у адной з тамтэйшых школ. Школа была старая, ці не дарэвалюцыйнай пабудовы. Аднае ночы мы з Мішкам раздурэлі, не давалі нікому спаць, класная нас і выставіла ў калідор. Селі ў цемры на лаву, прыслухаліся, і дурыкі вомігам выпетрыліся з галоваў. Падалося, што там, на верхнім паверсе, хтосьці ёсць, хтосьці ходзіць па рыпучай падлозе. Крокі былі ледзь чутныя, і вось памацнелі, гулка азваліся на лесвічнай пляцоўцы, а калі зашоргалі па сходах, мы з Мішкам рынулі ў спартзалу, дзе спалі аднакласнікі, леглі на свае маты, з галавой накрыліся коўдрамі…

А можа, дарма Мішка лез у школу?

Стаю на ганку, чакаючы Дасюліна, і мяне працінае халодны пот і б’юць дрыжыкі. Хвілін праз дзесяць да ганку падыходзяць Галуза і Шутовіч з 10 «А». За імі, па старой завядзёнцы, рушыць збой дзевяцікласнікаў, пасярэдзіне якога вытыркаецца кудлатая Мішкава галава.

Галуза з Шутовічам — вялікія аматары ансамбля «Бітлз». З тае нагоды адгадавалі даўгія валасы — дзесьці да паловы вуха, — і дырэктар школы Тэлесфор Данатавіч Дунчонак (мянушка Бздунчонак) на кожнай лінейцы пагражае «бітлухам» выключэннем са школы, калі тыя не падстрыгуцца.

Галуза з Шутовічам зачэсваюць валасы за вушы, прыўздымаюць каўняры, наструньваюць насы. Дзерык наш — былы вайсковец, і па вайсковай звычцы кожнай раніцы голіцца ды пырскае на твар нязменны «Шыпр». Па тым адэкалонным смуродзе, які лунае ў паветры, Галуза з Шутовічам і вызначаюць — ёсць дзерык у школе ці яшчэ няма.

Пераступаем следам за «бітлухамі» парог і чуем злавесны вокліч:

— Шутовіч з Галузам! Да заняткаў не дапускаецеся!

Дзерык стаіць пасярод калідора, шырока рассунуўшы ногі, і першакласнікі з двух бакоў пужліва абмінаюць яго, шоргаючы плечукамі па сценах.

— А вы не маеце права адхіляць нас ад заняткаў, — мармыча Галуза, і дзерык з робленай усмешкай выдыхае:

— Законы ты ведаеш, а правілы савецкіх школьнікаў ведаць не жадаеш. Зараслі з Шутовічам — вачэй не бачна!

— А правілы рэгламентуюць даўжыню валасоў? — падае голас Шутовіч.

— У правілах напісана, што вучні павінны мець ахайны выгляд! — Бздунчонак зыркае ў той бок, дзе стаім мы з Мішкам. — Вунь, гледзячы на вас, ужо і Дасюлін пачаў зарастаць!

Мы з Мішкам выскокваем на ганак. Волкі вецер працінае наскрозь, і мяне зноў бяруць дрыжыкі: гарачыя, несупынныя. Да таго ж, мне заклала вушы.

— Чаго трасешся? Ён жа не пра цябе казаў, — Дасюлін устурбавана прылашчвае валасы.

— Учора на даху прасіфоніла! — гучна, як на перагаворным пункце, крычу сябру, адчуваючы, як па целе разліваецца млявасць.

Следам за намі на ганак выкульваюцца кудлатыя небаракі.

— Бл-ляха, кантрольная па алгебры, а Бздунчонак на заняткі не пускае, — цэдзіць скрозь зубы Шутовіч, і Дасюлін хапае яго за руку.

Хлопцы адыходзяць убок; Мішка нешта тлумачыць Шутовічу, паказваючы ўгору, той святлее тварам і ўзмахам рукі кліча Галузу. Тулячыся да сцяны, тройца шыбуе да пажарнай лесвіцы, і праз імгненне я назіраю, як Шутовіч, трымаючы ў зубах важкую тэчку, лезе ўгору, а за ім, узбіўшыся на Мішкавы гарбень, чапляецца за жалезную папярочку Галуза.

Ззаду гулка бухаюць дзверы, і мы бяжым з сябрам па калідоры. Калідор пусты, калі не лічыць фізрука Лазкова, які стаіць ля шатні.

— Бздунчонак паставіў, — шэпча Мішка Дасюлін і задаволена хіхікае.

Фізрук мае мянушку Вакзал (нехта даўмеўся прачытаць ягонае прозвішча наадварот) і, як лічаць многія настаўнікі, не мае клёку ў глуздах. Вось і цяпер: чувакі ўжо ў класе, пішуць кантрольную па алгебры, а гэты ёлупень пільнуе іх на ўваходзе.

— Заўтра да Галузы іду… запрашаў… хочаш, разам пойдзем, — Мішка заварочвае на сходы, і я за ім ледзь паспяваю. Ногі робяцца ватнымі, таму спыняюся, пераводжу дых.

Сястра Галузіна скончыла маскоўскі інстытут і паўгода стажыравалася ў Індыі. Адтуль прывезла кружэлку з дзвюма песнямі «Бітлз», і зараз усе падбіваюцца пад Галузу, каб тую кружэлку паслухаць. А яшчэ паглядзець на партрэт Тэлесфора Данатавіча ў багетавай аправе, які Галуза павесіў над сваім ложкам. Дзеля хохмы, вядома. Фотаздымак — Дунчонак з моўніцы чытае нейкае спавешчанне — чувак зняў з гарадской Дошкі гонару.

Цёткі-прыбіральшчыцы мыюць падлогу, гучна бразгаюць вёдрамі.

— Ці чула ты? Ноччу ў школу лезлі! — на падлогу пляскае мокрая ануча.

— Ідзі ты! А чыя была змена?

— Пракопаўны. Спужалася так, што ў бальніцу адвезлі на «Хуткай».

— Чуў? — шэпча сябар, калі я, ужо знямоглы, узыходжу на трэці паверх. — Ты ж нікому не казаў… пра маю вандроўку?

Я хітаю галавой, і яна пачынае гарэць, і слых поўніцца замарачным звонам.

Першы ўрок у нас фізіка. Выкладчык Леанід Пятровіч — клёвы дзяхан. За спазненні не ўшчувае і наогул не падвышае голасу. Ці не таму ён адзіны ў школе настаўнік, які не займеў мянушкі, і ўсе яго называюць Пятровічам. У мяне, дарэчы, па фізіцы адны пяцёркі, дарма, што займаемся па праграме дзясятага класа.

Пятровіч нешта піша на дошцы, мелькам азіраецца, торгае галавой. Маўляў, хутчэй сядайце.

Я плюхаюся на сваё месца, цісну да вушэй далоні, і аднекуль з глыбіні свядомасці далятаюць малітоўныя словы: «Толькі б вахцёрка не памерла!» Ямчэй сціскаю вушы, каб зразумець сэнс пачутага, і скрозь шум чую такія ж далёкія і незразумелыя словы: «Запішам тры асноўныя групы: дыямагнетыкі, парамагнетыкі і ферамагнетыкі…» Згадваю пра

свайго дзядзьку-паэта, які патануў напярэдадні вайны. Трэба распытаць маці, у якім возеры гэта здарылася. Мяне падхоплівае імкліва-ўрачысты сон, я панурваюся ў чорны атрамант забыцця і тут жа ўсплываю з замарачнага прадоння.

— Э-э-э, браток, заснуў? — мяне трасуць за плячук.

Я расплюшчваю вочы. Увесь клас запытальна, нават з трывогай, глядзіць на мяне, і я адчуваю на лбе дотык сухой і халоднай рукі.

— Дык у цябе тэмпература, — прамаўляе Пятровіч, — давай хутчэй дадому, у пасцель.

На першым паверсе грыміць неспакойны дырэктаравы голас:

— Загадчыца сталовай усё перагледзела: нічога не скралі…

Іншым разам я прыхаваўся б, каб не патрапляць дзерыку на вочы, але зараз, не чуючы ног, шыбую да шатні. Бздунчонак, на шчасце, мяне не бачыць. Ходзіць на пару з мажным міліцыянтам, тузае зачыненыя на зіму вокны.

У шатні доўга шукаю сваю куртку і напаўголаса, сасмяглымі вуснамі шапчу: «Толькі б не памерла…»

Ключ не патрапляе ў шчыліну, урэшце скрыгоча ў замку, я налягаю на дзверы, скідваю куртку і, амаль непрытомны, валюся на канапу. Яна круціцца пада мною, дыван на сцяны разліваецца страшнай патарочай, замарачна дрыжыць, і мяне цягне на ваніты. Але самае страшнае — дрыжыкі. Нацягваю коўдру да падбароддзя. Ляжу пару хвілін, пасля чаго скочваюся на падлогу, паўзу ў спальню, сцягваю коўдру з матчынага ложка…

Коўдры ціснуць грудзіну, стрымліваюць дыханне, але паратунку няма: мяне па-ранейшаму трасе.

У галаве злым вятрыскам праносяцца карцінкі ўчорашняга дня, пакідаючы ў душы дакор і шкадаванне. Учора ў нас была фізкультура. Наш клас маршыруе па зале, і мы з Мішкам сюд-туд азіраемся на Ленку Новікаву. Нізкарослая таўстуха адстала ад шыхта і тупае, махаючы рукамі не ў такт хадзе.

Мішка Дасюлін таксама пачынае махаць рукамі неўпапад нагам, і Вакзал дзьме ў свістульку, загадваючы ўсім спыніцца.

— Новікава, колькі разоў паўтараць?! Правая нага ідзе ўгору, абедзве рукі ідуць управа, левая нага ідзе ўгору, рукі ідуць улева…

Расплюшчваю вочы… столь над галавой варушыцца, гатовая ўпасці, я змежваю павекі і бачу школьны калідор, але не наш, а той, маскоўскі… у канцы калідора кволіцца жоўценькая лямпачка… іду, намагаючыся не рыпець масніцамі, і ў нежывым святле бачу драўляную, падобную на ночвы, труну і сівыя пасмы нябожчыцы, якія віснуць да падлогі… чаму ў вахцёркі такая несамавітая труна? — віруе ў свядомасці страхотная думка, і тут жа прыгадваю, што гаротніца атрымлівала калгасную пенсію і на лепшую грошай не сабрала…

Нізкая столь ляціць на мяне. Усхопліваюся і не разумею — дзе я. Сэрца клякоча ў горле, само горла перасохла, і галава расколваецца ад болю. Мне горача. Спіхваю з сябе цяжар коўдраў, расшпільваю пінжак, потым кашулю, і хворую чмуру развейвае матчына лепятанне:

— А дзетухна мая! — маці стаіць, сашчапіўшы рукі, а ўбачыўшы, што я жывы, знясілена аддзімаецца. — Гляджу — дзверы расчыненыя і куртка ляжыць на парозе. Ледзь не самлела з перапуду.

Маці кранае мой лабешнік.

— Гарыш увесь. Зараз табе што-небудзь дам.

Гэтага «што-небудзь» — пігулак, мікстуры ды розных прыпарак — у маці цэлая шафка. Прынесла з паліклінікі.

Не распранаючыся, адно скінуўшы хустку, маці шыбуе на кухню, шамаціць пушачкамі ад лекаў, пхае мне ў рот дзве гаркавыя пігулкі і дае запіць не менш гаркавай мікстурай.

— І дзе цябе так праняло?

— На даху, — мармычу і прыкусваю язык, зразумеўшы, што сказаў лішніцу.

Праз паўгадзіны мне становіцца лягчэй. Столь ужо не падае долу, канапа стаіць непарушна, а дыван не расплываецца бруднай плямай. І толькі галава тупа баліць і кружыцца.

Я клічу маці.

— Ма!.. Ты вось спужалася, убачыўшы куртку. А можна памерці з перапуду?

— Можна, як сэрца кволае.

Маці асцярожна сядае ля маіх ног.

— У нас у пасёлку, гэта да вайны, хлопец жыў, на пяць гадоў старэйшы. Ён з братам маім сябраваў. Аднойчы прыбягае дахаты як не свой: расхлістаны, без шапкі. Трасецца і слова сказаць не можа. За шаптухай пабеглі. Тая свянцонай вадой пырснула, грамніцу запаліла. Пачаў неяк языком варочаць. Ішоў увечары паўз французскі курган, і штосьці яму там падалося. Курган у нас стаяў непадалёку ад чыгункі. Казалі, там французаў хавалі за часамі Напалеона. І нібыта раз на год, увосень, мерцвякі з магілаў паўставалі. Якраз восень была. Карацей, прымроілася яму нешта — ён і кінуўся ў хмызы. Аж чуе, нехта ззаду бяжыць… дагнаў і шапку здзёр з галавы… Адранку пабеглі з Пецькам, старэйшым братам, на тое месца. Глянулі — а там вушанка на кусце матляецца, за сук матузамі зачапіўшыся. Ад той пары хлопец марнець стаў… З хаты не выходзіў, ні з кім не размаўляў, а перад самай вайной памёр.

— А хто там да дзядзькі Пятра прыходзіў? — пытаюся я, згадаўшы бацькавы словы. — Старэйшага матчынага брата таксама пахавалі перад вайной: патануў у возеры.

— Хто прыходзіў… — маці чарговым разам уздыхае, — савецкая ўлада прыходзіла. Ды ён жывым не даўся: зарэзаўся нажніцамі.

— Як зарэзаўся? Ты ж казала — патануў.

Маці моўчкі лашчыць маю галаву.

— А што ён такога зрабіў? Ну, вершы пісаў…

— Таму і прыйшлі, што пісаў… ды яшчэ па-беларуску, — маці падымаецца на ногі, — у мяне ж на пліце ліпавы адвар выкіпае!

Ну і ну… летась мы з Мішкам урокі беларускай мовы зрывалі, а мой дзядзька, аказваецца, праз тую мову загінуў. Што ж такое трэба напісаць, каб тыцнуць у сэрца нажніцамі?

Ляжу з заплюшчанымі вачамі і з адчуваннем, што лепшы сябар Мішка знянацку аддаліўся, счужанеў, і што нейкая глыбокая, напоўненая ржавай вадой канава аддзяліла мяне

ад усяго мінулага жыцця. У тым мінулым жыцці засталіся Мішка Дасюлін, савецкая ўлада, кастрычніцкія транспаранты, Тэлесфор Данатавіч Дунчонак, наша класная, Надзея Мікітаўна Ёнас, і ўсе астатнія настаўнікі… Зрэшты, не… не ўсе… Пятровіч! Вось хто мог бы стаць дырэктарам школы! Той бы ніколі не ганяў за даўгія валасы. Ды хто яго паставіць. Поруч штосьці рыпнула, і здалося, гэта зманліва і таямніча адчынілася брама будучыні. Але насамрэч гэта маці, выходзячы з кухні, скрыпнула дзвярыма.

— На, выпі, — матчына далонь падбіваецца пад патыліцу, я глытаю гарачы адвар, і ён ценькім цурком ліецца ў вушы. — Ліпа з мёдам… адразу палягчэе.

Заўтра Галуза з Шутовічам зноў узлезуць на пажарную лесвіцу. Калі не заўтра дык паслязаўтра Бздунчонак іх перахопіць. Пагоніць, відаць, са школы. А калі яшчэ вахцёрка памрэ… Я торгаю галавой, адганяючы страшную думку… Да вакацый засталося два дні. Магчыма, дзерык і не злапае чувакоў; пасля вакацый люк зачыняць на замок і пра Мішкаву вандроўку ўсе забудуцца. З гэтай шчаснай думкай каменем панураюся ў вір трывожнага сну; і вось ужо бачу школьны двор і чую тужлівы гуд машыны… па гуку пазнаю раздзяўбаны «ГАЗ-51», на якім дзесяцікласнікі вывучаюць аўтасправу, і які штодня вуркоча на двары… мутны чад засціць вочы і немагчыма ўгледзець — хто едзе ў кодабе машыны… выціраю вочы далонямі і пазнаю Бздунчонка… «газон» павольна едзе па двары… я сыходжу ўбок, даючы яму дарогу, і ў гэты момант дзерык, выставіўшы руку, гарлае: «Вунь яны!»… толькі цяпер заўважаю Галузу з Шутовічам, якія ўзбіраюцца па лесвіцы… нечакана Галуза, які ўздымаецца першым, зрываецца, ляціць долу… я ачомваюся, і грудзіну кранае прыкры холад. Пануе ціша, ад якой закладае вушы і кружыцца галава.

— Ма!

— А дзетухна мая! — маці ў сваёй падзёртай начной кашулі падбягае да канапы, мацае маю вільготную чупрыну. — Змакрэў наскрозь… зараз пераапрану.

— Як ён там? — пытаецца бацька са спальні.

— Спі ўжо… — маці сцягвае з мяне мокрую майку, насоўвае сухую, прымушае ўзняцца з канапы. — Пастой крыху, бялізну памяняю.

Стаю, не адчуваючы пад сабою ног, потым падаю на канапу — маці нават не паспела заслаць новую прасціну, — і маё бязважкае цела ляціць у кірунку цёмнай спаруды з адзіным светлым вакном пасярэдзіне. Асветлены прастакутнік павялічваецца ў памерах, і ў душы нараджаецца адчуванне шчасця: цётухна-вахцёрка сядзіць, схіліўшы сівую галаву, і ў руках яе цьмяна бліскаюць вязальныя пруткі.

## ЦЁЗКІ

Раніцай, як заўсёды, Цімох еў яечню і запіваў кампотам; бацька галіўся, а маці пайшла на балкон развешваць памытую бялізну. І раптам з балкона даляцеў роспачны вокліч:

— Ай, ратуйце!

Цімох, перакуліўшы шклянку з кампотам, выбег з кухні і наляцеў на бацьку. Бацькавы твар быў пакрыты мыльнай пенай.

— Толькі збіралася прасціну павесіць, а тут пчаліны рой узняўся, — гарачліва выдыхнула маці, з грукатам зачыніўшы балконныя дзверы.

Цімох падбег да вакна, прыплюснуў нос на шыбе. За вакном і сапраўды мітусіліся пчолы.

— Э-э-э, дык гэта ж чмялі. Бяскрыўдныя істоты, — прамовіў бацька, выціраючы шчокі кавалкам туалетнай паперы.

— Якія там бяскрыўдныя. Зараз жа абкручвай галаву ручніком, нацягвай рукавіцы і скідвай іх долу, — голас матчын злёгку дрыжэў. — Мяне летась джгнула такая бяскрыўдная істота, і рука апухла.

— Цябе хто куснуў? Шэршань. Тыя небяспечныя. А чмель можа джгнуць калі ты яго ў жмені заціснеш. Яны без дай прычыны не кусаюць і ў пакой не залятаюць, — у пацверджанне сваіх слоў бацька адчыніў балкон і, стаўшы вокрач, агледзеў чмялінае котлішча.

— Куды ты палез?! Закусаюць! — крыкнула маці.

Чмялі кружлялі каля бацькавай галавы, незадаволена гулі, але, падобна, не джалілі, і Цімох, асмялеўшы, таксама выйшаў на балкон. Выцягнуўшы шыю, глянуў праз бацькавы плячук.

— Бачыш жоўтыя коканы? Там гадуюцца лічынкі. Халоднай парой дарослыя чмялі іх сваімі чэравамі грэюць, каб лічынкі хутчэй раслі. А вось у тых маленькіх збаночках — чмяліны мёд.

Цімох яшчэ больш выцягнуў шыю. На дне малюпасенькіх васковых збаночкаў штосьці бліскала.

— Мы ў дзяцінстве, памятаю, знойдзем чмяліныя соты і цягнем мёд праз саломінку, — бацька стоена ўздыхнуў. — Чмялі — самыя лепшыя апыляльнікі. Канюшыну толькі яны і апыляюць, бо маюць даўгія хабаткі, з дапамогаю якіх нектар смокчуць. А ў пчол хабаткі кароткія, на канюшыну не садзяцца.

— А я было падумала — чаму ў нас пад вокнамі так канюшына буяе, — ужо лагодна прамовіла маці і, зірнуўшы на гадзіннік, выгукнула: — Пара на працу!

Пасля сняданку Цімох зазірнуў на балкон. Чмялі зусім не звярталі на яго ўвагі. Поўзалі па сотах і раз за разам уздымаліся ў паветра ды некуды ляцелі. «Цікава паглядзець — як яны мёд збіраюць», — падумаў хлопец.

Каля дома буяла канюшына, і калі Цімох выйшаў на паляну, заўважыў чмяля. Хлопец прысеў на кукішкі. Чмель быў як той млынар перапэцканы, толькі не мукою, а жоўтым пылком, і завіхаўся на чырвонай шышцы, запускаючы ў кожную кветку даўгі хабаток.

— Эй, каго ты там убачыў? — Цімох пазнаў па голасе суседа Мішку Гарая.

Мішка быў страшэнны задавака і з усіх пасмейваўся. Асабліва даставалася Цімоху — самаму тоўстаму хлопцу ў двары.

— Не бачыш? Чмялёў вывучаю, — прамовіў Цімох, не павярнуўшы галавы.

— І даўно вывучаеш? — хмыкнуў Мішка.

— Ды ўжо два гады. Яны, дарэчы, у мяне на балконе жывуць.

— Я казкі слухаў, калі ў садок хадзіў, — ужо сур’ёзным голасам азваўся Мішка.

— Не верыш? Давай паспрачаемся на «Снікерс».

Мішка зыркнуў на вокны кватэры, дзе жыў Цімох, і хлопцы ўдарылі па руках.

— Ну, дзе твая чмяліная пасека? — са смяшлівай інтанацыяй запытаў задавака, калі яны падышлі да балконных дзвярэй.

— Цішэй ты… чмялі не любяць гучных галасоў, — папярэдзіў Цімох і адчыніў дзверы.

Пачуўся пагрозлівы гуд.

— Зачыняй хутчэй! — спалохана крыкнуў задавака.

— Яны мяне не чапаюць, а чужых могуць і пакусаць, — Цімох прычыніў дзверы. — Быў бы ты свой, чмялінага мёду пакаштаваў. Кожны дзень праз саломінку смакчу.

На падаконне за шыбай пляснуўся вялікі чмель.

— Цёзка мой, Цімошка, прызямліўся, — паведаміў Цімох.

— Ты што, кожнаму мянушку даў? Як ты іх адрозніваеш?

— Не, толькі гэтага па імені называю. Бо ён самы тоўсты.

Чмель прапоўз па падаконні, паволі ўзняўся ў паветра.

— За мёдам паляцеў, — прамармытаў Цімох, з усмешкай назіраючы, як Мішка прыціснуў скронь да шыбы. Выглядаў — у які бок паляцеў крылаты таўстун.

Усё лета Цімох сачыў за чмяліным жыццём, вывучаў іх звычкі і нават пакаштаваў чмялінага мёду, торкнуўшы ў соты саломінку. Але вось прыйшла восень, і чмялі сталі ўсё радзей вылятаць са сваёй схованкі. А аднойчы хлопец цэлую гадзіну прастаяў на балконе, і за гэты час ніводзін так і не ўзляцеў. Была якраз нядзеля, бацька пасля сняданку чытаў газету, і Цімох, кіўнуўшы ў бок чмялінага котлішча, спытаў бацьку:

— А што з імі будзе?

— З чмялямі? — бацька з шумам перагарнуў газетныя старонкі. — Загінуць ад холаду і голаду.

Цімох уздыхнуў.

— А можна іх падкарміць?

— Дай ім ячнай кашы! — жартам азвалася з кухні маці. — З пліты зняла!

Сын на такі жарт не звярнуў увагі.

— Думаю, ім можна мёду даць, — адказаў бацька, не адрываючы вачэй ад газеты, — толькі вадкага, каб яны маглі смактаць.

Па абедзе Цімох выправіўся ў краму. Хадзіць па крамах ён наогул не любіў, а тут сам напрасіўся. На адной з паліц убачыў невялічкі слоік мёду, паклаў у кошык, а дома сказаў, што ў яго баліць горла і трэба выпіць гарбаты з ліпцам.

Хлопец наліў бурштынавай слодычы ў поліэтыленавую накрыўку, паставіў непадалёку ад сотаў і стаў чакаць — калі чмялі пачнуць частавацца. Чакаць давялося нядоўга. Спачатку да пачастунку памкнуўся маленькі чмелік. Запусціў хабаток у мёд, пачаў смактаць, смешна перабіраючы пярэднімі лапкамі. Потым падбеглі вялікія чмялі, таксама занурылі хабаткі ў смакоцце. Неўзабаве маленькі чмелік стаў тануць у мёдзе, спалохана зумкаць, і вялікі чмель выцягнуў яго за каршэнь на край накрыўкі. Цімох задаволена пацёр далоні. Калі ж праз гадзінку хлопец ізноў падаўся на балкон, дык увабраў галаву ў плечы. Над ім лёталі, злавесным гудам поўнячы наваколле, зласлівыя восы. Яны паселі ля мёду, і калі адзін з чмялёў узлез на накрыўку, на яго наляцелі адразу дзве асы, і небарака мусіў бегчы да свайго схавішча. У Цімоха цяпер быў новы занятак: адганяць нахабных вос, каб ягоныя гадунцы маглі падсілкавацца.

Аднойчы хлопец зірнуў у акно і знерухомеў. І дрэвы, і трава, і балконныя парэнчы — усё пакрывала бліскучая шэрань. «Памерзнуць», — падумаў Цімох. Хлопцу было да слёз шкада гэтых увішных брунатна-жоўтых істот, таму вырашыў дзейнічаць. Абрэзаў па краях кардонку ад піцы, скочыў на балкон і падхапіў у яе чмяліную схованку. Пры гэтым адчуў, як у мезенец штосьці кальнула. «Зусім не балюча», — Цімох лізнуў палец. Які ж ён чмаляр, калі чмялі ані разу не куснулі. Гадаванцы прыглушана гулі і хлопец з трывогай перавёў дыханне. Ведаў: маці будзе незадаволеная, пабачыўшы такіх кватарантаў.

Да самага вечара «кватаранты» сядзелі ціха, і маці нават не ведала, што яны хаваюцца пад сталом. Але калі ўключылі святло, крылатыя недарэкі гамузам вылезлі са схову і сталі

наразаць колы вакол люстры. Некаторыя пры гэтым стукаліся аб гарачыя лямпачкі, падалі долу і бегалі па падлозе.

— Вой, хто гэта?! — спалохана войкнула маці, адмахнуўшыся кухонным ручніком, ды тут жа ўцяміла, у чым справа. — Ты што, у хату іх прывалок?

— Ну мама… яны ж загінуць на вуліцы, — сын плаксіва шморгнуў носам.

— Навуковы эксперымент праводзіць. Высвятляе — ці перажывуць чмялі зіму ў хатніх умовах, — вясёлым голасам выдаў бацька і, схапіўшы кавалак марлі, стаў лавіць недарэкаў і садзіць назад у соты. — Можа наш сын на біёлага вывучыцца, вядомым навукоўцам стане.

Наступным ранкам Цімох ішоў у школу і дагнаў па дарозе Мішку Гарая.

— Ну, як твае чмялі? — спытаў Мішка. — Відаць, перамерзлі?

Пра тое, што Цімох гадуе чмялёў, ужо ведаў увесь двор.

— Чаго ім мерзнуць… яны пад сталом сядзяць, — адказаў чмяляр і ў сваю чаргу запытаўся: — А тым кім хочаш стаць?

Мішка перасмыкнуў плячыма.

— А я на біёлага хачу вывучыцца, — паведаміў Цімох і, торгнуўшы галавой, дадаў: — Пайшлі хутчэй… спазняемся.

# ДРАПЕЖНЫЯ ВЕТРАЗІ

*Апавяданне з цытаваннем Вялікай Савецкай Энцыклапедыі і Аляксандра Грына*

Дзень сёння шары, няўтульны. Неба бруднага колеру, і па ім слізгаюць ашмоткі шызых хмар. Усю ноч ішоў дождж і толькі адранку суняўся, пакінуўшы па сабе вялікія, жоўтыя ад кветкавага пылку лужыны. Хмары ляцяць нізка, кранаючыся тэлевізійных антэн на дахах, і двор наш ад таго здаецца маленькім і няўтульным. Зыбкае святло, што цэдзіцца з неба, робіць высокія таполі — яны растуць пасярод двара — недарэчна-гламаздаватымі, сцены будынін панылa-шэрымі, а людзей, якія завіхаюцца ў двары, дарэшты бясколернымі. Людзі, трое рабацяг у завэдзганых робах, запхнулі пругкі дрот у каналізацыйны люк і з мацюкамі круцяць яго, пыхкаючы цыгаркамі. Рысіха, суседка з трэцяга паверха, кажа, што будаўнікі паклалі трубы меншага дыяметру, таму каналізацыю ўвесь час і забівае. Суседка тая і зараз тырчыць у разнасцежаным вакне, неадрыўна, разявіўшы шчарбаты рот, пазіраючы на атвор каналізацыйнага люка.

Рысіха — пенсіянерка, на працу не ходзіць, і дзень да ночы сядзіць ля вакна. Міма яе ўчэпістага позірку і мыш не праскочыць. Назірае за тым — хто з чужых увайшоў у пад’езд, у якую кватэру завітаў і колькі там прабыў. Яна і ноччу дзяжурыць, нос на шыбіне прыпляснуўшы. Ну, а такую падзею, як прачыстка каналізацыі, цікаўная пенсіянерка прапусціць аніяк не можа. Нават акно расчыніла і вытыркнулася па пояс, звесіўшы долу неабдымныя, прыхаваныя выцвілым халатам грудзі.

Такою шараю парой заўсёды карціць некуды збегчы, недзе прыхавацца, каб не бачыць цеснага двара, гламаздаватых дрэваў, рабацяг з нягнуткім дротам і Рысіхі з трэцяга паверху. Збегчы? Куды? Дзе знайсці хаця б часовы прытулак і спрат? Гучыць неверагодна, але я яго знайшоў. І там сапраўды можна да часу прыхавацца, пануры ўшыся зусім у іншы свет — свет разгорнутых чырвоных сцягоў, сталінскіх партрэтаў і праектаў вялікіх будоў камунізму. Спрат гэты месціцца ў суседнім доме і называецца філіяй № 3 гарадской бібліятэкі імя Уладзіміра Маякоўскага.

Філія займае асобную двухпакаёвую кватэру. У малым пакоі стаяць стэлажы з кніжкамі і сядзяць за сталом бібліятэкаркі, а ў другім, большым па памерах, знаходзіцца чытальня. Працуюць там, адна адну падмяняючы, дзве кабеты: старая і маладая. Прачыніўшы дзверы і ўбачыўшы, што за сталом гарбаціцца старая порхаўка, звычайна сунуся пяткамі назад. Замест таго, каб выдаць кніжку, яна ўвесь час енчыць: «А ў якім ты класе вучышся? А чаму не ідзеш у дзіцячую бібліятэку? А гэта табе па школьнай праграме трэба, ці проста так?». Порхаўка раней загадвала парткабінетам, а нядаўна, з прычыны сталага веку, яе ў філію № 3 перавялі. А вось маладая выдае кніжкі, нават у фармуляр не запісаўшы.

Чытаю я ў бібліятэцы Вялікую Савецкую Энцыклапедыю — тую самую, у цёмных вокладках, першы том якой выйшаў у снежні 1949-га. Як толькі бяру ў рукі таміну, сэрца пачынае калаціцца, і ад паху старонак кружыцца галава. Даў сабе зарок — перачытаць усе сямнаццаць тамоў. Усяго іх, праўда, 51. Аднак найбольш цікавыя першыя сямнаццаць, якія выйшлі пры жыцці вялікага Сталіна. Яго там згадваюць ледзь не на кожнай старонцы. Ну і партрэтаў поўна: то ён адзін намаляваны, то на пару з Леніным. Адных карцін, на якіх будучы правадыр ачольвае Бакінскую дэманстрацыю, пяць штук налічыў. А ў 18-м томе, які выйшаў пасля смерці правадыра, ужо няма ні карцін, ні ягоных партрэтаў. Я не толькі чытаю, але сёе-тое выпісваю. Два агульныя сшыткі спісаў. Дахаты энцыклапедыю не выдаюць, таму даводзіцца

гадзінамі сядзець у чытальнай зале. Мяне ўжо там прыкмецілі. Дзядзька — высокі такі, насаты, які падшыўку «Огонька» гартае, — раз-пораз з-за спіны падыходзіць і, як настаўніца, у сшытак зазірае. Усё пытаецца: на якую халеру я, падшыванец, раблю выпіскі.

Каля рабацяг, што круцяць дрот, таўкуцца малалеткі, а крыху зводдаль, абапёршыся плячом на стаўбур таполі, стаіць мой сусед і аднагодак Мішка Сыч. Сярэдзіна ліпеня, усе сябры і знаёмцы ў летніку, на вёсцы ці яшчэ дзе, і толькі Мішка сноўдае па двары, не ведаючы, чым заняцца. Зрэшты, адзін занятак у яго ёсць: штораніцы лезе на гарышча нашага дома, як ён сам кажа, адпрацоўваць удары. Там, на гары, вісяць набітыя пяском нагавіцы. Вось Мішка і лупіць па іх кулакамі. Хоча стаць «каралём» горада. А павесіў нагавіцы ягоны старэйшы брат, які цяпер у дзіцячай калоніі. Скраў летась на вакзале валізу — міліцыя небараку і прыхапіла.

Мішка запытальна трасе чупрынай, паказваючы ў бок бібліятэкі, я ківаю ў адказ, і сусед круціць пальцам ля скроні. У Мішкавым уяўленні чытаць кнігі — гэта нейкае вар'яцтва.

Сцярожкім крокам падыходжу да пад'езда, дзе знаходзіцца бібліятэка, узбіваюся з нагамі на лаву, выцягваю шыю, а ўбачыўшы праз шыбу маладую бібліятэкарку, скачу долу. Уваходныя дзверы гучна рыпяць, я іх рашуча пхаю, шыбую па рассохлых масніцах, але тут жа застываю на месцы. З-за стэлажа, цягнучы абярэмак кніг, выходзіць былая загадчыца парткабінета.

— А-а-а, энцыклапедыст заявіўся, — прыціснуўшы абярэмак падбароддзем, порхаўка дыбае ў іншы пакой і адтуль падае голас: — Гляджу, і выпісы стаў рабіць.

Я вінавата кручу ў спацелай далоні скручаны ў трубку сшытак.

— Дарма вы, Надзея Пятроўна, цкуяце хлопца, — жартаўліва азываецца маладая бібліятэкарка. — Чым бібікі абіваць — хай лепш кніжкі чытае, — бібліятэкарка ўвішна перабірае кніжныя фармуляры. — Табе які том?

— Пяты, — выдыхаю, наструнена прыслухоўваючыся да шоргату крокаў у суседнім пакоі.

Бібліятэкарка робіць запіс у фармуляры, чаго даўно не рабіла, выдае тоўсты том.

Размінаюся ў цёмным калідоры з парткабінетнай порхаўкай і сядаю за стол, памацаўшы кончыкамі пальцаў адціснуты на вокладцы знак з літарамі БСЭ.

— Людміла, у дарослую бібліятэку запісваюць з 16 гадоў. І пры наяўнасці пашпарта. А ён толькі шэсць класаў скончыў, — свідруе вуха ватны голас. — Порхаўка прамаўляе сцішана, па-старэчы шапялява, ды мне ўсё чутна. — І потым, мы павінны фармаваць чытацкія густы ў залежнасці ад узросту і адукацыі. Што шасцікласнік хоча прачытаць у энцыклапедыі? Там напісаныя рэчы, да якіх ён не дарос. У некаторых тамах наогул маюцца палітычна шкодныя артыкулы. Да таго ж, як можа сядзець падлетак поруч з дарослымі…

— Ой, Надзея Пятроўна… вы ўсё ўскладняеце, — адгукаецца маладая бібліятэкарка. — Палітычна шкодную літаратуру ў спецфондах захоўваюць. А ў чытацкай зале за ўвесь дзень аніводнага чалавека не было. Першы з’явіўся.

У гэты момант грукаюць дзверы — прыйшоў нейкі наведнік, — я разгортваю энцыклапедыю, і толькі тады разумею, што з перапуду схапіў не той том: яшчэ чацвёрты не дачытаў.

Старонкі струменяць гаркавы, ні з чым не параўнальны пах. Разгортваю таміну, падношу да носа і заўважаю краем вока белы аркушык, які падбітай птушкай ляціць пад стол. Няйначай, памылкі друку, думаю, шоргаючы рукой пад сталом. Падымаю аркушык, міжволі пазяхаю, ды так і застываю з разяўленым ротам.

*Падпісчыку Вялікай Савецкай Энцыклапедыі.*

*Дзяржаўнае навуковае выдавецтва «Вялікая Савецкая Энцыклапедыя» рэкамендуе выняць з 5 тому БСЭ 21, 22, 23 і 24 старонкі, а таксама партрэт, уклеены між 22 і 23 старонкамі, замест якіх Вам высылаюцца старонкі з новым тэкстам.*

*Нажніцамі альбо брытвенным лязом трэба адрэзаць згаданыя старонкі, захаваўшы каля карэньчыка палі, да якіх прыклеіць новыя старонкі.*

Прачытаўшы гэта, ліхаманкава гартаю пяты том, і бачу тыя самыя карэньчыкі і асобныя старонкі артыкула пра Берынгава мора. Артыкул як артыкул. Пра тое, якая рыба вядзецца ў моры, і які там пануе клімат. Што ж такое можна напісаць пра мора, каб потым выцінаць старонкі лязом альбо нажніцамі? Падумаўшы, з палёгкай аддзімаюся. Выдаўцы, відаць, пераблыталі Берынгава мора з Баранцавым — уперлі не той артыкул, таму і прапанавалі падпісчыкам за нажніцы ўзяцца. Але ж там рэкамендуюць і нечы партрэт выдаліць.

— Ну дык, Люда, папрацуеш заўтра за мяне? — далятае з калідору голас порхаўкі. — Не ведаю, ці праб'юся да лекара. Там жа ад ранку ля рэгістратуры цэлая вайна.

Порхаўка відавочна сабралася ў паліклініку, так што заўтра можна ісці ў бібліятэку смела, не зазіраючы ў вокны. Задаволена паціраю далоні, перачытваю артыкул пра Берынгава мора, а калі старая, прамовіўшы: «Ну, я пайшла», прычыняе дзверы, падымаюся на ногі.

— Не той том узяў. Чацвёрты трэба.

Маладая бібліятэкарка, ні слова не сказаўшы, паказвае рукой на стэлажы, маўляў, сам вазьмі, і я панурваюся ў кніжныя лёхі. Кнігі стаяць роўным шыхтом, падпіраючы столь, і нагадваюць амерыканскія небасягі, якія паказваюць па тэлебачары.

Энцыклапедыя стаіць на ніжняй паліцы. З намаганнем запіхваю пяты том, цягну, з яшчэ большым высілкам, суседні чацвёрты, стукаюся локцем аб стэлаж, і на галаў падае таблічка з надпісам: «У дапамогу прапагандысту».

— Асцярожней, не абрынь мне кніжкі, — паўжартам гукае бібліятэкарка, і я вылажу з кніжных нетраў.

Мінулым разам чытаў энцыклапедыю з цікавасцю, але сёння мяне хіліць на сон, палец механічна перагортвае старонкі, і вочы безуважна прабягаюць па артыкулах пра скульптара Беклямішава, бекон і белую гарачку. Нарэшце даходжу да артыкула «Бялград» і ўражана ўскудлачваю чупрыну. «Большую

частку насельніцтва Б. у 1950 годзе складаюць службоўцы непамерна разадзьмутага бюракратычнага дзяржаўнага апарату фашыстоўскай клікі Ціта, вайскоўцы раскватараваных тут вайсковых частак, супрацоўнікі паліцэйскага апарату (УДБ), непрацоўныя элементы… У выніку злачыннай, антынароднай палітыкі кіроўнай фашыстоўскай клікі Ціта — Ранкавіча эканоміка краіны развалена і знаходзіцца ў стане крайняга хаосу…»

Я і раней сустракаў згадкі пра югаслаўскіх фашыстаў, але меркаваў, што гэта нейкія сволачы, якія супрацоўнічалі з Гітлерам. А аказалася, што фашыстам быў Ціта, якога надоечы паказвалі па тэлевізіі і які вітаў нейкіх савецкіх гасцей.

«Жыллёвыя ўмовы працоўных дарэшты нездавальняючыя. Шмат якія новыя будынкі выкарыстоўваюць для размяшчэння воінскіх частак і паліцэйскага апарату (УДБ), пад вязніцы і паліцэйскія катоўні».

Мне робіцца горача, таму расшпільваю два гузікі на кашулі.

«… Ціта ўцы пачалі будаўніцтва «Новага Бялграда», выкарыстоўваючы для гэтага прымусовую працу бялградскіх працоўных, сялян навакольных вёсак і жаўнераў югаслаўскага войска. У выніку прасадкі глебы шмат якія не дабудаваныя будынкі ўжо далі расколіны».

Ну і дзівосы… не паспелі дом збудаваць, а ён ужо раскалоўся. Як жа яны там будавалі? Нядаўна па целеку паказвалі Бялград. Усе будынкі стаяць цэлыя, а па вуліцах ходзяць шчаслівыя бялградцы. А ў суботу паказвалі канцэрт югаслаўскай эстрады. Спявала адна… забыўся прозвішча… гучыць усё адно як варона пракаркала… пяюха, якая выйшла ў сукенцы на тонкіх шлейках. Бацька мой, валасы на галаве ўстаўбурыўшы, выгукнуў: «Во дае дыхту! У ніжняй бялізне спявае!» Выгукнуў нібыта з абурэннем, а насамрэч з захапленнем. І шыю выцягнуў, пяюху разглядаючы. І суседзі, што да нас на тэлебачар прыйшлі, таксама насы да экрана пасунулі. У пад’ездзе толькі ў нас тэлебачар, так што калі які канцэрт ці футбол паказваюць — народу набіваецца як завязаць.

А можа, фашыстаў тых ужо перабілі? — я адкідваюся на прыслон крэсла, сашчэпліваю пальцы на патыліцы. Але чаму Ціта за шчэлепы не ўзялі, як кажа Рысіха? Ён жа і дагэтуль Югаславіяй кіруе.

— Праз дзесяць хвілін бібліятэка зачыняецца! — чую звычнае папярэджанне і схамянаюся.

Спехам праглядзеўшы артыкул «Бялградская аперацыя 1944 года», дзе цкуюць югаслаўскага кіраўніка, з неахвотаю падымаюся на ногі: бібліятэка зачыняецца на самым цікавым месцы.

— Ты б, хлопец, пачытаў кніжкі са школьнай праграмы, — бібліятэкарка прымае з маіх рук чацвёрты том.

— Ды чытаў я… «Стэпавае сонца» Паўленкі.

— Ну і як?

— Ды так сабе… ураджай збіралі, а тут навальніца наляцела, сталі збожжа брызентам накрываць…

Бібліятэкарка ўздыхае, чапляецца позіркам за нейкую кнігу, што ляжыць на стале.

— Вазьмі «Пунсовыя ветразі». Хопіць чытаць абы-што. А то табою ўжо цікавяцца. «Што, — кажуць, — за хлопец? Цэлымі днямі сталінскую энцыклапедыю вывучае». Пыталіся — дзе ты жывеш і ў якой школе вучышся.

— Гэта той, што падшыўку «Огонька» гартае?

Бібліятэкарка стукае алоўкам па стале.

— Наступным разам, як насаты ў чытальню заявіцца, нічога такога не выпісвай… Ну дык што… даваць «Ветразі»?

Я паныла крыўлю вусны.

— Давай-давай… хоць нешта чалавечае прачытаеш, розуму набярэшся.

Кніжку гэтую я не чытаў, але шмат пра яе чуў. Мая суседка па парце, Нінка Жохава, усе мазгі ёю адбіла. Усё распавядае пра нейкага капітана ды нейкую Фасолю. Не ведаю нават — прозвішча такое ці мянушка.

Хаця каналізацыю прачысцілі і глядзець няма на што, Рысіха па-ранейшаму тырчыць у ваконнай пройме. І не проста

тырчыць, а гучна перамаўляецца з рудавалосай цёткай — тая развешвае бялізну на гаўбцы жаночага інтэрната.

— Чым забіла? — крычыць рудавалосая цётка.

— Трусамі! — гарлае Рысіха.

— Мужчынскімі ці жаночымі?

— А-а?!

— Мужчынскімі, кажу, ці жаночымі?!

— Мужчынскімі! — з гатовай радасцю паведамляе Рысіха і знікае з ваконнай праймы.

На прыступках пад'езда прыцішваю хаду, разважаючы: як у жаночым інтэрнаце маглі з'явіліся мужчынскія трусы? І якім чынам патрапілі ў каналізацыю? На парозе кватэры мяне сустракае матчына буркаценне.

— Зусім ашалеў з тымі энцыклапедыямі. Еш ідзі, усё астыла.

Маці накладае поўную місу панцаку, я сядаю за стол, раскрываю кнігу.

— Ну куды… куды? Кніжку чорт хто чытаў, а ён на стол цягне.

Маці не любіць кніг. Бярэ іх у рукі толькі калі працірае анучкай кніжныя паліцы. Кніг у нас даволі шмат, але ўсе медычныя. Бацька працуе тэрапеўтам у чыгуначнай паліклініцы.

Панцак не смакуе. Глытаю пару лыжак, запіваю малаком з конаўкі і пад матчыны звягі: «Стаіш, гатуеш, а яны насы вернуць», — іду ў спальню і плюхаюся з кніжкай на ложак.

«Лонгрэн, матрос "Арыёна", дыхтоўнага трохсоттоннага брыга…» — адно і паспеў прачытаць, як дзынкнуў дзвярны званок. Званіла, вядома ж, Рысіха. Такой парой яна пакідае свой пост і завітвае да суседак. Забягае нібыта на хвіліну, пазычыць каліва солі ці запалак, а потым сядзіць дзве гадзіны і вярзе розную лухту.

Заціскаю далонямі вушы, аднак Рысішыная балбатня ўсё адно прарываецца і казыча свядомасць.

— Твае кашу не ядуць, а мой зяць, як на абед прыходзіць, усё падмятае. Я яму з костак крупені навару, а потым забялю, забялю… зжарэ і талерку абліжа.

Зяць Рысішын, мядзведзяватага выгляду дзядзька, жыве ад цешчы асобна, але кожнага разу завітвае на абед.

— Дачку гадуй, а тады зяця кармі. А яны на цябе і глядзець не жадаюць.

Міжволі прыслухоўваюся да бязладнай гамонкі і з думкаю — «Быў бы югаслаўскім фашыстам, забіў бы гэтую Рысіху», — ямчэй зацiскаю вушы.

«Аграмадны дом, у якім нарадзіўся Грэй, выглядаў змрочным знутры і велічным звонку».

— А што за людзі з дротам завіхаліся? — пытаецца маці, і Рысіха, керхануўшы, з інтанацыяй лёгкай іроніі задае стрэчнае пытанне: «А дзе ты бачыла людзей?» Суседка перакананая, што ў нашым горадзе няма людзей, адны сволачы.

«Увосень, на пятнаццатым годзе жыцця, Артур Грэй употай збег з дому і выслізнуў у залатыя брамы мора».

— Гляджу… ужо цёмна было… сунецца, — голас Рысішын пацішэў і быў ледзь чутны. — Кожнай суботы бегае… да сучкі з пятага паверху. А ў самога двое дзетак і жонка маладая. І, галоўнае, ідзе, качан у плечы ўбіўшы ды на маё вакно паглядаючы. Думае, людзі не ведаюць…

«А дзе ты бачыла людзей?!» — хочацца крыкнуць, але маўчу, без асаблівай увагі дачытваючы чарговы раздзел.

Тым часам бацька вяртаецца з працы, і Рысіха вымятаецца з кватэры.

— Колькі гэтая балаболка будзе тут круціцца? — бацька доўга мые рукі ў ваннай, ідзе на кухню і з той жа незадаволенай інтанацыяй выдыхае: — Зноў панцак.

Маці грукае посудам.

— Аднаму каша не даспадобы, другому. У рэстаран ідзіце. Я ад ранку ўсе крамы абабегла. Мяса якога хацела купіць. А ў крамах стэрыльная пустэча.

— Та-ат… — крычу я, перабіваючы маці.

— Ну-у…

— А каго з энцыклапедыі выдзерлі?

— З якой энцыклапедыі? — бацька, дыхнуўшы заўсёдным пахам бальніцы, паўстае ў дзвярной пройме з талеркай у руцэ.

— З Вялікай Савецкай. Загадалі выцяць артыкул на літару «Б» — лязом альбо нажніцамі.

— Берыю, відаць, выразалі.

— А хто ён такі?

— Правая рука бацькі-Сталіна. Як высветлілася, быў завербаваны брытанскай выведкай.

— Што ты там вярзеш сыну? — гукае маці з кухні.

Бацька глытае недажаваную кашу.

— А навошта ты, сапраўды, у дарослыя кніжкі лезеш?

— Ды я пра Берынгава мора хацеў пачытаць, а там старонкі выдзертыя.

— Ты б лепш што-небудзь са школьнай праграмы пачытаў. Што ў цябе за кніжка?

Бацька адварочвае вокладку.

— «Пунсовыя ветразі». Добрая рэч?

Моўчкі ківаю.

— Ты гэта… — бацька выцірае вусны далонню, — нідзе і ніколі не згадвай Берыю. І Сталіна не згадвай. Зразумеў?

Шоргаючы тэпцямі, бацька ідзе на кухню, а я па старой звычцы закідваю рукі за патыліцу і не разумею — чаму Берыю нельга згадваць? У першых тамах энцыклапедыі прозвішча тое часцяком пракідваецца. Ну а пра бацьку-Сталіна, як я ўжо казаў, траха не на кожнай старонцы пішуць. Нават калі пра расліну ці жывёлу апавядаюць, і то рупяцца цытату з ягоных твораў уплішчыць. А цяпер што? Прозвішча гэтае і прамаўляць нельга? А Хрушчоў? Не так даўно быў пры ўладзе, у школе партрэты віселі. А сёння яго ніхто і не згадвае. Дзіўная ў нас краіна, і дзіўныя ў ёй людзі. Усё скрозь затурканыя і нецікавыя. Правільна Рысіха кажа: а дзе ты бачыла людзей?

Уздыхаю, перагортваю старонку і чытаю пра тое, як Грэй выправіўся са сваім памочнікам Лецікам на рыбалку.

На двары штосьці страшэнна вые, і ад таго выцця, здаецца, зыбаецца лесвічны марш пад нагамі. Выходжу з пад’езда і заўважаю машыну з бочкай, якую мы, падшыванцы, называем «гаўнавозам». Каналізацыйны люк адчынены, і туды запхнуты тоўсты шланг. Шланг, як тая жывая істота, мерна ва-

рушыцца ў такт завыванню рухавіка. Ля машыны сноўдаюць малалеткі, а крыху далей, шырока рассунуўшы ногі ў збітых чаравіках, стаіць Мішка Сыч ды лузае семкі. Прыспешваю крок, рупячыся абмінуць Мішку, але сусед падбягае, хапае за рукаво:

— Што за кніга?

— «Пунсовыя ветразі», — я перакідваю кніжку з рукі ў руку. — Мішка, ясны перац, супыніў мяне, каб «пазычыць» грошай.

— Слухай, пазыч пяць капеек. Да заўтра. А то маці з'ехала, а дома кавалка хлеба няма.

Усё гэта лухта. Маці нікуды не з'язджала. Проста Мішку не хапае на папяросы, вось і «страсае» манеты з малалетак. У мяне звычайна просіць, бо жывём у адным пад'ездзе. Пры гэтым абяцае вярнуць доўг. А аднагодкам з іншых дамоў папросту кажа: гані дзесяць капеек. Нават да дзесяцікласнікаў чапляецца. А калі хто дае нахабніку выспятка, паведамляе, што ўвосень з «зоны» — так Мішка называе дзіцячую калонію — выходзіць братан і пачне мачыць тых, на каго ён пакажа пальцам.

Падкідваю ў паветра пяць капеек, сусед іх спрытна перахоплівае, з падзякаю тыцкае мне пальцам у жывот.

Усе два дні чытаў Грына, і ў галаве маёй віруюць урыўкі фраз, ружовыя дахі Ліса, караблі на рэйдзе, агні на бурлівай вадзе і надзіманы ветрам пунсовы ядваб на мачце «Сакрэту».

Усё ж такі нездарма «Пунсовыя ветразі» падабаюцца Нінцы Жохавай. Добра напісана, але для дзяўчат. Яны ж, усе да адной, мараць пра нейкага прынца. Цікава, ці згадалі Грына ў энцыклапедыі?

— Ну, як кніга? — пытаецца маладая бібліятэкарка, калі я паўстаў перад яе сталом, і паказвае пальцам некуды ў бок. — Жэст зразумелы: у чытальні сядзіць той самы насач з падшыўкай «Огонька».

— А можна адзін том зірнуць?

Бібліятэкарка моўчкі ківае, і я наструнена, баючыся, што мае крокі можа пачуць насаты дзядзька, іду ў канец стэлажоў.

Пальцы кранаюцца каляных карэньчыкаў энцыклапедыі. «Газель-Германий»… «Германик-Голубь»… «Голубянки-Гродовка»… Дзесьці тут. Ліхаманкава гартаю старонкі і ў цьмяным святле бібліятэчных сутарэнняў чытаю:

«Грын, А. (псеўданім Грынеўскага Аляксандра Сцяпанавіча; 1880–1932) — расійскі пісьменнік. Нарадзіўся ў Вятцы ў сям'і дробнага службоўца. Ужо ў першай кнізе апавяданняў (1908) яскрава выявілася схільнасць Г. да містычнага, характэрная для яго творчасці. У творах паслякастрычніцкага перыяду Г. супрацьпастаўляе рэальнай савецкай рэчаіснасці нейкую "краіну-мару" з няіснымі экзатычнымі гарадамі Зурбаган і Гель-Г'ю — своеасаблівы пазанацыянальны касмапалітычны рай. Услаўляючы "звышчалавека" ніцшэанскага кшталту, Г. тэндэнцыйна супрацьпастаўляе сваіх герояў — "арыстакратаў духу", людзей без радзімы — народу, які паўстае ў ягоных творах у выглядзе цёмнай, тупой і бязлітаснай масы, не здольнай да творчай дзейнасці ("Канат", "Пунсовыя ветразі"). Рэакцыйна-містычныя ідэі Г. часцяком увасобленыя ў форму займальнага аповеду, пабудаванага на авантурна-дэтэктыўным сюжэце».

Доўга сяджу на кукішках, няўцямнымі вачыма гляджу на 616-ю старонку 12-га тома. Цяпер разумею, чаму Грын ствараў у сваіх творах «краіну-мару», у якую прагнуў перасяліцца. Бо яго, як і мяне, атачалі шэрыя сцены дамоў, у вушы лезла абрыдлая гамана рысіх, у падваротнях мішкі сычы трэслі капейкі, насатыя дзядзькі вынюхвалі — што ён там піша, — а пад вокнамі натужліва гула «гаўнавозка». Хаця не…тады «гаўнавозак» яшчэ не было. І бацька-Сталін са сваёй правай рукой Берыя таксама стварылі ўласную «краіну-мару» — краіну чырвоных сцягоў і дурасліва-шчаслівых твараў на плакатах, якімі поўніцца энцыклапедыя. Але ж Грэй — шляхетны чалавек. А хто такія Сталін і Берыя? Кралі, відаць, у маладосці, як Мішкавы братан, валізы на вакзале, і марылі стаць «каралямі» горада. А ўбіўшыся ва ўладу, нанялі пісак, якія пачалі з іх рыцараў рэвалюцыі ляпіць ды Грына брудам пэцкаць. Не зразумела толькі — хто такія касмапаліты. Ну вядома ж, не касманаўты, а нейкія мярзотнікі. Згадалася фраза,

якую вычытаў учора ў Грына і занатаваў у сшытку: «Шмат давядзецца пабачыць у будучым не пунсовых, а брудных і драпежных ветразяў; здалёк прыгожых і белых, а зблізку — падзёртых і нахабных». Нібыта пра савецкую энцыклапедыю напісана.

— У аўторак прыходзь. Мая змена, і наведнікаў у чытальні не будзе, — кажа бібліятэкарка, калі я, абабіўшы нагавіцы, вынырваю з кніжнага прыцемку.

Трасу ў адказ галавой і хадою знянацку пасталелага чалавека выходжу з бібліятэкі.

# ТАНЦПЛЯЦОЎКА

Танцпляцоўка ў Азярышчы, агароджаны сеткай майдан, месціцца адразу за Домам культуры. Да двух бакавых слупоў там прымацаваныя бляшаныя рэпрадуктары: па адным «радыст» Пецька Дадон круціць кружэлкі, а па другім абвяшчае «белы танец» і раз-пораз віншуе якую танцорку альбо танцора з днём нараджэння. Радыёрубка знаходзіцца ў тарцы Дома культуры, на другім паверсе, і яе здаўна замілавалі мясцовыя апівуды. Вось і зараз з адчыненага вакна далятаюць бразгат бутэлек, мацюгі і задаволены голас Ваські Лосева па мянушцы Лось. Васька кагадзе вярнуўся з войска і цяпер распавядае сябрам армейскія показкі.

— Карацей, прыязджаем у Прагу, а там плакат вісіць: «Рускі Іван, едзь сраць дахаты!» А адзін чувак з нашай роты паверх белай фарбай напісаў: «Пакуль не засерам усю Прагу, дахаты не паедзем!» — з вакна вылятае корак ад «чарніла», і Васька ўжо сур’ёзным голасам паведамляе: — Сёння буду з Пыжыкам разбірацца. Учора на мяне півам дыхаў. Хацеў яму прамой правай прадэманстраваць, ды дзеўкі побач стаялі.

— Ты дэманструй, але не на пляцоўцы. Тут мая зона адказнасці. Не хапала, каб мільтоны з’явіліся, — сказаўшы так, Дадон здушана кашляе: «чарніла» пайшло міма глыткі.

— Я хутка наогул гэтыя танцы разганю, — Васькаў голас яшчэ больш сур’ёзнее. — Ведаеш, як чэхаў разганялі? З дапамогай слезацечнага газа. Шпурнеш шашку ў натоўп — яны і разбягаюцца.

Да войска Лось быў мясцовым «каралём». Са сваёй «брыгадай» нават у суседні Невель ездзіў і наводзіў шоргат на

тамтэйшых танцах. Ды пакуль цягнуў вайсковую лямку, у Азярышчы новы «кароль» аб'явіўся: Ванька Пыжык. Жыў ён не ў пасёлку, а ў ваенным гарадку, але на танцы наведваўся рэгулярна. Пагатоў, меў матацыкл «Ява», на якім гойсаў па ўсім раёне. Два «каралі» на адных танцах — гэта задужа, таму Лось з Пыжыкам і мерыліся высветліць — хто будзе за галоўнага.

З ваконнай праймы вылятае недапалак, патрапляе мне на плячук, і мы з Лёшкам адыходзім убок.

Лёшка — мой лепшы сябар. Вучымся з ім у адным класе і штовечар ходзім на танцы. На танцпляцоўку нас, вядома, не пускаюць. Трэба квіты браць, ды і малыя яшчэ — толькі ў восьмы клас перайшлі. Таму тырчым разам з такімі ж падшыванцамі каля агароджы, пхнуўшы насы ў вочкі драцяной сеткі.

Цягаемся на танцы не па добрай волі, а па загадзе старэйшага Лёшкавага брата. Мінулай восені Таляна ў войска забралі, і ён зараз служыць ва Украіне. Ад'язджаючы, наказаў сачыць за Іркай Беглік і паведамляць лістом — з кім яна танчыць і хто яе дахаты праводзіць. А ў экстраных выпадках і даваць тэлеграму са словамі: «Вельмі кепска сябе паводзіць».

— Дарма Лось выпендрываецца, — Лёшка задаволена паціраe рукі. — У Пыжыка кодла. Наляцяць з усіх бакоў — мала не падасца.

Сябруку хочацца, каб Лася пабілі. Можа, потым кіне да Іркі чапляцца.

На танцпляцоўцы стаіць тузін дзяўчын. Мальцаў не відаць. Тыя забягаюць на майдан, калі Дадон «Тунай» заводзіць. Гэта песня такая ў выкананні Мануэля. Яна нам з сябрам надта падабаецца. Дадон за кружэлкай аж у Невель ездзіў.

Над нашымі галовамі пачынае трашчаць гучнагаварыльнік.

— Вас вітае Азярышчанскі РДК! — не зусім цвяроза прамаўляе «радыст».

Лёгкі ветрык матляе дрот, які лучыць «рубку» з гучнагаварыльнікам, і той заходзіцца ад трэску.

— Спяшайцеся ўсе на першы вальс! — паспеў прамовіць Дадон, перш чым рупар канчаткова адключыўся.

Ніхто, аднак, на вальс не спяшаецца. Кружляюць толькі Ірка Беглік на пару з бібліятэкаркай Валькай Малышавай.

За спінамі ляскочуць два матацыклы. Гэта едзе Пыжык са сваімі сябрукамі. Сяброў трое. Два бугаяватыя, як і сам камандзір, а трэці, па мянушцы Кудла, у якога таксама ёсць матацыкл, з «каралеўскай» світы выпадае. Гэта высокі і хударлявы весялун з даўгімі валасамі і ў шырозных клёшах.

Падагнаўшы матацыкл да танцпляцоўкі, Пыжык стаў, рассунуўшы ногі, перад уваходам, пагрозліва ляпнуў кулаком па далоні. Тут і Лось выйшаў з задніх дзвярэй РДК. Прыпаліў «беламорыну», развалістай хадою накіраваўся да танцпляцоўкі. Насустрач яму, такой жа паходкай, рушыў Пыжык. Параўняўшыся, супернікі сутыкнуліся плячукамі, і Ванька Пыжык страшным голасам выдыхнуў:

— Можа, ты ўсё ж такі папросіш прабачэння?

Біліся ў нас звычайна непадалёку, на аточанай густым кустоўем паляне. Мы з Лёшкам туды і пабеглі. Неўзабаве на паляну, падскокваючы, як баксёр перад двубоем, выбег Пыжык, а следам за ім усё той жа валюхастай хадою выйшаў Лось.

— Ну што, чувак, да войска я цябе, памятаецца, садзіў на сраку. Давядзецца паўтарыць, — няўцямна, з папяросінай у зубах, прамовіў Лось і таксама ляснуў па далоні пудовым, пазначаным наколкай парашуту, кулачышчам. — І дружбака твайго валасатага пасаджу, — Лось тыцнуў пальцам на Кудлу. — Я на такіх у Празе наглядзеўся. У нашай роце іх Манькамі называлі.

Пыжыкаўскія карыфаны, якія сталі поруч з камандзірам, адступілі на крок. Мы з Лёшкам сцяліся, чакаючы першага ўдару, ды тут перад намі паўсталі старэйшыя ад нас хлопцы. Усім карцела паглядзець — як будуць біцца «каралі». Пакуль бегалі, шукаючы дзе прыткнуцца, два пыжыкаўскія карыфаны адышлі на небяспечную адлегласць, а іхны камандзір ужо не біў кулаком аб далонь, а з ліслівай інтанацыяй прамаўляў:

— Калі нехта пачне наязджаць — адразу паведамляй. Буду вырубаць па адным.

Суперніка такія словы не ўразілі. Лось усміхнуўся, перакінуў з аднаго кутка вуснаў у другі прыгаслую папяросу.

— Хто на цябе? Гэты?! — Пыжык зірнуў на Кудлу, і той спалохана адхінуўся, наехаўшы спінай на другога кампаньёна. — Гэтыя?! — ужо з інтанацыяй панікі выдаў былы «кароль», паказаўшы ў наш бок, і Лёшка, зачапіўшыся за нізкі куст, плюхнуўся на азадак.

— Сеў на сраку як Пыжык да войска, — жартам шапятнуў я сябру, зразумеўшы, што бойкі не будзе.

Дадон урубіў «Тунай», і ўсе, хто быў на паляне, кінуліся на танцпляцоўку.

— Засцаў з Лосем біцца, — дакорліва працадзіў Лёшка, прыслухоўваючыся да ракатання матацыкла: Пыжык, здаўшы «каралеўскія» паўнамоцтвы, падаўся ўпрочкі, а можа, паехаў у ваенны гарадок за падмогай. Ягоныя дружбакі, праўда, нікуды не паехалі, і Кудлавы «Усход» застаўся стаяць ля ўваходу.

— А ты б не засцаў? Бачыў кулачышчы? — азваўся я, не адрываючы позірку ад Іркі Беглік. — Тую раз за разам запрашалі на танец, але яна ўсім адмаўляла. — Заедзе раз, і рогі адваляцца, — дадаў я, памаўчаўшы, і Лёшка, пагадзіўшыся з маімі словамі, парывіста ўздыхнуў.

Лёшка ідзе да «Усходу», азіраецца, шукаючы вачыма Кудлу, а потым сядае на матацыкл, круціць ручку газу.

— Вырасту — абавязкова такі набуду, — кажа сябрук, пырхаючы вуснамі. — Займець матацыкл для сябра — галоўная мара жыцця.

Тым часам вакно радыёрубкі адчыняецца, і Дадон, склаўшы трубой далоні, адчайдушна крычыць:

— Запрашаюць дзяўчаты!

— Не бачу дзяўчат! — гарлае Кудла. — Весялун дагэтуль увесь час гойсаў за Пыжыкам, а зараз матацыкл ягоны асядлаў Лёшка і, нібыта пераадольваючы цяжкі пад'ём, пырхае вуснамі.

Ірка Беглік ідзе праз усю пляцоўку, вісне на чырвонай ад загару Лосеўскай шыі.

— Паводзіны нездавальняючыя! — крычу Лёшку, і той злазіць з матацыкла.

Пасля танцаў, сагнуўшыся склюдам, бяжым кароткімі перабежкамі па галоўнай пасялковай вуліцы. Наперадзе, у змроку позняга вечара, кратаюцца постаці Іркі Беглік і Ваські Лосева. Ля кожнага слупа пара спыняецца, азіраецца, і доўга, з задаволеным мармытаннем, цалуецца.

— Казалі, ты тут з Талянам круцілася, — зюзюкае Лось, ціснучы да сябе Ірку.

Ірка незадаволена адхінаецца ад кавалера:

— Сто гадоў ён мне патрэбны.

— Ну і сучка, — выдыхае Лёшка.

Я спатыкаюся, і мы сцішваемся без духу.

Лось углядаецца ў цемру, і Ірка хапае яго за рукаво:

— Ды не хвалюйся ты. Гэта не Пыжык. Каты ўсхадзіліся, — кажа дзявуля, і закаханыя зноў цалуюцца.

— Заўтра ж напішу брату, — шапоча сябар, калі парачка знікае ў цемры, і са злосцю абабівае штаны.

Адвячоркам, калі сонца не слепіць вочы, а лагодна кранаецца твару, мы з Лёшкам ляжым на даху дрывотні і, закінуўшы рукі за патыліцы, прыслухоўваемся да навакольных зыкаў. На вуліцы, ля калонкі, шуміць вада і бразгаюць вёдры; на плоце зацята каркае варона, а на другім канцы пасёлка раскацiста спявае Абадзінскі. Гэта Дадон завёў кружэлку.

— Яшчэ не пісаў? — пытаюся ў сябра, і той адмоўна трасе чупрынай.

— Далася яму тая Ірка, — кажу я Лёшку, — вунь колькі дзевак на танцах. Выбірай любую.

Сябар маўчыць і адварочваецца, дэманструючы, што размова на гэтую тэму скончана.

Заплюшчваю павекі і згадваю мокрую платформу, стрыжаную, шызай водцені, Талянаву галаву, і заплаканы Ірчын твар. Ірка абхапіла Таляна на карак і ўголас румзае. Я гляджу на Лёшкавага братана, і мне крыху млосна. «Навошта

прызыўнікоў так страшна абалванілі? Няўжо нельга проста каротка падстрыгчы?»

— Не бядуйце. Не на вайну выпраўляеце, — жартаўліва прамаўляе афіцэр, што суправаджае прызыўнікоў.

— Буду пісаць кожны дзень! — румзае Ірка, і Талян махае ёй рукой з цёмнага тамбура.

— Слухай, у тваёй маці молаты перац ёсць? — гукае цяпер ужо не Ірка са спратаў памяці, а сябрук пад бокам.

Уражана прыўзнімаю галаў.

— У мяне ёсць пачак, але гэтага мала, — Лёшка зморана пазяхае, — хацеў учора рассыпаць, ды дождж прайшоў, дошкі вільготныя.

Я хачу распытаць — на якую халеру сябру молаты перац, і дзе змакрэлі дошкі, — але сябар, дробна перабіраючы нагамі, ужо з'язджае з даху.

Дома, у шуфлядзе кухоннага стала, знайшоў пачак молатага перца з надарваным ражком і вынес Лёшку.

— Павінна хапіць, — сябар пхае пачак у кішэнь штаноў.

Лёшка надумаў рассыпаць перац на танцпляцоўцы. Ад тупаніны ядучка, нібыта, узнімецца ў паветра, падаб'ецца пад Ірчыну спадніцу і апячэ потную прамежнасць.

— Пагляджу, як яна сігане з танцаў, — з помслівымі ноткамі выдаў дружбак.

— Дык што… толькі яна адна будзе танчыць? А як жа астатнія? Ім жа таксама засмыліць.

Лёшка на хвіліну задумваецца.

— Трэба цішком сыпануць, каб ніхто не бачыў.

Мне сяброва забава не надта падабаецца. Ну збяжыць Ірка з танцаў, ну памыецца халоднай вадой. А на заўтра зноў будзе з Ласём танчыць ды ў кустах цалавацца. І ці ўздымецца перац у паветра? Сябар кажа, што яго ўжо на невельскіх танцах рассыпалі. І там, як стала прыпякаць, усе ў розныя бакі разбегліся, а кантралёрку, якая білеты правярала, з ног збілі.

Танцпляцоўку ўдзень зачыняюць на замок, але пералезці цераз сетку даволі лёгка. Галоўнае, не зачапіцца штанамі

ці кашуляй за самы верх, дзе тырчаць няроўна абрэзаныя драціны. Людзей навокал не было, ды адно кепска: у Дадона адчынена вакно і «радыст» можа ў любы момант з яго вытыркнуцца.

Лёшка ўзлез мне на спіну, дацягнуўся да краю сеткі і замёр ад зычнага свісту. Дадон і сапраўды вытыркнуўся з вакна і махнуў нам рукой. Задыханыя, узбеглі на другі паверх і наляцелі на «радыста». Той, ні слова не сказаўшы, паказаў на перапэцканыя рошчынай драбіны, што стаялі на калідоры, і мы пацягнулі іх долу. «Да левага слупа цягніце!» — крыкнуў услед Дадон. Неўзабаве ён і сам выйшаў на двор, спрытна ўзлез на прыстаўленыя да слупа драбіны і стаў штосьці падціскаць пасаціжамі ў тым месцы, дзе правады лучыліся з рэпрадуктарам.

— Знайдзіце даўгую палку, — загадаў «радыст».

Доўга шукалі даўгую палку, але знайшлі толькі таполевы дубец.

— Раз, два, тры, чатыры, пяць… Гаворыць радыёвузел Азярышчанскага РДК… праверка сувязі, — азваўся рэпрадуктар і, памаўчаўшы, дадаў: — Паварушыце палкай дрот.

Дубец быў караткаватым, таму Мішка ўрэшце ўзлез мне на спіну і зварухнуў драціну.

— Раз, два, тры, чатыры пяць… праверка сувязі, — прагугніў «радыст».

Рупар больш не трашчаў.

Я схапіўся за драбіны, каб несці назад, але Мішка, пазіраючы на ваконную пройму, перахапіў іх, прыхінуў да сеткі і спрытна, як Дадон, пабег па папярочках. Скочыўшы на драўляны памост, сябар паглядзеў на расчыненае вакно і пабег завілымі зігзагамі па танцпляцоўцы, рассыпаючы молаты перац.

Мы падышлі да танцпляцоўкі, калі гучаў першы вальс. Танчыла, як заўсёды, адна пара: Ірка Беглік са сваёй сяброўкай, бібліятэкаркай Валькай Малышавай. Задзёршы галовы,

яны плаўна кружлялі, і нічога ў іх між ног, падобна, не шчымела. Мальцы тым часам таўкліся каля ўваходу.

Я тыцнуў нос у вочка сеткі, намагаючыся ўнюхаць казытлівы пах молатага перцу, і адчуў лёгкі штуршок.

— Гнядых! — прашаптаў Лёшка, увабраўшы галаву ў плечы.

Гнядых, кабета пенсійнага ўзросту, ачольвала бацькоўскі камітэт школы і жыла ў ваенным гарадку. Корга нават падчас вакацый цягалася на танцпляцоўку, а ўбачыўшы якога шкаляра, доўга ўшчувала. Маўляў, вучням школы рана наведваць падобныя мерапрыемствы. Гнядых наогул лічыла, што танцы — гэта штосьці страшнае, і іх варта прычыніць. На пару з ёю па пыльнай, закіданай вінным коркамі сцяжыне сунулася матэматычка па мянушцы Камбала, якую летась выправадзілі на пенсію. Мянушку такую Камбала атрымала дзякуючы воку, якое крыху касіла.

Звычайна стармодзіны чапляліся да тых, хто жыў у ваенным гарадку, а на нас, пасялковых, не звярталі ўвагі. Аднак мы на ўсялякі выпадак адышлі ад сеткі і прыхаваліся за кустамі.

Гнядых, якая ішла паперадзе, знянацку наструнілася, паказала рукой на касу — фарбаваную зялёнай фарбай будку з паўкруглай прораззю. Мы зірнулі ў той бок і ўбачылі Люську Анцыфераву. Люська якраз жыла ў ваенным гарадку і перайшла ў дзявяты клас. Дзеўка нахілілася да адтуліны, збіраючыся набыць квіток, і да яе падкацілі стармодзіны. Да нас далятаі толькі асобныя фразы.

— У цябе ж бацька гвардыі маёр… Ты сваімі паводзінамі ганіш школу… Тут збіраюцца развядзёнкі, мужыкоў сабе шукаюць…

Вальс скончыўся, і натоўп, які стаяў ля ўваходу, заварушыўся. Пачуліся першыя акорды «Туная», і на сярэдзіну пляцоўкі па старой завядзёнцы вылецеў Кудла. «Па-чынай!» — нема гракнуў весялун, і спявак Мануэль у рыфму заспяваў: «Тунай, тунай…»

Тупат добрай сотні ног скалануў прастору і заглушыў спевака. Сетка — нам было бачна здалёк — пачала зыбацца, і ў

паветры завіс лёгкі туманок. Кудла скакаў каля самай сеткі. Ён дзіўным чынам выгінаўся і пры гэтым трос патламі і матляў калашынамі штаноў.

— Жах! Ціхі жах! — гамзала Гнядых, зыркаючы на свайго былога вучня, і мы з Лёшкам пераглянуліся, дзівуючыся, — які ж гэта ціхі жах, калі ўсё наўкол грыміць і спявае?

Дзесьці ў траўні Гнядых спрабавала і Кудлу паўшчуваць. Маўляў, падстрыжыся, зарос як дзікабраз, і выцягні цыгарэту з зубоў, калі з табой старэйшыя размаўляюць. А весялун у адказ на пенсіянерку тытунёвым дымам дыхнуў і запрасіў «Тунай» станцаваць.

Гнядых з Камбалой падаліся на другі бок танцпляцоўкі, і мы падышлі ўсутыч да сеткі. Дадон тым часам паставіў павольны танец, і Ірка, вядома ж, запрасіла Ладся.

— Штосьці не бачна, каб ёй смылела, — працадзіў я скрозь зубы: Ірка, абхапіўшы «караля» за шыю, паволі гайдала важкімі клубамі.

— Пачакай… не ўзмакрэлі, — сябар з нянавісцю глянуў на Ірчын азадак.

На другім баку сеткі, перад нашымі насамі, сталі дзве дзявулі. Адна з іх, наваліўшыся плечуком на сетку, шморгнула носам.

— Кінь ты з-за гэтага ёлупня плакаць, — паведаміла другая дзявуля і таксама прыхінулася да сеткі.

— Ды не з-за яго… проста вочы агнём гараць.

Я адчуў, што і мае вочы смыляць, і пацёр іх далонямі. Тое ж самае зрабіў і Лёшка. Мы адбеглі ад сеткі. Нечакана танцоры пачалі гучна чхаць, расціраць вочы. Некалькі дзевак, прыціснуўшы рукі ніжэй чэрава і смешна раскідваючы ногі, выбеглі з пляцоўкі, і прастору скалануў Лосеўскі вокліч:

— Слезацечны газ пусцілі!

Усе рынулі да выхаду, а найбольш увішныя мальцы сталі пералазіць цераз сетку. Палезла цераз сетку і Ірка Беглік. Пры гэтым зачапілася краем сукенкі за драціну і павісла, матляючы загарэлымі сцёгнамі.

Ля выхаду была цэлая вайна. Там утварыўся затор, і сёй-той выпаўзаў з танцпляцоўкі вокрачч. Вокраччу паўзла і

Гнядых. Яе збілі з ног, і небарака, таксама агаліўшы жылаватыя сцёгны, з вохканнем паўзла да кустоў.

Ад нядаўняй пары сплю ў садзе, пад старой яблыняй. У траўні занёс сюды раскладанку, але тады даймала камарэча. А вось у жніўні камары зніклі, і спаць на вольным паветры проста мілата. Напачатку, праўда, увесь час прачынаўся: то яблык з шамаценнем упадзе ў траву, то певень загарлае, то суседскі цюцька забрэша. Цяпер жа не паспяваю прыціснуць вуха да падушкі, як правальваюся ў непрабудны сон. Сёння, аднак, ляжу без сну, пазіраючы на зоркі, што цьмяна свецяць скрозь цёмнае веццe. На другім канцы пасёлка, ля танцпляцоўкі, брэшуць сабакі, чуюцца кароткія воклічы і вуркоча матацыкл.

Пасля такой ганьбы Ірка на танцы не пойдзе, — думаю я, згадваючы, як тая вісела на агароджы з задзёртай сукенкай. А Лось тым часам яшчэ каго знойдзе. Рот крывіць адчайны позех, вочы заплюшчваюцца, і я бачу заплаканую Ірку на пероне вакзала і стрыжаную галаву Таляна ў тамбуры цягніка. «Буду пісаць кожны дзень!» — крычыць Ірка. Я на імгненне абуджаюся, бо на грудзіну падае крамяны яблык, падбіваю падушку і, па прыкладзе сябра, ужо ў сне, бязгучна шапчу: «Ну і сучка».

Раніцай мяне абуджае зычны лямант:

— Манька, ці чула ты?

Гэта гарлае старая Вазнячыха, хата якой стаіць поруч з нашай.

— Учора на танцах Васька Лосеў газ пусціў. Беглі адтуль — і туфлі пагублялі, і спадніцы падзерлі. Міліцыя на матацыкле прыязджала.

— Дык ён на танцы балон прыпёр? — азываецца Манька, яшчэ адна наша суседка.

Ля раскладанкі з працяглым шумам упаў яблык, і я не пачуў, што крыкнула Вазнячыха ў адказ.

Маці даўно прачнулася і, стоячы на ганку, пакуе сумкі. Сёння ідзём на базар — прадаваць гародніну са свайго гароду. Базар знаходзіцца ў ваенным гарадку і ісці даводзіцца аж

тры кіламетры. Яблыкі, буракі ды маладую бульбу возім на дабітым дзіцячым вазку, і мае аднагодкі з ваеннага гарадка, пабачыўшы з такой паклажай, свішчуць услед. Аднойчы, калі ішоў адзін без маці, вазок перакулілі ды сталі шпуляць нагамі буракі. Так што паходы на базар — сапраўднае выпрабаванне. Ды што зробіш. Бацькі ў мяне няма, а матчынага заробку на жыццё не хапае.

— Уставай, лежань, — крычыць маці, і я, пазяхнуўшы на поўную губу, панурваю ногі ў росную траву.

З Лёшкам убачыўся па абедзе, вярнуўшыся з базару. Не паспеў пераступіць парог іх хаты, як пачуў прыдушаны плач. Гэта румзала Лёшкава маці. Я падаўся назад, следам выкуліўся сябар, і мы сутыкнуліся на ганку.

— Памёр хто?

— Ды якое там памёр… ліст ад Таляна атрымалі.

— А што з ім?

— Зараз, — буркнуў сябрук і знік за дзвярыма.

Я сеў на ганак, з трывогай маракуючы — што б такое магло здарыцца з Талянам.

— Зірні, — ад парога выгукнуў Лёшка, працягваючы фотакартку.

На цупкім, з фотаатэлье, здымку стаяў Талян у вайсковай форме і абдымаў за плечы нейкую дзявулю.

— З кім ён?

— З нейкай Аксанай. Напісаў, што хутка дадуць адпачынак і яны разам прыедуць у Азярышча.

Я ўражана прысвіснуў.

— Дарма, выходзіць, на танцы бегалі ды за Іркай сачылі.

— Выходзіць, дарма, — сябар выхапіў з маіх пальцаў фотакартку.

— А чаму маці плача?

— Не хоча, каб з хахлушкай ажаніўся. Ды яна, як бацька памёр, з любой лухты плача.

Лезем з Лёшкам на сваё ўлюбёнае месца: на дах дрывотні.

— Спачатку ў кожным лісце Ірку згадваў, прасіў: напішы, як яна там. А потым аціх. Пару слоў напіша і годзе. Думаў,

за Ірку перажывае, а ён яе даўно з карабля спісаў, — Лёшка, працягнуўшы руку, дапамог узлезці на дах.

— А як ён з Аксанай пазнаёміўся, у казарме седзячы? — я здымаю кашулю, кладуся на нагрэты сонцам дах.

— Палкоўніка возіць на «казле», і той яго ў горад адпускае.

— Дык што, на танцы не пойдзем?

Лёшка лена махае рукой і пазяхае. Відаць, ноччу не выспаўся.

— Ці прыйдзе Ірка? — мармычу пасля хвіліны маўчання. — Ды і цікава паслухаць — што кажуць людзі пра ўчарашнюю эвакуацыю.

Ранейшым часам Лёшка падбіваў ісці на танцы, цяпер вось прыспела мая чарга, але сябрук, падобна, нічога не чуе. Сапе, паклаўшы рукі на грудзіну, і лёгкая парушынка мерна б’ецца пад носам.

«Дарма на Ірку абураўся», — думаю я, падставіўшы твар пад лагодныя сонечныя промні. Добра, што шлюбам не пабраліся. А збіраліся. Талян нават пярсцёнкі набыў.

Праз хвілю мне зноў сніцца заплаканая Ірка, якая кружляе з бібліятэкаркай Валькай пасярод пустой танцпляцоўкі, і з рупара гучыць салодкі голас Абадзінскага. Я прыхопліваюся. Здаецца, спаў адну хвіліну, а сонца паспела схавацца за Лёшкаву хату, а Дадон паспеў завесці Абадзінскага.

Сябрук прачынаецца, і мы, пераглянуўшыся, з’язджаем на азадках па спусцістым даху.

# ГАРАЧЫМ ПОЎДНЕМ

Сонца ад самага ранку бязлітасна смажыла, і неба было як ніколі сінім. Такім сінім, што, здавалася, з-за небасхілу, прычым адразу з усіх бакоў, уздымалася цёмная хмара.

Качар Цімох, які дагэтуль беспрытульна блукаў па двары, забіўся ў цянёк і згадваў учорашнюю залеву. Дождж сігануў такі густы і напорлівы, што на дарозе каля хаты вомігам утварылася разлеглая лужына. Дождж яшчэ не скончыўся, яшчэ біў па зямлі буйным шротам, а качкі на чале з Цімохам ужо боўталіся ў лужыне. І хаця лапы краналіся слізкага дна, усё адно паплаваць, хай і ў бруднаватай вадзе, было вялікім задавальненнем. Дый не толькі для качак. Плюхнуліся ў лужыну і два суседскія гусакі, і таксама задаволена гергеталі. Гусі, адзін шэры, другі белы, надта ганарыстыя, і аднойчы балюча скубанулі качара за шыю. Сёння ад ранку Цімох пабег да лужыны, але за ноч яна высахла і давялося адно прайсці па вязкай гразі, пакінуўшы на ёй адбіткі фігурыстых, падобных на кляновае лісце, лап.

Качар атрымаў сваю мянушку ў гонар суседа, у якога жылі гусі. Суседу Цімоху стукнула восемдзесят гадоў, у старога балелі ногі, таму ён хадзіў па-качынаму валюхаста, матляючы сівой галавой. А назваў так качара Юрка — сын гаспадыні. Вось ён, дарэчы, выйшаў з хаты і салодка пазяхнуў.

— Горача, браток? — спытаў Юрка, убачыўшы Цімоха. Цімох у адказ бязгучна кракнуў.

— Зараз табе вады налью, — хлопец пайшоў да калодзежа і неўзабаве плюхнуў халадзёнкі ў старыя ночвы, якія стаялі пасярод двара.

Цімох, а разам з ім і качкі, якія блукалі па двары, падбеглі да ночваў, пачалі прагна піць, задзіраючы ў гору пляскатыя дзюбы, нарэшце, з гучных краканнем, сталі панурваць у ночвы галовы.

— Пакупацца б, — уголас прамовіў хлопец, пазіраючы на качак. Ды як пакупаешся, калі да бліжэйшага возера шэсць кіламетраў, а рачулка Аўсянка, якая цякла праз вёску, была метр шырынёй, ад чаго атрымала неафіцыйную назву Пераплюйка.

Юрка з крывой грымасай памружыўся на сонца, падліў у ночвы вады. Нечакана хлопец застыў у задуменні, выпусціў з рук грымлівае вядро, злёгку перапудзіўшы качак, і парывістым крокам рушыў да весніц.

«Да Мішкі пайшоў», — падумаў Цімох, страсянуўшы мокрай дзюбай і замахаў крыламі, адганяючы ад ночваў курэй. Тыя таксама хацелі наталіць смагу.

…Сябар Мішка сядзеў ля хаты, у цяню разгалістай яблыні, і хрумстаў белы наліў.

— Ну і спёка! — выдыхнуў Юрка, заходзячы на двор.

Нічога не сказаўшы, сябрук кінуў яму сакаўную налівіну.

— Пакупацца б, — Юрка кусынуў спелы яблык.

— Дзе? У Пераплюйцы?

— У Пераплюйцы, — кіўнуў сябар.

— Давай. Як паплывеш? Брасам ці кролем?

— Я сур’ёзна, — з крыўдай у голасе мовіў сябрук, праглынуўшы недажаваны кавалак яблыка. — Давай запруду паставім. Падымем ваду хаця б на метр. Можна будзе і брасам праплыць.

— Запруду? На Аўсянцы? Ды як ты яе зробіш? Калі б якую бетонную пліту ўпоперак паставіць — тады б, можа, вадасховішча і ўтварылася. А ты з чаго збіраешся яе рабіць?

— Бачыў аднойчы такую запруду. Рыбакі зрабілі. Набілі калоў і пераплялі лазовымі прутамі.

— А дзе калы возьмеш?

— На Старасцішыным агародзе.

Гадоў пяць таму памерла дзевяностагадовая Старасціха, што жыла ў канцы вясковай вуліцы. Хата яе цяпер стаяла збуцвелая ды закінутая, і агарод зарос лебядой.

— Марны занятак. Вада праз такую запруду лёгка прасочыцца, — Мішка сплюнуў яблычную семку.

— Сядзеўшы седма, сапраўды нічога не атрымаецца, — буркнуў сябрук.

Мішка хвіліну моўчкі грыз яблык, пасля чаго шпурнуў недагрызак і падхапіўся на ногі.

Калы, якія выцягнулі з зямлі, на доле падгнілі, і давялося іх абчэсваць сякерай, якую Мішка прыхапіў з дому. Абчасаўшы дванаццаты кол, Мішка выцер пот з ілба і прашаптаў:

— Хопіць.

Цягалі абчасаныя друкі да ракі ў два заходы. Яны хоць і ссохлі на ветры ды сонцы, але ладна важылі. Заадно адарвалі ад ганку Старасцішынай хаты шырокую дошку..

Рака Аўсянка пачыналася з дзвюх крыніц, што білі з зямлі ў кіламетры ад вёскі. Цякла яна паміж густых кустоў і толькі ля моста вырывалася на паляну. У гэтым месцы сябры і вырашылі ставіць запруду.

Забіваць калы ў пясок — занятак даволі цяжкі. Білі з усяе моцы абухом, аж сякера звінела, а кол пасля ўдару заходзіў у зямлю на нейкіх пару сантыметраў. Першыя тры сяк-так увагналі. Бліжэй да рэчкі, аднак, пачаўся жвір з дробнымі каменьчыкамі, і калы ў зямлю не лезлі.

Хлопцы, змучаныя працай і пякучым сонцам, селі на беразе, зморана перавялі дых. Невядома, колькі б так сядзелі, але тут за іх спінамі затарахцеў «Беларус».

— Тын упоперак рэчкі ставіце? — крыкнуў, пад’ехаўшы да моста, трактарыст Васька Бохан.

— Не тын, а запруду, — азваўся Юрка.

— Запруду? А навошта?

— Плаваць будзем.

Трактарыст выкінуў з кабінкі цяжкую кувалду.

— Вось чым трэба забіваць, — Васька Бохан скочыў на зямлю.

Папляваўшы на рукі, Васька забіў кол пасярод рачулкі.

— Няма часу з вамі валэндацца, — трактарыст чарпануў далонямі вады, пырснуў на твар. — Кувалду вам пакіну. Буду ехаць з поля, забяру. Глядзіце толькі, нікуды не знясіце.

«Беларус», уздымаючы пыл, схаваўся за паваротам.

Справа пайшла спрытней. Праўда, махаць кувалдай даводзілася праз сілу, і хлопцы, зрабіўшы тры-чатыры ўдары, падоўгу адпачывалі.

Тым часам навакол сабралася вясковая малеча, а за іх спінамі хадзілі, прыўзняўшы крылы, два гусака з падворку старога Цімоха. Гусакі хацелі папіць вады, а падысці да рэчкі не было як, і яны незадаволена гагаталі.

Нарэшце калы былі забітыя, і Юрка зморана паваліўся на траву, прычым, у абдымку з кувалдай. А вось сябар нібыта і не змарыўся. Узяў сякеру, пайшоў да бліжэйшых кустоў і адтуль крыкнуў малечы, каб насілі да запруды лазовыя дубцы.

Перш, чым плесці тын, сябры паставілі папярок плыні шырокую дошку, і Аўсянка выйшла з берагоў.

— Ну і рэчка… курыца ўброд пераходзіць, — прамармытаў Юрка, падсыпаючы пад дошку каменьчыкі.

— Нармальная рака. 90 кіламетраў даўжынёй. Праз пяць азёраў цячэ, — Мішка заплёў вакол калоў першы дубец.

— А ты адкуль ведаеш?

— У энцыклапедыі прачытаў, — з годнасцю ў голасе паведаміў Мішка. Сябар быў вялікі аматар кніжак і вольным часам сядзеў у бібліятэцы.

Тын ужо быў сплецены на добрых паўметра, аднак вады ў «вадасховішчы» амаль не прыбыло. Вада цурчэла, працякаючы праз пераплеценыя лазіны, як праз сіта. Насупіўшы бровы, Мішка пачаў выцягваць лазіны ды кідаць на бераг.

— Усё гэта лухта. Тут патрэбны іншы матэрыял.

— Бетонная пліта? — хмыкнуў Юрка.

Мішка той жарт прапусціў міма вушэй.

— Ля фермы ўвесну расаду садзілі. Там у яме падзёртай поліэтыленавай плёнкі да халеры.

І хлопцы, не апранаючыся, пабеглі да фермы.

Плёнка, перакручаная і пазелянелая ад вільгаці, ляжала ўпярэмешку са смеццем на дне вялізнай ямы. Ладна папоркаўшыся, сябрукі выцягнулі некалькі даўгіх палос. Яны зеўралі дзіркамі, але адна паласа была амаль цэлая.

— Тоўстая, павінна вытрымаць, — выгукнуў Мішка, цягнучы жмутак поліэтыленавай плёнкі.

— А як мы яе прымацуем? — Юрка ледзь паспяваў за сябрам.

— Не твая турбота, — прамармытаў сябрук, а калі падышлі да рэчкі, Мішка кінуў плёнку, прыхапкам апрануўся і пабег у бок клуба.

Вярнуўся ён даволі хутка, трымаючы нешта ў кулаку. Гэтае «нешта» ціхенька грукала.

— Кнопкі пазычыў у бібліятэкаркі, — зазначыў Мішка, скідваючы порткі. — З меднымі галоўкамі. Тое, што трэба.

Склаўшы адну з палос у дзве столкі, хлопцы расцягнулі яе ўздоўж калоў, «вадасховішча» выйшла з берагоў, і хлопцам давялося тыцкаць кнопкі ў поліэтылен, седзячы па горла з вадзе.

— Халодная, хале-лера, — дрогкімі вуснамі прамовіў Юрка, мацуючы плёнку да ніжняй дошкі.

— Дык вада з крыніцы, — такім жа дрогкім голасам адказаў Мішка. — Рэчка скрозь кустамі зарасла. Вада і не грэецца.

…Наваколле скаланалася ад дзіцячага віскату. Мальцы навыперадкі лезлі ў рэчку, пырскаліся і плавалі па-сабачаму, а дзяўчынкі стаялі ў плыткім месцы, узяўшыся за рукі, і гучна гойкалі: «Баба сеяла гарох!…» Ну а зводдаль стаялі два гусака і надрыўна гергеталі. Між тым вада з ціхім шумам перакочвалася праз верх запруды.

— Па абедзе наверх аполак прыб’ём, каб поліэтылен не падзёрся, — пралепятаў Мішка сінімі вуснамі. Начабохтаўшыся ў крынічнай вадзе, хлопцы сядзелі на беразе і злёгку трэсліся.

Над дарогай узнялася аблачына жоўтага пылу, і да моста пад’ехаў Боханаўскі трактар.

— Ого! — Васька скочыў з прапыленай кабінкі.

Трактарыст падхапіў кувалду, але, падумаўшы, зняў кашулю, скінуў карэлыя кірзачы, порткі і з лямантам абрынуў у ваду. Малеча спехам вылезла на бераг.

— Халодная… у-ух! — гарлаў Васька Бохан, заграбаючы цёмнымі ад саляры рукамі і шалёна лупячы нагамі.

Юрка з Мішкам з насцярогай глядзелі на запруду — ці вытрымае яна хвалі, узнятыя трактарыстам. Бохан тою парою раскрыліў рукі і гойдаўся на вадзе як тапелец, але нечакана з такім натхненнем загарлаў, што дзятва пужліва адскочыла ад берага, а гусакі загергеталі і паспрабавалі ўзляцець. Паплаваўшы дасхочу, трактарыст вылез вады, задаволена аддзьмухнуўся.

— Скончу працу — яшчэ раз нырцану, — узяўшы ў рукі кірзачы, трактарыст залез у кабінку. — Смецце ды поліэтылен прыбярыце. На пляжы павінна быць чыста.

Хлопцы сабралі смецце, закінулі ў яму каля фермы і выправіліся абедаць, дамовіўшыся сустрэцца праз гадзіну. Разам з імі падалася дахаты і малеча. На «вадасховішчы» засталіся толькі гусі, якія плавалі ля берага і раз-пораз панурвалі галовы ў ваду, шукаючы на дне якой пажывы.

Ідучы тупкай сцяжынай, Юрка сустрэўся з Цімохаўкай, жонкай старога Цімоха. Пару тыдняў таму Юрка з сябрам залезлі ў суседскі сад і страсянулі яблыню-ранетку. Такіх салодкіх ранетаў няма ва ўсёй вёсцы. Пасля таго Цімохаўка хадзіла лаяцца да Юрчынай маці, а пры сустрэчы з Юркам таго ва ўпор не заўважала і не віталася. Старая несла ў руцэ самаробную дарожку. Убачыла, відаць, што на рэчцы сажалку зрабілі — вось і несла паласкаць.

«Людзі купаюцца, а яна свае брудныя мэтлахі мыць збіраецца», — хлопец працяў зласлівым позіркам бабчыну спіну, і тут жа заўважыў качара Цімоха. Той шыбаваў, раскрылены, а за ім, на значнай адлегласці, беглі качкі.

— Куды ты? — крыкнуў Юрка, але качар нават не кракнуў у адказ. Не было калі. Бо наперадзе бліскала на сонцы сапраўдная сажалка, па якой плавалі суседскія гусакі.

Цімох з усяго маху рынуў у ваду. Упершыню пад ім былі не ночвы, не брудная лужына, а сапраўдны вадаём, дна якога не дастаць ні дзюбай, ні лапамі. Гусі, белы і шэры, паглядзелі ў яго бок.

«Гэта я навёў на розум Юрку зрабіць запруду», — хацеў сказаць Цімох гусям, ды падумаў, што ганарлівіцы не дадуць таму веры, і шчасна залапатаў крыламі.

# ЖАРТ

— Ідзе! — шэпча Мішка Мазур, прыўзняўшы галаву.

Па двары, прыпадаючы на левую нагу, тупае старая Задорыха з чацвёртага пад'езда. Страшэнна злая цётка. Аднойчы ёй выпадкова мячыкам стукнулі, дык паўдня галёкала ды абяцала мячык шылам прабіць.

Мы сядзім за агароджай, які атачае дзіцячы садок. Агароджа з драцяной сеткі і ўсцяж абсаджаная кустамі. Так што нас з Мішкам са двара не відаць.

Задорыха цяжка аддзімаецца, перакідвае з рукі на руку авоську з боханам хлеба і нечакана застывае нерухома. Мішка тыцкае мяне локцем. Маўляў, не расслабляйся. Але я і без таго ўвесь напружаны. Нітку трэба тузануць у той момант, калі старая нахіліцца і пацягнецца за кашалём. Задорыха адразу не нахіляецца. Азіраецца, матляе авоськай, нарэшце прысядае — і я тузаю нітку. Недарэка спалохана падскоквае, а глянуўшы ў наш бок, хуценька тупае да свайго пад'езда.

Хоць і прывязалі шэрую нітку, аднак пасля кожнай тузаніны даводзіцца бегчы і прысыпаць яе пяском, каб не была бачна. Мішка бяжыць да кашаля, і я з зайздрасцю гляджу яму ўслед. На сябруку навюткая саколка з надпісам «Бургас» на грудзіне. Бургас — горад у Балгарыі, куды ягоны бацька, галоўны інжынер камбіната, нядаўна ездзіў. Там пабудавалі такі ж камбінат, вось галоўны інжынер і гойсае туды. Ці то пераймаць, ці то дзяліцца перадавым досведам. Надоечы паглядзеў у атласе, дзе гэты Бургас знаходзіцца. Аказалася, на беразе Чорнага мора. Пабачыць мора — гэта мая мара. Цяпер яна набыла геаграфічную прывязку: хачу пабачыць яго менавіта

ў Бургасе. І не толькі ўбачыць, але і нырцануць у пеністую марскую ваду. На дварэ сярэдзіна траўня, а ў моры, як казаў Мішкаў бацька, ужо купаюцца.

Сябар раскрывае кашэль, пхае газетныя абрыўкі. Вырашыў зрабіць яго больш вабным. Кашэль старамодны, дарэшты зацяганы. З такімі зараз адны нядошлыя пенсіянеркі ходзяць. І тое не ўсе. Калі яго раскрыць, ён падобны на жабу з разяўленым ротам. А зачыняецца з дапамогаю двух жалезных шарыкаў, якія з гучным пстрыканнем заходзяць адзін за адзін. Набіўшы кашэль так, што той робіцца круглым, Мішка прысыпае нітку пяском і бяжыць да агароджы.

— Двое п’яных па курсе! — гукае сябар, пераваньваючыся цераз агароджу.

Леваруч, з-за рогу майго дома, няцвёрдай хадой сунуцца два п’яныя дзяханы. Адзін з іх Задорысісшын сусед, якога завуць Зайцам. Не ведаю нават, прозвішча такое ці мянушка. Падышоўшы бліжэй, Заяц раптам адкідваецца назад, выстаўляе палец.

— Лёха, глянь!

Сябрук п’янавата глядзіць туды, куды паказвае Заяц, і плюхаецца на калені. Пры гэтым з галавы ягонай злятае капронавы капялюш ды агаляе чырвоны плех. Пляшак абедзвюма рукамі пнецца схапіць кашэль, і я торгаю за нітку. Кашэль ад’язджае на метр, Лёха зноў, як той раз’юшаны леў, кідаецца на кашэль, і я зноў торгаю нітку. Лёха намагаецца схапіць круглявага бегляка, і з усяго маху тыцкаецца лбом у драцяную сетку. Мы з Мішкам адбягаем метраў на дваццаць. Чорт яго ведае, таго Лёху. Можа, раз’ятрыцца ды кінецца за намі? Тым часам Заяц, закінуўшы галаву на карак, адчайдушна рагоча.

— Думаў, Лёха, поўны кашалёк грошай? — скрозь смех пытаецца Заяц, падхапіўшы з зямлі капялюш, — Во п’янку ўчынілі б!

Лёха выцірае рукавом потную лабаціну, вінавата пасміхаецца. Міма ідзе цётка ладнага веку. Прыспешыўшы крок, цётка ўбівае голаў у плечы і ледзь чутна выдыхае: «П’яніцы няшчасныя».

Па двары ўпэўненым крокам шыбуе Пісьменнік. Так завуць дзядзьку, які жыве ў суседнім доме і друкуе ў камбінатаўскай шматтыражцы раздзелы са свайго рамана. Бацькі выпісваюць шматтыражку, і я некалькі раздзелаў прачытаў. У першым урыўку галоўны герой працаваў таваразнаўцам, у другім ён ужо дырэктар універмага, а ў апошнім яго прызначылі міністрам гандлю. Сам Пісьменнік працуе загадчыкам крамы «Прамтавары». Там не так даўно прарвала трубу і затапіла падвал, дзе быў склад. Хадзіла пагалоска, што раманіст сам учыніў тую аварыю, каб спісаць тавар напярэдадні рэвізіі.

Раманіст падыходзіць да кашаля, дакорліва пасміхаецца. Мінулым разам ён спрабаваў неўпрыкмет падхапіць кашэль, таму і састроіў гімору.

— «Гады, аддадзеныя нялёгкай гандлёвай справе, дапамаглі яму стварыць запамінальную галерэю нашых сучаснікаў, якія паўстаюць у рамане», — мармыча Мішка. Сябрук цытуе прадмову да рамана, якую друкуе газета. У Мазура выдатная памяць. Можа прачытаць даволі вялікі тэкст і тут жа працытаваць.

Нізкаперслы, незнаёмы дзяхан у пакамечаных штанах і такім жа пакамечаным пінжаку праходзіць міма кашаля, не звяртаючы на яго ўвагі. Аднак, здаецца, кашэль ён усё ж такі прыкмеціў, бо пачаў круціць галавой ва ўсе бакі.

— Фізічка! — з інтанацыя панікі выдае Мішка, і я спехам накручваю нітку на палец.

Настаўніца фізікі Элеанора Іларыёнаўна сунецца са сваім заўсёдным пацёхканым партфелем у руцэ. Кашэль паўзе па пяску, і Элеанора Іларыёнаўна, прымружыўшы падслепаватыя вочы, адступае на пару крокаў і подскакам шыбуе ў адваротны бок. Падумала, відаць, што пацук паўзе ці яшчэ якая гідота.

Я выцягваю з-пад агароджы кашэль. Сонца прыпякае спіну, ды і сядзець на кукішках абрыдла. Мы з Мішкам задаволена пацягваемся. Праз пяць дзён пачнуцца вакацыі. Між тым надвор'е ўжо летняе і самы час пайсці на рэчку пакупацца. Цёмны цень слізгае па агароджы, Мішка знянацку адхінаецца,

і вуха маё працінае боль. Нехта ўшчаперваецца пальцамі ў вуха, а потым у валасы на скроні. Ад болю нават падгінаюцца калені. Краем слязлівага вока бачу пакамечаныя штаны. Гэта той дзядзька, які надоечы ішоў па двары. Мая ніжняя губа дробна дрыжыць ад пякучай крыўды.

— А ну, пайшлі за мной! — дзядзька са злосцю высмыквае з маіх рук кашэль. Дзядзька нізенькі, з густымі, як у гумарыста Штэпселя, чорнымі бровамі. Мне б сігануць прэч. Невядома — хто гэта. Можа, які злодзей. Але я рашуча іду за Штэпселем. Мішка хапае за кашулю, маўляў, ну яго, але я адмахваюся. «Будуць тут вушы круціць усякія», — думаю, паспяваючы за дзядзькам і выціраючы слёзы з вачэй. Ззаду, адстаўшы метраў на пяць, валачэцца сябар. Спачатку дзяхан кіруе ў бок Дома спецыялістаў, дзе жыве Мішка Мазур, а неўзабаве заварочвае на Лясную вуліцу. Цяпер зразумела, куды ідзе. На гэтай вуліцы месціцца міліцыя. Я нават узрадаваўся. Раскажу міліцыянтам, як Штэпсель дзёр мне валасы. А за што? За тое, што кашэль ставілі? Дык гэта жарт, а не злачынства. Вунь, Заяц з чацвёртага пад’езда нават пасмяяўся.

Спатыкаюся на высокіх прыступках, і праз імгненне бачу зашклёны катух з надпісам «Дзяжурны», за якім сядзіць міліцыянт і размаўляе па тэлефоне. Дзяжурны ківае галавой і я разумею, што Штэпсель таксама міліцыянт. Але чаму ён не ў форме? Сунуся даўгім калідорам, і нос казыча агідны пах мачы. Відаць, недзе непадалёку прыбіральня. Міліцыянт заводзіць мяне ў канец калідора. Ключ са злавесным скрыгатам паварочваецца ў шчыліне.

— Давай-давай… смялей, — падганяе міліцыянт Мішку, які нерашучым крокам цягнецца следам.

У пакоі пахне нейкай тхлінай.

— У вас першы прывод у міліцыю? — пытаецца Штэпсель.

— Мы самі прыйшлі. Ніхто нас не прыводзіў, — кажу ў адказ.

Дзяхан паволі здымае пінжак, вешае на спінку крэсла.

— Ты, смаркач, не зразумеў, куды патрапіў. Я табе зараз растлумачу.

Перад носам мільгае далонь, і кароткая ўспышка болю азываецца ў патыліцы. Міліцыянт хапае мяне за валасы і зноўку — рубам, рабром далоні, — б'е па шыі.

— Я цябе навучу паважаць дарослых. Больш вы свае кашалькі ставіць не будзеце. І не такіх абломвалі.

Столь і падлога мяняюцца месцамі. Я падаю, спрабую адпаўзці ад страшнага дзядзькі і тут жа, атрымаўшы выспятка ў хвасцец, б'юся галавой аб сценку.

— Лезь пад стол, сука!

Уваччу брыніць, падлога круціцца пада мною. Я запаўзаю ў атвор пісьмовага стала, спрабую падняцца, і стол завісае на карку.

— Стой, б…ь, — дзядзька цягне за калашыну. Пачуўшы пагрозлівае: «Устаць», — з цяжкасцю падымаюся на ногі.

— Так, зараз з табой разбярэмся. Як прозвішча? — далятае скрозь замарачны шум злавесны голас.

Мішка ставіць, прыціснуўшыся лапаткамі да дзвярэй. Сябар варушыць вуснамі, але я нічога не чую.

— А кім працуе твой бацька? — прарываецца скрозь шум.

Мішка зноў мыліць вуснамі.

— Уладзімір Іванавіч! — з інтанацыяй лёгкага перапалоху гукае Штэпсель. Дагэтуль зыркаў на Мішку прыгнуўшы галаў, а тут раптам выструніўся, як жаўнер у шыхце.

Мішка з дзядзькам яшчэ аб нечым перамаўляюцца. Падлога ходзіць ходырам, і мяне цягне на ваніты. Хтосьці ляпае па плячы. Дзядзькаў твар свеціцца, як травеньскае сонца.

— Глядзіце, хлопцы, больш так не рабіце, — далятае аднекуль здалёк ліслівы голас, і я іду да дзвярэй.

Хуценька прабягаю па калідоры, адчыняю дзверы і, нахіліўшыся над прыдарожнымі кустамі, здушана вякую. Ванітаваць няма чым, і даводзіцца змахнуць з вачэй слязіну.

— Ну, як ты? — торгае сябра падбароддзем.

Такое ўражанне, што ў горле штосьці захрасла — халоднае і круглявае. Ні пракаўтнуць, ні пракерхацца. Таму і не магу гаварыць. Да таго ж, не даю рады павярнуць галаву.

— Гэта ў «кінах» мільтоны лагодныя і далікатныя. Бабулек праз дарогу пераводзяць, — Мішка, насупіўшы бровы,

глядзіць на абабітыя бляхай дзверы, з якіх мы выкуліліся. — Раскажу пра гэта бацьку. Ён жа не толькі дырэктар, але і дэпутат.

«Ніколі не звязвайся з міліцыяй», — згадваю матчыны словы і шапчу са стогнам:

— Не трэба.

— Не трэба? Ён наогул не меў права біць, бо мы непаўналеткі.

— І што ты скажаш? Што мільтон мяне натоўк? А ён скажа, што гэта хлусня і што мы шыбы білі на будоўлі, — на мінулым тыдні наш аднакласнік Толік Савейка разбіў шыбу, а вартаўнік свавольніка прыхапіў ды ў міліцыю зацягнуў. Талян у суседнім пад'ездзе жыве, але я і праз шэсць сцен чуў, як бацька яго рэменем хвастаў, а той гарлаў на ўсе застаўкі. Вось і мой бацька — даведаецца пра мае прыгоды, таксама можа пытлю задаць. Проста так у міліцыю не забіраюць.

— Біў, гад, далонню, каб слядоў не пакідаць, — голас Мішкавы гучыць глуха, як з бочкі. Торкаю палец у правае вуха. Сябар штосьці кажа, але чую толькі аднастайны шум. Усё адно як вада падае ў душы.

— Не чую адным вухам, — выдыхаю з натугай.

— Калі і сапраўды аглухнеш — тады дакладна раскажу, — Мішка са злосцю б'е мыском чаравіка па каменьчыку, што ляжыць на ходніку.

Матка спытае, чаму шыя чырвоная, скажу — на фізры ўзлез па канаце, а як спускаўся, нацёр, — разважаю, раз за разам тыцкаючы палец у аглухлае вуха. Мы паварочваем з Лясной на Савецкую, і сябар знянацку жвавее:

— Як пра бацьку пачуў, з твару змяніўся. То біць збіраўся, а тут вочы вылупіў: «Уладзімір Іванавіч?! Што ж ты адразу не сказаў?!» — Мішка зморана аддзімаецца. — А калі б у мяне быў бацька простым рабацягам — можна было б ляпіць кухталі па поўнай праграме? Памятаеш, творапіс пісалі па чэхаўскім «Хамелеоне». «Прагнілы царскі рэжым… лёс сабакі залежыць ад таго — хто ў яе гаспадар… падхалімы і прыстасавальнікі — галоўная апора самаўладдзя». А тут прыстасавальнікі страшнейшыя ад царскіх.

Хаця галава ідзе кругам і чуе толькі адно вуха, але слухаю Мішку з цікаўнасцю. Мы з ім другі год сядзім за адной партай, і за гэты час пачуў ад сябра шмат чаго новага.

— Маці аднойчы сказала, што міліцыя служыць не народу, а савецкай уладзе, — дагэтуль я ішоў леваруч ад сябра, а пасля такіх ягоных слоў перайшоў на другі бок — каб лепш чуць. — А бацька сказаў, што незалежнае мысленне — гэта добра, але трэба трымаць язык за зубамі.

Матка ў Мішкі разумная жанчына, універсітэт скончыла. Абы-што балбатаць не будзе.

— Дык усюды ж пішуць: савецкая ўлада — самая добрая ў свеце.

— А хто піша? Такія ж нанятыя людзі.

Каля Мішкавага дома паціскаем адзін аднаму рукі. Толькі цяпер заўважаю, што на палец наматаная нітка.

— Кашалёк забраў, падлюка, — гукае сябар ужо з другога боку вуліцы.

Стаю на ходніку, у задуменні размотваю нітку, і тая самая старая цётка, якая лаялася на п’яніц, абмінае мяне і праз колькі метраў азіраецца.

# КАЖАН

— Раз… два… тры… чатыры… пяць… — натхнёна лічыць Мішка, а ляснуўшы картачнай калодай шостым разам, пераможна выдыхае: — Шэсць!

— Я цябе так не ляскаў, — кажу Мішку, прыклаўшы далонь да правага вуха. — Яно гарыць агнём, і ў мяне ад болю пачынае торгацца вока.

Урэшце, мне пашанцавала: выцягнуў шасцёрку. А Мішку мінулым разам дастаўся туз, і я ляснуў сябра адзінаццаць разоў. Пасля таго вуха ў сябрука адтапырылася і набыло ліловую водцень.

Мы з сябрам сядзім на вышках і рэжамся ў дурня. Той, хто прайграе, цягне з калоды карту і атрымлівае адпаведную колькасць удараў па вушах.

— Здавай, — мармыча Мішка, я тасую пацёхканую калоду і прыслухоўваюся.

Знадворку пырснулі смехам, стоена загаманілі. Гэта Нюрка, Мішкава сястра, забегла на двор са сваімі сяброўкамі.

— Ой, дзяўчаты, — азываецца Нюрка. — У Азярышчы кажан дзяўчынцы ў валасы ўбіўся. Самлела, кажуць. Добра, людзі ўбачылі, у бальніцу завезлі.

— А што, так ублытваюцца, і выцягнуць нельга? — па голасе пазнаю рабаціністую Верку, сваю аднакласніцу.

— Нельга! З валасамі выстрыгаюць, — тлумачыць Нюрка. — Яны і чалавечую кроў смокчуць!

Мішка дакорліва трасе чупрынай, набірае паветра, каб свіснуць у чатыры пальцы, але я тузаю яго за рукаво. Маўляў, давай паслухаем — што яшчэ скажуць.

— І смокчуць толькі ў дзяўчынак, — сцішана прамаўляе Нюрка. — Уночы заляцяць у расчыненае вакно, палятаюць над галавой, а потым сядуць на шыю, перакусваюць жылу і смокчуць, падлюкі.

— А чаму ж дзяўчынкі не прачынаюцца? — падключаецца да размовы яшчэ адна сяброўка.

— Яны сваімі крыламі, калі над галавой лётаюць, закалыхваюць. Ніколі не прачнешся. Нездарма кажаны вакол вядзьмарак круцяцца.

— А ў мужыкоў чаму не п'юць? — пытаецца рабоха Верка. — Вунь, нашага суседа Фарзуна і закалыхваць не трэба. Кожны вечар спіць п'яны ля хаты.

— Ад той крыві сп'янееш. Ды паляціш немаведама куды.

Я плюю на мезенец, збіраючыся раздаваць карты, і знадворку бразгае конаўка — дзеўкі п'юць ваду з вядра.

— Маці казала, кажаны на белае ляцяць, — задыхана, няйначай, цэлую конаўку выпіла, — тлумачыць рабоха. — Варта ноччу прасціну на траве разаслаць, як тут жа кажан плюхнецца.

— Ну плюхнецца. І ты яго ў рукі возьмеш? — азываецца Люська, і брат, якому абрыдла гэтая балбатня, аглушальна, у чатыры пальцы свішча.

Дзеўкі здушана смяюцца, ляпаюць босымі нагамі, і я збіраю карты ў калоду. Стаміўся ўжо граць, ды і вушы апухлі.

— Трынаццаць гадоў дзеўцы, а розуму ні каліва, — кажа братан пра сястру, спускаючыся з вышак.

Спусціўшыся долу, мружымся на сонца — вочы звыкліся з паўзмрокам, — і абабіваем порткі.

Вушы Мішкавы працятыя зыркім святлом. Гараць як макі. Мае таксама гараць, і я раз-пораз цісну да іх далоні.

— А ты сам у руках трымаў? — пытаюся ў сябра.

— Каго?

— Ну гэтых… кажаноў.

— Толькі ў небе бачыў, — мармыча сябар, а падумаўшы, пажвавелым голасам прамаўляе: — Таксама чуў, што на прасціну садзяцца. Трэба паспрабаваць злавіць.

— Дык мо сёння і паспрабуем?

— Давай, — падхопліваецца сябрук. — Маці будзе ўвечары карову даіць, я тым часам прасціну сцягну.

У прадчуванні, што ўвечары злапаем жывога кажана, паціраю рукі.

— Карацей, збіраемся ля сажалкі. Іх там процьма лётае, — Мішка падстаўляе руку, і я на знак згоды пляскаю па сябруковай далоні.

Адвячоркам сядзім на беразе сажалкі і ўтрапёна пазіраем на пунсовы небасхіл. Кажаноў пакуль што не відно. Але яны, па сведчанні сябра, вось-вось павінны з'явіцца.

Прастора поўніцца вечаровымі зыкамі. На ферме гудуць даільныя апараты; у клубе круцяць кіно, поўнячы паветра няўцямнай музыкай; у хлявах рыкаюць каровы, чакаючы, калі іх падояць, а непадалёку незадаволена гергечуць гусі. Гусі плавалі ў сажалцы, але мы іх усіх разагналі, і цяпер гергуны ідуць, павольна і валюхаста, да сваіх хат.

— Я ў часопісе чытаў, што кажаны сляпыя, — сябрук нервова пакусвае травінку.

Часопіс той называецца «Техника — молодёжи». Яго выпісвае наша вясковая бібліятэка, і Мішка з нецярплівасцю чакае кожны нумар.

— А што, у іх вачэй няма? — пытаюся, не даючы веры Мішкавым словам.

— Вочы ёсць, ды яны нічога не бачаць. Як мая бабуля. Два гады таму аслепла. Толькі як на сонца паглядзіць, светлую пляму бачыць.

— А як жа лётаюць?

— Яны жывыя радары.

— Хто-хто?

— Ра-да-ры, — па складах прамаўляе сябар. — Пасылаюць наперад ультрагукавы сігнал, і калі наперадзе камар ці якая мошка, ён ад іх адбіваецца, і кажан ведае, куды ляцець і каго глытаць.

Я з недаверам хмыкаю. Пакуль той сігнал пусціш, пакуль прымеш, у сценку ляснешся.

— А кроў п'юць? — пытаюся, кусулушы па Мішкавым прыкладзе салодкі канец травінкі.

Сябар абурана трасе чубам.

— Ты больш маю Нюрку слухай. Яна такога напляце, што ноччу не заснеш. — Памятаеш, у суботу па абедзе навальніца была? Дык вось, сабралася ў самую залеву хмары разганяць.

Настаўляю на сябра цікаўныя вочы.

— Як разганяць?

— А так… з дапамогай жабер-травы. Ёсць такая, расце каля дарог. Нібыта трэба набраць яе, стаць пад дажджом і з крыкам: «Разыдзіцеся, хмары!» — раздзерці над галавой. Карацей, змокла як цуцык. Маці яе ганяла.

Сябар крыху памаўчаў.

— У часопісе пісалі, што, у адрозненне ад птушак, кажаны абсалютна карысныя істоты. Птушкі, вядома, таксама жамяру знішчаюць, але, бывае, і сваволяць. Дзяўбуць яблыкі з вішнямі, рознае шкоднае насенне па свеце разносяць. А ад кажаноў адна карысць, бо нічога не дзяўбуць і не разносяць.

Мішка кладзецца на зямлю, пхнуўшы пад патыліцу складзеную ў некалькі столак прасціну.

— Мне бабуля, калі яшчэ штосьці бачыла, кніжку паказвала. Рэлігійную. Дык там быў голуб намаляваны і падпісана: святы дух. А побач кажан з чалавечымі нагамі. І подпіс: д'ябал. І чаму рэлігійнікі на кажаноў уз'еліся?

— А мая баба казала, што д'ябла немагчыма намаляваць, — я салодка пазяхаю.

— Чаму?

— Таму што гэта чалавечая хвароба.

— А што яна яшчэ казала?

— Ды шмат чаго. Але ж я не надта слухаў. Зараз бы паслухаў, дык мінулай зімой памерла.

Мы змаўкаем, прыслухоўваючыся да навакольных зыкаў. У клубе скончылася кіно, на ферме аціхла даільня, каровы з гусямі таксама аціхлі, і толькі конікі, прадвеснікі ночы, зацята стракацелі ў траве. Кажаноў нідзе не было бачна, і калі я ўжо збіраўся ісці да хаты, Мішка, ускочыўшы на ногі, крыкнуў:

— Бачыў?!

Я зірнуў на загусла-барвовы далягляд, і нечы імклівы цень прамільгнуў ля твару.

— У-у-у, дык яны маленькія, — адно і выдыхнуў я, і Мішка ледзь чутна, нібыта баючыся адпужнуць кажаноў, прашаптаў:

— А ты думаў, тут птэрадактылі лётаюць.

Хацеў запытацца пра птэрадактыляў, але Мішка кіўком галавы загадаў расцягваць прасціну.

— Як плюхнецца — хапаем прасціну за ражкі, сцягваем, завязваем і нясём дахаты. А назаўтра паглядзім… што за звер такі, — мармыча Мішка і мы, выглядаючы кажаноў, задзіраем галовы.

Стаім хвілін пяць. Між тым кажаны на прасціну і не думаюць плюхацца.

— Відаць, нас баяцца, — кажу я Мішку, і мы адыходзім убок, а потым наогул хаваемся за куст.

Неўзабаве перацягваем прасціну на новае месца, далей ад сажалкі. Кажаны бясшумна мітусяцца ў небе, але даволі высока.

— Трэба прасціну вышэй падняць, так не зловім, — Мішка бяжыць да бліжэйшай агароджы, з глухім трэскам адрывае дзве доўгія жардзіны.

Чапляем прасціну да жардзін — атрымалася штосьці падобнае да лозунга, якія носяць на дэманстрацыях, — падымаем угору і чуем пагрозлівы лямант:

— Навошта ты, нягоднік, прасціну ірвеш?! Зараз жа ідзі дадому!

— Маці, — скрозь зубы цадзіць сябрук і дадае: — Нюрка выдала.

Паныла ідзём па расянай траве, сюд-туд задзіраючы галовы. Кажаны, відаць, пасміхаючыся над намі, сталі лётаць зусім нізка.

— На прасці-іну… садзя-яцца… — прамаўляю, праводзіўшы позіркам імклівага кажана. — Смяешся з Нюрчыных баек, а сам на іх павёўся.

— Ды пры чым тут Нюрка! — запальчыва адказвае сябар. — Гэта мне стрыечны брат наплёў.

— А ён таксама кажаноў лавіў?

— Ладна… праехалі, — адгукаецца сябар, падстаўляе далонь, і я гучна па ёй б'ю.

Сёлета ў нашай школе вырашылі зрабіць капітальны рамонт. Школа старая, уся збуцвелая. Перабудаваная, як казалі, з кулацкай хаты.

Мы з Мішкам ад самага ранку выносім на двор парты, сталы, крэслы ды іншую мэблю. Кіруе намі другагоднік Васька Дробыш — здаровы боўдзіла, якога ў школе ўсе баяцца.

— Вынесеце стэнд і зможаце адпачыць, — загадным голасам кажа Васька, і мы, падхапіўшы стэнд — цяжкі, з размашыстым надпісам «Піянерыя Краіны Саветаў»», — цягнем яго, дробна перабіраючы нагамі, у калідор.

Сонца смаліць неміласэрна, і вочы засціць ядучы пот. Прыхінуўшы стэнд да старой ліпы, сядаем у цяньку, наваліўшыся каркамі на шурпаты стаўбур.

— У класе дзесяць вучняў, а працуем мы ўдвух, — бурчыць сябар, выціраючы пот з лабешніка.

Між тым у школе пачынаецца вэрхал: там тупаюць, свішчуць і скрозь гармідар прарываецца грымучы голас Ваські Дробыша: «Вакно зачыніце!»

Мы з сябрам пераглядваемся, і Мішка махае рукой. Няма ахвоты падымацца.

Я задаволена пазяхаю, пацягваюся, і вомігам падхопліваюся на ногі.

— Дробыш кажана злавіў! — гарачліва выдыхае нейкі малалетка, спатыкнуўшыся на парозе.

Бяжым па калідоры, і малалетка крычыць нам у след: «Аддзерлі шпалерыну, а адтуль кажан вылецеў. Дробыш кашуляй збіў».

Кучка падшпаркаў стаіць ля класнай дошкі, да якой ржавымі кнопкамі прыбіты кажан. Я распіхваю малечу, падыходжу да дошкі. Кажан злёгку дрыжыць, пазіраючы на мяне вільготнымі бліскучымі вачанятамі. Ён зусім і не страшны. Нават смешны, бо ў яго непамерна вялікія вушы. Але навошта небараку прыбілі да дошкі? Гэта ўсё Дробыш.

— І зусім не падобны на д'ябла, — шапоча на вуха Мішка.

Дзіўны наш свет, думаю я. Галубы набіваюць зернем валлякі на калгаснай сушылцы і ўсё наўкол засерлі — яны святы дух. А няшчасныя кажаны, якія ратуюць нас ад жамяры — стварэнні д’ябла. Відаць, гэта прыдумалі такія ж недарэкі, як і Мішкава Нюрка.

Лядашчае кажанова цела ўжо не дрыжыць, а вачаняты пакрыліся мутнай плеўкай.

— Усё, харэ… бярыце парты — і наперад, — гукае за маёй спінай Васька Дробыш.

«Так, д’ябла немагчыма намаляваць, — думаю я, згадаўшы словы бабулі, — бо гэта невылечная хвароба». І на каго яна ўскінецца, той можа з лёгкасцю забіць жывую істоту.

# АПЕРАЦЫЯ «КОБРА»

Адранку поўзаю па лехах і збіраю агуркі. Маці загадала сабраць пару вядзёр на засолку. Хрумстаю гурком і чую парывісты тупат. Хтосьці бяжыць па двары. Хто яшчэ можа бегчы, як не мой сябар Васька. Таму, абабіўшы калашыны, рушу да штыкетніка.

— Здарылася што? — я працягваю праз штыкеціны крамяны агурок, але сябрук рашуча адмахваецца.

— У клубе будуць «Аперацыю “Кобра”» паказваць, — задыхана паведамляе Васька. — Фільм пра шпіёнаў!

— Скуль ведаеш?

— Лябёдка сказаў, — сябар керхае, пераводзіць дых, і вусны мае кранае падступная ўсмешка. Лябёдка, тутэйшы кінамеханік, часцяком кажа, што карціна пра шпіёнаў ці пра мушкецёраў, а сам якую-небудзь лухту круціць.

— Не верыш? — сябрук заўважае на маіх вуснах гуллівую ўсмешку. — Мальцы з Азярышча прыязджалі — расказвалі. Тамака ў шпіёна на галаве прапелер круціўся.

— А на якую халеру?

— Каб мяжу пераляцець, — Васька сцішвае голас: — Дзесяць капеек не пазычыш?

Маці дае грошы на кіно толькі раз на тыдзень. Учора тыя грошы змарнаваў. Глядзеў «Тры плюс два». Там нейкія дзядзькі ды цёткі на моры адпачывалі. Ледзь да канца даседзеў. У мяне, праўда, прыхавана дзесяць капеек на чорны дзень, але ж я сам хачу паглядзець тую «Аперацыю».

— Можа, пустая бутэлька ёсць? Я табе потым грошы вярну.

З уздыхам падхопліваю пыльную бутэльку, што ляжыць пад хатай, і Васька, нават не падзячыўшы, ляціць да калодзе-

жа — хоча памыць бутэльчыну, каб здаць у краму. Ля калодзежа ледзь не збівае з ног нашу суседку, старую Ягорыху, якая сунецца па ваду.

— Лётаюць як ашалелыя, — голасна наракае суседка, папраўляючы збітую набок хустку.

Ваську апанавалі шпіёны. Надоечы паглядзеў фільм «Застава ў гарах» і цяпер ім даймае, бясконца пераказваючы змест. Асабліва сябру падабаецца момант, дзе шпіёны пераходзілі дзяржаўную мяжу на вепручыных капытах. А яшчэ кажа, што ў нашай вёсцы ёсць агент заходніх спецслужб і ён яго хутка вылічыць. Гляджу ўслед сябру і, шморгнуўшы носам, іду збіраць агуркі.

Народу каля клуба як завязаць. Тут і старыя, і маладыя. Мы з Васькам звычайна сноўдаем перад пачаткам сеансу па клубным ганку, а тут адразу падаёмся ў залу. Трэба заняць добрыя месцы.

— Лябёдка ў раён ездзіў. Прасіў гэты фільм, — кажа загадчыца клуба Мандрычыха, якая прадае квіткі.

Кіно не пачыналася, а ўжо няма чым дыхаць. Добра, што дзверы разнасцежаны. А як зачыняць? На двары ж яшчэ светла. Тады зусім задыхнёмся. Зала паўнюткая. Мандрычыха пачала прадаваць «стаячыя» квіты, і гледачы шыхтуюцца ўздоўж сцяны. Гляджу на разнасцежаныя дзверы і бачу матчыну памочніцу — медсястру Куцакову. Маці мая працуе фельчаркай у амбулаторыі. Куцакова цяжарная, яе пад руку падтрымлівае муж — двухметровы дзядзька з вялізным носам. Даўгяла водзіць ім, выглядаючы вольныя месцы, а ўбачыўшы нас з Васькам, святлее тварам.

— Хлопцы, ці не саступіце месцы?

З неахвотаю падымаемся, ціснемся плечукамі да сцэнкі. Пры гэтым Васька свідруе даўгялу напружаным позіркам. Няйначай, убачыў у ім таго самага замежнага агента.

З першымі кадрамі фільма зайграла нейкая індыйская музыка, і я насцярожана пераступаю з нагі на нагу. Індыйскіх «кін» наогул не трываю, і аднойчы нават сышоў з сеансу. Праўда, праз хвіліну пераводжу дых. Фільм сапраўды пра

шпіёнаў, бо ў першых жа кадрах памежнікі спрабуюць затрымаць агента, але той страляе сабе ў лабешнік. Маёр, з выгляду ці то таджык, ці то ўзбек, паказвае палкоўніку шпіёнскі арсенал, які знайшлі ў агента, і сярод рознай зброі ды ампул з цыяністым каліем тырчыць дудка. Палкоўнік бярэ дудку, і ўзбек тлумачыць:

— Кажуць, мінулым часам граннем на такіх дудках заклінаілі змей.

Палкоўніцкія вочы акругляюцца, ён уражана пытаецца: «Заклінаілі змей?» — слова «змей» гучыць расцягнутым рэхам, і на экране ўзнікае штосьці падобнае на штаны з абгарэлым калашыннем. У зале свішчуць, тупаюць нагамі, і Лябёдка гарлае ў праекцыйную адтуліну:

— Яшчэ будуць парывы! Фільм трэцяй катэгорыі!

І вось палкоўнік едзе на памежную заставу і слухае даклад тамтэйшага начальніка, а, паслухаўшы, хмурыць лоб.

— Ёсць якія-небудзь навіны на тым баку?

— Ёсць! — гракае начальнік заставы і ідзе да мапы. — Тут, у квадраце 62-84, яны паставілі лёгкі дамок. Відаць, там працуе… — хто там працуе, я не дачуўся, бо начальнік заставы бязгучна замыліў вуснамі.

— Гу-ук! — страшным голасам крычыць Васька, і ў мяне ад таго крыку загуло ўвушшу.

Гучыць джаз. Гэта паказваюць замежных агентаў, якія сядзяць у дамку.

— Усё швэндаецеся, Юм? — выдыхае адзін з агентаў.

— А што мне рабіць, Вернер, — адказвае другі, які зайшоў у дамок.

Я тыцкаю Ваську пальцам у бок, — маўляў, як табе фільм? — і адчуваю пах гарэлачнага перагару. Побач са мной стаіць не Васька, а заатэхнік Гаруноў. Ён звычайна ў кіно не ходзіць, а тут прыцягнуўся. Азіраюся, шукаючы сябра, і бачу стрыжаную Ваською галаву сярод малечы, што вокраччу стаіць вакол сцэны. Сябрук наваліўся на сцэну локцямі, неадрыўна глядзіць на экран.

Нарэшце паказваюць шпіёна з прапелерам на макаўцы. Шпіён насоўвае лётчыцкія акуляры, хрысціцца, у гэты мо-

мант пад бокам вохкаюць, і мяне пхаюць у спіну. Хтосьці зняў пінжак, махае ім у паветры, раз-пораз закрываючы экран. «Жанчыне млосна! Мужчыны, дапамажыце», — азываецца Мандрычыха. Мы з заатэхнікам ціснемся да сцяны, і з залы выносяць самлелую ад задухі Куцакову. Калі зноў зыркаю на экран, агент з прапелерам ужо ляжыць, ахоплены полымем, на паляне.

…Пасля задухі злёгку круціцца галава і я прагна глытаю паветра.

— З-за Куцаковай самае цікавае месца прапусціў, — кажу я, збягаючы з клубнага ганку.

Сябар маўчыць, засяроджана мружыць вочы. У думках, відаць, глядзіць фільм і не хоча размовамі развейваць чароўную відзежу.

— Ну як, ці злавілі шпіёна?! — крычыць Ягорыха, якая стаіць ля крамы: старая працуе начным вартаўніком.

— Анягож! — гарлае ў адказ заатэхнік Гаруноў, ідучы следам за намі.

Галоўны шпіён у кіне таксама працаваў начным вартаўніком, таму Васька ўглядаецца ў змрок, прыкідваючы, — ці можа Ягорыха быць замежным агентам, — трасе галавой і прыспешвае крок.

Праз тыдзень, познім вечарам, сядзім з Васькам на бярвенні ля ягонай хаты — Васькаў бацька хоча паставіць новую лазню, ды ўсё ніяк не збярэцца, — і прыслухоўваемся да брахлівых галасоў, якія далятаюць з другога канца вёскі. У клубе круцяць індыйскі фільм і, відаць, адчынілі дзверы. Маці мая пайшла ў клуб. Не прапускае аніводнай індыйскай карціны, і кожнага разу вяртаецца з кіна зарумзаная. Магчыма, і Куцакова пацягнулася. Дзеля яе і адчынілі дзверы.

— Слухай, а які момант табе больш за ўсё спадабаўся? — пытаецца сябра. Гаворка, вядома, пра «Аперацыю “Кобра”». Васька толькі пра яе і трындзіць.

Задуменна чухаю скронь.

— Калі памежнік у кобру страляў.

Васька іранічна крывіцца, маўляў, што гэта за момант, і нечакана, прымружыўшы вочы, непрытомным шэптам выдыхае:

— Шпіён!

Я гляджу ў той бок, куды скіраваны кірпаты Васькаў нос, і бачу размытую, чырвонага колеру, пляму агню. Сігналяць з Сакуноў — вялікай вёскі на другім беразе ракі.

— Кропка, кропка, кропка… — шапоча сябар.

Успыхнуўшы шэсць разоў запар, агонь патухае, потым зноў запальваецца.

— З маяка свецяць, — голас Васькаў дрыжыць ад хвалявання.

Колькі часу сядзім, неадрыўна пазіраючы ў цёмную далячынь, але агню не бачна. Васька падхопліваецца на ногі, подбегам шыбуе да весніц.

— Куды ты? — крычу ўслед, і ў адказ мне грукаюць дзверы хаты.

Падымаюся з бярвення, збіраючыся падацца дадому, — і дзверы зноўку бухаюць.

— На ходзіках чатыры хвіліны на адзінаццатую. Значыць, сеанс сувязі быў прызначаны на дзесяць гадзін, — гукае Васька. Сябар павольным крокам ідзе да бярвення, праводзіць далонню па стрыжанай патыліцы і, ляснуўшы ў ладкі, чарговым разам бяжыць да хаты.

У сенцах запальваецца святло, і чуваць абураны голас Васькавай маці:

— Зараз жа злазь! А то бацьку паклічу!

Васька, падобна, палез на дах.

— Хопіць цягацца па цёмнаму. Ідзі еш ды спаць кладзіся! — ужо больш спакойным голасам азываецца цётка Аўгіння, і сябар, буркнуўшы: «Зараз!» — выходзіць з весніц.

— Той, каму сігналілі, мусіў адгукнуцца. Запаленым квачом махнуць ці ліхтаром якім. Магчыма, і памахаў, ды я позна на хату ўзлез.

— А мо агент і не ў нас жыве. Можа, у Кавалях ці Ясіновіках.

— У Ясіно-овіках, — перадражнівае Васька. — Калі б ён у Ясіновікі ці Кавалі перадаваў, мы б агню з-за спіны не ўбачылі. Да таго ж, шпіён туды пехатой зойдзе. А сюды не дойдзеш — рака перашкаджае. І лодка толькі на нашым беразе.

Васька зморана пераводзіць дыханне, доўга маўчыць, абдумваючы план дзеянняў.

— Заўтра а дзясятай вечара на страху ўзлезем. І паперу з асадкай прыхопім. Раптам пачне марзянкай перадаваць. Сёння было шэсць кароткіх успышак. Прычым, чатыры разы запар. А на азбуцы Морзэ гэта азначае кропку, — у сябрука на першай старонцы запісной кніжкі перапісаная азбука Морзэ, і ён завучыў яе на памяць.

— А можа, не шэсць кропак, а шэсць працяжнікаў.

— Такой літары няма, — сябрук пацірае ўдумлівы лоб.

— Ты кіно ўважліва глядзеў? — перабіваю сябра. — Там не адкрытым тэкстам перадавалі, а шыфравалі паведамленні. Памежнікі расшыфраваць не маглі.

— Пакуль дэшыфраваць няма чаго. Гэта ўмоўны сігнал, — Васька сядае на бервяно, захоплена пацірае рукі. — Галоўнае, мы ведаем час сеансу сувязі. Так што давядзецца цэлы тыдзень на хату лазіць. На добры лад, трэба каля маяка рабіць засаду. Ды як зробіш, калі маці а дзясятай дахаты заганяе, — сябар азіраецца, і ў пацверджанне ягоных слоў прастору скаланае надрыўны вокліч:

— Васька, ты дзе?

Сябар ляпае мяне па карку, рыпае весніцамі і ўжо са двара гукае:

— Заўтра ў Сакуны пойдзем!

По дарозе ў Сакуны заварочваем да клуба. Паглядзець, які фільм будуць круціць увечары. Афіша вісіць нізка, і на ёй дзіцячымі крамзолямі напісана «Іван Броўкін на цаліне». Гэта азначае, што пісаў яе наш аднагодак Васька Бадуноў, пляменнік «кіншчыка», і што сам Лябёдка ўжо апахмяліўся і спіць на перамотным стале. Фільм той мы бачылі, таму, уздыхнуўшы, ідзём да ракі.

Ісці не так і блізка, асабліва калі шыбаваць праселіцай. Разбітая «беларусамі» палявая дарога робіць вялікую пятлю, так што шыбуем напрасткі, росным лугам.

Драўляную вышку, якую ў нас называюць маяком, усталявалі якраз у год майго нараджэння. Бацька тады працаваў трактарыстам і таксама далучыўся да яе будаўніцтва. Падвозіў на трактары бярвенне. Тут у нас непадалёку былі лесараспрацоўкі, вось адтуль бацька бярвёны і цягаў. Пры гэтым цягаць трэба было аж праз Цёстаўскі мост. Падчас другой ходкі, каля моста, трос развязаўся і бярвенне рассыпалася. Бацька, як падап'е, і дагэтуль згадвае тыя прыгоды.

Дзеля чаго той маяк паставілі, мне і дагэтуль незразумела. Кажуць, што на яго раз на год узлазяць геадэзісты і нешта там замяраюць. А цяпер шпігун узлазіць і з дапамогай паходні сакрэтныя звесткі перадае. Дзіўна ўсё ж, чаму ён агнём сігналіў? Яго ж маглі не толькі мы заўважыць. Сапраўдны шпігун так бы сябе не раскрываў. Пераплыў раку і сустрэўся з кім трэба. Балазе вада з вечару цёплая.

— Добра было б, калі б па рацэ ішла дзяржаўная мяжа, — перабівае мае думкі сябар.

— А што добрага?

— Як што… шпіёны б праз раку перабіраліся.

— А можа, пераляталі? — я кручу пальцам над галавою, дэманструючы прапелер.

Сябру мае смяшкі не даспадобы, і ён змаўкае.

— Ну, прыляціць да нас шпіён, а далей? З прапелерам на галаве ў краму ўваліцца? — спрабую разгаварыць сябра.

— Перш-наперш, ён амуніцыю скіне і ў кустах прыхавае, — Васька паказвае на калгасны статак, які пасвіцца непадалёку. Каля статку кратаецца няўклюдная постаць адвечна п'янага заатэхніка Гарунова. — Аглушыць таго ж Гарунова, возьме ягонае адзенне, пераапранецца. І ў краму за вінoм пасунецца. Каб канчаткова быць падобным на савецкага чалавека.

Васька паведамляе гэта на поўным сур'ёзе, а ў мяне такія фантазіі выклікаюць смех. Хачу яшчэ пра нешта спытацца,

але тут з-пад нагі вылятае маленькая птушка, я забываюся, пра што хацеў спытаць, і мы да самай ракі ідзём моўчкі.

На беразе, пад ніцай вярбой, звычайна чарнее пласкадонка дзеда Ахрэма. Але сёння яе няма. Адно даўгі ланцуг цягнецца ад вярбовага стаўбура да вады. Дзед Ахрэм — заўзяты рыбак. Ледзь не штодня плавае на Цёстаўскае возера, у якую ўпадае рака. І кожнага разу дахаты па вядру рыбы прыносіць. Апошнім часам ён сабе і кампаньёна знайшоў — Івана Пятровіча, нашага дырэктара школы, які ў яго кватаруе. Сеткай узяліся рыбу лавіць. Цяпер, праўда, з ложка не спаўзае. Раматус замучыў. Маці яму ўколы робіць. Відаць, кампаньён выправіўся на рыбалку адзін.

Спехам распранаемся на галяка і ступаем у ваду, трымаючы складзеныя ў столку апранахі. Гэткім чынам афіцыянты ў замежных «кінах» трымаюць тацы з бутэлькамі шампану.

— Халодная! — выдыхае сябрук, панурыўшыся ў ваду па самую шыю.

Вада і папраўдзе халодная, бо заўчора была залева і сонца ўжо два дні не дае рады прабіцца праз хмары. Дзіва што шпігун не палез у ваду.

На сярэдзіне ракі плынь даволі моцная, і нас зносіць у бок, у тое месца, дзе буяе дрымучая крапіва. Наш бераг пясчаны ды спусцісты, а супрацьлеглы стромкі і крапіва ля самага носу. Зачапіўшыся рукой за куст, хачу стаць на ногі, але слізгаю па глеі, панурваюся з галавой пад ваду і змочваю вопратку.

Дарэшты абстрыканыя крапівой, спехам апранаемся, і мая левая лытка дрыжыць ад холаду. Кашуля больш-менш сухая, а штаны ззаду ўсе мокрыя. І ў Ваські на азадку мокрая пляма. Каб сагрэцца, бяжым як ветрам гнаныя, а даляцеўшы да маяка, прыціскаем шчокі да шурпатых стаўбуроў. Маяк высокі, ажно мазгаўня круціцца, калі глядзіш угору. Наверх вядуць збуцвелыя драўляныя прыступкі. Аддыхаўшыся, узбягаю па іх, і сябар ушчаперваецца ў мокры азадак.

— Я першы. Трэба прыглядацца да кожнай дэталі.

Васька ўважліва глядзіць пад ногі, нават мацае прыступкі рукой, і мы паволі ўзбіраемся на верхатуру.

Ад пабачанага забірае дых. Вёска як на далоні. Па дарозе жоўтым мурашом паўзе малакавозка, праваруч бялее клуб, крыху зводдаль, пад высокай ліпай, прытулілася крама, а далей, з-за кустоў, тырчаць шэрыя дахі фермы. Маёй хаты, праўда, не бачна. Прыхаваная Ахрэмаўскім садам — самым вялікім у акрузе. Сакуны таксама добра бачныя. Бачны і край Цёстаўскага возера.

Ваську, аднак, навакольныя краявіды мала цікавяць. Поўзае вакол мяне, выглядаючы сляды шпігуна. Нарэшце, выгукнуўшы «Ёсць!» — ускідвае руку. У дрыжачых Васькавых пальцах кволіцца цыгарэтны недапалак.

— «Дымок» — чытае сябар надпіс на недапалку. — Вось шпіён і спаліўся. Цяпер мы на яго дакладна выйдзем.

Я ў адказ стрымана хмыкаю.

— Той недапалак невядома калі кінулі.

— Свежы. Пазаўчора дождж хвастаў, абавязкова б змачыў, — бубніць Васька, з усіх бакоў разглядаючы канчар. — У краме цыгарэт не прадаюць, там адны папяросы. Значыць, паліў чалавек, які ездзіць у горад.

— У нашай не прадаюць, а ў Сакуноўскую краму мо і падвезлі.

— А гэта мы зараз праверым.

Васька збягае па прыступках, і я крычу яму ў спіну:

— А можа, хто з горада цыгарэты прывёз? Вунь, Бохан, малакавозчык, кожнай раніцы ў раён гойсае.

Сябар, аднак, не чуе, заняты сваімі думкамі.

— Зараз прачэшам наваколле, — кажа сябар, калі мы спускаемся долу. — Дзесьці павінна быць шпіёнская паходня.

Паходню доўга шукаць не даводзіцца: ляжыць пад елкай, мохам прыхаваная. Поруч валяецца закураны кавалак фанеры, з дапамогай якога падавалі сігналы.

— Бач ты… пад мох запхнуў. Думаў, ніхто не знойдзе, — Васька нюхнуў намятаную на канец сукаватай палкі абгарэлую анучу. — Салярай палітая.

Збіраюся шпурнуць квач куды далей, і сябар са спалохам уваччу хапае за локаць.

— Ты што?! Трэба пакінуць усё, як было.

Васька хапае квач, кладзе пад елку, а потым, адышоўшы, зноўку лезе пад яловыя лапы і папраўляе пакамечаны мох.

У Сакунах некалькі вуліц і не адна, як у нас, а дзве крамы. У адну, з выцвілай шыльдай «Прадукты» над уваходам, мы і праступаем.

У краме тузін старых цётак. Аднак яны нічога не купляюць. Стаяць, наваліўшыся на прылавак, і нечага чакаюць. Відаць, хутка павінны падвезці хлеб. Цёткі гамузам паварочваюць галовы.

— Гляджу, не нашы прыйшлі. Адкуль жа вы, мальцы? — пытаецца магазіншчыца.

— З-за ракі, — адказвае Васька.

— І што вам, падушачак узважыць?

Васька падыходзіць да прылаўка.

— У вас цыгарэты «Дымок» ёсць у продажы?

— Глянь на іх. Смаркачы пад носам не абсохлі, а цыгарэты падавай, — сакоча рабацяністая цётка, якая стаіць у канцы чаргі.

— Ды не мне, а бацьку, — Васька шморгае носам.

— Ёсць «Памір» па дзесяць капеек. Але вам не прадам, замалыя яшчэ, — прадаўшчыца наструньвае слых.

Знадворку гудзе машына — няйначай, едзе хлебавозка, — і цёткі ў чарзе адхінаюцца ад прылаўка і бязладна гамоняць.

— Ад «Паміру» горыч на языку, як ад хімічнага алоўка, — напаўголаса прамаўляю я, выходзячы з крамы. — Словы тыя я чуў ад бацькі.

Мы ідзём міма клуба. Каля кінабудкі, на цэментным ганку, сядзяць мясцовыя хлопцы і паглядаюць на нас. Міжволі прыспешваем крок. З Сакунамі ў нас даўняя варажнеча. Сакуняты часцяком прыязджаюць у клуб біцца з нашымі мальцамі. Летась малакавозчыка Бохана пабілі на горкі яблык. Маці яму галаву бінтавала, і ўчастковы з раёна прыязджаў ды пратакол складаў. Б’юцца, праўда, хлопцы, старэйшыя за нас, але хто ведае, можа, і нам перападзе.

— Ну, куды пачасалі… давай пагамонім! — гукае руды малец, з выгляду мясцовы верхавод.

Мы з Васькам спыняемся, вырашаючы — варта нам гаманіць ці лепш даць дзеркача, — і нечакана хлопцы падхопліваюцца, даючы дарогу дзядзьку з афішай у руках. Дзядзька, відавочна кінамеханік, ідзе да драўлянага стэнда з напаўсцёртым надпісам «Кіно», прымацоўвае афішу кнопкамі.

— Пра шпіёнаў, — гугнявіць кінамеханік, выціраючы перапэцканыя фарбай пальцы.

«Аперацыя “Кобра”» — чытаю нязграбны надпіс на афішы.

— У нас ужо круцілі! — гучна кажа Васька.

— Сапраўды пра шпіёнаў? — лыпае вачыма рыжы верхавод.

Васька замест адказу робіць рух рукамі, нібыта насоўваючы лётчыцкія акуляры, раскрыльвае рукі і з няўцямным зыкам «тр-р-р-р» рушыць да стэнду.

— Шпіён ляціць, — па ходу тлумачыць сябар, — у яго на галаве прапелер, а на плячах крылы.

— І куды ён ляціць?

— Вядома куды. У бок дзяржаўнай мяжы СССР.

— Пераляцеў? — з трывогай пытаецца рыжы, і Васька, нахіліўшыся, гудзе пад нос, дэманструючы, што парушальнік падстрэлены і зараз грымне долу.

Разявіўшы раты, сакуняты становяцца паўколам і просяць Ваську распавесці — якім чынам памежнікі падстрэлілі шпігуна.

Доўга сядзім ля ракі і паныла глядзім на супрацьлеглы бераг. Са шчыльнай апоны хмараў выглянула сонца, прыгрэла спіны, і нам зусім неахвота лезці ў халодную ваду.

— Вось бы злётаць увечары ў Сакуны, — сябар шпурляе ў раку пляскаты камень. Той увішна скача па водным люстры, але да берага не далятае.

— Навошта? — пытаюся прыхоўваючы далонню позех.

— Як навошта… «Аперацыю “Кобра”» паглядзець, — сябар пакутліва ўздыхае. — Але ж маці не адпусціць.

Васька пускае яшчэ адзін камень.

— Трэба было прыгледзецца да сакуноўскага «кіншчыка». Прасачыць — якія цыгарэты паліць. Нейкі падазроны тып.

— І што ў ім падазронага?

— Ну як… Лябёдка ад раніцы п'яны, а гэты цвярозы ходзіць. Кінамеханік называецца.

Васька кракае, падымаецца на ногі, расшпільвае гузікі кашулі і прыслухоўваецца. Мерна рыпаюць уключыны, чуецца няўцямная гаворка, і неўзабаве з-за кустоў выплывае лодка-пласкадонка. З вёсламі ўпраўляецца наш дырэктар Іван Пятровіч, а на карме сядзіць ягоны калега Пятро Іванавіч — дырэктар Сакуноўскай школы. Пятро Іванавіч да нас зрэдзьчасу завітвае. Грае на баяне «Марш энтузіястаў», як у школе свята ладзяць.

— Глянь, Пятро! Мае вучні! Паром чакаюць! — вясёлым голасам выдае наш дырэктар, лодка мякка цюкае ў прыбярэжны пясок, і ягоны напарнік скача на бераг. У адной руцэ ён трымае вуду, а ў другой — кукан з рыбай. Рыба на кукане дробная, але знізу вісіць колькі ладных падлешчыкаў. Пятро Іванавіч кладзе рыбацкія прычындалы на траву, дастае пачак цыгарэт «Дымок», і мы з Васькам стоена пераглядваемся.

— Ну як… у суботу выправімся? — пытаецца Іван Пятровіч.

Калега прыпальвае цыгарэту, са свістам выпускае струмень дыму.

— Збіраюся ў раён ехаць па фарбу. Парты будзем фарбаваць. Так што ў пятніцу выходжу на сувязь, — Пятро Іванавіч мружыцца, пагдядаючы на вяршак маяка. — Шэсць кароткіх — сустракаемся а шостай на беразе; тры кароткіх — еду ў раён.

Мы з сябрам зноў пераглядваемся.

— А сувязь а дзясятай вечара? — пытаюся я.

— А ты адкуль ведаеш? — ускідвае брыво Пятро Іванавіч.

— А мы агні бачылі. Думалі, шпіён сігналіць.

— Дык вы тут не паром чакаеце, а шпіёнаў ловіце? — Сакуноўскі дырэктар з вясёлым шумам выпускае дым. Знянацку Пятро Іванавіч сур'ёзнее, збівае попел з цыгарэ-

ты. — Мы свойчас таксама іх лавілі. Дзядзька, памятаю, пад куст прысеў, а мы падумалі — рацыю разгортвае.

— Жылі б у памежнай зоне, намі б дакладна зацікавіліся, — устаўляе слова Іван Пятровіч.

— Шасцідзясятыя гады дваццатага стагоддзя, а мы, як старажытныя фінікійцы, светлавымі сігналамі перамаўляемся, — Пятро Іванавіч адкідвае недапалак, падхоплівае з-пад ног кукан з вудаю. — Трэба калектыўнага ліста пісаць у абласную газету. Думаю, людзі падпішуцца. Мост той немаведама калі збіраліся будаваць. Так і не сабраліся.

Мы з Васькам адпіхваем лодку ад берага, спрытна пераскокваем цераз борт. На сярэдзіне ракі лодку пачынае зносіць убок, і Іван Пятровіч налягае на вёслы.

— Заўтра ад ранку ў школу зайдзіце. Дапаможаце стэнды зняць. Будзем сцены бяліць, — задыхана кажа дырэктар.

Я сяджу на карме і зыркаю на стрыжаную, з адтапыранымі вушамі, Васькаву галаву, якая мерна ківаецца ў такт узмаху вёслаў. Згадваю, з якім натхненнем сябар разглядаў цыгарэтны канчар, і бязгучна смяюся. Добра, што Васька сядзіць да мяне спінай, а так бы мог пакрыўдзіцца. Чэрпаю далонню вады і, каб пазбыцца дурнога смеху, пырскаю на твар халадзёнкі.

# КАМУНІЗМ

Я прачнуўся рана — калі першыя сонечныя промні малінавымі плямамі леглі на фіранку. Праз адчыненую фортку струменіць ветрык, і плямы жывымі істотамі варушацца на сятчастай тканіне. Чаму раней не бачыў такой прыгажосці? — думаю я, пацпраючы прыспаныя глядзелкі. Зразумела, чаму… таму, што гэтым часам заўсёды сплю, — адказваю сам сабе. Дзіўная завядзёнка: спаць ранішняй парой і не бачыць, як узыходзіць сонца, як патухаюць зоркі і не чуць, як спяваюць птушкі. Птушак, праўда, не чутно. Затое пад вакном сварліва вуркоча суседскі певень. Міжволі наструньваю вуха. Знадворку чутны шолах крылаў, і прастору скаланае зычнае кукарэканне. Пасля таго певень слухае — ці адгукнецца хто з ягоных спакрэвічаў — і зноўку, цяпер ужо з дурнаватым адчаем, гарлае.

Маці, якая спіць на суседнім ложку, абуджаецца, мыліць вуснамі, але тут жа паварочваецца тварам да сценкі і пачынае мерна сапці.

Сёння едзем на маёўку. Там будуць прадаваць марозіва, якое я страшэнна люблю. Таму і прачнуўся разам з суседскім пеўнем, і ў думках падганяю сонца — каб яно хутчэй уздымалася над небасхілам. Сонца, аднак, уздымацца не спяшаецца, певень не гарлае пад вакном, маці аціхла і не сапе, і я, залюляны ранішняй цішынёй, заплюшчваю вочы.

Мяне абуджае штуршок у плячо.

— Ну… выспаўся? — пытаецца маці.

Я салодка пазяхаю. Малінавым ранкам гатовы быў выслізнуць з-пад коўдры і бегчы на маёўку. А цяпер не надта і ахвота ўставаць.

— Ма! — крычу, пацягваючыся ў ложку. — А чаму людзі не прачынаюцца разам з пеўнямі?

— Цябе а дзявятай гадзіне не падняць, — маці стаіць за створкай шафы і апранаецца. — Божухна, спадніцу да дзірак зацягала. Нічога не магу сабе сшыць.

Словы такія чую амаль кожнага дня, і ўжо вырашыў для сябе: як толькі пайду на працу, з першага ж заробку набуду маці новую спадніцу. Хвіліну ляжу ў пасцелі, а згадаўшы пра марозіва, рашуча адкідваю коўдру.

На маёўку рушым з суседкай, цёткай Аўгінняй. Яна жыве ў другой палове хаты і трымае ў драўляным хлеўчыку пяць курэй і пеўня. Таго самага, які гарлае пад нашымі вокнамі. Яшчэ трымала парсючка. Мне ён вельмі падабаўся, і я штораніцы завітваў у свінячы катух і даваў дзюдзі альбо кавалак чэрствага хлеба, альбо кіслы яблык, і глядзеў, як парсюк хуценька еў пачастунак, а потым з удзячнасцю рохкаў. Але аднойчы да цёткі Аўгінні прыйшлі дзядзькі ў капелюшах і сказалі, што свіней у горадзе трымаць нельга. Свінчо закалолі, і я цэлы дзень праплакаў. Шкада было вісклівага дуроніка. А калі суседка прынесла секунцоў са свежыны, нават не зірнуў у іх бок.

У двары нас сустракае цётчын пяюн. Бяжыць насустрач у спадзеўцы разжыцца якімі крыхоткамі. Убачыўшы, што я з пустымі рукамі, пяюн натапырвае пёры, страсянаецца і знікае ў пыльнай аблачыне.

— А каб на цябе, — выдыхае цётка Аўгіння, падабраўшы крысо паркалёвай сукенкі. — Мы святочна апрануліся, а ты нам пылюку пускаеш.

Маёўку ладзяць за горадам, і мы туды выпраўляемся на грузавой машыне, барты якой упрыгожаны бярозавымі галінкамі і плакатам: «Наша мэта — камунізм!» У кодабе поўна людзей, якія ашалела смяюцца і бязладна спяваюць пад пе-

раборы двух гармонікаў. Цётка Аўгіння ўзлазіць на кола, і яе падхопліваюць нечыя моцныя рукі. Я таксама бягу да кола, ды маці хапае за каршэнь і вядзе да кабінкі.

У кабінцы ўжо сядзіць цётухна з маленькай дзяўчынкай. Даводзіцца ўладкавацца на матчыных каленях, абаперціся рукамі на прыборную панель.

— Ну, усе селі? — шафёр вытыркнуўся з бакавога вакна.

— А што за машына? — пытаюся ў шафёра. — З грузавікоў ведаю толькі «ГАЗ-51», які ў нас называюць «газонам».

— «ЗіС-150». 96 конскіх сіл пад капотам, расход паліва 29 літраў на сто кэмэ, аб'ём бака 150 літраў… Яшчэ ёсць пытанні? — у голасе кіроўцы чутны ноткі незадаволення.

Больш пытанняў не задаю, час ад часу скоса пазіраючы на кіроўцу. Той, у сваю чаргу, казеліць вокам на жанчыну, што сядзіць поруч, а калі машына выязджае на бальшак, паведамляе:

— Збіраўся ў выхадныя агародам заняцца, а тут на маёўку загадалі ехаць.

Я ўвабраў галаў у плечы. «А раптам, — падумаў, — кіроўца спыніць машыну і пойдзе займацца гародам. І як тады патрапіць на маёўку?» Шафёр, аднак, машыну не спыняў, і мне стала шкада гэтага, не такога ўжо і маладога, дзядзьку. Тым, хто сядзіць у кодабе, добра: рагочуць ды песні спяваюць. А кіроўцу трэба стырно круціць ды глядзець на дарогу.

Калі прыехалі на месца, там ужо стаялі машыны і аўтобусы, і першае, што кінулася ў вочы, гэта лозунг «Слава будаўнікам камунізму!». Прачытаў яго па складах яшчэ ў кабінцы «ЗіСа». Лозунг быў нацягнуты над машынай з адкінутым бортам, на якой стаяў дзядзька ў чорным гарнітуры і прамаўляў у мікрафон. Перад машынай гаманіў і дыміў папяросамі ладны натоўп. «Грандыёзныя планы партыі па пабудове камуністычнага грамадства выклікалі нечуваны энтузіязм працоўных мас… Цягам бліжэйшых дваццаці гадоў мы вырашым задачу пабудовы матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізму…» — даляталі скрозь гаману натхнёныя словы.

— Ма, а ты будаўнік камунізму? — пытаюся ў маці.

Маці з цёткай Аўгінняй пераглядваюцца, пырскаюць смехам.

— А вунь тыя дзядзькі — будаўнікі? — я ківаю ў бок невялікай чаргі. — Чарга сшыхтавалася ля стала, за якім буфетчыца, мружачыся на сонцы, налівала ў мензурку гарэлку.

— П'яніцы гэта, а не будаўнікі, — кажа цётка Аўгіння.

Цётка, падобна, зусім не слухае прамоўцу. А мне дык цікава паслухаць пра светлую будучыню чалавецтва. Чуў, што пры камунізме ўсяго будзе навалам — і цукерак, і халвы, і марозіва. Схамянуўшыся, тузаю маці за спадніцу, і тая без слоў разумее, чаго я прагну.

— Пайшлі зірнём, дзе марозіва прадаецца. А то ж не дасць спакою, — звяртаецца маці да цёткі Аўгінні.

Марозіва прадаюць непадалёку, і там стаіць натоўп прыкладна такі ж, як і перад машынай з мікрафонам.

«"Малочнае"… За дзевяць капеек», — крычаць у нетрах людскога збою, і я з хваляваннем гляджу на маці, якая ўгледзела знаёмага і спрабуе перадаць яму пакамечаны рубель.

— Больш чаргі не займайце! — крычыць прадавачка, адчыніўшы зялёную скрыню, з якой узнялася марозная пара.

Я хвалююся і, стаўшы да дыбачкі, утрапёна гляджу паўзверх людскіх галоў. Цела здранцвела, пакуль так стаяў, і сэрца занямела ад чакання, ды тут жа парыўна забілася, калі маці вылузалася з чаргі.

— Апошнюю порцыю ўзяла.

Пальцы адчуваюць прыемную халадэчу.

За спінай хтосьці здушана румзае. Гэта тая самая дзяўчынка, з якой ехалі ў кабінцы. Яе маці вылезла з чаргі і засмучана ўздыхнула.

— Пачакай есці, — чую матчын голас.

Маці адыходзіць на хвілю і вяртаецца, пазычыўшы ў некага сцізорык. Наступнай хвілінай з анямелым сэрцам назіраю, як марозіва разразаюць на дзве паловы. Ніжнюю, самую смачную палову аддаюць румзе, а мне застаецца верхняя — не такая смачная, і без донца.

Мы з румзай глядзім адно на аднаго, зацята ліжам халоднае смакоцце. Пры гэтым даводзіцца задзіраць галаў і імпэтна варушыць языком, бо смакоцце хутка растае.

— Пабудуюць камунізм… марозіва будзе… цэлая гара, — з веданнем справы кажу дзяўчынцы.

— Усё гэта казкі, — адказвае румза, і я застываю з высалапленым языком.

Як гэта казкі? Вунь дзядзька на машыне казаў, што маладое пакаленне будзе жыць пры камунізме. І яму білі ў ладкі. А зараз даўгяла ў вышыванай кашулі чытае з машыны вершы і пасля кожнага куплету гукае: «В коммунизм сверяем шаг!» На мысок чаравіка падае кропля расталага марозіва.

— Хто табе гэта сказаў?! — маці дзяўчынкі спалохана азіраецца.

— Дзядуля, — дзяўчынка пакрыўджана закапыльвае вусну.

— Дзед п'яны быў, а ты за ім паўтараеш.

На кодабе машыны тым часам баяніст збацаў штосьці кароткае і адрывістае, і дзядзька, што казаў прамову, перадаў нізенькаму чалавеку, які ўзняўся па сходах на машыну, аркушык паперы.

— Гляньма, Марштрупа! — з захапленнем прамаўляе цётка Аўгіння. Гэта нейкі цётчын знаёмы.

— А што яму далі? — пытаюся я, і цётка Аўгіння каротка тлумачыць: — Ганаровую грамату.

На кодаб адзін за адным ускокваюць цёткі і дзядзькі, і баяніст кожнага вітае адной і той жа кароткай песняй. Нарэшце баянныя пераборы аціхаюць і прастору скаланае зацяты трэск. Ён вырываецца з гучнагаварыльніка, які стаіць на даху аўтобуса. Унутры аўтобуса варушацца нечыя постаці. Падыходжу бліжэй, і на мяне налятае нізенькая кабета. Валасы ў той, што выкулілася з аўтобуса, сабраныя ў пучок, і гэта робіць яе падобнай да Чыпаліна. Яна ўзбягае на кодаб, зычна абвяшчае: «Пачынаем наш канцэрт!»

Канцэрт было слухаць не цікава, і я вярнуўся на тое месца, дзе прадавалі марозіва. А раптам прывязуць пару скрынак! Вецер ганяў па траве скамечаныя абгорткі ад марозіва. Падняў адну, лізнуў і ўбачыў шафёра, які сядзеў на кукішках ля машыны і напампоўваў кола.

— А камунізм пабудуюць? — спытаў я шафёра, калі той падняўся на ногі.

— Камунізм?… — шафёр няспешна прыпаліў папяросу. — А ты як думаеш?

— Пабудуюць! — выпаліў я.

— Правільна думаеш, — шафёр падхапіў помпу. — Калі верыш — жыць лягчэй. Мая цешча, прыкладам, у замагільнае жыццё верыць, — шафёр выпусціў струмок дыму ў той бок, дзе ладзілі канцэрт. — Ідзі лепш на танцораў паглядзі.

Рупар на аўтобусе стоена закрахтаў, і пачуўся ўзрадаваны голас Чыпаліны:

— А зараз танцавальная група раённага Дома культуры пакажа некалькі сваіх нумароў! — пасля таго Чыпаліна сцішыла голас і дадала: — Таварышы, адыдзіце далей. Дайце месца артыстам.

Калі ўтварыўся атачоны людзьмі пляц, кабета керханула ў далонь:

— Танец «Бычкі»!

Чорнагаловы баяніст, стоячы перад мікрафонам, прайшоўся пальцамі па кнопках, з аўтобусных дзверцаў сталі выкульвацца дзядзькі ў вышыванках, а за імі вылецела, спатыкнуўшыся на прыступцы, цётка ў брылі і з пугай у руках.

— Дарогу-у! — нема загарлала цётка, махнула пугай, і гледачы пужліва расступіліся.

Танцоры забеглі на пляц, і мне з-за людскіх спін не было бачна, што яны там рабілі. Толькі пуга мільгала над галовамі. Нечакана адзін з гледачоў вылецеў з натоўпу. Ён паціраў далонню лабешнік. Няйначай, атрымаў пугай па лобе. Я пазнаў дзядзьку: гэта быў Фарзун, які жыў на нашай вуліцы. Фарзун сплюнуў з языка пыл, а потым, правёўшы рукой па лысіне, з адчаем убіўся ў натоўп, і неўзабаве вылез адтуль, трымаючы ў руцэ пакамечаны капялюш. Капялюш, відаць, патрапіў пад ногі танцораў. Фарзун пхнуў кулак у капялюшнае нутро, спрабуючы вярнуць ранейшую форму, у гэты момант гледачы рассунуўся і танцоры ледзь не збілі небараку з ног. Сагнуўшыся да зямлі і абхапіўшы адзін аднаго, «бычкі» беглі на паўсагнутых нагах да аўтобуса, а на спіне апошняга танцора сядзела цётка ў брылі і махала пугай.

Усе наўкол ударылі ў ладкі і доўга, хвілін пяць, чакалі другога нумару.

— Танец «Крыжачок»! — крыкнуў, нарэшце, баяніст і рашуча рвануў мяхі.

Гэтым разам цёткі пачалі вылятаць з аўтобуса з шалёным лямантам і, падхапіўшы танцораў, кінуліся на пляц. Пыл узняўся неверагодны. Фарзун нацубіў на бровы знявечаны капялюш, чхнуў і, выцягнуўшы шыю, уважліва глянуў на «ГАЗ-51», які ехаў з боку горада. Машына спынілася, дала задні ход, і з кабінкі вылезла кабеціна ў белым халаце і з белай наколкай на галаве. Адразу некалькі чалавек падаліся да «газону», спехам адчынілі задні борт. Я пасунуўся да машыны паглядзець, — што так зацікавіла людзей, — але тут абвясцілі «Танец маленькіх лебедзяў». «Танец» гэты часцяком перадавалі па радыё, мне ён вельмі падабаўся, таму і пабег следам за апраненымі ў марлевыя спадніцы цёткамі.

Народу ля танцавальнай пляцоўкі паменшала, і я, прабіўшыся між нечых валасатых ног, стаў паперадзе ўсіх. Цёткі ў марлевых спадніцах паводзілі сябе даволі дзіўна. Узяўшыся за рукі, яны гамузам накульгвалі і матлялі галовамі. У бліжэйшай да мяне «лябёдкі» ногі былі абматаныя марляй, на адной назе марля раскруцілася і танцорка тупала кедам, уздымаючы фантанчыкі пылу. Знянацку «маленькія лебедзі» падаліся ў мой бок. «Адыдзі!» — крыкнула танцорка ў кедзе, і я плюхнуўся на азадак. Мяне паднялі, абабілі калашыны. Танцоркі пачыкілялі ў супрацьлеглы бок, адагнаўшы некага з дарогі, і я, стаўшы вокрач, выпаўз з танцавальнай пляцоўкі.

Тым часам да «газону» набегла процьма народу. Адтуль далятала вясёлая гамонка ўпярэмешку з адчайным кракannем і воклічамі: «Свежае, толькі што з завода!» З машыны прадавалі бочкавае піва.

У кодабе грузавіка грувасцілася вялізная бочка, і прадавачка налягала на ручку помпы, поўнячы кухлі. Яна абслугоўвала аматараў піва павольна. Спачатку куляла кухаль у вядро з вадою, потым поўніла яго півам і разлічвалася з пакупніком, падслепавата поркаючыся ў бляшанцы з-пад халвы — выбірала капейкі для рэшты, — таму з натоўпу гукалі: «Іванаўна,

хутчэй там!», і парываліся дапамагчы поўніць кухлі. «На гандлёвым месцы не павінна быць пабочных асобаў», — азывалася прадавачка, і ў натоўпе з робленым абурэннем адгукаліся: «Якія ж мы пабочныя?! Свае мы, не першы год піва ў цябе сёрбаем!» Нарэшце, пад ухвальныя воклікі, на кодаб узлез Фарзун. Пакамечаны капялюш тырчаў з кішэні пінжака, і потны плех цьмяна бліскаў на сонцы.

— Куды?! — закрычала прадавачка, але Фарзун ужо з шалёнай апантанасцю налягаў на ручку помпы.

Справа пайшла барзджэй, бо Фарзун не толькі налiваў піва, але і панурваў брудныя кухлі ў вядро, а неўзабаве, кінуўшы ў бляшанку драбязу, напоўніў кухаль і сабе. Небараку смажыла, бо піў ён, не адрываючыся ад помпы і звёўшы вочы да пераносся.

— Дзе ты ходзіш?! — запыталася маці. — Усё аббегла, шукаючы!

Маці сказала гэта дзеля прыліку, бо насамрэч нічога не абабягала. Глядзела з цёткай Аўгінняй канцэрт, а калі той скончыўся, вырашыла, як заўсёды, мяне паўшчуваць.

— Глянь, куды Фарзун узбіўся! — прамовіла матчына сяброўка, паказаўшы пальцам на машыну.

Уладальнік пакамечанага капелюша па-ранейшаму завіхаўся ля бочкі, але на доле ўжо махалі рукамі і патрабавалі, каб ён злез з кодабу і даў яшчэ каму папампаваць. Фарзун, напоўніўшы апошні кухаль, збіраўся злазіць, ды паслізнуўся і грымнуў долу.

— Лётаеш як штучны спадарожнік, — крыкнуў нейкі жартун, і на яго незадаволена зашыкалі: Фарзун ляснуўся спінай аб край борта і смешкі былі недарэчныя.

— І забіцца могуць каля той бочкі, — выдала цётка Аўгіння.

Аматары піва на момант сцішыліся, а прадавачка, зірнуўшы долу, загадала:

— Нясіце ў цянёк. Што ён тут перад прылаўкам разлёгся.

Бедачыну падхапілі, пацягнулі ў цянёк, а следам стрыжаны малец, мой аднагодак, нёс капялюш. Той яшчэ больш скамячыўся. Відаць, па ім ізноў прайшліся.

Фарзуна паклалі пад шастом, на якім вісеў напяты ветрам лозунг «Слава будаўнікам камунізму!»

— Спіўся дарэшты, — цётка Аўгіння зірнула з-пад рукі на бедачыну. — Жонка з хаты выгнала, дык у дрывотні начуе.

Наша вуліца спрэс забудаваная вясковымі хатамі, і толькі ў дальнім канцы самоціцца двухпавярховік. Яго калісьці ўзводзілі палонныя немцы. А поруч з ім, у двары, стаіць згламэзданая з чырвонай цэглы дрывотня, дзе кожная кватэра мае свой асобны катух. У адным з тых катухоў і знайшоў прытулак Фарзун.

— Ці ёсць тут лекар? Можа, хрыбеціну пашкодзіў? — прамармытала маці.

— Ды які там лекар. Зараз ачуняе і да бочкі пасунецца, — буркнула цётка Аўгіння, не адрываючы вачэй ад баяніста. Баяніст падышоў да мікрафона, з роспаччу ў голасе гракнуў:

— Танцуюць усе!

Баяніст зайграў вальс, некалькі пар запылілі па майдану, а Фарзун, пачуўшы мелодыю вальса, і сапраўды ачуняў. Схапіўшыся за шост, падняўся на ногі. Адна калашына фарзуноўскіх портак закасалася вышэй калена, паказаўшы свету сінюю, перахопленую шкарпэтачнай падцяжкай лытку. Шост з лозунгам злёгку хіснуўся.

— Каб нам на галовы камунізм не паваліў, — з вясёлым смяшком пралепятала суседка, і маці тузанула яе за рукаво:

— Цішэй ты.

Вось так заўжды: спытаеш маці пра камунізм, а яна сцішвае голас, кажа штосьці няўцямнае, а іншым разам проста махае рукой. Маўляў, адчапіся. Таму я звяртаюся да суседкі:

— А што такое камунізм?

— Ну… — суседка задумваецца і, сцішыўшы, як і маці, голас, паведамляе, — …калі ўсяго будзе даволі, і ўсё задарма. Карацей, еш — не хачу.

— І марозіва будзе дармавое?

— І марозіва. Наварочвай па дзесяць порцый, пакуль глытка не забаліць.

— І халва? — я глытаю густую сліну.

— І халва.

— І піва?

— Не, братка, піва дармавога не будзе, — падключаецца да размовы маці, — а то ж мужыкі перап'юцца ды лягуць покатам.

Маці з суседкай адступаюць на крок, дэманструючы, што размова скончана, зацята зыркаюць на пары, якія кружляюць у вальсе.

— Даўно з ім круціцца, — ціхенька, нахіліўшыся да матчынага вуха, кажа цётка Аўгіння, і маці, ўражаная такой навіной, цісне да вуснаў ражок хусткі.

— Як даўно? — мармычу я, выглядаючы — пра каго кажа цётка Аўгіння, — толькі што танцы пачаліся.

— А ты чаго дарослыя размовы слухаеш? — абураецца маці. — Ідзі, пагуляй дзе-небудзь.

Шморгаю носам. Ад крыўды на маці. Гэта ж яна падышла да мяне з цёткай Аўгінняй, а не я да іх.

Непадалёку, за кустамі, сабраўся народ і звінеў пранізлівы голас Чыпаліны.

— Пераможца забегу атрымае каштоўны прыз!

Я прадзёрся праз кусты. Чыпаліна, выставіўшы азадак, праводзіла кавалкам цагліны равок на тупкай сцяжыне.

Такога бачыць не даводзілася. Чатыры дзядзькі ўлезлі ў вялізныя, да самага падбароддзя мяхі, сталі шыхтом, і калі Чыпаліна загадала: «Пайшлі!» — няўклюдна паскакалі, рыхтык як кенгуру, якіх нядаўна паказвалі ў кіно. Нечакана тры дзядзькі пляснуліся ў пылюку і адзін з іх схапіў дзвюма рукамі мех кучаравага бамбізы, які яшчэ трымаўся на нагах. Бамбіза паваліўся, і ўсе чацвёра пачалі чабохтацца ў пыле, не даючы адзін аднаму ўстаць на ногі.

Усчаўся рогат. Кабета, што стаяла леваруч, так смяялася, што пачала ікаць. Яшчэ ў адной ад смеху дрыжэла друзлае чэрава, і яна яго прытрымлівала рукамі, а цётухна, што стаяла праваруч, ціхенька паведаміла сяброўцы: «Сцыкнула!»

Перамог кучаравы бамбіза. Апошнія метры ён адольваў, скачучы на кукішках, а потым наогул каціўся балабушкай. Уволю нарагатаўшыся, усе аціхлі. Чакалі, які каштоўны падарунак дадуць пераможцы. Чыпаліна ўручаць прыз не спя-

шалася. Доўга глядзела на баяніста, які стаяў ля мікрафона і граў вальс, а калі той ссунуў мяхі, махнула рукой.

Баяніст злез з кодаба, пабег на паўсагнутых, на хаду граючы тую самую мелодыю, што і падчас уручэння грамат.

— Пераможца ганаруецца каштоўным падарункам — наліўной асадкай з закрытым пяром!

— Кітайская… — захоплена прашаптала кабета з друзлым чэравам.

— А зараз новае спаборніцтва! — Чыпаліна глянула на баяніста, музыка паставіў баян на траву, выцягнуў з кустоў даўжэзны канат.

Расцягнуўшы канат уздоўж сцяжыны, Чыпаліна перавязала яго жычкай і гучна паведаміла:

— Па пяць мужчын з кожнага канца, прыкладна аднаго ўзросту і камплекцыі!

Што тут пачалося! Да канату кінуліся не толькі мужчыны, але і цёткі з падшыванцамі. Чыпаліна на пару з баяністам доўга выбіралі ўдзельнікаў спаборніцтва, урэшце выбралі дзесяць чалавек.

Чырвоная стужка на канцы матлялася то ўлева, то ўправа. Мужчыны страшэнна высільваліся, пры гэтым твары і плехі іхныя пачырванелі, узмакрэлі ад поту, правы бок стаў прыкметна перамагаць, ды надарылася непапраўнае: хтосьці выпусціў ад напругі паветра, і ўсе дзесяцера спаборнікаў разам паваліліся.

Гучней за ўсіх рагатала кабета з друзлым чэравам. Зрэшты, рагатала нядоўга, бо таксама пукнула і, ратуючыся ад ганьбы, вокраччу пашылася ў кусты.

Потым канат цягала другая змена, потым трэцяя, потым чацвёртая. Нарэшце Чыпаліна, зірнуўшы на гадзіннік, пляснула далонямі:

— Усё, таварышы, маёўка скончана. Зараз дружна едзем дахаты.

Людзі, аднак, і не думалі нікуды ехаць. Разаслалі на траве цыраты, укаранавалі іх пітвом ды едзівам і бязладна гарлалі песні. Недзе непадалёку шыпеў патэфон, і злавеснае шыпенне пакрыў надрыўны вокліч цёткі Аўгінні. Яна біла сумкай

нейкага дзядзьку. Дзядзька пры тым стаяў, хістаючыся, і раз-пораз прамаўляў: «Не зразумеў». Не мог дапяць — з якой нагоды яго б'юць.

— Куды ты зноў пашыўся?

Мы з маці пайшлі да машыны, а за нашымі спінамі ўсхліпвала цётка Аўгіння.

— П'янтосы няшчасныя. Нап'юцца, а тады рукі распускаюць.

Мы ўсе трое залезлі ў кодаб. Думаў, уладкуемся за кабінкай, але там ужо былі людзі.

— Пражылі з табой жыццё і нічога ў жыцці не бачылі, — плаксіва выдыхнула цётка Аўгіння, плюхнуўшыся на лаўку.

«Трэба было бег у мяхах і перацягванне каната паглядзець», — падумаў я, сядаючы поруч. А тое з'ездзілі на маёўку, а самага галоўнага не бачылі.

Адразу за мной сядзелі п'яны Фарзун і дзяўчынка, з якой разам елі марозіва. Не адна, вядома, а з бацькамі. Бацька, даўганосы мужчына, некуды рваўся, і жонка трымала яго за рукаво і, па прыкладзе цёткі Аўгінні, плаксіва румзала: «П'янтос няшчасны».

Дзве лаўкі каля задняга борта заставаліся пустыя і шафёр націснуў на сігнал — раз, другі. Ніхто больш ехаць дахаты не жадаў.

— Лёша, паехалі! Пехатой прыйдуць! — гракнуў бацька дзяўчынкі, і шафёр завёў рухавік.

«ЗіС-150» даў кола па паляне, страсянуўся на калдабане, і пярэдняя лаўка, падскочыўшы, балюча прыціснула пальцы на правай назе. Лаўка зноў падскочыла, я прыбраў нагу, перакрывіўся ад болю.

— Хоць бы косткі не трэснулі, — маці сцягнула з маёй нагі карэлую сандалю, і я зварухнуў прыціснутымі пальцамі.

Машына выехала на бальшак.

— Лёша, не меней ста! — бацька дзяўчынкі падхапіўся, грукнуў кулаком на даху кабінкі.

— Тата! Тата! — заплакала дзяўчынка, схапіла бацьку за крысо пінжака, але той не супакойваўся і грукаў па кабінцы ўжо не адным, а двума кулакамі.

«ЗіС-150» то жаласліва стагнаў на пад'ёмах, то разняволена буркатаў маторам, калі каціўся з гары. Дзіўная рэч: на пад'ёмах на дарозе ўздымаўся непраглядны пыл, а як ехалі з гары, пыл збіваўся ў рухавы шлейф і асядаў долу. Я зачаравана глядзеў на дарогу, але тут штосьці кранулася скроні і падбітай птушкай паляцела прэч разам з пыльным шлейфам. Гэта зляцеў у невараць фарзуноўскі капялюш.

— Рукамі трэба трымаць, разява, — прамовіла цётка Аўгіння.

Маці зняла хусцінку, і тая затрапятала на ветры.

— Дай завяжу, а то ў вушы надзьме.

Кручу галавой — сорамна ж сядзець перад дзяўчынкай у жаночай хустцы, — але ўрэшце здаюся, і да гораду еду, амаль не чуючы посвісту ветру.

«ЗіС» спыніўся, і людзі сталі вылазіць з кодаба. Я паспрабаваў развязаць вузел матчынай хусткі. Урэшце, так і не развязаўшы, папоўз да адкінутага борта. Пад лавай ляжала нешта чырвонае. Гэта была ганаровая грамата, якую на маёўцы ўручалі перадавікам. Падхапіў яе, мелькам агледзеў. На грамаце быў намаляваны Ленін, які цягнуў руку насустрач сонечнаму світанку, а паўзверх малюнка ляцеў размашысты надпіс: «Наперад, да перамогі камунізму!»

— Ну, злазь хутчэй! — маці стаяла ля машыны і цягнула, як Ленін, руку.

Па дарозе дахаты з замілаваннем разглядаў грамату. Асабліва спадабаўся сонечны світанак, што ўздымаўся над дымнымі комінамі. Адно кепска: па грамаце нехта прайшоўся, пакінуўшы адбітак чаравіка.

— Навошта ты ўзяў? — з панікай выбухнула маці. — Чыя гэта грамата?

— Марш..тр… — з цяжкасцю разабраў рукапісныя літары.

— Марштрупа, п'яны, згубіў, а ты схапіў чужое.

Маці так сказала, нібыта я гэтую грамату скраў. А яна ж пад нагамі валялася.

— Чаго ты накінулася на хлопца, — выдыхнула цётка Аўгіння. — Папера добрая. Хай што-небудзь намалюе на адваротным баку.

Мацаю глянцавую паверхню і думаю: што б такое намаляваць? І радасна ўздрыгваю. Я намалюю камунізм! «Але як камунізм будзе выглядаць?» — з гэтай думкай запавольваю хаду, а потым і зусім спыняюся. І тут жа ўваччу паўстаюць гара марозіва, маці ў новай спадніцы, Фарзун з капронавым капелюшом на галаве, за іхнымі спінамі ўзыходзіць агромністае сонца, і суседскі певень, заляцеўшы на плот, вітае адчайдушным кукарэканнем зару камунізму.

# УСЕСАЮЗНАЯ РАДЫЁЛІНЕЙКА

Яшчэ толькі сярэдзіна траўня, а надвор'е зусім летняе і сонца пячэ неміласэрна. Сяджу на беразе сажалкі і гляджу на супрацьлеглы бераг. Там двое мальцаў, клас чацвёрты-пяты, ловяць карасёў. Поруч сядзіць вялізны рыжы кот. Калі чапляецца маленькі карасік, мальцы кідаюць яго кату, таму рыжы ласун уважліва паглядае то на адзін, то на другі плавок.

Сажалка даволі вялікая і глыбокая. У дзесяці метрах яшчэ адна, праўда, меншая. Адразу па вайне тут здабывалі торф. Вада колерам як поўсць ката, які сядзіць на супрацьлеглым беразе. Такая ж рудая. Таму і мала ахвотнікаў знаходзіцца даваць у сажалку нырца. А па мне дык вада што трэба. Ну крыху торфам падфарбаваная. Але ж затое цёплая. Адзіная непрыемнасць — гэта дымны смурод, якім поўніцца наваколле. Нехта падпаліў торф паміж сажалак, цяпер ён паволі курыцца, і ад дыму свярбіць у носе і слязяцца вочы. Я ўдыхаю паветра, збіраючыся чхнуць, і заміраю, забыўшыся на чханне. На паверхню рудой вады ўсплывае нешта падобнае на плавок. Злёгку круціцца, нарэшце застывае і знікае, пакінуўшы па сабе пару бурбалак. Э-э… то ж мой стары знаёмца, жук-плывунец.

Мы тады жылі на другім канцы горада, і ў двары нашага дома месціўся невялічкі басейн. Нават не басейн, а так… бетонныя ночвы з кранам халоднай вады. Я толькі што скончыў першы клас і ўвесь час бавіўся ля таго басейна. Скакаў у халодную ваду, а потым грэўся ў пясочніцы, што была непадалёку. Аднаго ранку сядзеў на бетонным бардзюры, боўтаў нагамі і раптам убачыў на паверхні вады вялізнага жука. Я саслізнуў з бардзюра, намацаў ступакамі ног коўзкае дно,

збіраючыся схапіць жука ў кулак, ды той нырцануў. Калі ж я вылез з басейна, жук ізноў матляўся на хвалях, прычым, на тым жа самым месцы. Лазіў у басейн некалькі разоў і дарэшты змок, бо не здымаў ні кароткіх портак, ні кашулі. Нарэшце схапіў гарэзу ў кулак. Разагнуў пальцы, намагаючыся зблізку разгледзець жучыдлу, і адчуў рэзкі боль — нібыта далонь працялі іголкай. Жук, аказваецца, кусаўся! Спалохана страсянуў руку. Кусака пляснуўся на зямлю і бездапаможна заварушыў лапкамі. З дапамогай травіны кульнуў кусаку на чэрава. Дагэтуль ніколі не бачыў такога вялікага жука. Быў ён шэрага колеру, з маленькімі вусамі і з касматымі заднімі лапкамі. Дзіўна, але жук не спрабаваў збегчы. Проста сядзеў і, як падалося, цяжка дыхаў. Нечакана жучыдла ўзняў надкрылы і ўзняўся ў паветра, праляцеўшы так блізка каля майго носа, што ноздры адчулі лёгкі павеў. «Во дае!», — падумаў я, пазіраючы ў напрамку, куды зляцеў жук. Пад вадой сядзіць, па зямлі поўзае ды яшчэ і лётае! Не тое, што чалавек. Колькі той можа прасядзець пад вадой? Мы з сябрамі панурваліся ў басейн з галавой, і кожнага разу налічвалі да дзесяці, пасля чаго вырываліся з вады і засоплена дыхалі.

Дома мяне сустрэлі матчыны дакоры і ўшчуванні. Маўляў, прыйшоў увесь да ніткі мокры. Я ж, не пераапранаючыся, дастаў з кніжнай шафы 16-ы том Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, адгарнуў каляровую табліцу «Жукі». Маці тым часам сцягвала з мяне мокрую кашулю. Кусака на малюнку сваімі памерамі прыкметна выдзяляўся сярод іншых суродзічаў. «Плывунец аблямаваны» — бязгучна прашапталі вусны. Усё правільна. Жук, які мяне кусануў, быў аблямаваны па краях белай палоскай. У томе на на літару «п» прачытаў: «Плывунцы прожары і драпежнікі… Ядуць апалонікаў і малявак, чым наносяць шкоду рыбаводству, а па начах вылазяць з вадаёмаў і лётаюць па наваколлі». Прачытаўшы такое, пачухаў патыліцу. Думаў, драпежнікі — гэта шэрыя ваўкі. А тут аказалася, што яны чабохталіся разам са мной у басейне.

Хлопцы на супрацьлеглым беразе выцягнулі па карасю, але кату не далі, і той незадаволена вякнуў. Не адрываючы вачэй ад плывунца, падняўся на ногі, пайшоў па сцяжыне і

тут жа знайшоў патрэбную рэч: пустую пушку ад запалак. А заадно прыхапіў кавалак фанерыны, што ляжаў непадалёку.

Злавіць плывунца не так і проста — надта ўвішны. Не паспееш наблізіць руку, як адразу нырцуе. Праўда, гэтым разам я скончыў не першы клас, а заканчваў сёмы, таму руку не набліжаў, а ціхенька падышоў і адным махам чарпануў фанерынай ваду ў тым месцы, дзе боўтаўся плывунец. І вось ён ужо ляжыць дагары нагамі на пяску, з адчаем перабіраючы лапкамі. Я адчыніў пушку.

— Пасядзі там, браток. Ты мне патрэбны для адной справы, — мовіў праз хвілю, прыцiснуўшы вуха да пушкі. Жуку ў пушцы было цесна і ён нават не скробаў.

Дома выпусціў небараку ў акварыум. Драпежнік паплыў на паверхні, крутнуўся ва ўсе бакі, слізгануў пярэднімі лапкамі па шкле, спрабуючы выбрацца з вязніцы, і даў нырца на дно.

Увечары чытаў на кухні кніжку і раптам пачуў:

— Ашалеў? Плывунца ў акварыум пусціў. Усю нашу рыбную гаспадарку знішчыць.

Бацька стаяў перад акварыумам, абапёршыся рукамі на калені.

— Глянь, гупёшку даядае.

Драпежнік ужо не спрабаваў вылезці з акварыуму. Зразумеў, відаць, што патрапіў у жучыны рай. Зачапіўся за валіснерыю і грыз хвост вірлавокай гупі.

— Калі заўтра ад ранку яго адтуль не выцягнеш — я сам выцягну. Не хапала, каб ён маіх мечаносцаў зжор.

Мечаносцы — улюбёныя бацькавы рыбкі. Чырвоныя з чорным хвастом. Але мне даспадобы пляскатыя скалярыі.

Такой занюханай школы, як наша, яшчэ пашукаць трэба. Кожны тыдзень ладзяць піянерскія лінейкі, на якіх выносяць сцяг дружыны, б’юць у бубен і прамаўляюць адно і тое ж. На гэтых лінейках я душуся, на пару з Генкам Варанцом, са смеху, і нас часцяком выводзяць з залы. Мінулы раз на лінейку запрасілі кашчавага выгляду дзядка, які бачыў Леніна. Дзядок у нас пастаянны госць. Першы раз апавядаў, што бачыў Леніна

калі той на мітынгу выступаў. Другім разам казаў, што правадыр яму руку пацiснуў. Хутка пачуем, што яны ў абдымку пілі гарбату з малінавым сочывам. На мінулай лінейцы мы з Генкам, пазіраючы на дзядка, дакладней, на ягоны нос, траха не памерлі ад смехаты. Нос у дзядка тузаўся, і вочы з'ехалі да пераносся. Стваралася ўражанне, што ўдзельнік рэвалюцыйных падзеяў спрабуе поглядам утаймаваць рухавы насень. Генку вывела з залы завучыха, а мяне настаўнік фізры Яўген Іванавіч. І калі Варанца выводзілі, трымаючы за локаць, дык мяне фізрушнік схапіў за вуха. Ад болю, ці то ад крыўды, на вачах слёзы выступілі. І вось учора на сажалцы ўзнік план — як за тую крыўду паквітацца.

Сёння ў нас усесаюзная піянерская радыёлінейка. Будзем стаяць і цэлую гадзіну слухаць розную лухту з пакарабачанага рэпрадуктара. Серафіма Антонаўна, класная кіраўнічка, паставіла нас з Генкам у розных канцах, і сама стала поруч з Варанцом, кантралюючы кожны ягоны рух.

На калідоры грукае бубен, чуваць здушаныя хрыпы горна, і ў залу заносяць сцяг піянерскай дружыны. Дзвярная пройма даволі нізкая, таму сцяг апускаецца долу, рэзка паварочвае ўбок, і ягонае бліскучае наверша ледзь не патрапляе Серафіме Антонаўне ў лоб. Класная кіраўнічка спалохана падаецца назад, Генка Варанец цісне далонь да рота, заходзячыся са смеху, а потым, з чырвоным ад напругі тварам, цягне шыю, выглядаючы мяне на канцы шыхта. Але мне не да яго. Стаю незварушна, раз-пораз панурваючы руку ў кішэню штаноў і мацаючы потнымі пальцамі пушку з-пад запалак.

— Старшыня савета атрада 7«А» класа — здаць рапарт! — гарлае галоўная піянерважатая.

— Ёсць здаць рапарт! — адказвае Ленка Барановіч па мянушцы Авечка.

Ленка — страшэнная актывістка. Нядаўна ўступіла ў камсамол, аднак піянерскі гальштук не здымае. Яна наогул выглядае дарослай дзеўкай. Ужо і грудзі пукацяцца. Варанец аднойчы іх хапануў і казаў, што Ленка штосьці ў станік падкладае. Паралон ці яшчэ якую халеру.

Урэшце ўсе рапарты здадзеныя, і рэпрадуктар зморана свішча.

— У эфіры ўсесаюзная піянерская… — вырываецца на працяг звінючы дзявочы голас, які пакрывае злавесны свіст і не менш злавесны трэск. Дырэктар школы насуплівае бровы, і па зале прабягае «радыст» Лёшка Касцючэнка. Лёшка мой сусед па пад'ездзе. Летась скончыў школу, паступаў у радыётэхнічны інстытут, але не паступіў, і цяпер завіхаўся ў школьнай радыёрубцы. Лёшка падкручвае правадкі, і звінючы голас ізноў скаланае прастору:

— За гэты час піянерыяй савецкай краіны пасаджаныя сотні алей у гарадах і пасёлках, сабраныя дзясяткі тон макулатуры і тысячы тон металалому…

«Пара», — кажу ў думках сам сабе і ўжо не вільготнымі, а мокрымі пальцамі цісну на тарэц пушкі. Плывунец казыча далонь, паўзе ўгору, узбіраецца на манжэту кашулі. Стоена ўздыхнуўшы, казелю вока на плывунца. Бедачына насядзеўся без паветра і парывіста дыхае, рыхтуючыся да палёту. Мелькам азіраюся. Вокны ў зале адчыненыя і можна будзе сказаць, што жук сам завітаў на радыёлінейку.

— Пачынаем усесаюзны марш у гонар 50-й гадавіны Ленінскага камсамолу! — гракае рэпрадуктар, і крылаты драпежнік з густым гудам уздымаецца над галовамі.

Глядзеўся ён страшнавата і быў падобны на птушку. Жук спачатку матлянуўся ў бок Серафімы Антонаўны, а потым пачаў наразаць колы над Авечкай. Тая замахала рукамі, і драпежнік плюхнуўся ёй на спіну. Барановіч з перапуду нават прысела. Пасля Авечкі свавольнік падляцеў да сцяганосца, той спалохана махнуў сцягам, затым крутнуўся над галавой дырэктара школы і вырашыў перавесці дых на грудзіне ў завучыхі — старой, гарбаватай кабеты з неахайным пучком сівых валасоў на патыліцы. Завучысе стала млосна. Яе падхапілі з двух бакоў, а Лёшка Касцючэнка ўжо нёс пацярпелай шклянку вады. Жучара абляцеў залу па перыметры, пачапіўся за штору, прычым пад самай столлю. Генка Варанец тузануў штору, намагаючыся збіць свавольніка на падлогу, але па-

чуўшы воклiч Серафiмы Антонаўны: «Я цябе зараз выведу адсюль!» — адышоў ад вакна.

З Ленкай Барановiч штосьцi надарылася, бо яна зацята круцiла галавой, спрабуючы нешта ўгледзець за спiнай.

— Жук Ленку абсёр! — стоена, прыклаўшы далонь да краю вуснаў, выгукнуў у мой бок Варанец, i праз хвiлiну Серафiма Антонаўна ўжо выводзiла Генку з залы.

Праз дзесяць хвiлiн мы таксама выйшлi з залы i класная кiраўнiчка пагрозлiва выдыхнула: «Зараз будзе класная гадзiна!» Гэта значыць, зноўку будзе лаяць Варанца i высвятляць — хто прынёс на лiнейку жука. Па калiдоры iдзём шыхтом, я неўпрыкмет сыходжу ўбок i згiнаюся. Раблю выгляд, што шнурую кеды.

— Сарваць радыёлiнейку — гэта вам не жартачкi! Можам на ўсю вобласць праграмець! — чую голас дырэктара школы. Дырэктар рашучым крокам iдзе па калiдоры. Заўсёды шчыгульна паголены дырэктарскi твар нявечыць гiмора трывогi. Следам за iм дробна тупаюць пiянерважатая з Яўгенам Iванавiчам. Вочы ў фiзрушнiка слязяцца, як ад тарфянога дыму, а коратка стрыжаная галава па самыя вушы ўбiлася ў тулава.

— Ды ён у вакно заляцеў, — лiслiва выдае Яўген Iванавiч, паспяваючы за дырэктарам, — сам бачыў.

Слiзгаючы спiнай па сценцы, вяртаюся ў залу. Лёшка Касцючэнка, адцягнуўшы штору, трасе яе — усё адно як выбiвае пыльную посцiлку. Поруч таўчэцца гурт малечы.

— Асцярожна… кусаецца! — крычу, калi крылаты дуронiк скочваецца па тканiне долу. «Радыст» зацкавана глядзiць на жука, i я з робленай асцярожнасцю, нiбыта гэта небяспечны скарпiён, бяру плывунца двума пальцамi. Нейкi падшпарак лезе пад руку.

— У-у-у! — выдыхаю, тыцнуўшы рукой у паветры, i падшыванец, а разам з iм i Лёшка Касцючэнка, пужлiва адхiнаюцца.

На школьным двары, непадалёку ад уваходу, стаiць «Хуткая дапамога». Прыехала ратаваць завучыху. Iду да агароджы, саджу жука на пляскаты верх штыкецiны.

— Ну, браток, далі мы з табой дыхту. Можаш вяртацца на сваю сажалку, — я паказваю рукой куды трэба ляцець.

Плывунец варушыць вусамі, няўклюдна паварочваецца, глядзіць у той бок. Неўзабаве пачынае глыбока дыхаць і ўздымаецца ў паветра. Яшчэ імгненне бачу на небе рухавую кропку, але хутка і яна знікае, зліўшыся з белай аблачынай.

# У ЖНІЎНІ 68-ГА

На вуліцы спёка, а мы гуляем у футбол. І не абы-дзе, а на баскетбольнай пляцоўцы каля гасцініцы. Ганяць мячык там вельмі зручна, бо пляцоўка агароджаная металёвай сеткай.

— Дваццаць два — сямнаццаць! — крычыць Мішка Гук, капітан супернікаў. Мішка толькі што забіў дваццаць другі гол у нашы брамы.

У горле перасохла, вочы засціць пот. Стаўлю мячык на цэнтр і бачу стрыжаную галаву Пецькі Лапця, нашага суседа. Пецька, адставіўшы вольную руку, як гэта робяць старыя цёткі, цягне паўнюткі сіфон.

— Пеця! — крычу я і падбягаю да металёвых веснічак. — Дай глытку змачыць.

Нас на пляцоўцы восем чалавек, і мы гамузам абступаем Пецьку.

Прыпадаю вуснамі да сіфона, і ў нос б’е пякучым газам. Здушана кашляю, газіроўка ліецца з носа, і сіфон перахоплівае Мішка Гук. Разявіўшы рот, ён накіроўвае напорлівы струмень у глотку і таксама кашляе. Выпіўшы палову сіфона, па чарзе шугаем газіроўкі на патыліцы і толькі тады заўважаем засмучанага пяцікласніка.

— Не сумуй, — азываецца Мішка, поркаецца ў кішэнях, кідае Пецьку пяцікапеечную манету.

Заправіць сіфон каштуе пяць капеек, і стрыжаны «пад нуль» сусед, злёту перахапіўшы манету, зноў ідзе ў сіфоназапраўку.

Бегаць пасля газіроўкі не выпадае: у нос б’е кіслым газам і вада боўтаецца ў страўніку. З усяго маху б’ю па бра-

мах, якія ўтвараюць стойкі баскетбольнага шчыта, мячык стукаецца аб шчыт і ляціць на другі бок агароджы. Заляцеў далёка. Аж да смеццевых скрынь, што стаяць ля гасцініцы. Прыслухоўваючыся да булькацення ў чэраве, шыбую за мячыкам і на імгненне застываю нерухома. Бліжэйшая ад мяне скрыня запоўненая з каптуром і з-пад хломазду вытыркаецца край замежнага часопіса. Чаму замежнага? Таму, што бліскучая папера і не па-нашаму напісана.

У гасцініцы ўжо каторы месяц жывуць ангельскія спецыялісты, якія мантуюць абсталяванне на хімкамбінаце. Прычым, жывуць не адны, а разам з сем'ямі. Гэта яны выкінулі часопіс. Цікава, што ў ім напісана? Я стоена азіраюся. Народу вакол няма, але ж выцягні той часопіс, Мішка з кампаніяй падзяруць, старонкі гартаючы.

— Ты што там, заснуў? — крычаць з пляцоўкі.

Абабіваю мячык аб зямлю і махаю сябрам рукой. Маўляў, пара дахаты.

— Як мы вас сёння, — выдыхае Мішка, ляснуўшы жалезнымі весніцамі.

— Заўтра працягнем, — кажу ў адказ, задуменна пазіраючы на смеццевыя скрыні.

Трэба неяк адчапіцца ад сябра. Ужо ля самага пад'езда ляпаю далонямі па сцёгнах, з панікай гукаю: «Ключы!» — і бягу назад да гасцініцы. «Толькі б Мішка не ўвязаўся», — думаю я і задаю такога цубака, што сябар, калі б хацеў, наўрад мяне дагнаў бы.

Сметніцы хоць і стаяць ля гасцініцы, але на другім баку ад галоўнага ўваходу, і народу тут амаль не бывае. Хвіліну сунімаю дыханне, пасля чаго наструненым крокам падыходжу да скрыні, выхопліваю часопіс, пхаю пад саколку.

Мішка таўчэцца ў двары.

— Ну, знайшоў ключы? — здалёк гарлае сябар.

— Знайшоў! — адказваю гэтак жа гучна і, прыціснуўшы рукі да чэрава, шыбую да свайго пад'езда.

— Жывот прыхапіла? — пытаецца Мішка, і я, нічога не адказаўшы, адчыняю пад'ездныя дзверы і нырцую ў халаднаваты прыцемак.

Бацькі такім часам на працы і можна, раскінуўшыся ў крэсле, пагартаць замежнае дзіва. У часопісе адарваная вокладка. Затое старонкі цэлыя, блішчаць белым глянцам і лашчаць зрок шыкоўнымі машынамі і каўбоямі, якія смокчуць цыгарэты з фільтрам на тле вадаспаду. Цыгарэты дарагія, бо на пачках адбітыя залатыя кароны. Гэта вам не «Беламор», які смаліць мой бацька. Уваччу мільгацяць фотаздымкі тэлебачараў, пральных машын, электрычных мясарэзак і яшчэ нейкіх хатніх прычындалаў. Асабліва ўражвае лядоўня. Яна расчыненая, і ўнутры поўна розных прысмакаў — каўбасы нават да падлогі віснуць, — а на самой лядоўні сядзіць, задзёршы правую нагу, прыгажуня ў міні-спадніцы. Вось бы маці зірнуць на тыя каўбасы! Адзінае, што замінае, гэта дзеўка на апошняй старонцы. На ёй адны майткі і голыя цыцкі прыкрывае дзвюма пляшкамі віна, якое такім чынам рэкламуе. Такую дзеўку не падсунеш. Але ж маці цікава будзе ўведаць — на чым гатуюць ежу замежныя кабеты. Падумаўшы, адрываю апошнюю старонку ды прыхоўваю ў ніжнюю шуфляду пісьмовага стала.

На мяне напала прогліца, таму гатую абед: разбіваю тры яйкі на гарачую патэльню і крышу звараную надоечы бульбу. Потым ем перад тэлебачарам, паставіўшы талерку на калені. Якраз пачаўся выпуск навін, які вядзе сівы, бугаяватага выгляду дзядзька.

— Праваапартуністычныя і рэвізіяніcцкія колы фактычна захапілі ў свае рукі сродкі масавай інфармацыі і, карыстаючыся адменай цэнзуры, разгарнулі антысацыялістычную прапаганду. Друк, радыё і тэлевізія сталі ў Чэхаславаччыне не падкантрольнай дзяржаве сілай, — басавіта-пагрозлівым голасам паведамляе сівагаловы бамбіза.

Гэтай Чэхаславаччынай канчаткова задурылі галаву. Балбочуць пра яе дзень да ночы. Бацька дык зусім ачмурэў. Аніводнага выпуску навін не прапускае, і калі там распавядаюць пра чэхаў, аж на крэсле падскоквае і ўсё нейкага Дубчака лае.

— Апошнім часам у краіне разгорнутая кампанія па ліквідацыі народнай міліцыі, гучаць заклікі адрадзіць сацыял-

дэмакратычную ды іншыя буржуазныя партыі, — гарачая бульба прыпякае язык, таму запіваю яе халодным малаком.

Лёшка, Мішкаў старэйшы брат, кажа, што чэхі прагнуць на Захад перакінуцца. Карціць, небаракам, такія ж лядоўні займець — з каўбасой да падлогі. Бо ў чэхаў, як і ў нас, лядоўні ў дэфіцыце, ды і класці ў іх няма чаго.

Дапіваю малако, выключаю тэлебачар і зноўку разгортваю часопіс — на тым месцы, дзе рэклама гоначных матацыклаў. Аніколі такіх не бачыў. Трэба паказаць Мішку. Цікава глянуць на яго рэакцыю, бо той апанаваны матацыкламі. Марыць, як вырасце, набыць сабе «Іж Планету».

А сёмай вечара рыпаюць дзверы, і з калідора патыхае пахам лекаў: маці працуе правізарам у аптэцы.

— Хто табе даў? — пытаецца маці, пабачыўшы часопіс.

— Ніхто не даваў. Гулялі ў футбол каля гасцініцы, а нехта на лаўцы пакінуў.

Маці гартае часопіс, з недаверам хітае галавой.

— Няўжо ўсё свабодна прадаецца?

Нечакана маці падхопліваецца на ногі, дастае з кніжнай паліцы ангельска-расейскі слоўнік.

— «Кухонны камбайн», — перакладае мудрагелістыя ангельскія словы, і з уздыхам дадае: — Добра англічанкам. Не трэба посуд рукамі мыць.

Хвілін праз дзесяць з працы вяртаецца бацька. Ён на лёгкім падпітку. Ад заўтрашняга дня ідзе ў адпачынак, таму прастаўляў калегам пляшку гарэлкі.

— Што вы там глядзіце? — бацька здымае сплецены з чорнай лёскі гальштук.

— Глядзім як людзі жывуць, — маці тыцкае часопіс бацьку ў рукі і йдзе гатаваць вячэру.

— Гэта яшчэ адкуль узялася? — бацькавы бровы спачатку лезуць на лоб, а затым ападаюць на вочы.

— На баскетбольнай пляцоўцы знайшоў, — гукае маці з кухні.

— Ангельцы выкінулі, а вы і рады ўсякую макулатуру ў хату несці, — бацька занадта правільны чалавек, і маці з яго ўвесь час пацвельвае.

— Ты спачатку сваю макулатуру з хаты вынесі. Дзверы ўжо не адчыніць, — бацьку як члена партыі прымушаюць выпісваць кучу газет і часопіс «Агітатар». Газеты ён чытае, а вось «Агітатар» нават не гартае, і той грувасціцца вялізным стосам у калідоры.

— У Чэхаславаччыне таксама з замежнага глянцу пачыналася. А зараз не ведаем, як тых чэхаў угаманіць, — на бацьку нейлонавая кашуля, і валасы злавесна стаўбурацца ад электрастатыкі.

— Ты лепш глянь на кухонны камбайн, — азываецца маці, бразнуўшы патэльняй. — Усё для людзей робіцца. А мы за няшчаснай лядоўняй паўгода ў чарзе адстаялі.

— Я нічога не збіраюся глядзець, і ў маёй кватэры антысавеччыны не было і не будзе. Гэта я табе кажу, — бацька пагрозліва зыркае ў мой бок. — Забірай гэтую дрэнь і нясі туды, дзе яна валялася.

Бацькі пачынаюць лаяцца не на жарты, я выслізгваю з кватэры ды шыбую ў суседні пад’езд. Мішка на пару з братам вячэраюць на кухні. Братан вучыцца ў тэхнікуме і на час вакацый уладкаваўся на базу гародніны — засольвае гуркі ў бочках і збівае скрыні пад моркву. Відаць, толькі што вярнуўся з працы. Зазірнуўшы ў кухню, торгаю галавой, і Мішка з неахвотаю падымаецца на ногі.

— Зірні… па тваёй частцы, — я плюхаюся на непрыбраны Мішкавы ложак.

— Ух ты… — выдыхае сябрук, убачыўшы часопіс. — Дзе ўзяў?

— Дзе ўзяў, там ужо няма, — я перагортваю старонкі.

— Нічога сабе, — шапоча сябрук, убачыўшы замежны матацыкл, і, выцягнуўшы шыю, гарлае: — Лёш!

— Адчапіся, на танцы спазняюся, — падае голас братан. Але неўзабаве, на хаду даядаючы хлебную скібку, заходзіць у спальню. — Ну, што тут у вас?

— Ого… «Харлі-Дэвідсан», — прамаўляе Лёшка, спрабуючы праглынуць недажаваны хлеб.

Лёшка спехам гартае глянцавыя старонкі і застывае з разяўленым ротам, свідруючы вачыма чатырох кудлатых чува-

коў, на якіх я не звярнуў было ўвагі. Нахіляюся праз Лёшкавы плячук, спрабуючы высветліць — каго там сфоткалі, — і, мружачыся, чытаю па складах: «Бе-ат-лес».

— За колькі здаеш? — Мішкавы братан падсунуў часопіс да самага носа, а потым глянуў з адлегласці выцягнутых рук.

Неакрэслена торгаю плечуком і з жартам выпальваю:

— Тры рублі!

Думаў, Лёшка ўсміхнецца — занадта ж вялікія патрабую грошы, — але той, не адрываючы вачэй ад здымка, выцягнуў з кішэні жалезны рубель, а потым вынес са свайго пакою жменю драбязы.

Неверагодна! За старонку выцягнутага са сметніцы часопіса Лёшка выклаў аж тры рублі! За трульнік можна сцізорыкам разжыцца, а яшчэ і на шакаладныя цукеркі хопіць.

— Слухай, а хто на здымку? — пытаюся ў сябра, калі Лёшка грукае дзвярыма.

— Як хто… «Бітлз»!

Пра «бітлоў» я штосьці чуў краем вуха. Казалі, яны вешаюць на шыі накрыўкі ад унітазаў і штосьці нема гарлаюць са сцэны.

— Лёшка іх па «Бі-Бі-Сі» слухае. Класныя песні! Толькі чуваць кепска, і хваля плыве. Хоча маг надыбаць ды «бітлоў» запісаць. Ужо і грошы збірае.

— І шмат назбіраў?

— Сорак рублёў.

Раней мне карцела купіць складанчык з двума лёзамі, а цяпер заманулася, як і Мішкаваму брату, надыбаць магнітафон.

— Самы танны, «Чайка», сто пяць рублёў каштуе, — паведамляе сябар, і мы разам уздыхаем.

Яшчэ з калідора чую сіпаты голас Лапця — бацькі таго сама Пецькі, які бегае з сіфонам. Лапаць не мае тэлебачара і кожны вечар прыходзіць да нас паглядзець тэлевізійныя навіны. Балазе ісці далёка не трэба — жыве пад намі. Прозвішча суседа Лапоць, але ўсе скрозь завуць яго Лапцем. Сусед наш люта ненавідзіць чэхаў. І ўзненавідзеў ён іх з мінулай Алімпіяды, калі чэшскія хакеісты выйгралі ў зборнай

СССР. Лапаць, як глядзеў той матч, так усхадзіўся, што маці выйшла са спальні і незадаволена выдала: «А без мацюкоў не атрымліваецца?»

— Ды хопіць з імі валэндацца… выкаціць у Прагу танкі і дзеўбануць з усіх ствалін, — гамзае сусед.

Па целеку паказваюць Прагу. Я мелькам зыркаю на тэлеэкран і йду на кухню.

На вячэру маці, як заўсёды, згатавала амлет. Ён крыху падгарэў, але есці можна.

— Памятаеш, у 56-м? З Імрэ Надзем насіліся. А зараз з Дубчакам носяцца. Замест таго, каб войскі ўвесці ды навесці парадак, — з інтанацыяй лаянкі выдае Лапаць.

— Так, без танкаў там не абысціся, — адказвае бацька, прычым ліслівым тонам. Ёсць у бацькі такая паганая звычка: падлабуньвацца да рознай дрэні.

Амлет не смакуе. Усё адно як гумовы. Калісьці маці дадавала ў яго кавалкі доктарскай каўбасы. Вось была смакоша! Цяпер каўбасы няма ў продажы.

— А заадно і амерыканцам даць па пысе. Каб не лезлі ў Еўропу, — не сунімаецца Лапаць.

— Ідыёт, — паўтараю матчына слова, якім яна ўпотай ганаруе суседа і, наліваючы з бутэлькі малака, шугаю міма шклянкі.

Раніцай мяне абуджае званок у дзверы. Звоняць зацята, бесперапынку. Маці ляпае босымі нагамі. На лесвічнай пляцоўцы штосьці бубняць, маці адказвае, нячутна прычыняе дзверы.

— Хто там? — варушыцца на ложку бацька.

— Позву прынеслі. Заўтра а дзясятай гадзіне з'явіцца ў ваенкамат.

— І ты распісалася?

— Навошта я буду распісвацца. Не мне ж прынеслі. Сказала, што ты ў адпачынку і з'ехаў у Гомельскую вобласць.

У Гомельскай вобласці жыве мая бабуля. Ранейшым часам бацька да цешчы не ездзіў, хаця маці і ўпрошвала. А тут

падхапіўся з ложка і, не нацягнуўшы нагавіц, дастаў з антрэсоляў валізу.

— У нашай загадчыцы мужа ўзялі на зборы. Кіроўцам на аўтобусе працуе. Казала, прыслаў ліста аж з Ужгарада, — плаксіва лапоча маці, выцягваючы з шафы бацькаву бялізну.

— Ты ж, як прыедзеш, адразу напішы, — крычыць маці, і бацька, збягаючы па прыступках, адгукаецца:

— Напішу!

«Учора з Лапцем збіраліся з амерыканцамі ваяваць, а позву прынеслі, сігануў да цешчы як віхура», — думаю я, хаваючы ў далонь позех. Але тут жа вінавата чухаю лабешнік. Усё ж такі нядобра так думаць пра бацьку. Пагатоў, у яго першы дзень адпачынку. Мае поўнае права наведаць крэўных. Я наогул думаю, што ніякай вайны не будзе. Дарма маці столькі гаспадарчага мыла накупляла. Яно ляжыць пад маім ложкам, і ад яго ўвесь час казыча ў носе і карціць чхнуць. На якую халеру заходнікам тая вайна, калі ў іх кухонныя камбайны ў вольным продажы, і матацыклы, і магі. Згадаўшы пра магі, скочваюся з ложка, хапаю штаны і лезу ў кішэнь. Металёвы рубель і жменя драбязы прыемна абцяжарваюць далонь. Пахапліва пералічваю грошы. Дзве капейкі Лёшка не дадаў. А можа я сам іх згубіў, як спаць клаўся? На падаконні ляжыць пустая бляшанка з-пад халвы. Ссыпаю ў яе грошы. Вырашыў сцізорык не набываць. Буду, як Лёшка, збіраць грошы на магнітафон. І, апанаваны такой думкай, грукаю скарбонкай.

— Чым ты там бразгочаш? — пытаецца маці.

— Грошы збіраю.

— А навошта яны табе?

— Хачу маг набыць.

Маці сядае на ложак, сядзіць нерухома, і ў вачах яе блішчаюць слёзы. Напачатку падумаў, што яна перажывае за бацьку, але потым зразумеў: маці хоча разжыцца кухонным камбайнам — такім, як у часопісе, — але ведае, што ніколі яго не набудзе.

## НА ЧУЖЫНЕ

— Патэлефануй бабулі. Скажы, што заўтра прыедзем.

Юрка падхоплівае з матчынай сухой і халоднай далоні «мабільнік», пхае ў кішэнь.

— Кашулю здымі, запэцкаеш, — гукае маці ў спіну.

На ганку хлопец скідае кашулю, ссоўвае з пятак падзёртыя красоўкі. Сцяжына перад домам засыпаная жужалем, які балюча ўбіваецца ў пяткі, таму ісці даводзіцца на дыбачках. Жуль — чарнявы, з белай плямай на шыі сабачка — бяжыць следам, спрабуе лізнуць нагу.

Таполя шамаціць іржавым лісцем, а на самай макаўцы зацята ціўкаюць вераб'і. Таполя старая, стаіць ля самых весніц, і маці пару разоў пісала заявы, каб яе спілавалі. Непадалёку адно такое дрэва ўпала падчас навальніцы і куратнік разваліла. Магло і на хату абрынуць. Адстаўнік Пракалушчанка, сусед, парываўся быў сам спілаваць. Ужо і бензапілу пазычыў. Але не рашыўся. Казаў, валіць трэба накіравана, бо з аднаго боку хаты з агародамі, а з другога лінія электраперадачы. Парвеш дрот, потым штраф улепяць.

На доле стаўбур гладкі, без кары, і першыя метры даюцца найбольш цяжка. Вядома, лепш узбірацца ў адных майтках, але ж у кішэні штаноў боўтаецца «мабільнік». Яшчэ летась можна было тэліць, не ўзлазячы на дрэва. Але пачалася вайна, вышку мабільнай сувязі, якая стаяла на даху пошты, зрэзала снарадам, і цяпер, каб некуды пазваніць, даводзіцца лезці на таполю.

— Асцярожна! — крычыць маці.

Юрка выплёўвае ржавы ліст — палова лета, а лісце ўжо ссохла — і прыслухоўваецца. Але не да матчынага вокліку,

а да зацятага стукату над галавой. Там, над галавою, у яшчэ зялёных шатах, нейкая птушка тухкае дзюбай па нечым каляным. Галіны цягнуцца ўгору, ціснучыся да стаўбура, і лезці становіцца лягчэй. А вось і першы тоўсты сук. Закінуўшы на яго нагу, можна і адпачыць. На вышыні добра дыхаецца. Такое адчуванне, што сядзеў пад вадой і раптам вырваўся на паверхню ды глынуў паветра. Усё наваколле як на далоні. Бачны нават тэрыконы бацькавай шахты. Шахта даўно не працуе, і тэрыконы зараслі палыном ды ліловым скрыпенем. Надоечы Юрка з сябрамі хацелі ўзлезці на адну такую гару, але пад'ём круты, і падшыванцам не хапіла сіл. Дзесьці там, за ўтравелымі тэрыконамі, сінее мора. Але яго з такой вышыні не ўбачыш. А хацелася б. Як быў жывы бацька, яны кожны год ездзілі на мора. У прыбярэжным пасёлку Новаазоўск была шахцёрская база адпачынку. Цяпер у Новаазоўску ідуць баі. Да драцяной пятлі пару метраў. Хлопец накруціў яе мінулым разам, каб зручней было размаўляць па тэлефоне. Пхаеш у пятлю нагу, адной рукой абхопліваеш дрэва, а ў другой трымаеш «мабілу». Юрка плюе на пальцы і зноў чуе дробнае лапаценне над галавой. Верхалаз задзірае галаў, спрабуючы штосьці ўгледзець скрозь лістоту, і новыя зыкі, грымотныя і трывожныя, далятаюць з-за спіны. Па вуліцы калываецца вайсковы «казёл», а за ім, на значнай адлегласці, ляскочуць тракамі два танкі. Той, што ззаду, пакідае за сабой шлейф чорнага дыму. Танкі, па чутках, перакідваюць з Таганрога. Раней іх выходзілі сустракаць ледзь не ўсе жыхары пасёлка, і танкісты з раскосымі вачыма прыязна махалі рукамі. Зараз ніхто не сустракае. Адно Жуль, а разам з ім суседскія сабакі, уздымаюць гвалт, высвятляючы — хто гучней і залівісцей брэша.

— Ну, што ты там? — пытаецца маці.

Хлопец уздыхае, абхоплівае сцёгнамі стаўбур і, абломваючы дробныя галіны, лезе ўгору.

— Бабуля, гэта я, Юра! — крычыць ён праз пару хвілін, ціснучы «мабілу» да вуха.

Сувязь кепская. Голас бабульчын увесь час перарываецца. Толькі і ўдалося пачуць: «Калі вас чакаць? Па абедзе?»

— Скажы, што прывязем лядоўню і тэлебачар! — гукае маці, перакрыкваючы танкавы гуд.

Пачуўшы ў слухаўцы слова «Чакаю», хлопец адключае «мабілу», задзірае галаў. Там, на самай верхавіне, сапраўды штосьці сінее. Рукі страсянаюць таполю. Вераб'і піскліва пырхаюць, жмутак сухіх лісткоў ляціць долу.

— Зваліцца хочаш? Зараз жа злазь! — матчын голас зліваецца з Жульчыным брэхам.

Адстаўнік, які абразае вінаградное лісце на падворку, выцягвае з рота папяросу:

— Грушы з таполі страсаеш?!

«Калі што з дрэва зваліцца, Пракалушчанку гэта зацікавіць. Трэба яшчэ раз на таполю ўзлезці, як суседа на падворку не будзе», — апанаваны такімі думкамі, хлопец сцягвае з плячэй саколку — калі спускаешся, галіны ўвесь час лезуць пад яе, — і кідае долу.

— Ну, ехаць не перадумалі? — пытаецца сусед, падышоўшы да тына.

— Едзем. У мяне ў Віцебску сястра жыве. Я сама з тых мясцін. Мо і зачэпімся, — падае голас маці.

— Правільна. Чаго тут сядзець. Палова вуліцы з'ехала. Урэшце, і вярнуцца можна. У Беларусі, па тэлевізіі паказваюць, жыццё зусім іншае. Не тое, што ў нас, — пасля такіх слоў сусед са злосцю ляскае секатарам. — А ўсё праз бандэраўцаў, каб яны спрахлі.

Сусед-адстаўнік хоць і мае ўкраінскае прозвішча, але ненавідзіць усё ўкраінскае, а тых, хто размаўляе «моваю», называе бандэраўцамі. Увесну, як толькі з Таганрога паехалі танкі ды машыны з вайскоўцамі, напісаў белай фарбай на сваіх «Жыгулях»: «Даедзем да Кіева!» «Жыгулі», праўда, даўно нікуды не ездзяць. Стаяць каля весніц, і не на колах, а на цурбаках.

Юрка плюхаецца на ганак, насоўвае красоўкі. Хлапчына не любіць суседа. Бацька, як быў жывы, таксама не любіў, і называў Пракалушчанку дэзерцірам пяцігодкі. Вядома, бацьку даводзілася ў шахце працаваць, а «дэзерцір» у ваенкамаце сядзеў, смаліў «Беламор» ды позвы прызыўнікам падпісваў.

Жуль схапіўся зубамі за мысок красоўкі, кусае, наставіўшы на хлопца цікаўныя, аточаныя чырвонымі павекамі вочы. Юрка варушыць пальцамі правай нагі, і цюцька мацней сціскае зубы.

— Гаспадара кусаць! — з робленым абурэннем кажа Юрка, і Жуль, енкнуўшы, ліжа мысок шурпатым языком.

Сабачка прыбіўся да іх мінулай восенню. Прыйшоў у двор — брудны, мокры, галодны. Маці такому госцю не надта ўзрадавалася і забараніла пускаць мокрага цюцьку ў хату. Юрка зграмэздаў тады з гнілых аполкаў будку, пхнуў туды падзёртую бацькаву ватоўку. Цяпер дварняк вартаваў дом і адчайна брахаў, калі ішоў нехта незнаёмы.

Хлопец пачухаў кудлатага сябрука за вухам і ўздыхнуў. Хутка яны развітаюцца. І як тут Жуль будзе адзін, без гаспадароў? Трэба папрасіць Пракалушчанку, каб кінуў якую костку. А яшчэ сябра Славу Гофмана, што жыве на суседняй вуліцы. У яго таксама сабака. Але не дварняк, а руды шэлці.

— Есці ідзі, — гучыць за спінай, і Юрка падымаецца на ногі.

На абед, як і ўчора, «сіненькія» — недаспелыя баклажаны. Ад іх свярбіць язык і пячэ глытку.

«Што ж там зачапілася за вершаліну?» — думае падшыванец, глытаючы гарачае едзіва. Відаць, поліэтыленавую торбу ветрам узняло. Хаця на торбу не падобна. Вераб'і білі дзюбамі па нечым цупкім.

Увечары маці пайшла да дзядзькі Мікалая. Дамаўляцца наконт заўтрашняй паездкі ў горад. Калі загінуў Юркавы бацька, у хату цэлы тыдзень завітвалі шахцёры. Казалі: у бядзе вас не пакінем. А сёння толькі дзядзька Мікалай і дапамагае. Яны з бацькам у адным забоі працавалі. У дзядзькі свой аўтобусік «Фальксваген». Стары, праўда. Зняў у ім крэслы і возіць гародніну на Тарэзаўскі кірмаш.

Юрка зыркае ў вакно. Сусед-адстаўнік сядзіць у хаце, бо лысая галава з-за тына не вытыркаецца. Хлопец адчыняе спіжарню, колькі часу поркаецца ў хломаздзе, урэшце знаходзіць аднаручную пілу.

На дрэва лезе, распрануўшыся да майтак і падперазаўшыся аборкай, на якой боўтаецца аднаручная піла. Спачатку яна боўталася збоку, а потым з’ехала на азадак. Да драцяной пятлі ледзь далез. Нават увушшу зашумела ад напругі. Доўга адпачываў, парывіста дыхаючы і абхапіўшы стаўбур рукамі. Убіўшыся дзвюма нагамі ў пятлю, паспрабаваў парваць аборку. Тая, аднак, не абрывалася. Давялося здымаць пілу праз галаву. Даразаў стаўбур з зацярушанымі пілавіннем вачамі, амаль непрытомны, а пачуўшы, як вяршаліна з шумам палясцела долу, выпусціў пілу са знямелых пальцаў.

Калі спускаўся, да крыві падрапаў лыткі, а спусціўшыся, доўга сядзеў нерухома, наваліўшыся каркам на камель абцятага дрэва і ўбіраючы носам гаркавы таполевы пах. Увушшу замарачна гуло, падрапаныя рукі і лыткі смылелі, і бракавала сіл расплюшчыць зацярушаныя глядзелкі. Але вось расплюшчыў, зірнуў на зялёную, кранутую лісцвяной іржой вяршаліну, — і стомы як не было. У таполевым вецці заблыталася сіняя тэчка з залатым вензелем. Юрка ўскочыў, падхапіў тэчку, подбегам пашыбаваў да хаты.

— Ты навошта таполю абкарнаў? — крыкнуў са свайго двара Пракалушчанка.

— Цень ад яе, памідоры кепска спеюць! — азваўся хлопец.

Тэчка мяккая навобмацак. У левым куце золатам гараць мудрагеліста намаляваныя літары «М» і «А», а паміж імі падрапежніцку распасцёр крылы авіялайнер.

«З таго самалёта», — шэпчуць вусны. Надоечы пасажырскі самалёт збілі. Ад пасёлка гэта даволі далёка. Але ж тэчка лёгкая, вось і аднесла ветрам. Пра той самалёт апошнім часам толькі і гамоняць. Адны кажуць, што яго апалчэнцы збілі, іншыя, што укры дзеўбанулі. Дрогкія пальцы адшпільваюць дзве кнопкі, і з тэчкі выпадае некалькі каляровых фотаздымкаў, нейкія квітанцыі, і барвовага колеру кніжачка, з выгляду замежны пашпарт.

— «Конін-крыйк дэр Не-дэр-ландэн», — чытае Юрка па складах не па-нашаму напісаныя словы.

Ну так… нідэрландскі пашпарт. Здаецца, адтуль самалёт і ляцеў. Уладальніца пашпарта — жанчына. Чарнявая, з цы-

ганістымі вачамі, не падобная да еўрапейкі. На чатырох фотаздымках дзіўныя людзі ў белах апранахах. Але сфатаграфаваныя на тле каменных сабораў і ветракоў.

Што ж з усім гэтым рабіць? Раней бы занёс у міліцыю. А цяпер куды несці? У міліцэйскім апорным пункце сядзяць падпітыя дзядзькі з аўтаматамі. Міма таго пункта людзі хадзіць баяцца. Лепш завесці ўсё гэта ў Віцебск ды паказаць Каляну, стрыечнаму брату. Калян на пяць гадоў старэйшы. Перапісваліся з ім па «электронцы». Шкада, ноўтбук прадалі. А так бы яму напісаў пра нідэрландскі пашпарт.

Юрка лезе ў сумку, — рэчы для ад'езду ўжо спакаваныя, — намацвае свой выхадны пінжак, які ляжыць на самым дне, пхае ў нутраную кішэнь пашпарт, фоткі і квітанцыі. Маці пра знаходку казаць не варта.

— Калі ехаць збіраецеся? — дзядзька Мікалай паддаў хуткасці, бо выехалі на галоўную вуліцу пасёлка.

— На наступным тыдні, — адказвае маці.

Юрка з маці сядзяць на пярэднім сядзенні, поруч з вадзілам, а за спінамі грувасціцца ўвесь іх скарб: лядоўня, тэлебачар, пралка і звязаная вузламі вопратка.

— Правільна, што майно прыхоўваеце. Можаце і ў мяне сёе-тое пакінуць, — дзядзька Мікола мелькам азіраецца. — Уначы хату абчысцілі.

Маці страпянаецца.

— Чыю?

— Манькі Вырупаевай.

Маці зморана стогне.

— Бедная Маня. Працавала дыспетчарам шахты, а цяпер у віры на юры падалася. А яшчэ і абрабавалі.

— А ўсё праз Яныка, — дзядзька Мікалай чарговым разам паддае газу. — Трэба было, як закалоты пачаліся, у Харкаў ехаць, народ падымаць. А ён у Маскву сігануў.

— Торбу з грашыма прыхапіўшы, — дадае маці, і дзядзька Мікола скідвае хуткасць.

Каля апорнага пункта міліцыі таўкуцца ўзброеныя апалчэнцы. Нейкі цыбаты дзядзька ў шэрай кубанцы выкідвае наперад руку.

— Міліцыя Данецкай Народнай Рэспублікі, — гугнявіць чалавек у кубанцы, зазіраючы ў салон. — Куды едзем?

— У Тарэз, — выдыхае дзядзька Мікалай.

— Што ў салоне?

— Жанчына пераязджае, — дзядзька Мікалай торгае галавой і нечакана, угледзеўшы некага на ганку пастарунка, гукае: — Вася!

Нейкі недаростак збягае з ганку, глядзіць з-пад рукі ў наш бок і махае рукой.

— Бач ты… Васька Закрывідарога… Ад аліментаў хаваўся, два гады «хіміі» атрымаў. А цяпер глянь на яго: ходзіць, зброяй абвешаны, — дзядзька Мікалай цісне на понаж газу, і далей, аж да самага горада, маўчыць, зацята паглядаючы на дарогу.

На блокпосце пры ўездзе ў Тарэз машыну зноў спыняюць.

— Чё визём? — з нетутэйшым акцэнтам пытаецца бамбіза ў камуфляжы.

Дзядзька Мікалай адчыняе заднія дзверцы, і бамбіза, да ніжняй губы якога прыліпла шалупайка ад семак, зазірае ў салон. Убачыўшы, што нічога каштоўнага няма, бамбіза сплёўвае шалупайку.

— Чё это ты… вчера поплакуху возил, сегодня биксу с пацаном гонишь?

— А што за «паплакуха»? — цікавіцца Юрка, калі яны прамінаюць блокпост.

— Цыбуля. Учора мяне спыняў каля базару, — дзядзька Мікалай прыпальвае цыгарэту. — Чувак з зоны адкінуўся. А можа збег. Такі ў лабешнік стрэльне і не паморшчыцца.

Бабуля жыве ў пашарпаным пяціпавярховіку на вуліцы Пушкіна, на цокалі якога нязграбнымі літарамі напісана: «Домбас не сломить!» Увесь горад спісалі лозунгамі, прычым з граматычнымі памылкамі. Бабуля кажа, што шахцёры кніг не чытаюць, таму і памылкі лепяць. А калі ім было кніжкі чытаць. Вунь, бацька…. шэсць гадзін пад зямлёй сядзеў, потым паўгадзіны дадому дабіраўся. Пераступаў парог хаты і на ложак валіўся, не павячэраўшы. Бацька ў маладосці ва ўніверсітэт паступіў, на факультэт журналістыкі. Пасля другога

курса на практыку выправілі — браць інтэрв'ю ў шахцёраў. Спусціўся ў шахту, раскрыў блакнот, пытаецца: «Колькі выдаяце на-гара за суткі?» А шахцёры смяюцца, бліскаюць у паўцемры бельмакамі. Кажуць: кідай, студэнт, тыя блакноты. Ці ж гэта мужчынскі занятак? Давай да нас у шахту. Бацька таго ж дня паехаў ва ўніверсітэт і забраў дакументы. Пайшоў простым горнарабочым. Сямнаццаць гадоў адпрацаваў у забоі, аж пакуль яго ваганеткай не прыціснула.

Машына толькі пад'язджае да пад'езда, а бабуля ўжо стаіць на ганку. На ёй, як заўсёды, выцвілы халат, а сівыя валасы тугім пучком сцягнутыя на патыліцы. Бабуля, ні слова не сказаўшы, падхоплівае з рук дзядзькі Мікалая вузел з трантамі, а сам дзядзька ўзвальвае на спіну лядоўню, і Юрка з маці ідуць следам, прытрымліваючы яе з двух бакоў.

Кватэра на першым паверсе, таму майно занеслі хутка. Бабуля запрасіла дзядзьку Мікалая выпіць гарбаты, але той адмовіўся і, паабяцаўшы заехаць а шостай гадзіне, з'ехаў.

— Вось такім ведала, — бабуля паказвае рукой рост дзядзькі Мікалая ў дзяцінстве. — Аднойчы залез да нас у вішні, а я падпільнавала, схапіла за каршэнь ды праехалася лазінай. Але ён таго і не памятае.

Бабуля калісьці жыла ў нашым пасёлку, і толькі потым пераехала ў Тарэз. Дакладней, у Чысцякова. Так раней называўся горад. Бабуля па старой памяці яго гэтак і называе. Тарэз — нейкі француз. Але што ён зрабіў добрага, ніхто не ведае.

Маці адразу ж пачынае званіць па бабчыным «мабільніку» на чыгуначную станцыю. Хоча даведацца — як дабрацца да Растова. Праз Растоў ходзіць цягнік Адлер — Калінінград, на якім можна даехаць да Оршы. А там да Віцебска рукой дастаць.

— Боршч згатавала… стыне! — азываецца з кухні бабуля.

Юрка глядзіць на прыбіты да сценкі алюмініевы жэтон, — з ім бацька спускаўся ў забой, — і, уздыхнуўшы, ідзе на кухню.

Бабчын боршч, як заўсёды, смакуе.

— Еш, еш, дзетухна, — мармыча бабуля, кроячы круглявы бохан.

— Надоечы іду міма школы, а ў школьным двары вогнішча расклалі і нешта ў яго кідаюць, — распавядае бабуля. — Падыходжу бліжэй, а гэта дзятва ўкраінскія кніжкі паліць. Во да чаго дажыліся.

Накроіўшы хлеба, бабуля падпірае шчаку далонню.

— І што я з вашым майном рабіць буду? — бабульчын нос торгаецца ў бок лядоўні.

— Прадасі, калі што, — маці завіхаецца з лыжкай, не падымаючы вачэй: ёй боршч таксама смакуе. — Нельга ў хаце пакідаць. Злодзеі па начах сноўдаюць. Усё вынесуць.

— А можа, не паедзеце? Халера ведае, як там будзе ў тым Віцебску, — бабуля падпірала левую шчаку, цяпер падперла правую. — Пераязджайце з Юрам у Чысцякова. А я ў пасёлак пераеду. Буду ў гародзе поркацца.

— І што будзем рабіць? Чакаць, пакуль у вакно снарад заляціць? — маці бразгае лыжкай, парываецца ўстаць, і бабуля, паляпаўшы яе па руцэ, прымірэнчым голасам выдае:

— Ладна. Еш. А то згаладалі з дарогі.

Сонца ласкавым святлом залівае наваколле. Юрка з маці стаяць пасярод перона, уражана аглядаючы будынак вакзала. Ён падобны на шматслойны торт. Белыя калоны перамяжоўваюцца з брунатнымі, колеру малочнага шакаладу, сценамі і, здаецца, лізні іх, і адчуеш шакаладную слодыч.

— Божухна, як чыста! — выдыхае маці.

Перон і сапраўды ўражвае чысцінёй. Калі з’язджалі з Тарэза, былога Чысцякова, тамтэйшы вакзал патанаў у смецці.

Маці даўно не была на радзіме, таму ўваччу блішчаць слёзы.

Чакаць цягніка на Віцебск не даводзіцца: да платформы падганяюць блакітны «дызель».

Самае дзіўнае для Юркі тое, што ніхто ў вагоне не размаўляе па-беларуску. І дзядзька-машыніст абвяшчае па-расейску: «Поезд идёт со всеми остановками до станции Витебск. Время в пути один час пятьдесят четыре минуты». На мапе

Беларусь паказана як асобная краіна, а аказалася, што тут Расея. Пасажыры, якіх даволі шмат, паводзяць сябе ціха. Адно ў дальнім канцы залівіста плача дзіцё. Іншая справа ў Тарэзе. Калі шахцёркі садзяцца ў цягнік, учыняюць гвалт на паўсвету. Нечакана і тыя галасы, якія гучалі, аціхаюць, і пасажыры гамузам убіраюць галовы ў плечы. Чутны пагрозлівыя крокі. Юрка азіраецца. Ад задніх дзвярэй ідуць два здаравякі ў чорнай форме і ўважліва пазіраюць на пасажыраў.

— Хто такія? — пытаецца маці ў бабулі, якая сядзіць насупраць.

— Як хто… амон! — шапоча бабця такім голасам, нібыта гэта нейкая вышняя, непадуладная чалавеку сіла.

— На эсэсаўцаў падобныя, — кідае маці ўслед амонаўцам, і бабця пужліва лыпае вачанятамі.

Цягнік кранаецца з месца, працягла скавыча, і бабця ўсё тым жа шапятлівым голасам пытаецца ў маці:

— А вы не мясцовыя?

— З Данбаса едзем.

— У адпачынак, ці як?

— Нам не адпачынку. Ад вайны ўцякаем.

— Ну і гады! — выдыхае бабця, пры гэтым невядома, каго яна мае наўвеце.

Маці запытальна торгае галавой.

— Па тэлебачары паказвалі… гараць у людзей хаты, а ўкраінцы ўсё не сунімаюцца. Страляюць дзень да ночы. Аж страшна стала.

— Хай тыя людзі радуюцца, што ва Украіне не Пуцін кіруе, — уключаецца ў размову дзядзька, які сядзіць на краі лавы і чытае газету, — а то б ад Данецка, як і ад Грознага, каменя на камені не засталося. Спляжылі б разам з людзьмі.

— Якія людзі? — з панікай гракае суседка. — У Грозным тэрарысты сядзелі.

— Ага, тэрарысты… там рускія бабы ў падвалах хаваліся.

— Мужчына, навошта такое казаць, — абурана выдае бабця, — і мужчына, адмахнуўшыся, плюхаецца на іншую лаву.

— Бэнээфавец. Яны ўсё народ баламуцяць, — паведамляе суседка.

Пару хвілін бабця маўчыць, казелячы вокам на бэнээфаўца, нарэшце схамянаецца.

— А ў вас тут радня?

— Сястра ў Віцебску. Ды я сама тутэйшая. На Пескаваціках нарадзілася.

— А як на Данбас патрапілі?

— Жаніх у Віцебску служыў. Ну і паехалі на ягоную радзіму. Якраз школу скончыла ды на «КІМ» пайшла працаваць.

— «КІМ» ужо не працуе, — бабця папраўляе грабянец на патыліцы.

— Як не працуе?

— Зачынілі. І іншыя заводы пазачынялі. Працы ніякай. У мяне зяць кранаўшчыком рабіў. Скарацілі. Нядаўна ў Смаленску ўладкаваўся. Збіраецца ўвосень у Маскву перабірацца. І дачка без працы. Вязу во хатуль унуку.

У маці дагэтуль вочы бліскалі, а тут вомігам пацьмянелі.

— А муж твой дзе? — «дызель» торгаецца, і бабульчын грабянец злятае на падлогу.

— Загінуў, — з неахвотаю кажа маці, думаючы пра нешта сваё.

— Украінцы забілі?! — гаваркая бабуля шорхае рукой пад лаўкай.

— У шахце ваганетка пераехала. Чатыры гады таму.

Маці ўстылі гэтыя размовы. Яна падымаецца на ногі, глядзіць у канец вагона, і гаваркая суседка шапялява паведамляе:

— Зачынена яшчэ. Санітарная зона.

У дарозе Юрка думаў, што Віцебск такі ж, як Данецк, куды ён ездзіў з бацькамі. Аднак, калі таксоўка, у якую селі, уз’ехала на мост, адкуль адкрылася гарадская панарама, зразумеў: горад не такі ўжо і вялікі.

— Ух ты, якая царква! — уражана выдыхнула маці, прыпаўшы да шыбы, — пры мне яе не было. — Царква ззяла залатымі купаламі на гары, леваруч ад моста. — А ўнівермаг той самы, — маці зірнула ў супрацьлеглае вакно. — Хацела разгаварыць таксіста, але вадзіла маўчаў, і толькі на павароце,

абмінаючы серабрыстую «Таёту», якая не жадала з'язджаць убок, каротка мацюкнуўся.

Таксоўка праехала па праспекце, завярнула ў бакавы, забудаваны панельнымі пяціпавярховікамі завулак.

— Колькі з нас?

Таксіст адказаў, і маці прыціснула рукой рот.

— Нічога сабе! Абмяняла ў Оршы даляраў на мільён, думала, буду месяц жыць, а тут за адно таксі немаведама колькі трэба выкласці.

— Э-э-э, дарагая. Гэта недзе ў вас мільён вялікія грошы, — разгаварыўся, нарэшце, кіроўца. — А ў нас гэта нішто. Цэны кожнага дня ўздымаюць.

Цётка сустракае іх на лесвічнай пляцоўцы. Вісне ў маці на шыі, гучна ўсхліпвае.

— А Юрачка які вялікі стаў! — цётка чмокае пляменніка ў макаўку.

Стрыечны братан выходзіць са свайго пакоя віхлястай хадою, з роблена стомленым выглядам. Цісне руку. Па ўсім бачна, не надта рады гасцям.

Брата Юрка бачыў толькі на здымках: Калян скідваў іх па электроннай пошце. Быў там зняты на пляжы са сваімі сябрамі, на матацыкле і ў піўніцы — з бутэлькай «Клінскага» ў руках. На адным са здымкаў стаяў у атачэнні крамяных дзевак, а над ягонай галавой нехта трымаў самаробны плакат з надпісам «Каляну — 18!» Пабачыўшы той здымак, Юрка стаў у думках называць брата Калянам.

— А ну, станавіцеся адзін да аднаго спінамі. Паглядзім, хто вышэйшы, — цётчын голас дрыжыць ад захаплення.

— Пачынаецца, — выдыхае Калян і рушыць у свой пакой. Яму, відаць, не першы раз прапаноўваюць памерацца ростам.

— Які ўсё ж такі эгаіст вырас, — бурчыць цётка Алена, адчыняючы дзверы на кухню.

Юрка хвіліну таўчэцца ў калідорчыку, нясмела, на паўсагнутых нагах, заходзіць у пакой да Каляна.

— Сядай, — кідае братан, не адрываючы вачэй ад манітора.

Юрка масціцца на краі канапы.

— Ты дзе — у «Аднакласніках» ці «Укантакце»?

— «Укантакце».

— А дзе ноўтбук?

— Прадалі. Цяжка цягнуць. У нас і так шмат рэчаў.

— І ты што — без ноўтбука?!

Юрка перасмыквае плячыма.

— Ну ты даеш.

Калян сядзіць за камп’ютарам у майтках, а на голае цела накінутая шэрая камізэлька з мноствам кішэняў. У такіх звычайна ходзяць фотакарэспандэнты.

Вока выхоплівае тоўстую кнігу, якая ляжыць на стале. «Анатомія хатняй жывёлы». Калі перапісваліся, Калян выхваляўся, што паступіў у медычны інстытут. Выглядала, аднак, што ён вучыўся на ветэрынара.

— Юра, ідзі абедаць, — крычыць з кухні цётка Алена.

Кухня цётчына маленькая — не павярнуцца.

— Ты ў салату яйкі дадаеш? — пытаецца маці ў цёткі Алены.

Тая штосьці адказвае, але хлопец не чуе. Сёрбае гарохавы суп з канцэнтрату і думае пра тое, што братану іх прыезд не ў жылу. Яно і зразумела: цяжка таўчыся ўсім у двухпакаёўцы ды абедаць у цеснай кухні. Маці хоча зняць пакой, а то і цэлую хату дзе-небудзь на гарадской ускраіне. Але ці зніме.

Па абедзе Юрка з маці і цёткай выбіраюцца ў горад. Як ехалі з вакзала, была пагода, а тут раптам задзьмула і кароткім мігам секануў дождж.

— А хто такія бэнээфаўцы? — маці папраўляе разбэрсаную ветрам фрызуру.

— Ды былі тут некалі… мітынгі ладзілі, пакуль іх Лукашэнка не разагнаў.

— І куды яны падзеліся?

— Хто за мяжу збег, каго пасадзілі, астатнія суцішыліся, вушы прыцiснуўшы.

— І ніводнага не засталося? — порсткі вецер устаўбурвае матчыны валасы.

Цётка Алена прыкусвае ніжнюю губу.

— Адзін ёсць. Учора, як на працу ехала, бачыла.

— А ён што, скаты паліць?

— Ды якія скаты, — хмыкае цётка, — газеты прадае каля Піраміды. Можа, і зараз стаіць, калі не забралі.

— А хто яго забірае?

— Міліцыя, вядома.

— А што, газеты нельга прадаваць?

— А ў вас што, можна? Ты хочаш, каб і ў нас пачалася страляніна?

Маці маўчыць, адно шморгае носам.

Бэнээфаўца ўгледзелі толькі са спіны. Сівога дзядзьку ў белай кашулі вялі два ўкормленыя міліцыянты, а трэці нёс столік-складанец і стос газет.

— Ён таго… — з усмешкай на вуснах выбухае дзядзька ў пакамечаным капелюшы, — не зусім нармальны. Кожны дзень сюды прыходзіць, і кожны раз міліцыя забірае.

Сівога мужчыну тым часам запхнулі ў міліцэйскую легкавушку.

— У калгас яго! — крычыць услед пацёхканага выгляду бабуля.

— Каго ў калгас?! Ён жа пенсіянер, ваш аднагодак, — падае голас маці, і цётка Алена знакам спыняе яе, паказаўшы вачыма на стрыжанага маладзёна з кінакамерай у руках.

— Спецаператар працуе. Так што прыкусі язык і забудзь украінскую вольніцу, — задыханым шэптам зюзюкае цётка.

— А што мне зробяць?

— Як што… дэпартуюць.

— Ды я, адчуваю, сама адсюль з'еду.

Маці з цёткай нервовай хадой пашыбуюць па ходніку, і Юрка ледзь за імі паспявае.

«Дзіўныя людзі, — хлопец глядзіць на шкляную піраміду, што зіхаціць бакамі наўзбоч вуліцы, — у Тарэзе паспрабуй каму рукі скруціць — адразу цёткі набягуць і пачнуць адбіваць ад міліцыі. А тут толькі пасміхаюцца».

Юрка на імгненне сцішвае крок.

— А што за піраміда?

— Гандлёвы цэнтр фірмы «Марка», — тлумачыць цётка.

У гандлёвы цэнтр яны не ідуць — прастуюць ва ўнівермаг. Маці хоча паглядзець — што ў Віцебску прадаецца і па якіх коштах.

Блукаючы па ўнівермагу, маці падслепавата зыркае на цэннікі, тыцкае пальцам па калькулятары, пераводзячы беларускія мільёны ў грыўні.

— Ну чаму ўсё такое дарагое?

— Мы, віцябляне, у Смаленск ездзім. Там танней, — азываецца цётка Алена.

Юрка ідзе да аддзела, дзе прадаюць ноўтбукі. Іх там было процьма. Нават вочы разбягаюцца.

— Чаго стаў? — пытаецца маці з-за спіны.

Сын моўчкі ківае на паліцы.

— Ну ты бачыш, якія цэны.

— Чаго ён хоча? — перабівае матчыны дакоры цётка Алена.

— Ноўтбук хоча… ці як яго там…. Свой жа прадалі. Думалі, тут усё танна.

— Зусім пашалелі з тым інтэрнэтам, — цётка Алена падвышае голас. — Мой Колька ўжо начуе ля камп’ютара. І вучобу закінуў. Учора прачынаюся — святло гарыць у ягоным пакоі. Гляджу: дзве гадзіны ночы. Пайшла ганяць. А ён сядзіць — злы, чырвоны ад напругі — і лупіць па клавіятуры. Аж на азадку падскоквае. Аказалася, лаяўся з нейкім у «Аднакласніках»… Высвятлялі, які гатунак піва лепшы.

У хлопца і так не было настрою, а тут наогул заняпаў душой. Ехаў сюды, абяцаў Славіку Гофману, што звяжацца з ім па «электронцы». Цікава ж даведацца, як пачувае сябе Жуль. Але ж маці набываць ноўтбук не збіраецца. Давядзецца прасіць Каляна, каб даў камп’ютарам пакарыстацца.

Маці з цёткай Аленай пашыліся ў прымерачную кабіну.

— Чаму табе не падабаецца? — гэта цётка. — Чатыры кішэні, шырокія штрыфлі, аблямоўка прыгожая.

— Лена, ды я ў гэтым ружовым гарнітуры падобная да свінкі, якіх у мультфільмах паказваюць, — гэта маці.

Штора адсоўваецца.

— Ты што тут стаіш? — маці вытыркнула нос з прымерачнай кабіны.

— Вартую, каб ніхто да вас не ўваліўся.

— Пачакай на вуліцы.

Нос казыча пах выхлапных газаў. Вуліца, на якім высіцца ўнівермаг, выглядае даволі шырокай. Хлопец мружыцца на далягляд і згадвае, што яны ехалі тут на таксоўцы. На даляглядзе дрыжаць у блакітнай смузе вакзал і мост праз Дзвіну, а праваруч лагодзіць зрок будыніна з калонамі. Няйначай, тэатр. Машын гойсае шмат, а мінакоў на ходніках зусім мала. Адно прайшлі два міліцыянты ды колькі дзяўчат ягонага веку. Дзяўчаты ўсе ў шортах. Гэта адразу кідаецца ў вочы, бо на Данбасе дзеўкі ходзяць у вузкіх джынсах.

Юрку горад не падабаецца, бо тут усё чужое. Адзінае, што грэе душу, гэта сама назва — Віцебск. У гэтай назве чуецца штосьці старажытнае, даўно забытае. Быццам меч ляснуў аб латы.

Хвілін праз дваццаць маці з цёткай Аленай выкульваюцца з універмага.

— Дарма не ўзяла. Вельмі табе пасуе, — з дакорам кажа цётка.

— Лена, гэты гарнітур для жанчын, якія пазбыліся ілюзій, — парыруе маці.

— А чаму горад Віцебскам назвалі? — перабівае дакучлівую перапалку Юрка.

Цётка Алена на імгненне задумваецца, і замест яе адказвае маці:

— Рака называецца Віцьба. Таму так і назвалі.

— А далёка яна?

— Хто, рака? Ды побач. За тэатрам.

— А давайце на яе глянем.

Цётка з маці пераглядваюцца. Ім, відавочна, не надта ахвота цягнуцца на Віцьбу, але ўрэшце, не згаворваючыся, пераходзяць вуліцу.

Каля мосту праз Віцьбу стаіць помнік Пушкіну. Паэт ростам з хобіта і з пукатым чэравам. Юрка працінае хобіта пранізлівым позіркам.

— Ён тут жыў?

— Ды не, міма праязджаў, — цётка хоча яшчэ нешта сказаць, але змаўкае.

Па мосце ідуць два амонаўцы ў ссунутых на вуха берэтах.

Віцьба ніякая не рака, а рачулка. Няспешна бяжыць па камянях, бліскаючы на сонцы.

Маці кладзе рукі на парапет, закаханымі вачыма глядзіць на бруістую ваду.

— Слухай, а давай сходзім у Пескавацікі!

— А што там рабіць? Хату даўно знеслі.

— Ну хоць зірнем, дзе маладосць прайшла, дзе ў школу хадзілі.

Да Пескавацікаў ішлі берагам Дзвіны. Дзвіна даволі вялікая. На ёй нават бачны прагулачныя караблі.

— Вунь наша школа, — цётка Алена паказвае пальцам на будынак з высокім бляшаным дахам. — Бегла, памятаю, у першы клас, з пуком восеньскіх кветак, і думала, што свет поўны добрых людзей. А скончыла школу і зразумела: вакол адны злыдні.

«Муж кінуў — вось белы свет і зненавідзела», — думае пляменнік, неадрыўна пазіраючы на белы караблік, які з ціхім ляскатаннем выплывае з-за рачной лукавіны.

Дадому едуць аўтобусам. За вокнамі праплываюць жоўтыя будыніны, невялічкі пляц і людскі збой, які стаіць перад вялікай сцэнай, а па самой сцэне махаюць шаблямі барадатыя дзядзькі ў сініх мундурах і з чорнымі малахаямі на галовах. Маці з цікавасцю выцягвае шыю.

— Хто гэта?

— А ты не бачыш? Казакі! — цётка Алена мружыць вочы.

— А адкуль яны?

— Ніадкуль. Мясцовыя.

— Ды іх тут зроду не было.

— Не было, а цяпер ёсць, — падключаецца да размовы кабета з ускалмачанымі, спаленымі пергідролем валасамі.

Маці паварочвае галаў.

— У нас дык казакі з Растова наведваліся. Спачатку проста хадзілі, скручанымі бізунамі па сцёгнах ляпаючы, а потым страляць пачалі, — пачуўшы такое, «пергідроль» рашуча прабівацца да выхаду.

Юрка згадвае бабчын аповед пра тое, як двое казакоў хвасталі бізунамі чалавека ў вышыванцы. Прычым, пад яе вокнамі. Бабуля тады на гаўбец выйшла, крыкнула: «Што вы робіце?!» А казакі ў адказ гракнулі: «Зараз, корга, і да цябе зойдзем!» П'яныя былі. У Віцебску, праўда, казакам няма каго біць. У вышыванках ніхто не ходзіць, і па-ўкраінску не балакае. І па-беларуску таксама. Хіба што могуць пабіць сівога бэнээфаўца. З гэтаю думкаю хлопец пасунуўся бліжэй да вакна. Паглядзець — ці прадае бэнээфавец свае газеты.

Цётка Алена паслала пляменніку на канапе, у маленькім пакоі. Там жа стаяў стол з камп'ютарам і ложак, на якім спаў Калян. Сам Калян звечара некуды пайшоў, і цётка бедавала, што сын панадзіўся хадзіць у піўнушку. Хаця ў цягніку спаць давялося прыхваткамі і Юрка цэлы дзень пазяхаў у далонь, сон не ішоў. Хлопец ляжаў, убіўшы вочы ў цёмную столь, і слухаў няўцямную гамонку. Гэта маці з цёткай, адкаркаваўшы пляшку віна, гаманілі на кухні. Цётка, плаксіва шморгаючы носам, наракала на свайго мужа, які зблытаўся з «нейкай сучкай» і атабарыўся ў Смаленску, потым пачалі згадваць юнацтва і сваіх залётнікаў, нарэшце сталі гаманіць пра тое, як атрымаць беларускае грамадзянства і дзе знайсці працу.

На кухні зашамацела газета і пачуўся цётчын голас:

— Я тут адрас знайшла. Хату здаюць. Якраз у нашых Пескаваціках. Зараз патэлефаную.

Цётка доўга накручвала тэлефонны дыск.

— Алё… Выбачайце, што позна званю. Я па аб'яве. Вы хату здаяце? — цётка кашлянула ў слухаўку. — І колькі ж вы хочаце?

Слухаўка ляснула на вагар, і цётка Алена знервавана выдыхнула:

— А пашалелі людзі.

На другім баку дроту назвалі вялікую суму. Юрка салодка пазяхнуў, кульнуўся на бок, змежыў павекі. І адразу ж уваччу паўстаў той самы дзядзька, што прадаваў газеты, і міліцыянты, якія цягнулі яго да машыны. Хлопец расплюшчыў вочы. Паспрабавала б міліцыя скруціць каго ў Тарэзе. Аднойчы завіталі з маці на гарадскі кірмаш і там нейкі дзядзька прадаваў ці то кніжкі, ці то газеты. Да яго таксама міліцыянты прычапіліся, але тут кірмашовыя прадавачкі наляцелі. Атачылі міліцыянтаў. Адна кабета нават пачала міліцыянтаў сумкай біць. Урэшце тыя плюнулі ды падаліся ўпрочкі.

— Эй, харэ дрыхнуць, — абуджае ад самай раніцы сіплы Калянаў голас. — Пайшлі півасіку сёрбнем.

Братан надоечы добра дзеўбануў, бо твар азызлы і вочы прыкметна заплылі. Юрка ўвогуле піва не піў. Аднойчы выпіў пляшку, дык цэлы дзень было млосна. Але мусіў падняцца з ложка. Зразумеў: гаспадару трэба прастаўляць.

— У цябе, дарэчы, грошы ёсць?

Юрка панурвае руку ў кішэнь штаноў, выцягвае пакамечаныя паперкі. Маці дала грошай на дробныя справункі.

— Не багата, — Калян хапае грошы ў жменю, — заўтра вярну.

Апрануўшыся, братан тыцкае пальцам у «мабільніку».

— Гапон? Як ты? — Калян цісне «мабілу» да вуха, кісла пасміхаецца. — Далі ўчора куродыму. Дахаты на аўтапілоце дабіраўся, — братан здушана керхае. — Карацей, падыходзь на наша месца. Са стрыечным братам пазнаёмлю. З Данбаса ўцёк.

Праз пяць хвілін хлопцы выходзяць з пад’езда. Калян пры гэтым вохкае і выцірае пот з лабаціны. Выходзяць на праспект — праспектаў, як паведаміла цётка Алена, у Віцебску аж сем, — ідуць пару сотняў метраў па ходніку і спыняюцца перад шкляным павільёнам. Там іх сустракае Калянавы сябрук.

— Гапоненка, — выдае сябрук, і Юрка пацiскае вільготную далонь.

У кавярні Юрка з Гапоненкам селі за крайні столік, а Калян пайшоў да стойкі, дзе налівалі «півасік», і неўзабаве вярнуўся з двума поўнымі куфлямі і маленькай пляшкай «Фанты» — Юрка сказаў брату, што піва не п’е.

Першыя глыткі Калян робіць стоячы, звёўшы вочы да куфля, і толькі потым, вохнуўшы, плюхаецца ў крэсла.

— Яшчэ адна такая п’янка — і сыду з дыстанцыі, — Гапоненка выцірае рукавом пенныя хлапякі з вуснаў. — Дзякуй, Калян, за пахмелку. Калі б не піва, далібог, памёр.

— Ты не мне дзякуй, а Юрку. Ён спансаваў.

Юрка тым часам скручвае накрыўку з «Фанты», спрабуе прыпасці вуснамі да рыльца, і братан хапае за локаць.

— Э-э… тут табе не Данбас. Ідзі вунь пластмасавы кубак вазьмі ў прадавачкі.

— Ну і за каго ты — за украў ці за апалчэнцаў? — пытаецца неўзабаве Гапоненка, прыклаўшыся да куфля.

— Ні за адных, і ні за другіх, — няўцямна мармыча Юрка.

— А чаму так?

— Бо ў Кіеве тарбахваты, а ў Данецку бандосы, — словы тыя хлопец чуў ад бабулі.

— А гэта не каля вас малайскі самалёт збілі? — не сунімаецца Гапон.

— Каля нас, — хвіліну хлопец маракуе — ці варта казаць пра знойдзеныя дакументы. — На таполю, што перад домам расце, пашпарт заляцеў.

— Чый?

— Ну… пасажыркі… якая ў самалёце ляцела.

— І што ты з ім зрабіў? — Гапон працінае позіркам уцекача з Данбаса, спрабуючы зразумець — жартуе той ці кажа праўду, — і ў гэты момант братан неўпрыкмет, але балюча стукае Юрку нагой па лытцы.

— Каго ты слухаеш! — Калян спехам дапівае піва. — Ён ужо мне гэта распавядаў. Толькі казаў, пашпарт не на таполю, а на бярэзіну заляцеў.

Гапон зыркае на прадавачку ў памкненні агораць яшчэ адзін куфаль, але сябрук ляпае яго па плячы.

— Усё… няма ні грошай, ні часу. Бяжым з Юркам па справах.

Браты выбягаюць з піўніцы.

— Ты сапраўды знайшоў пашпарт? — цяпер ужо Калян утаропліваецца на Юрку, высвятляючы, ці не апавядае братан казкі.

— Знайшоў.

— І дзе ён?

— У сумцы ляжыць.

— Што ж ты, бляха, маўчыш! — гракае братан і з такім імпэтам шыбуе па ходніку, што Юрка чуе, як булькоча піва ў Калянавым страўніку.

Няўклюдныя пальцы тузаюць маланку клятчастай сумкі, намацваюць пінжак на самым дне.

— Маці маёй не кажы, — Юрка выцягвае з кішэні пінжака паперкі з укладзеным між імі пашпартам.

Калян з недаверам аглядае пашпарт, гартае старонкі.

— Галандскі.

Перагарнуўшы апошнюю старонку, мыліць вуснамі, чытаючы прозвішча ўладальніцы: — Цьфу, бляха… не прачытаць. Нейкая азіятка, — урэшце ляпае пашпарцінай па стале. — Мы, брат, на гэтай справе можам добра ўзняцца!

Калян падхопліваецца з крэсла, пачынае рашучым крокам хадзіць з кута ў кут.

— Галандыя — багатая краіна. Паведамім родным ды блізкім пра знаходку. Яны нас да сябе паклічуць. А там, глядзіш, сталае месца жыхарства аформім. Адзін мой карыфан ужо ў Ратэрдаме атабарыўся. Сястры з маткай штомесяц пяцьсот еўра высылае.

— А грошы дзе возьмеш? Ехаць жа далёка, — усмешліва крывіцца Юрка.

— Ты дурань, ці прыкідваешся? Галандцы нам скінуць грошы на картку. Эх, Юра-а! — Калян жартам кудлаціць Юркаву чупрыну і сур’ёзнее. — Вось толькі крэўных адшукаць не так лёгка. Хаця… — Калян дапытліва глядзіць у манітор, — пры жаданні можна каго хочаш знайсці.

Калян чарговым разам сноўдае з кута ў кут.

— Неабходна нейкую версію прыдумаць. Скажам, выносіў дакумент з зоны ваенных дзеянняў, пад грукат кананады. Пры гэтым быў лёгка паранены… — Калян спыняецца пасярод пакоя, — не, гэта ўжо перабор. Проста поўз пад перакрыжаваным агнём буйнакаліберай артылерыі.

Калян сядае за камп'ютарны стол.

— Перш-наперш трэба знайсці спіс тых, хто загінуў. Павінны былі павесіць. Магчыма, будуць нейкія адрасы.

Калян калоціць пальцамі па «клаве», а Юрка чухае макаўку і стоена пераводзіць дых. Можа, і дарма сказаў пра сваю знаходку. Невядома яшчэ, чым усё скончыцца. А як паклічуць у міліцыю ды стануць дапытвацца: дзе знайшоў пашпарт? Чаму не здаў у апорны пункт?

— Ёсць! — крычыць Калян, перабіваючы трывожныя Юрчыны думкі. — Поўны спіс ахвяраў… на сайце кампаніі «Малайзія Эйрлайнз»!

Цягам паўгадзіны Калян тры разы гарлаў «Ёсць!», пасля чаго стаў набіраць тэкст.

— Пішу пра твае прыгоды на полі бою, — кінуў Калян праз плячук.

— А на якой мове?

— Па-ангельску, ясны перац.

— А ты ведаеш ангельскую мову?

Калян з маўклівым дакорам зыркае на суразмоўніка. Аднак, як заўважае суразмоўнік, тэкст Калян піша ў рамцы гугл-перакладчыка.

— А ты, дарэчы, па-ўкраінску падсякаеш?

— Падсякаю.

— А ну, выдай што-небудзь.

Юрка пачухаў нос, набраў у грудзіну паветра.

Опівночі айстри в саду розцвіли,
Умились росою, вінкі одягли
І сталі рожевого ранку чекать,
І в райдугу барвів життя убирать…

— Па-хахляцку на Данбасе зараз не пабалакаеш. Хутка рэпу начысцяць, — заўважае Калян, не даслухаўшы верша.

— А ты беларускую мову ведаеш? — цікавіцца Юрка.

— Беларускую? — Калян адкідваецца на спінку крэсла. — А на хера яна патрэбная? У вас там, на Данбасе, украінскую не любяць, а ў нас у Віцебску — беларускую. За яе таксама могуць рэпу начысціць, але, дзякуй богу, на ёй ніхто не размаўляе.

— І што, у школе не вучаць?

— Ды вучаць… нібыта… — Калян крывіць гімору, глядзіць на столь: «У адным сяле… не важна — дзе… хадзіў баран у…» — небарака мружыць зіркачы, згадваючы — у чым хадзіў баран, і, мрукнуўшы: «Дай ліста напісаць», — стукае пальцамі па «клаве».

Юрка сашчапіў пальцы за патыліцай і задумаўся. Вось як атрымалася: ехалі з Данбаса і на Данбас патрапілі. У Віцебску таксама ненавідзяць усё не рускае. Розніца тая, што на Данбасе яшчэ пракідваліся ўкраінцы, а тут беларусаў, падобна, ужо не засталося. Але калі тутэйшыя людзі не любяць беларускай мовы і скрозь размаўляюць па-расійску, чаму ж яны жывуць у асобнай краіне? Чаму іх Расія не далучыць да сябе, як далучыла Крым? Відаць, рукі не даходзяць. Але калі-небудзь дойдуць. Скончыцца для беларусаў незалежная халява. І ніхто ў свеце іх не пашкадуе.

Бухаюць уваходныя дзверы, і з калідора далятаюць цётчыны нараканні.

— Ну як жа так. Прыехала віцяблянка на радзіму, а яе і слухаць не хочуць, — цётка з грукатам скідае туфлі. — Памятаеш Соньку Гальдэнцвайг? Са мной вучылася. Сабралася ў Ізраіль ехаць. Ёй пра той Ізраіль чаго толькі не нагаварылі. Быццам там эмігранты з галадухі мруць. А прыехала — кватэру далі і на працу па спецыяльнасці ўладкавалі. Прыязджала летась з дачкой. Апранутая з іголачкі, дыяменты ў вушах і дарагушчыя цыгарэты паліць.

— Ну ты параўнала, — маці таксама здымае туфлі, — яна габрэйка, габрэйская дзяржава ёй і дапамагла. А ў беларусаў што? Ёсць свая дзяржава?

— У нашым пад’ездзе — я табе пакажу — і чачэнцы жывуць, і азербайджанцы. Усе грамадзянства і прапіску афармілі, — цётчын голас злёгку дрыжыць і захлынаецца.

— Людзі ж грашыма прыехалі, таму і праблем не маюць, — маці з цёткай заходзяць у кухню, і галасы іх робяцца неразборлівымі.

— Усё! Адаслаў! — Калян натхнёна ляпае далонямі, робіць кола гонару па пакоі. — Не сёння, дык заўтра павінны адгукнуцца.

Госць не падзяляе радаснага настрою гаспадара.

— А можна мне ліста напісаць?

— Каму?

— Сябру.

— Ладна, сядай, — сказаўшы так, гаспадар ідзе на кухню — перахапіць чаго-небудзь на зуб.

Хвіліну Юрка збіраецца з думкамі.

«Прывітанне, Славік, — мільгацяць на маніторы літары, — піша табе Юрка. Ужо трэці дзень знаходзімся ў Віцебску. Горад большы ад Тарэза, але меншы за Данецк. Тут вельмі чыста, усе дзеўкі ходзяць у шортах і шмат міліцыі. Славік, ці карміў ты Жуля? Напішы — як ён там. Юра».

Ноччу Юрку зноў прысніўся той самы сівы бэнээфавец, якога міліцыянты цягнулі да машыны. Бэнээфавец азіраўся, глядзеў у ягоны бок, просячы дапамогі, але чым ён, падшыванец, мог дапамагчы? Кінуўся, праўда, да міліцэйскай машыны, але тут бразнулі дзверы і хлопец расплюшчыў вочы. Гэта Калян вярнуўся з піўніцы. Братан застагнаў, рыпнуў ложкам, — няйначай, добра выпіў, — і адразу ж захроп на высокай ноце. Юрка доўга круціўся на канапе, убіваў, ратуючыся ад храпення, галаву ў падушку, але заснуў толькі дасвеццем. І сон прыйшоў шчымлівы і журботны. Нібыта ён стаяў на кукішках пасярод двара, чухаў Жуля за вушамі, і цюцька пры гэтым задаволена скавытаў. Поруч з сабачай будкай стаяла пустая алюмініевая міса, напалову запоўненая дажджавой вадой. «Што, брат, есці няма чаго?» — спытаў ён у Жуля, і той каротка брэхнуў: «Ёсць!»

— Ёсць! — паўтарыў Калян, адсоўваючы крэсла.

Калян, па старой звычцы, прайшоўся па пакоі.

— Прачынайся. Хутка з табой у Еўропу паедзем, — паветра поўніцца піўным перагарам. — Няйначай, аматар піва атрымаў адказ з Галандыі.

Калян сядае да камп'ютара. Ліст яшчэ не прачытаў. Адцягвае шчымлівую хвілю. Вусны бязгучна варушацца, нос Калянаў блізіцца да манітора, траха не кранаецца экрана, нарэшце рашучымі штуршкамі рухаецца ў адваротным кірунку.

— Сукі! — брыдка лаецца аматар піва. — Не, усе чулі? «Просім выслаць знойдзеныя дакументы на адрас Пасольства Каралеўства Нідэрландаў у Польшчы: Варшава, вуліца Кавалерыі, дом 10». Чакайце, бягу высылаць. Мне больш няма турботы.

Калян зноўку робіць кола па пакоі.

— Была б галандка, была б размова. А так там ці то малайка, ці інданезійка, ці то яшчэ якая халера. Панаехала ў Еўропу рознай навалачы, і ўсім грамадзянства далі.

— А маю маці, хоць яна і беларуска, ніхто і слухаць не хоча, — спрабуе падтрымаць братана Юрка, але братан яго не чуе.

— Ды я лепш падзяру тую ксіву на шматкі, чым буду з ёю па поштах бегаць.

«Ён падзярэ… нібыта гэта ягонае», — незадаволена думае Юрка, падымаецца з канапы і дыбае ў прыбіральню. Маці з цёткай дома няма. Пайшлі зранку ў цэнтр занятасці.

— Толькі камп'ютар засвяціў. А раптам пацікавяцца — ці быў я ў Данбасе і на чыім баку ваяваў? — ляцяць наўздагон братавы словы, і Юрка, зайшоўшы ў прыбіральню, думае пра тое, што дарма яны з маці прыехалі ў Віцебск.

Славік Гофман не валаводзіў.

«Прывітанне, Юра. Сумна стала без цябе — і мне, і твайму Жулю. Учора хадзіў да яго. Сядзеў на ганку, вушы звесіўшы, і нават хвастом не віхляў. Нашы знаёмыя ў Віцебск паехалі,

але адразу ж і вярнулася. Нешта ім там не спадабалася. Можа і вы вернецеся? Пішы. Твой сябар Слава».

Юрка мерыўся напісаць адказ. Спытаць сябра — ці кінуў ён Жулю костку? — але Калян ляпнуў па спіне, маўляў, не займай камп'ютар.

— І доўга збіраецеся ў нас жыць? — пытанне такое прагучала знянацку, і Юрка на міг сумеўся.

— Знімем хату дзе-небудзь на ўскраіне і пераедзем.

— Зні-імеце, — расцягваючы зыкі, прамовіў стрыечны брат.

На камп'ютарным стале брынкнуў мабільны тэлефон. Патэлефанаваў Гапон і паведаміў нейкую радасную вестку. Ці не надыбаў грошай на піва, бо братан адразу ж стаў адзявацца.

Маці з цёткай прыйшлі праз пару гадзін.

— Колькі прашу смецце вынесці, а ён і вухам не варушыць, — наракае цётка на сына.

Юрка бяжыць у калідор:

— Давайце я вынесу.

— Бачыў, дзе кантэйнеры?

— Бачыў!

Хлопец ляціць, пераскокваючы праз дзве прыступкі, на двор, а калі вяртаецца, чуе цётчын голас:

— Ты газету на дно пакладзі. На калідоры ляжаць.

У калідоры грувасціцца вялізны стос газет.

— Я іх і ў кватэру не заношу, — тлумачыць цётка, — на працы прымушаюць выпісваць.

— А калі не выпішаш, што будзе? — пытаецца маці.

— Можа, і нічога не будзе, а можа, і будзе. А навошта мне непрыемнасці. Выпісала — і дуды ў торбу. Ты ж бачыш, я тыя газеты і ў кватэру не заношу.

— Я б ніколі не выпісвала.

— А ты чаго сюды прыехала? Рэвалюцыю рабіць? — выдыхае цётка з ноткамі раздражнення.

Маці шыбуе ў маленькі пакой, сядае на край канапы, утрапёна глядзіць у вакно.

Сын садзіцца поруч.

— Ну што, мама, не знайшлі працу?

Маці доўга маўчыць, нарэшце схамянаецца.

— Нікому мы тут, Юра, не патрэбныя.

— Дык паехалі дахаты, — дрогкім голасам выдае Юрка, — нас бабуля чакае… і Жуль.

Маці ўсхліпвае і моўчкі ківае.

# САЛОДКАЯ МАРА ДЗЯЦІНСТВА

У далёкім юнацтве я любіў чытаць замежных аўтараў. Асабліва да душы былі французы, і маці, пабачыўшы ў маіх руках тыя кнігі, кожнага разу казала: «Табе яшчэ рана іх чытаць». Я панурваўся ў рэаліі французскага жыцця, уяўляў усіх тых маркізаў, якія гойсалі па Парыжы ў кабрыялетах, і душу юначую халадніла ўсведамленне, што ніколі не забрыду ў Люксембургскі сад, не пачую пошчак конскіх капытоў на пляцы Згоды, і ў кавярні пад адкрытым небам гарсон не прынясе труфелі ў соусе бешамель і не налье келіх пуліньі-мантрашэ. Свет герояў Флабэра і Мапасана хваляваў сваёй экзатычнасцю і недасяжнасцю і ўадначас нараджаў жаданне хоць нейкім чынам да яго далучыцца.

Аднойчы бацька прынёс пацёхканую кнігу французскага аўтара і некуды прыхаваў. Наступнага дня я яе адшукаў за сервантам, і ў прадчуванні апісання любошчаў, похапкам перагарнуў старонкі. Аднак нічога такога ў кнізе не было. Проста герой рамана, якога звалі Гастон, быў пакліканы на вайну з прусакамі, і цягам дваццаці старонак развітваўся з каханай — мадысткай Мадлен. Закаханыя блукалі па набярэжнай Сены, кармілі сварлівых парыжскіх кагарак, кідаючы ў ваду кавалкі круасана, а заўважыўшы вазок прадаўца каштанаў, Гастон набыў для Мадлен пакецік гарачай, толькі што з жароўні, смакошы.

Ад той хвіліны пражаныя каштаны апанавалі свядомасць. «Ну ладна, — падумаў я, адклаўшы кнігу, — пакаштаваць розных там рататуяў ды прафітроляў наўрад ці давядзецца. А каштаны? Набіў імі кішэні, а потым смаж на патэльні».

Была сярэдзіна верасня. Каштаны мусілі паспець, але ў нашым маладым горадзе вялікіх дрэваў не было — тырчалі адны саджанцы. Вырашыў прайсціся ў пошуках французскага далікатэсу па наваколлі. Блукаць аднаму не з рукі, таму падбіў да пошукаў сябра Валеру, з якім вучыўся ў адным класе.

— Уяўляеш, — паведаміў сябру, — французы ядуць пражаныя каштаны, як беларусы бульбу, — і паказаў тое месца ў кніжцы, дзе Гастон набыў пакецік смакошы.

— Дык яны, нібыта, горкія, — з інтанацыяй сумневу прамармытаў Валера.

— Сырыя, можа, і горкія, а папражыш — сама тое, — адказаў я, пхаючы кнігу за сервант.

Цэлы дзень цягаліся па навакольным лесе, потым па дзвінскім беразе, аж пакуль не знайшлі ля ракі жаўталісты каштан. Ён стаяў па-над стромаю, і на самай вяршаліне боўталіся на порсткім ветры тры зялёныя калючыя «бомбы». Сябар палез на дрэва, скінуў «бомбы» долу, і я спехам здзёр з іх лупіны. Тры гладкіх, шакаладнага колеру арэха, лашчылі зрок і поўнілі рот асцою. Такімі апетытнымі яны выглядалі.

Дахаты шыбавалі подскакам, і калі ў двары пачулі зычны свіст — дружбакі клікалі гуляць у футбол, — мы толькі махнулі рукамі.

…Патэльня хутка нагрэлася і пачала патрэскваць, поўнячы кухню шызым куродымам.

— Трэба алею падліць, — заўважыў сябар, прагнымі вачыма пазіраючы на каштаны. — З аднаго боку яны падгарэлі і таксама пачалі патрэскваць.

Давялося лезці ў шафку, выцягнуць бутэльку алею, пырснуць на патэльню, пасля чаго кухня напоўнілася злавесным сквірчэннем.

Неўзабаве каштаны трэснулі, паказаўшы сваё зеленаватае нутро.

— Відаць, ужо можна есці, — прашаптаў Валера.

Мне і самому не цярпелася пакаштаваць смакоцця. Калі патэльня крыху астыла, падхапілі гарачыя каштаны на далоні і сталі падкідваць, дзьмухаючы на іх штосілы. Нарэшце, аблупіўшы шалупінне, укінулі ў рот і застылі з перакрыў-

ленымі гіморамі. Ад страшнай гаркоты пацямнела ўваччу. Падляцеўшы да ракавіны, здушана вякнуў, глынуў вады з-пад крана. Валера ж торкнуў галаву мне пад руку і паспрабаваў ванітаваць.

У гэты момант грукнулі ўваходныя дзверы і ў кухню забегла ўсхваляваная маці.

— Што вы тут робіце? — маці спехам адчыніла фортку.

— Каштаны смажым, — буркнуў я, змахнуўшы слязіну.

— Зусім ачмурэлі?! Гэта ж такая гаркота, што свінні не ядуць!

Маці пхнула патэльню пад кран, а мы з Валерам пераглянуліся і, выцершы рукавамі апечаныя вусны, падаліся на двор.

— Можа, у французаў нейкія іншыя каштаны растуць, не такія горкія? — прамовіў сябрук і я, уздыхнуўшы, каротка выдаў:

— Можа…

* * *

Нашы пісьменнікі часцяком наведваюцца за мяжу, пасля чаго сядаюць пісаць дарожныя эсэ і нататкі. І, што адметна, героі тых нататак пазіраюць на свет вачыма заўсёднікаў парыжскіх Вялікіх бульвараў, з панылай абыякавасцю цэдзячы віно за столікамі вулічных кавярняў.

Мне таксама лёсіла патрапіць… не, не ў Парыж, а ўсяго толькі ў чэшскую Прагу. Надарылася гэта 31 снежня 2000 года і, у адрозненне ад калегаў, я пазіраў на замежны свет шырокімі вачамі, час ад часу разявіўшы рот, а аднаго разу, калі стаяў пасярод гранітнай брукаванкі і, задзёршы галаў, разглядаў архітэктурны югендштыль, траха не патрапіў пад трамвайныя колы. Пражскія трамваі гойсаюць даволі хутка і з месца зрываюцца імгненна.

Апошнім вечарам ХХ стагоддзя людская плынь занесла мяне на Старамесцкі пляц. Тут бы напісаць пра музыку ў камені, пра флёр Сярэднявечча, пра шматмоўны натоўп і пра старыя куранты, на якіх камічнага выгляду шкілет тузае вяроўчыну, а ягоны партнёр па часазлічэнні, злавеснага вы-

гляду анёл, махае кордам. Але тут, у цэнтры Прагі, уразіла іншае: задушны смурод смажаніны. І чым бліжэй набліжаўся да цэнтра пляца, тым мацней і ноздраказытлівей ён рабіўся.

У цэнтры пляца стаяў доўгі шыхт драўляных летамак, у якіх штосьці вогнепырска смажылася, булькатліва варылася і са стрыманым поканнем пражылася. Знянацку ўбачыў, як нізкарослы кітаец (а можа, японец), наставіўшы на мяне пляскаты, падобны на масленічны naліснік твар, дастаў з кулька і падкінуў на далоні нешта круглявае і гарачае. Вока слізганула па шыльдзе «Kaštany», і сэрца, абуджанае салодкай марай дзяцінства, парывіста забілася.

Мара дзяцінства пахла не надта прыемна. А што да смаку, дык печаныя шайморы і то былі смачнейшымі. Хаця напачатку ніякага смаку наогул не адчуў, бо абпаліў язык, паднябенне і вусны.

Я стаяў у цэнтры Прагі, трымаў папяровы кулёк, і ветрык успамінаў, які прарваўся з мінуўшчыны, блытаў думкі, а разам з імі і рэдкія пэцалы, якія выбіваліся з-пад капелюша. І прыгадалася, як калісьці, чатырнаццацігадовым юнаком, глядзеў па тэлевізіі на кудлатых хлопцаў, якія сядзелі вакол помніка Гусу, пратэстуючы супраць савецкага ўварвання ў Чэхаславаччыну. Голас за кадрам паведамляў, што імперыялістычныя сілы Захаду актыўна выкарыстоўваюць моладзь у сваіх цёмных мэтах. Згадаў таксама, як сакавіцкай ноччу 1969-га глядзеў хакей са Стакгольма, дзе «нашы» гралі з чэхаславацкай дружынай, і ўпотай хварэў за апошніх. Чэхі выйгралі тады 4:3, нехта з пераможцаў паваліўся і стаў цалаваць лёд, і сусед па пад'ездзе, які прыйшоў да нас «на хакей», страшным голасам прасіпеў: «С-сукі!»

І вось я ў самым цэнтры Прагі. Стаю і задуменна грызу каштаны. Зрэшты, стаяць давялося нядоўга: людскі тлум падхоплівае мяне і цягне ў бок ратушы. Хутка восьмая вечара, і ўсе прагнуць зірнуць на гарадскія куранты з рухавымі фігуркамі чалавечых заганаў. Пнуся, каб выбіцца з натоўпу, да помніка Гусу. Паліты смарагдавай пацінай, ідэолаг чэшскай Рэфармацыі з дакорам пазірае ўслед натоўпу. Ды яно і зразумела: людзям, што сабраліся на пляцы, зусім не ці-

кавыя ягоныя казані, як не цікавыя ім і падзеі прамінулай «Пражскай вясны».

Ніколі, нават у дзяцінстве, не меў звычкі есці на вуліцы, але тут асаблівы выпадак. Ачышчаю ад шалупіння ўжо ледзь цёплы каштан, лена жую, адчуваючы, што пражаная смакоша ўсё менш і менш смакуе.

«Зрэшты, мне ў жыцці пашанцавала, — з гэтаю думкай уздымаю каўнер плашча, — пакаштаваў тых праклятушчых каштанаў. А вось сябру Валеру не пашанцавала. Памёр, так і не ўведаўшы іх паху і смаку».

Навагодняя елка перад Тынскім касцёлам выбухае зыркімі агнямі, і пляц скаланаецца ад галасу. Нейкія карузлікі з жоўта-васковымі тварамі — відаць, в'етнамцы — атачаюць мяне з усіх бакоў, штосьці гучна гарлаюць па-свойму. «Дзенлансао! Дзенлансао!» — выдыхае ля вуха маладая в'етнамка, і я, не ведаючы в'етнамскай мовы, чую ў гэтым воклічы слова «Прыгожа!».

Тынскі касцёл тыцкае ў цёмнае неба вострыя спічакі. Здаецца, што ён падсвечаны не звонку, а знутры, і сіняватая водцень наскрозь працінае празрыстыя сцены.

Каштаны сталі халоднымі, агіднымі на смак, і кулёк з недаедкам ляціць у бліжэйшую сметніцу. Разам са мной у сметніцу кідае пластмасавы кубак тая самая маладая в'етнамка. Маладзіца на знявечанай ангельшчыне кажа, што Прага — лепшы горад у свеце. Я на такой жа ламанай мове дадаю: «Бо тут спраўджваюцца салодкія мары дзяцінства». І в'етнамка, нічога не зразумеўшы, задаволена бліскае чорнымі, як вільготныя парэчкі, вачамі.

## ЗМЕСТ

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Мудроў** Вінцэсь

# Падшыванцы

*Апавяданні*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Алена Спрытніч

Падпісана да друку 02.04.2020. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 11,13.
Ул.-выд. арк. 8,33. Наклад 120 ас. Зак. 112.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.